

**ЧАСОПІС «МАЛАДОСЦЬ»,**
**ЯГО ШМАТЛІКІЯ ЧЫТАЧЫ**
**ШЧЫРА ВІНШУЮЦЬ ВАСІЛЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА БЫКАВА**
**З ПРЫСВАЕННЕМ ЯМУ ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ**
**НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСІ.**




**ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ**

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

**Выдаецца з 1953 года**

# 11 | 1980

(332) ЛІСТАПАД

**МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

# У нумары:




Галоўны рэдактар

**Васіль ЗУЁНАК**

Рэдакцыйная калегія:

**Вячаслаў АДАМЧЫК**
**Мікола АЎРАМЧЫК**
**Генадзь БУРАЎКІН**
**Васіль БЫКАЎ**
**Леанід ДАЙНЕКА**
(адказны сакратар)
**Генрых ДАЛІДОВІЧ**
(нам. галоўнага рэдактара)
**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**
**Серафім КОТАЎ**
**Іван НАВУМЕНКА**
**Пімен ПАНЧАНКА**
**Алесь САВІЦКІ**
**Іван САРАКАВІК**
**Янка СІПАКОЎ**
**Любоў ТАРАСЮК**
**Уладзімір ЮРЭВІЧ**



Вокладка **В. Смалякова і П. Драчова.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы афорт **С. Казак «СТАРЫ МІНСК».**



© «Маладосць», 1980



# паэзія * проза

ЛЕЎ МАРОЗ
МІХАСЬ БАРЭЙША
НІНА ЗАГОРСКАЯ
ВІКТАР КАРАМАЗАЎ
ПЯТРУСЬ МАКАЛЬ
ВАЛЯНЦІН ТАРАС
ФЕЛІКС КАЗЛОЎСКІ
ЛЕАНІД РЫЖЫКАЎ
АНАТОЛЬ КУДРАВЕЦ
АЛЯКСАНДР БЛОК



# *Леў Мароз*



Са стром вялікае ракі
Прароча ў век дваццаты глянуў
З-пад ценю ўзнятае рукі
Юнак па прозвішчу Ульянаў.

Ён бачыў: будзе многа страт,
Пакуль не стануць явай мары,
І будзе пралетарыят
Усёй Расіяй уладарыць.

Ён бачыў, што ні бог, ні цар
Народаў лёс павек не зменяць...
І прачынаўся ў ім бунтар,
Які назваўся потым — Ленін!



Па Волзе, па Каме, па Белай
На поўдзень, а потым на ўсход
Ішоў непаспешліва белы,
Бы нейкая здань, параход.

Размерана плюхалі пліцы
І значылі пенай сляды.
Ульянаў не мог надзівіцца
На фарбы зямлі і вады.

Калі ўсіх людзей у каюты
Зганяла імгла вечароў,
Ульянаў з сястрою Анютай
На верх парахода ішоў.

Такія гучалі там словы,
Такая гаворка ішла!..
І тайныя тыя размовы
Хавала начная імгла.

Яшчэ не апала разводдзе
І цішыў пагляды разліў...
Ільіч аб уласнай свабодзе
Тужліва сястры гаварыў:

«Мне дадзена, кажаш ты, воля,
Ды зроблена гэта царом.
Народ жа свабодным ніколі
Не будзе пад царскім ярмом.

Таму і змагацца нам трэба,
Таму і яднацца пара...»
Пад зорным загадкавым небам
Згаджалася з братам сястра.

Па Волзе, па Каме, па Белай
На поўдзень, а потым на ўсход
Ішоў непаспешліва белы —
Да самай Уфы — параход.

## Бярозаву балоту

Усё табе даецца ад эпохі:
Машыны, электрычнае святло...
Але гады прарэджваюць патрохі
Цябе, маё любімае сяло.

І толькі лес вакол — былы, замацярэлы!
А той гаёк, што быў па плечы мне,

Цяпер на ўзлеску стаў дубровай цэлай —
Вятрыска не ўсялякі ўскалыхне.

І Сушка, Сушка! Між кустоў паволі
Надвое дзеліць поплаў — як заўжды!..
І не заслоняць мне цябе ніколі
Ні вёскі іншыя, ні гарады!



Я мог ляжаць у чорнай яме,
Я мог згарэць з усім сялом...
Мы ўжо стаялі пад ствaламі,
Калі гарэла ўсё кругом.

І толькі цудам, толькі цудам
Аб нас у памяці людской
Касцей не засталася груда
На месцы вёсачкі лясной.

Вайна нікога не шануе —
Ці малады ты, ці стары.
Агню і куль не пашкадуе
І скажа ўладнае: «Памры!»

Прысуд наўрад яна адменіць —
На тое спадзявацца кінь...
О, толькі цудам стала меней
Пад сонцам на адну Хатынь!



Не ўратавалі хлопцы камандзіра,
Цяпер нясуць на стомленых плячах.
І ні адной няма слязы няшчырай,
Няма журбы няшчырай у вачах.

Сутонне зыркім сонцам разарвана,
Над паплавамі парадзеў туман...
Пашкуматалі немцаў партызаны,
Таму не так пякуча ім ад ран.

Адно — калі б не гібель камандзіра,
Не цяжкі груз на стомленых плячах...

І ні адной няма слязы няшчырай,
Няма журбы няшчырай у вачах.



Як разлінованы разлогі:
Там — сцежка ўецца, там — лыжня!..
Ужо мароз не надта строгі
На золку сонечнага дня.

Ужо і снег не надта белы —
Блакіт нябёс у ім асеў,
І лес не надта анямелы —
Чуцён вясёлай птушкі спеў.

І я не надта задуменны —
З душы апаў зімы цяжар...
І свеціць сонейка адменна,
І марыць аб вясне абшар.

# Міхась Барэйша



# ТРЫ апавяданні

## І ТАДЫ ЗРАЗУМЕЕШ...

Людзей у кафэ было на дзіва многа. Толькі ўставалі з-за сталоў адны, як тут жа іх месца займалі другія. Потым сядзелі доўга за непрыбранымі сталамі, чакаючы афіцыянтку. А тая, хоць і таропка зносіла посуд, не паспявала. І нарэшце радавала пытаннем:

— Чаго вам?

За гэтым «чаго» мелася на ўвазе, колькі трэба гарэлкі і што закусіць. Піць сёння Іван не хацеў. Ён завітаў сюды таму, што кафэ было адным з нямногіх месц у горадзе, дзе можна было схавацца ад спёкі — палючай, сухой, чэрвеньскай. Кажуць, што такога лета не было гадоў сем-

Мал. В. Свентахоўскай

дзесят. «Во гады пайшлі знамянальныя: то зімы такой снежнай не было сто год, то лета не ў памяць. І ёсць жа дзівакі — лічаць, параўноўваюць! Мне б гэткую работку! Сядзеў бы я ў гэтай вось нары і лічыў бы сабе людзям на карысць і на дзіва!» — думаў так Іван, усміхаўся сам сабе.

Кафэ было знакамітае. Зараз усе прывыклі з музыкай. Тут яе не было. Нават трансляцыйнай кропкі. Затое была цішыня. Ад сцен цягнула вільгаццю і холадам, бо размяшчалася кафэ ў падвале старога дома. Вузкія вокны былі ніжэй узроўню вуліцы, толькі верхняя частка шыбін паблісквала, бы шкельцы акуляраў з-пад насунутага на самыя вочы капелюша. Праз гэтыя вокны бурштынавымі саламянымі снапамі струменіла святло. Раз-пораз, раздрабняючы яго, увішна мільгацелі ногі нейкімі самастойнымі істотамі, бегалі туды-сюды.

Іван сядзеў ужо з гадзіну. Нешта найшло сёння з раніцы, паспрабуй знайдзі дзе-небудзь месца! А гэта кафэ ўпадабаў даўно, як пайшоў ад жонкі. Цікава ўсё атрымліваецца. Сустракаліся, кахаліся, пажаніліся. Напачатку жылі няблага, а потым пачалі блытацца ў трох соснах. І не сварыліся вельмі, [redacted] перасталі разумець адно аднаго.

Працаваў Іван мантажнікам. Ягоная брыгада тады манціравала абсталяванне ў адным з цэхаў хімічнага завода. Напачатку то трубаў не хапала, то апараты не ў тэрмін адгружаў нейкі завод. І вось за месяц трэба было зрабіць столькі, што і на два хапіла б.

— Хлопцы, браткі, па-чалавечы прашу, націсніце, га? — Завітаў аднойчы начальнік цэха. Высокі, хударлява-хваравіты, ён мала быў падобны на начальніка такога вялізнага і складанага цэха.— Я ў дапамогу дам вопытных апаратараў. Колькі будзе трэба. Га, браткі?

За час работы ў цэху Віктар Кірылавіч — так звалі начальніка цэха — ім спадабаўся. Шмат добрых слоў чулі пра яго ад апаратараў у курылцы.

Іван зірнуў на хлопцаў. Тыя маўчалі, але па тварах было відаць, што яны згодны памагчы гэтаму чалавеку. Ды і ўвогуле, справу ж рабілі не асабістую, а дзяржаўную.

— Ну, дык што, славяне?

«Славяне» дружна хітнулі галовамі.

Затрымліваліся кожны дзень гадзіны на дзве-тры. Пра выхадныя не было і гаворкі. Іван прыходзіў дамоў стомлены, маўклівы. У вачах мільгацела ад зваркі. А Люда гарнулася да яго, цягнула глядзець тэлевізар.

— Прабач, Люда, але [redacted] стаміўся. Без тэлевізара мятлікі ў вачах лётаюць.

— Я чакала, чакала цябе, а ты вунь які! — сердавала яна.

— Хутка закончым мантаж, пойдзем тады і ў кіно. І на раку, і на край свету.

— Я зараз хачу!

— Людачка, гэта капрыз! Ідзі лепш укладзі мяне.

— Не магу, другая серыя!

— Не сярдуй, ідзі!

— Не пайду!

За той месяц такое здаралася часта. Івану было балюча, што Люда не хоча зразумець яго і ягоны клопат.

— Я ведаю, чаму ты такі халодны да мяне,— сказала Люда ў адзін з вечароў, калі да заканчэння мантажу заставалася дні тры.— Ведаю! У цябе... Ты... Ты... знайшоў другую!

— Люда, так не жартуюць!

— А я і не думаю смешкі строіць! Я ведаю, ты такі не быў!

— Дурненькая, ты можаш ведаць толькі тое, што я кахаю цябе!

— Была дурненькая, досыць! Нельга на вуліцу выйсці. Толькі і чуеш: «Што ты, Людачка, адна і адна?» Не магу, не хачу так жыць! — і заплакала.— Не падыходзь, не дакранайся!

У тую ноч Іван не спаў. Люда паслалася на падлозе. Ён глядзеў на яе і не верыў, што гэты блізкі ягонаму сэрцу чалавек мог так абразіць яго недаверам. Абраза здавалася такой недаравальнай, што раніцой ён сказаў:

— Нам трэба разысціся, Люда.

— Давай,— ціха згадзілася тая.— Толькі я не ведаю, як гэта робіцца.— І вінавата паглядзела на Івана, быццам сапраўды адчуваючы віну за тое, што не ведае такіх рэчаў.— Я папытаю сёння на працы ў жанчын.

— Не, да іх не лезь! — Івану стала прыкра, што нехта там будзе корпацца ў іх жыцці, як курыца ў сметніку, даваць парады.— Я сам пайду. Мне нічога не трэба, толькі кніжкі аддай.

Так і пагадзіліся. А вечарам ён пайшоў. Люда памагла сабраць ягоныя рэчы. На калідоры дагнала.

— Прабач за ўсё, што не атрымалася,— і сунула ў кішэню ягоную ўчарашнюю палучку.

— Ды што ты!— Іван кінуўся ставіць чамаданы, але Люда борзда зачыніла дзверы.

Так Іван стаў часта трапляць у гэтае кафэ. То паабедаць, то павячэраць.

Іван, уздыхнуўшы, глянуў на пустую шклянку. Падзівіўся, што не памятае, як заказаў віно, як выпіў усё. Кропля на дне загадкава блішчэла, цягнула ў нейкае бяздонне, наплывала на Івана воблакам. Ага, гэта ж у Блока ёсць:

И каждый вечер друг единственный
В моем стакане отражен.
И влагой терпкой и таинственной,
Как я, смирен и оглушен.

Дзівосныя радкі! Ён абвёў позіркам залу. Ад дзвярэй ішлі двое. «Суседзі, пэўна, мне будуць»,— лена падумаў Іван. А яму трэба ўжо і разлічвацца. Не знайшоў ён сёння тут супакаення: ні ў цішыні, ні ў віне.

Пара заняла столік насупраць. «Прыгожая,— зазначыў Іван, агледзеўшы суседку.— А ён? Высокі, дужы. Але твар...» — У Івана аж усё ў грудзях заныла, як прыціснула валуном, зацяло дыханне.

Твар у хлопца быў абгарэлы. Вуснаў не было. Апаленыя, яны ледзь вызначаліся на твары. Чорныя з сівізной валасы хавалі лоб і вушы.

Толькі вочы былі жывыя. Блакітныя. Два азерцы вады сярод абгарэлай пустэчы. Яны ўсялялі надзею, што калі ёсць такія добрыя крыніцы, то будзе ўсё хараша, вырасце і зеляніна...

Нахіляючы галаву, дзяўчына шчыра зазірала хлопцу ў вочы. Той нешта стаў казаць ёй. Дзяўчына засмяялася і пяшчотна ўскалмаціла хлопцу валасы. І ягоныя вочы засмяяліся, а абгарэлыя пальцы прыціскалі валасы да лоба, цягнулі да вачэй, хаваючы апаліны.

Іванавы суседзі былі, мабыць, зґаладалыя, бо елі досыць хутка. Калі якая талерка выслабанялася, то хлапец тут жа састаўляў яе ў горку.

— Не трэба! — шаптала дзяўчына смеючыся.— Бо як зваляцца, будзе музыкі!

— Лягчэй будзе афіцыянтцы,— казаў ён. І клаў яшчэ адну. А тая хапала яго за руку і пачынала лашчыць апаліны, забыўшыся на яду. І лашчыла доўга, быццам ён пажалкаваў, што баліць.

«Вось як бывае ў жыцці,— думаў Іван, гледзячы на цудоўныя адносіны такіх непадобных людзей.— Якія добрыя ёсць людзі! У гэтай дзяўчыны незвычайныя вочы, калі яна бачыць не тое, што відно ўсім. І хлопец прыгожы!»

Івану раптам прыгадаліся сосны на прасецы. Каржакаватыя, з галінамі толькі пад макушку. Не лесам яны здаваліся, а бачылася кожнае дрэва само па сабе, у нейкай адзіноце. Але ў кожным дрэве адчувалася сіла і прагнасць жыцця. І гэта рабіла дрэвы прыгожымі, як і ўсё жывое. Так і ў гэтым хлопцу Іван улавіў хараство.

Хлопец палез у кішэню, выняў сінявper паперку — грошы.

— На, плаці!

— Не, ты сам!

— Я хачу, каб ты!

Дзяўчына згодна ўзяла грошы.

У маленькім прамавугольчыку акна былі бачны акрайчык неба, палоска вуліцы, дах дома на другім баку, асветлены заходзячым сонцам. Зараз на гэтым экранчыку мільгануць Іванавы суседзі. Ён прыўзняўся да акна і ўбачыў, як хлопец узяў сваю каханую пад руку, а тая тулілася да яго, як слабы да моцнага ў час небяспекі.

Які добры сёння вечар! Іван адчуў, як нешта абудзілася ў ягоным сэрцы. Адчуў, як яму падабаюцца ўсе-ўсе людзі, якія зараз сядзяць тут, у гэтым кафэ. Ён гатовы быў прытуліць усіх да сэрца і заплакаць ад захаплення і шчасця...

Раптам у вокны забарабаніла. Хлынуў дождж, якога чакала ўсё зямное. Іван прыхіліўся да акна і глядзеў, як імчалі па вуліцы каламутныя ручаі. Спачатку бурлівыя, са смеццем, а потым паспакайнелі і пачысцелі. Асфальт зачарнеў, як ворыва.

— Ой, як холадна! Нечым трэба сагрэцца!

Іван азірнуўся і ўбачыў, што па суседству зноў двое. Добра, што не ягонае месца занялі.

Яна — мокрая як верабей, з аблезлай парфумай, бясколернымі вачыма. Але ўсё роўна выглядала добра. Нават было ў ёй нешта кінематаграфічнае.

— Як холадна! — паўтарыла гучна і, перасмыкнуўшы плечукамі, сціснулася ў крэсле. А вочы, як радары, ужо нешта вышуквалі ў паўзмроку залы, затрымліваючыся на мужчынах.

— Шампанскага! — блажліва затупала пад сталом, усё шнырачы вачыма і не звяртаючы ўвагі на свайго кавалера — маладзенькага лейтэнанціка.

Калі афіцыянтка прынесла нарэшце бутэльку, той узяў яе і нервова пачаў разгінаць дрот доўгімі музычнымі пальцамі.

— Надта доўга! — кінуў пры гэтым услед афіцыянтцы рэзкім тонам і пераможна зірнуў на сваю каханку.

Афіцыянтка — танклявая, даўганогая няскладная дзяўчына — разгублена прыпынілася, не знаходзячы, што адказаць.

— Светачка Васільеўна! — тут жа паклікалі яе, вызваляючы ад лейтэнанта.— Яшчэ пляшачку!

— Ой, досыць вам! Мой бацька ў свята столькі не п'е,— сказала яна, захінаючы бляшаны значок, на якім было напісана імя і па бацьку.

— Нясі, нясі!

А суседка Івана піла шампанскае. І зусім не звяртала ўвагі на свайго лейтэнанціка. Той, як мог, стараўся яе зацікавіць, а яна пускала маланкі на другіх.

«Як яны не падобны на тую пару! — падумаў Іван.— Як не пашчасціла лейтэнанту, можа, неблагому хлопцу!»

Параўнанне падштурхнула Івана да нейкай ісціны, можа, той самай, да якой ён ішоў у апошні час. У грудзях стала горача, усю істоту яго пранізала хваляванне. Так, так, ён зразумеў цяпер!

Надыходзіла ноч. У вільготным паветры гучна раўлі машыны. «А калі заўтра заспіцца ўсё, не ўспомніцца раніцой зразуметая ісціна?» — Іван спужана спыніўся.

З бліскучых, вымытых дажджом вокан веяла чысцінёй, цяплом. Як даўно ён не быў на гэтай вуліцы!

Іван затрымаўся каля дзвярэй і, раней, чым паспеў падумаць у апошні момант, а ці тое ён робіць, націснуў кнопку званка.

— Іван? — на парозе стаяла Люда. Такая ж, быццам не было ніякага расстання.— Яначка! Прыйшоў, чаканы! — і прытулілася да грудзей.

# ПАСЛЯ ЮНАЦТВА... УВОСЕНЬ

Ці любіць хто з вас кароткія лістападаўскія дні? Мне яны не падабаюцца. Жывеш з неакрэсленым прадчуваннем, якое замінае ў працы, робіць няшчырым у размове з сябрамі. А доўгімі вечарамі думаеш пра тое, што вось было прадчуванне, а нічога не здарылася — ні добрага, ні благога. Апаноўвае неспакой. Бачыш разгублены твар і запытальны позірк жонкі, блытана апраўдваешся. А яна не разумее і, адвярнуўшы-

ся, хуценька выцірае вочы. Так ідуць дзень за днём, вечар за вечарам аж да першага снегу.

І ўсё ж аднойчы прадчуванне спраўдзілася. Незвычайнае здарылася ў сярэдзіне лістапада.



— Васілёк! — вымавіла ты дрыготкім голасам.

Я дакрануўся да тваёй працягнутай рукі. Ты была без пальчатак. Я затрымаў руку, не выпусціў тваe маленькія і такія халодныя пальчыкі, бо здалося, што ты адшукала мяне, каб [redacted] іх сагрэў.

— Васілёк! — Пальцы ўздрыгвалі, калі ты вымаўляла маё імя, быццам перадавалі ўсе змяненні тэмбру твайго голасу. Не ад холаду.

Здалёк ты падалася мне той жа, нават маладзейшай. А зараз, побач, убачыў, як разбягаюцца ад вачэй праменьчыкі зморшчынак, быццам глядзіш ты на яркае сонца. А адкуль яму быць у хмурны лістападаўскі дзень? Не, што [redacted] такое кажу! Сонца ж было, няўжо я забыўся?

Мы стаялі на тратуары і глядзелі адно на аднаго. Ты шаптала: «Васілёк», а пальцы не пераставалі дрыжаць, хаця былі ўжо цёплыя. Я нешта казаў пра сябе, пра неба (а яно было ні пры чым). Рэдкія прахожыя абміналі нас, пазіраючы хто з цікавасцю, а хто незадаволена: месца не знайшлі лепшага. Зморшчынкі не знікалі. Няўжо ты бачыла тое сонца?

Схавацца ад непагадзі не было куды. У рэстараны і кафэ вілася чарга, ці сустракала шыльдачка на дзвярах «Месцаў няма».

— Бачыш,— усміхнулася ты,— у гэтым горадзе ўсе супраць мяне. Вось так і жыву.

Мне цяжка было зразумець: ты жартуеш ці то кажаш праўду?

Мы доўга хадзілі па праспекце. Дзень мінуў, як не было. Ты змерзла, пэўна, бо пачала туліцца да мяне. Ды я не рызыкнуў узяць цябе пад руку. Тады ты ўладна падхапіла мяне.

Мы ніколі не сустракаліся восенню. Цьмяна дрыжала святло ліхтароў у лужынах і гасла сонечнае лісце таполяў. Мы ішлі па ім, як па зорках, як па Млечным Шляху, быццам збочылі недзе з праспекта і заблудзіліся. А хто ведае, куды вядзе гэты шлях? Ты ішла побач такой маленькай і безабароннай, што я міжволі абняў за хударлявыя плечкі і падумаў па-даросламу, стала: «Якая дзяўчынка! Зусім дзяўчо!»

— А вось і мой дом,— дзіўна проста сказала ты.— Бачыш, трэці паверх, мой пакой.

Некалькі хвілін стаялі моўчкі. Размова больш не клеілася. Усё, што можна было ўспомніць, успомнілі. Не кранулі толькі аднаго: былых адносін. Тады, у тое лета, калі пазнаёміліся. Дайшоўшы да гэтай мяжы ўспамінаў, мы спыніліся. Стаялі далёкія, дарослыя і моўчкі глядзелі ў той бок, дзе свяціла сонца, буяла зеляніна, плёскала вада. Але што глядзець, зачароўвацца, калі зараз восень, а наперадзе ў нас у кожнага сваё лета!

Я збіраўся развітвацца, як неспадзеўкі пайшоў дождж. Мы ўвайшлі ў пад'езд, а ты ўзяла мяне за руку і павяла. Я адчуў, як твае пальцы моцна сціснулі маю руку, і тут упершыню за вечар падумаў, што ты не такая ўжо дзяўчынка, як здавалася.

Мне падалося, што ты вядзеш мяне ўскрай той мяжы. І стала гарача, быццам тое лета, тое сонца абдало радасным і трывожным. У прыбярэжнай лазе спявала нейкая птушка. Стомлена і млосна. Адкуль мне было ведаць, што гэта цурчала вада ў вадасцёкавай трубе? У рэчцы вада бачылася сіняй-сіняй. Ці то гэта плыло адлюстраванае бяздонне летняга неба?

Я схамянуўся толькі тады, як шчоўкнуў замок і ты падштурхнула мяне ў расчыненыя дзверы.

— Не палохайся, дурненькі, тут нікога няма! Я адна жыву.

А я жмурыў вочы ад таго сонца, а гэта была ўжо лямпачка пад столлю ў калідорчыку.

— Распранайся,— прашаптала і сама пачала расшпільваць гузікі на маім паліто.— Дазволь, памагу.— Голас твой быў ласкавы, дурманлівы, што я ні аб чым не пытаў, а толькі здзіўлена азіраўся.

Загучала музыка. Жалоблівая, як адзінота. Ты падышла, абняла, прытулілася да мяне.

— Даруй! — глуха прагучала ля самага сэрца, быццам ты шаптала не мне, а яму.— Даруй! — І стала маленькай, бездапаможнай, няшчаснай. Твае пераўвасабленні збівалі з панталыку. Я гладзіў валасы твае, плечы. Ты ледзь уздрыгвала. Плакала. Супакойваць — складаная рэч. Я не ведаў, як гэта рабіць: гаварыць з маленькай дзяўчынкай ці з дарослым чалавекам?

Раптам ты распрасталася, ліхаманкава падцягнулася, схапіла рукамі маю галаву і пачала цалаваць лоб, шчокі, шыю. А потым ірванулася да вуснаў, як скокнула ў бяздонне. І не было за што ўчапіцца, утрымацца...

— Не пакідай мяне! Што я буду рабіць? — У голасе тваім былі туга, адчай.

Я глядзеў на цябе і не бачыў. Не, не таму, што цьмянае святло начніка ледзь рассоўвала змрок. Я быў там, каля той мяжы. Лета стаяла гарачае. Такога лета я больш не памятаю. З раніцы мчалі на раку. Нас было пяцёра хлопцаў. Ты выбрала мяне і Віцьку. Разбурыла нашу кампанію і стала трэцяй. «Слугі яе вялікасці!» — кпілі з нас пакрыўджаныя сябры. Пра каханне мы не гаварылі. Ды і што ведалі пра гэты цуд? Нічога. Нам падабалася ляжаць на гарачым пяску. Марыць пра тое, кім будзем. У поўдзень уцякалі ў засень вербалозу. Доўгія вузкія лісткі ледзь затрымлівалі бязлітасныя прамяні. Здавалася, што нідзе няма паратунку ад спёкі, нават у вадзе. Чакалі вечара як збавення. А вечарам? Памятаеш нашы пацалункі? Але ж гэта не назавеш каханнем! Зараз ты кажаш, што ўсміхаліся табе абое, а пажаніліся з іншымі. Не трэба пра гэта. Памятаеш, ты гуляла недзе з Віцькам, а я шукаў вас? Мне падказалі ісці ў парк. Я шукаў вас, як шукаюць страчаную надзею. Збіраўся

вечарам расказаць Віцьку, што ў нас з табой не проста так. А вы стаялі абняўшыся і цалаваліся. Ты была блізка, я бачыў твой твар, заплюшчаныя вочы. Як паранены звер, я кінуўся ў гушчар, бег, не гледзячы пад ногі, абдзіраючы рукі і твар. Бег, пакуль не зачапіўся кашуляй за сук. Яна трэснула, але ўтрымала мяне. Многа прайшло з таго часу. Мы з Віцькам даўно не сябры, як і з табой. Кажаш, што да гэтай пары ён усміхаецца табе пры сустрэчы: «Прывітанне, Лорачка!» Ці не таму наша тройка распалася, што адзін быў лішні? Здарылася так, што лішнім у ёй застаўся кожны. Такое рэдка бывае, а можа, і зусім не бывае, а з намі здарылася.

— Не пакідай! — Колькі разоў сказала ты ўжо гэтае слова. Нічога не вернеш. Я разумею цябе, хоць не бачу твайго тварыку. Калі не бачыш твару, позірку — разумець чалавека цяжэй, а я цябе разумею. Табе страшна. Покойчык і ты. Адзін на адзін. З чым ты застаешся? З тэлевізарам, магнітафонам. Незнаёмая спявачка цягне песню пра каханне. «Не пакідай мяне!» І там ёсць такія словы. Вы як дамовіліся. Што яшчэ? Столік і кветкі ў вазе. Белыя калы. Хто табе іх прынёс? Пэўна, сама купіла, бо ў паўзмроку пакойчыка вее ад іх холадам. Я добра памятаю, што дараныя кветкі цёплыя. Такія ж стаялі некалі перада мной. Гуло вяселле, неслася «горка»! Побач была каханая, ужо жонка. Нашы шчокі пыхалі жарам. Здавалася, што было так горача ад кветак. А гэтыя? Халодныя. Колькі часу прайшло, а я ні разу не дарыў больш кветак сваёй жонцы. Можа, ёй так не хапала і не хапае іх... А я тут...

Упершыню адчуў такую агіду да сябе, што ў горле перасела.

— Не пакідай! — маліла ты. І малітва твая перамагала.

Здавалася, што здарылася неверагоднае: вярнулася няўрымслівая пара́ юнацтва, што няма пражытых гадоў, пакут, блуканняў, падманаў і здрады. Былі толькі пульхныя па-дзіцячаму губы, нерастрачаная пяшчота. Дотык высокіх грудзей біў, як электрычнасць. «Што зменіцца, калі трошкі затрымаешся?» — здрадліва шаптаў расчулены пачуццямі розум. А побач ты шаптала пра свае пачуцці. Казала, што да гэтага вечара жыла надта рацыянальна. А потым знянацку запытала:

— А можа, узяць мне на выхаванне дзіця?

Дзівачка, ты і цяпер жывеш нейкім халодным розумам.

— Не, радзіць нельга! Што пра мяне скажуць? А замуж не пайду, ніколі. Ды і хто мяне возьме? — І глядзела ў мае вочы, ды цемра добра ахоўвала мяне.

— Я адчувала, што ты хінешся да мяне. Думала толькі: ёсць лепшыя. Даруй! — І пачала цалаваць мае рукі. І гарачыя слёзы апякалі мацней, чым вусны.— Даруй! Я многіх ведала, ты самы-самы лепшы! Васілёчак, любы, даруй!

Дотык цела, грудзей, палкія вусны штурхалі мяне зноў да краю таго бяздоння, у якое ты зацягнула мяне, калі я пераступіў парог твайго пакойчыка. І ў той апошні момант, калі пачаў ужоваліцца туды, адчуў, як хочацца мне жыць шчыра, добра. Навошта ж гінуць, калі наперадзе такое вялікае жыццё?

Я ўсхапіўся. Пачуў, як барабаніць у вокны дождж, як ляскае на бабіне магнітная стужка, як цурчыць вада. На канапе фосфарам адлівала постаць. Хутчэй адсюль, хутчэй!..



Было гэта ў мінулым годзе. Зноў восень. Лістапад. Можа, таму я і ўспомніў пра тое здарэнне? А можа, узрушыла вестка пра тваё замуства?

Здаецца, што зараз ты іншая. Пражыць восень — многае значыць. Тым больш, што гэта восень пасля юнацтва.

# АНТОНАЎКІ

Гардзей спаў чуйна, хоць і лёг позна, за поўнач, калі інтэрнат заціх, а праз сутонне стала ўжо відаць у пакоі паліца з кнігамі, шафа і, бы экран, дзверы. Праз сон прыблюзнілася, што хтосьці стукае. І ён, не прачынаючыся, падумаў, што гэта пайшоў дождж і буйныя кроплі залапаталі па бляшаным падваконні. Гардзей салодка пазяхнуў, закруціўся ўтульней у коўдру, усцягваючы яе на галаву, каб не чуць дажджу. Але знадворку ўсё змоўкла. Рукі лена замерлі, дацягнуўшы коўдру да падбароддзя. І тут зноў нешта застукала. Гардзей расплюшчыў вочы. Праз вузкую шчыліну ў шторках ён убачыў хмарнае неба. Расхрыстаныя воблакі праносіліся ў шчыліне, як каламутная вада пад мастком з дзвюх дошак. Імчала хутка. Зірнеш — у галаве закруціцца.

«Здалося»,— падумаў Гардзей пра стук, бо дажджу не было. Зірнуў на гадзіннік, здзівіўся, што чвэрць на адзінаццатую, і заплюшчыў вочы. Ведаў, не засне. Але сёння субота і можна ляжаць, покуль у жываце не забуркоча з голаду.

Раптам зноў нешта грукнула. Гардзей падняў галаву. Не, сумнення быць не магло: нехта стаяў на калідоры. «Хто ж гэта мог прыперціся? Не хлопцы ж. Бо тыя так стукаюць у дзверы, што ледзь вушакі не вылятаюць».

Гардзей падхапіўся і, як быў у трусах, скокнуў да дзвярэй, бо падалося, што незнаёмы ўжо адышоў, відаць, падумаўшы, што нікога няма.

На калідоры стаяла... дзяўчына. Ад здзіўлення Гардзей аслупянеў: у такі ранні час вахцёркі ніколі не пускалі дзяўчат. Ён тут жа хіснуўся за прачыненыя дзверы і высунуў галаву:

— Прабачце!

— Прабачце! — імгненным рэхам адгукнулася слова, бо сказалі яго адначасова. І весела зарагаталі, як смяюцца даўно знаёмыя людзі з якога-небудзь напамінку пра здарэнне, вядомае толькі дваім.

— Я зараз! Трошкі апрануся.— І кінуўся ў пакой, прычыніўшы дзверы. Ніяк не мог пацэліць нагой у штаніну і ледзь не бразнуўся. «Хто ж яна? Бачыш, зусім незнаёмая. Што за справа да мяне?»

— Заходзьце! — запрасіў дзяўчыну. Супакоены і зацікаўлены, Гардзей зірнуў на яе.

Дзяўчына спадабалася. Высакаватая, ладная, гадоў васемнаццаці. Твар, праўда, быў трошкі шыракаваты, але ўтрапёныя вялікія вочы неяк падаўжалі яго, затрымліваючы на сабе ўвагу. Шчокі залівала чырвань — ці то ад вясёлага здарэння, ці то ад хвалявання, ці як толькі-толькі яна забегла сюды з марозу. Доўгія русыя валасы льніста спадалі на плечы, аблямоўваючы твар, што рабіла яе падобнай на мадонну. «Адкуль прыйшла ты, Мона Ліза?» — ледзь не спытаў Гардзей уголас.

Заўважыўшы ягоны позірк, дзяўчына пасур'ёзнела, трасянула валасамі і паправіла іх рукой.

— Заходзьце! — паўтарыў Гардзей, убачыўшы, што яна стаіць і нервова перакладае з адной рукі ў другую поліэтыленавую сумку з яркім надпісам «Абсны», пальмамі, морам і задаволена-бяздумнымі тварамі прыгожых юнакоў і дзяўчат.

— Не, дзякуй! Я не пайду. Вы Гардзей? — Чырвань зноў набегла на шчокі.— Гэта вам,— і працягнула сумку.

— Але, я. А гэта што? — кінуў вачамі на сумку.

— Яблыкі,— сцішана вымавіла яна.

— Як яблыкі? Ад каго? — Гардзей ніяк не мог уцяміць, што да чаго.

— Яблыкі. Пэўна, самыя лепшыя. Ад каго? Ад мяне. Згодны? — Яна ўжо саўладала з сабою, вочы ўсміхаліся, а ў пытанні «згодны?» ён адчуў не зусім умелае жаночае какецтва.

Гардзей залюбаваўся ёю.

— Ну трымайце ж! — Яна па-дзіцячаму блазнавата надзьмула вусны і сунула сумку Гардзею ў рукі.— Я не ведала, што вы такі соня! Да пабачэння!

— Да...— толькі змог выціснуць з сябе Гардзей. Усё адбывалася неяк надта хутка. Яму падалося нават, што гэта сон і што дзяўчынка сніцца не першы раз. Страсянуў галавой і ўшчыпнуў сябе. Балюча!

А дзяўчына ішла па доўгім калідоры ў напрамку да лесвіцы не азіраючыся. Русыя валасы развяваліся, як бы не паспявалі за гаспадыняй.

Гардзей доўга стаяў на калідоры, глядзеў туды, дзе былі дзверы на лесвічную пляцоўку. Мроілася, што дзяўчына вось-вось з'явіцца і скажа, хто яна і што гэта за яблыкі. Дарэмна. Калідор быў пусты. Хлопцы задаволена адсыпаліся. Спаў бы і ён да абеду, як усе. А цяпер?

Яблыкі былі вялікія, духмяныя. Дзе-нідзе сок аж наскрозь працінаў іх залатымі жылкамі. Пах напоўніў пакойчык і навеў на ўспамін пра дом, пра бацькоўскі сад. Там было многа антонавак. Вось у такі ж час голле нізка звісае да долу. Гардзей любіў гэтую пару. Ён хадзіў між яблынь і ніяк не мог выбраць самы лепшы яблык. Усе былі такія прыгожыя, налітыя водарам і сонцам. Усё жыло ў такой тонкай гармоніі, што яму здавалася: сарве ён адзін яблык — і парушыцца прыгажосць. Ён шукаў ападак. У мяккай атаве вязлі ногі, шапацела апалае лісце. Ад млявасці і хараства валіўся на зямлю, еў ападак і глядзеў у высокае неба. Было яно не бяздоннае, не такое сіняе, як летам, а пустотнае. Ад зямлі цягнула вільгаццю, холадам, налівала цела бадзёрасцю, сілай. Гардзей ускокваў

нейкі памаладзелы, поўны адвагі і смеласці на які-небудзь гераічны ўчынак. Але замест гэтага трэба было рамантаваць плот. І ён рабіў гэта як самую важную справу...

«Трэба неяк сабрацца да бацькі. Цяжка старому»,— падумаў Гардзей. Дастаў з сумкі яблыкі, паклаў на стол. Глядзеў на іх і ніяк не рашаўся пасмакаваць, хоць есці хацелася. А перад вачамі стаяла дзяўчына, ці дзяўчынка. Ён корпаўся ў памяці, адшукваючы тую зарубку, на якой адзначаны гэты вобраз. Бо ён быў упэўнены, што недзе яе бачыў. І зусім не выпадкова, не ў натоўпе дзе-небудзь, не на вуліцы.

Дзень прайшоў неўпрыкметку. Што ён толькі ні спрабаваў рабіць! Ляжаў, чытаў, у рэшце рэшт выбраўся ў сталоўку, пахадзіў па вуліцах.

А думкі былі ўсё пра яе. З'яўленне незнаёмкі ўзрушыла, растрывожыла. Сэрца з перабоямі тахкала ў грудзях трывожна і радасна, адчуваючы, што нешта здарыцца.

Сонца коса зазірнула ў ягонае акно. Яблыкі на стале засвяціліся, насычаючыся сонцам. А калі хмары засцілі ўсё неба і рабілася змрочна, то ад яблыкаў сыходзіла святло. Гардзей глядзеў на іх з адчуваннем нейкай таямніцы, якой яму ніколі, можа, не разгадаць, бо на гэта не хопіць ягонага жыцця і рашучасці. Але ўсё адно ціхае шчасце паланіла ягоную душу. І толькі калі кінуў позірк на гадзіннік, то схмурнеў і заславаў. Набліжаўся вечар, і, як абяцаў, трэба было ісці да Ніны. Абяцанне пякло зараз як болька. Не сёння з'явілася гэтая болька, даўно. «О, вужака! Запаўзла ў маё жыццё!» Не першы раз слаў Гардзей страшны праклён на той дзень, калі Мікола, ягоны лепшы сябар, угаварыў павячэраць у кафэ.



— Што ў тым інтэрнаце? Зноў бульбу смажыць ды з кефірам?

— А тут чакаць колькі будзеш, ды і няёмка толькі павячэраць — трэба будзе і графінчык браць. Не будзеш жа сядзець, як чорны бусел на белай канюшыне.

— Па-суботняму можна.

— Не хочацца.

— Дзівак! — Мікола ўзяў яго за рукаў і пацягнуў да ўваходу.— Колькі таго жыцця!

У зале вісела сівое воблака тытунёвага дыму. Іграў аркестр. Яны пачакалі, покуль скончыцца валтузня і расчуленыя танцам людзі ўсядуцца на свае месцы. Прыстроіліся ля акна. Праз трэснутую шыбіну з вуліцы цягнула свежым паветрам. Гардзей узрадаваўся, што не давядзецца дурманіцца тытунём. Тады яшчэ курылі ледзь не за кожным сталом. Задуменна смакталі цыгарэты мужчыны і важна, сцвярджальна — жанчыны.

Ужо збіраліся пайсці, як да Гардзея падышла афіцыянтка і, нахіліўшыся да вуха, зашаптала:

— Сыдзіце на хвілінку ў раздзявалку. Там вас чакаюць...

Гардзей падняў галаву і, зірнуўшы ёй у вочы, перапыніў:

— Хто?

— Убачыце! — І пабегла між столікаў, як лыжніца між перашкод.

Першая думка была пра тое, што нехта хоча ўчыніць з ім бойку. Паглядзім!

— Не разумею, што ў вас за таямніцы такія з'явіліся. І калі ты толькі паспеў! — ухмыльнуўся Мікола.

— Прабач, зараз вярнуся.— Гардзей узняўся.

Ступаючы па сходках, ён наспружыніўся, гатовы да ўсяго. Але ўнізе амаль што нікога не было. Толькі ў куце каля брамкі гардэроба стаяла дзяўчына. Гардзей нават разгубіўся.

— Гэта вы мяне выклікалі?

— Я.— Дзяўчына ўсміхнулася. Усмешка, праўда, была няшчырая, блазнаватая.

Дзяўчына была прыгожая як лялька. І калі б не ўсмешка і не бляск вачэй ад выпітага віна, то можна было падумаць, што нехта памылкова паставіў сюды добра зроблены і з густам апрануты манекен.

— Чым абавязаны? — Яму хацелася быць з ёй сур'ёзным, нават грубаватым.

— Сёння ў мяне развітальны вечар з мужам. Мы разышліся. Заўтра я буду ўжо адна... Не, не тое... Ты мне спадабаўся.— Яна наблізілася і сціснула ягоную руку: — Запомні мой тэлефон... А зараз ідзі. Усё.— І лёгка адштурхнула, гарэзліва бліснуўшы вачыма, як штурхаюць надзьмуты дзіцячы шар, а той павольна ўзлятае і гэтак жа павольна падае.

Гардзей менавіта так успрыняў штуршок. Ён адступаў павольна, аж пакуль не даўся нагой аб першую сходку лесвіцы.

— Я буду чакаць! — прашаптала гулліва і перасмыкнула вуснамі.

Гардзей не знайшоў, што адказаць.



Пазваніў ёй праз некалькі дзён. Пазваніў таму, што быў з тых людзей, якія не вучацца на чужых памылках, а робяць свае. І такое натвораць, што хоць галавой у вір. А вінавацяць потым абставіны, нейкія ўмовы, але толькі не сябе.

— Не думай пра мяне дрэнна,— прашаптала яна, калі пераступіў парог кватэры. І моцна прытулілася.— Мне вельмі цяжка было адной. Я пакінутая... Не, ты не разумееш. Ты яшчэ зусім не ведаеш жыцця. Табе колькі гадоў?

Яна была ў замытым паркалёвым халаціку. Без фарбы на вачах і вуснах. А таму выглядала значна старэйшай, чым у той вечар, сталай жанчынай, але не менш прыгожай. Хараство было не кідкае, а ціхае, дамашняе. Ён абняў яе танклявы стан, прыпаў да падатлівых вуснаў, якія пахлі вінам.

«Гэта мой лёс»,— думаў Гардзей уначы, сціскаючы ў абдымках пяшчотнае жаночае цела. Яго дзівіла, што такую цудоўную жанчыну пакі-

нуў муж. Хоць і прыходзіла да яго мімалётнае каханне і ведаў жанчын, але такія высокія хвалі пачуццяў не захліствалі яшчэ ні разу. Ён захлынаўся ад шчасця, як чалавек, які не ўмее плаваць, ад вады, калі бачыць, што ідзе дапамога: і страшна — ці хопіць сілы ўтрымацца, і радасна — выратуюць, застануся жыць.

Цверазець пачаў тады, як зразумеў, што Ніна п'е. Напачатку ён прыняў гэта як часовае, як вынік сямейнай трагедыі. «Сваімі пачуццямі я здолею загаіць яе раны»,— думаў Гардзей. І змагаўся за яе, не ведаючы, што можна змяніць вопратку, але нельга перамяніць чалавека. У яго нічога не выходзіла. Толькі адчуваў, як сам пападае пад уладу Ніны. Даваў сабе слова не хадзіць больш да яе — і не стрымліваўся. Тайныя спружыны кіравалі ім, рабілі непадуладным розуму. У яго была прага кахання. Як у пустыні смага выклікае міражы рэк, вадаспадаў, так і жаданне песціць Ніну было міражом кахання. Калі Гардзей не бачыў Ніны, то пачынаў верыць у сапраўднасць пачуццяў, як верыў у дабрыню душы кожнага чалавека. Зараз да смагі далучыліся боль падману і страх: даведаўся, што Ніна прымае не толькі яго. Добра, як дзіця будзе ягонае... Сёння ён пойдзе да яе апошні раз і ўсё-ўсё скажа.



Вечар выдаўся такі цёплы, што не верылася ў верасень. Хмары разнесла, вецер аціх. У святле ліхтароў тлела ледзь пажоўклае лісце. Над горадам завісла поўня. Залацістая, як яблык, асветлены сонцам. Яблык... Гардзей здрыгануўся, адчуў агіду да сябе. «Блазнюк! Цэлы дзень стагнаў: хто яна, як завуць, якая цудоўная! Не паспеў вечар сысці— і што ж? Тут жа пабег да здрадлівай Ніначкі. Апошні раз! Каму маніш? Колькі разоў ты сабе гаварыў, што апошні? Маўчыш! Цьфу! Не трэба табе ведаць пра незнаёмку, псаваць ёй жыццё, бо ні на якія сапраўдныя пачуцці ты не здольны. Так, яна — Мона Ліза, а ты — грэшнік, д'ябал!»

Ад лаянкі на самога сябе стала лягчэй.

Над горадам плыла поўня, падобная на сакаўную антонаўку.

Чакай! Цётка Алена! Дзяўчына падобна на цётку Алену! Як ён не ўспомніў адразу? Гэта ж яе дачка! А яблыкі? Гэта ж з бацькоўскага саду. Папрасілі завезці гасцінец. Як жа ён не здагадаўся?

Гардзей прыпомніў, што сустракаў яе, яшчэ малечу-першакласніцу з суседняй вёсачкі, каля школы. А ён у тую восень пайшоў у войска. Цётка Алена працавала ў іхняй брыгадзе, сябравала з маці і нават была на праводзінах. «Заўтра ж напішу заяву на адгулы і паеду ў вёску. А цяпер лепей вярнуцца ў інтэрнат».

Раптам наперадзе, у святле ліхтара, убачыў знаёмую постаць з ільністымі валасамі. Яна ганарліва, як цётка Алена, плыла ў натоўпе. Усё мінулае жыццё здалося Гардзею раптоўна нікчэмным, шэрым. Ён ірвануўся наперад, як ірвуцца да фініша на апошнім этапе доўгай дыстанцыі. І ўжо нікога не бачыў. Перад вачыма была дзяўчына з ільністымі валасамі. Яна расла, павялічвалася, запаўняла ўвесь горад, сусвет.



# Ніна Загорская

## Мора—мара мая

*С. Б.*

Незнаёмае мора
Клікала змалку мяне.
Сіняе-сіняе,
Чорнае-чорнае,
Белае і бурштынавае,
Ціхае і ласкавае,
Грознае мора,
З валам дзевятым,
З горам...
Злавеснае, штармавое,
А з'явілася —
Чорнае мора, жывое.
Увайшло ў маё сэрца, як песня...
Дыхала мора прадвеснем...
А з вежы Ахун-гары
Мора вясёлкай гарыць.
А там, па зялёных хвалях,
Белы ветразь плыве,
А там, у зялёных хвалях,
Неразгадана казка жыве.
Над узбярэжжам мора
Белагрудыя чайкі крычаць.
Там, у трывожнай бухце,—
Сэрца майго прычал.

Не дзівіцеся, што так часта
Сніцца мора мне па начах...
Мора — не проста мара.
Мора — жывы прастор.
А можа, дарога жывая
Да неадкрытых зор...

## Жыццё ідзе

Жыццё ідзе.
Жыццё ідзе,
Жыццё цябе ў кагось крадзе...
Рука любімая сышлася
З другой ласкаваю рукой.
І ручаінкай пачалася,
Каб стаць магутнаю ракой,
Любоў.
Згарэў у некага спакой.
А нехта той цябе любіў,
А нехта той адданым быў...
І для яго ты зоркай ззяў.
...Раптоўна свет было згараў.
Ужо на новы дзень зара
Кацілася няспынна,
А дзён былых, шчаслівых дзён,
Мільгалі спіны, спіны...

## Маўчанне—золата

«Напішы радкоў хоць пару, родны,
Напішы». А ты маўчыш зацята,
Быццам на маўчанне мы закляты.
Выйшла ўсё чаканне, неспакой свой
Перамножыла на вёрсты, падарожжы...
Вось і зноў каня свайго стрыножу —
Сіл хай набярэцца на папасе.
Разбіраю пошту — назапасіў
Час канікулярны вельмі шчодра.
Перачытваю — са мной гамоняць
Сваякі, таварышы, сябры...
Раптам паміж шчырымі радкамі —
Словы недаўменныя. Рукамі,
Роднымі, палётнымі рукамі,

Выведзены словы недаўмення,
Непаразумення, адчужэння...
І падумала: як горкі быў урок
Продка геніяльнага, які
Нам пакінуў боль свой праз вякі —
«Маўчанне — золата».



Цалую
Радкі твайго адзінага
Ліста,
Які, нібыта
Бяссільны птах,
Зажураны, падбіты —
Апошняя і першая вярста.



Вусны
прагнуць агню.
Зерне — зямлі,
трава — сонца,
каб гарэць,
прарастаць,
паўтарацца
бясконца.



Калі б я магла не зманіць —
не зманіла б.
Калі б я магла паланіць —
паланіла б.
Паедзем, едзем з табой у Харошша!
Табе я там соснамі пазваню,—
ці яшчэ раз зманю.



Мары мае пра
цябе —
як аблокі.
Быццам на крылах,—
я з імі высока.

Помніш бярозу,—
паіла нас сокам...
Помніш вясну,
лугавыя асокі?
Помніш лілеі
і явар высокі?..

## Вам, далёкаму другу

З Вашых любімых
кветак і сноў,
з песень адвечных
нашых дуброў,
з чысціні
нашых крыніц,
з блакіту азёр,
з яснасці зор
вытку для Вас
дзівосны узор...

# *Віктар Карамазаў*



# ДЗЕНЬ БАРЫСА І АПОВЕСЦЬ ГЛЕБА





Гэта каб цеплаход, сапраўдны белы цеплаход, прыплыў у Сычыкі, пад самыя вокны — такога тут яшчэ не бачылі і ў снах не снілі.

Па Сажы цеплаходы хадзілі здаўна, уверх-уніз, але вёска не ля самай ракі прыгрэлася, яна аблюбавала ўзгорак над вялікай затоняю, з усіх бакоў парослай зялёным вастрапёрым аерам, нібы маладое вока бучнымі вейкамі. Затоня разлілася ад Сажа ледзь не на паўвярсты, а ўсё роўна гэта не тое, што Сож,— не раўня. Сож паўнюткі, глыбокі ў любую пару, а яна то ападзе ў берагах, летняй спёкаю, глядзіш, укры-

---

Мал. **У. Гладкевіча**

ецца гарлачыкамі ды раскаю, то падымецца, нальецца-напоўніцца — гэта ўвесну,— а ў гарлавіне, дзе затоня і Сож цалуюцца не нацалуюцца, неспакой вечны: вада то бяздонныя яміны павымывае, дасць акуням ды ляшчам прытулак, то пяску нагоніць — бабы, задраўшы спадніцы, уброд ходзяць. Дык ці сюды, у гэтакую пасадку, цеплаходам дарога?

І раптам — навіна, ад хаты да хаты:

— Цеплаход пад Гапаччынай вярбою!..

Дзіва-дзіўнае адбылося надвечар, калі налітае маёвай пяшчотаю сонца скацілася з канцавой страхі, села за канцавым садам, апошнімі прамянямі дастаючы адно самы высокі ў Сычыках шыферны вільчык трохпавярховай, з белай іскрыстай цэглы, школы. На высокім беразе гэтай парою тырчалі адны малыя: з вудамі, веласіпедамі, сабакамі. Згледзеўшы белы-бялюткі, па-вясноваму чысты і свежы цеплаход, яны пусціліся ў скокі, нібы зроду не бачылі цеплахода, а калі той развярнуўся і вострым лычам парнуў жоўтую пясчаную кручу — замоўклі, хто дзе быў — той там прыкіпеў. Хвілін колькі стаяў цеплаход, ніхто не выходзіў на белую палубу, і маўчалі на беразе хлапчукі, а потым адзін з іх, самы спрытны, ускочыў, апамятаўшыся, на веласіпед, галёкнуў: «Цыган, за мною!» — і панёсся, скрыгочучы старымі педалямі, сеючы вецер і навіну незвычайную. За галёкалам следам далі драла Цыган, чорны як вугельчык, вясёлы сабачка, і двое меншых хлапчукоў, якія не маглі ўгнацца за веласіпеднымі коламі і чацвераногім, адсталі, але шыбавалі колькі таго духу, азіраючыся, і ўсё крычалі: «Цеплахо-о-од!..»

За лабавым шклом рубкі ля штурвала з берага была відаць сіняя высокая фуражка з блішчастым крабам — капітан ці механік гартаў сшытак і туды-сюды варочаў галавою, пазіраючы то на ваду, то на бераг, на людзей і хаты.

Над рубкаю заварушыўся круглы сівенькі дынамік, марудна павярнуўся да берага.

— Глянь, морду выставіў,— заўважыў хтосьці з малых.

Дынамік, як пачуўшы абразу, грозна прахрыпеў, адкашляўся, быццам хворы дзед, і падаў каманду:

— Кідай швартовы!

На палубе ніхто не паказваўся, на бераг з цеплахода ніхто нічога не кідаў, і праз хвіліну дынамік скалануў паветра на ўсю сваю сілу.

— Ну што, х-х... маржовыя?! Паглохлі?..

Дзятва на беразе адгукнулася дружным рогатам, свістам; дынамік, нібы засаромеўшыся, прыціх, аддыхаўся, яшчэ раз адкашляўся і ўжо іншым, нясмелым ці вінаватым, нудна-заспаным голасам завёў:

Когда внезапно возникает
Еще неясный голос труб,
Слова, как ястребы ночные,
Срываются с горячих губ..

Пад гэтую песню, узнёслую і ясную не болей, як туманная ноч, асабліва малечы, на палубу выйшлі двое: адзін — малады мужчына, яшчэ хлопец, танклявы, доўгі, маруда-маруда, ледзь жывы хворы ці гультай, а другі — пажылы, нават стараваты, ростам малы, поўны, ажно пуза це-

раз рэмень вывалілася, аднак рухавы, усё роўна як рабіў, баючыся, што могуць выправадзіць на пенсію па старасці ды па слабасці. Нічога матроскага ў іх абліччы не было — ні цяльняшак, ні бесказырак са стужкамі, якарамі, ні блішчастых бляшак на жыватах,— штаны і кашулі звычайныя, што і на вясковым чалавеку, але з берага іх прызналі за матросаў, бо хто служыць на цеплаходзе, як не матросы? Малады ледзь з'явіўся на палубе — выкінуў рукі ўгору, прыўзняўся на дыбачкі, дастаючы рукамі неба, шырака, на ўвесь рот, ладны, нібы ў жабы, мусіць са сну, пазяхнуў, развёў рукі ў бакі, сціснуў кулачча, баксануў паветра і агледзеўся. Пакуль ён рабіў зарадку, пажылы абабег палубу, падхапіў дошчыну — трап, адзін яе канец юзам пусціў з палубы пад кручу на мокры пясок і затупацеў па дошчыне ўніз. Малады нетаропка паскідаў яму за борт вяроўку, лом і молат. Цяжка хакаючы, пажылы молатам загнаў лом у пясок, накруціў на яго вяроўку — прышвартаваўся — і зноў узбег на палубу.

Папрацаваўшы, не грэх і закурыць. Малады дастаў з кішэні блішчасты, у цэлафане, пачак з цыгарэтамі.

Стаялі, пыхкалі сівым дымком у неба дый спакваля, адпачываючы, разглядалі бераг, людзей на беразе, хаты...

У дзверы нехта асцярожна дзеўбануў цупкім, як драўляным, пальцам, але ў кают-кампаніі быццам не пачулі — ніхто не адгукнуўся. Дзверы ўсё ж ціхенька прачыніліся, заглянуў капітан цеплахода: спакойны, мажны, сталых гадоў, з загарэлым, як спелы жолуд, тварам і пасівелымі скронямі, уважлівы, нават далікатна-паблажлівы да сваіх трох пасажыраў, якія ахвотна, нібы родную печ, асядлалі кают-кампанію і выходзілі з яе зусім рэдка: снедаць, абедаць, вячэраць ды яшчэ, вядома, у гальюн. Заўважыўшы на адкідным століку ля круглага ілюмінатара карты і вялізную, мо на цэлы літр, чорную, як смерць, «бомбу» — пляшку з танным віном,— капітан ніякавата зачмыхаў у вострыя танклявы нос, заплюскаў разумнымі вачыма, адвёў іх, каб нічога таго не бачыць. Ён, вядома, не таму занепакоіўся, што ўбачыў пляшку ды карты,— непакоіла іншае: як бы людзі не падумалі, што ён, салідны гадамі і стажам, можа, самы немалады і салідны ў сваім параходстве капітан, сочыць за імі, ловіць на пляшцы ды картах. Колькі плаваў, гэтым не славіўся. А падумаць людзі — хто яго не ведаў — маглі, несправядліва маглі падумаць. Быццам ён вінен, што ўжо два дні і дзве ночы на століку нішто іншае не ляжала і не стаяла, акрамя чорных «бомб», шклянкі, адной на траіх, пашарпаных карт і попельніцы, заўсёды заваленай бычкамі.

Адвёўшы вочы ад століка, таропка паведаміў:

— За бортам вёска Сычыкі.

Адно Ціма, прыгожы чарнявы барадач, азваўся:

— Доўга будзем стаяць?

— Колькі вам трэба,— прыемным, ветлівым басам адказаў капітан.— Хоць да раніцы.

Пытанняў да капітана больш не было, і ён выйшаў, нячутна прычыніў за сабою дзверы.

— Сямёрка бубі! — абвясціў Мазепа, пераможна адкінуўшы галаву назад і прыўзняўшы бараду. Яна ў яго была кудлатая, сівавата-шэрая, па краях рудая.— Тваё слова, князь?! — кінуў з выклікам у хітраватых вузкіх вачах, пляснуў аб стол картамі і зарагатаў.— Ну, сталіца?! Мацьвашу, Сычыкі!..

На ложку, прыкінутым коўдраю, тварам прытуліўшыся да ілюмінатара, па-дзіцячы ўплішчыўшы нос у шкло, сядзеў маладзейшы за сябрукоў Ромка. Ціха і ўзнёсла, самому сабе казаў:

— Вунь і чайкі, як на моры. Белыя.

Яго ніхто не слухаў.

— Віст! — сказаў Ціма і — да Ромкі: — Ляжам?

— Без двух, князь,— не гледзячы ў іхнія карты, кінуў Мазепа.— Прашу сорак на горку.

— Якія сорак? — Ціма згроб Мазепавы карты.— Зноў галаву марочыш? Пры чыстай дзевятцы сем абвяшчае! Бачыў такога? — заклікаў у сведкі Ромку.— Махляр! — Ціма заўсёды гуляў сумленна і не любіў круцельства.

— А ты лічыў? Ты іншы? — усхадзіўся Мазепа.

— Сумленне трэба мець! — Ціма схапіў сябрука загрудкі. Пад сталом ля ног зазвінелі і пакаціліся пустыя «бомбы».

— Ну чаго вы звярэеце? — цвярозым, разважлівым голасам спытаў Ромка, які гуляў таксама, але абыякава глядзеў на выйгрышы і на пройгрышы, да сэрца, як яны, не браў, гуляў, абы падтрымаць кампанію.— Князь!.. Адпусці ты яго. Гарбатага магіла выправіць.

Паслухаўшы Ромку, нібы голас уласнай душы, Ціма адштурхнуў ад сябе Мазепу, пасадзіў на месца, запісаў у сшытак ачкі, свае і Мазепавы, на свой і на яго рахунак, наліў у шклянку чырвонага, залпам выпіў і, паспакайнеўшы, адваліўся на вузкім, супраць Ромкі, ложку, спіною да сцяны, стомлена заплюшчыў вочы. Не бачыў, адно чуў, як моўчкі паўставалі Ромка і Мазепа, выйшлі за дзверы, падняліся на палубу — чуў іх крокі. З хвіліну пасядзеўшы, расплюшчыў вочы, падсунуўся бліжэй да ілюмінатара.

За бортам ляжала нерухомая, зусім нежывая, шэрая, ані бліскаўкі, вада, над вадою кружыліся чайкі, белыя, але не такія гладкія, як на моры, драбнейшыя, і не было відаць берага, ніякіх нідзе не было Сычыкаў.

Ціма дастаў з бакавой кішэні пінжака стары, у зялёнай вокладцы пашпарт. З фота шчасліва ззяла наіўная, блазнаватая фізіяномія. Ухмыляючыся свайму маладому партрэту, урачыстым голасам прачытаў: «Мурашка Цімафей Міхайлавіч. Месца нараджэння — вёска Сычыкі». Адкінуў пашпарт на стол, на растрэсеныя карты, закурыў і з цыгарэткаю ў зубах, заклаўшы за галаву рукі, паваліўся на ложак. Ведаў, што на палубе яго чакаюць Раман і Мазепа, чакае капітан Краб, чакае, выставіўшы з-пад караткавага белага халаціка круглыя каленькі, гаспадыня камбуза «міс кок Зіначка», яшчэ зусім дзіця, чакаюць механік і мат-

росы — усе цяпер там, на палубе, бо ўсім не церпіцца ўбачыць, як ён, князь Цімафей Міхайлавіч, першы раз у сваім сталым жыцці сыдзе на родны бераг. Але ён не спяшаўся ім на вочы, на вочы сваёй вёсцы, радні, ляжаў з выглядам, быццам тое, што рабілася навокал, яго не датычыць, быццам ніякіх Сычыкаў на беразе няма, а калі ёсць, дык у яго з імі — нічога агульнага, нічога блізкага.

Вось толькі душу не падманеш — душа хвалявалася. І зноў, каторы ўжо раз, Ціма выцягнуў з-пад падушкі лоцыю.

Учора гэтую лоцыю прынёс капітан. Тады Ціма яшчэ не ведаў, што наперадзе па іх водным шляху будзе ягоная вёска. Адно ўвечары, калі адстралялі чарговую пульку ў прэферанс і Раман, прайграўшы ўжо цэлага траяка, здаваў карты пад наступную, Ціма разгарнуў лоцыю, пальцам правёў па звілістым блакітным пункціры фарватэра і сярод лоцманскіх знакаў, назваў вёсак, прыстаней, плёсаў, перакатаў палец упёрся ў дробненька выпісанае слоўца: «Сычыкі». У галаве зазвінела, нібы ў склеротыка. Прыгадалася пахілая хата, плот і веснікі ў частаколу, вузкая пыльная дарога, барадаты сівы дзядок, аблеплены пчоламі; пчолы поўзалі па барадзе, галаве, твары, белай палатнянай кашулі, узляталі з дзеда, нібы з вулляка, а іншыя прыляталі і садзіліся на яго, нібы на вулляк. Можа, пчолы і поўнілі галаву звонам?..

Не, гэта яна, яго вёска. Душа заныла, падказвала, што яна, родная. Ды і назва рэдкая, другой такой, мабыць, няма ва ўсім свеце. І раён супадаў. І рака — правы бераг Сажа.

Ціма ўсхапіўся з ложка, нервова захадзіў па каюце. Зноў сеў. Галава была цяжкая, нібы свінцом налітая.

Заплюшчыў вочы...

Звон у галаве не аціхаў. Ён быў танклявы і нудны, быццам недзе пад чэрапам зумкаў камар. Здавалася, што ўжо не адчэпіцца, давядзе да вар'яцтва.

Але з таго нібыта нуднага звону раптам узнікла музыка — тая, якою яшчэ і цяпер жылі, хоць не абвязкова, як раней, ціхія, хоць ужо не вельмі, ужо толькі адносна ціхія селавыя дарогі, вузкія і доўгія, прашнураваныя ўлукаткі, падобныя на сцежкі. То была музыка колаў фурманкі. І сама фурманка — тут як тут. І конь шэры, у яблыках. І бурая дарога пад капытамі, пад коламі. З-пад колаў і конскіх капытоў курэў буры пыл.

Фурманка бегла паміж зялёных, да цёплага бляску сагрэтых сонцам палёў, туды, дзе віднеўся вялікі лес. Дарога да лесу блізкая, а лес усё не набліжаўся, хоць колы беглі і беглі, спяваючы адвечную, як зямля і неба, песню: рыгу-рыг, рыгу-рыг...

А дзе ж сам фурман? І фурман быў на месцы, нават два: з глыбокай фурманкі тырчалі дзве галавы — адна ніжэйшая, малая, чарнявая, з лапушыстымі вушамі, якія на сонцы прасвечвалі не ружовасцю — белізной, а другая вышэйшая, вялікая, на вузкім доўгім карку, сівая, быццам дарожным пылам прысыпаная.

— Не смяюся. Кажу як ёсць. Вам скарынка — і яда, і лекі. Можа, не так?

Старая згодна заківала галавою:

— Так, Іванка, так. Але ці мне адной? Хлебушак, дар божы, кожнаму і яда, і лекі.

Калі Ксеня заўважыла, што госці мала ядуць, Пляскач, зразумеўшы яе абурэнне па-свойму, схапіўся за пляшку. Ціма ўжо прыкмеціў, які ён ласы на гарэлку, бачыў гэта і па тым, як ён спрытна хапаўся за пляшку ды шклянку, і па носе, таўстым і чырвоным, што наліванка. Праўда, цяпер яму ўсе карты зблытала Лёкса: высунулася з-за Плескачовага пляча, уставілася на Ціму і пачала прасіць, каб ён што-кольвек расказаў пра сябе, бо ў вёсцы, маўляў, нічога пра яго не ведаюць. Ціма адвярнуўся, нібы не пачуў, але пачулі іншыя — Іван падхапіў:

— Ну, Цімафей!

Не давалі нават памаўчаць ды падумаць. Тая ж Лёкса яшчэ і падганяла:

— Ты, Цімафей, нас не саромся. Мы людзі свойскія. Мы цябе зразумеем, як ні скажаш.

Паспагадала, называецца. Яе няпрошаныя суцяшэнні толькі злавалі. Ужо яму таксама карцела заліць гарэлкаю вочы, каб не бачыць і не чуць старую. Дзядзька Кузьма яго зразумеў — загаварыў, блытаючы карты Лёксе, як тая зблытала Плескачу:

— А ці помніш, Ляксандра, як Клава, Цімафеева матка, царства ёй нябеснае, прыслала ліст з Германіі? Помніш яе слёзкі? Як мы, сваякі, сабраліся ў Акімавай хаце, чыталі ўголас. Акім і чытаў, накінуўшы на нос акуляры. А мы ўсе слухалі, уздыхалі. Як цяжка было ёй там, на чужыне, без нас! Без нашага слова. Без вёскі, лесу, раллі, рэчкі. Без вяскавага нашага духу. Во дзе наплакалася, нагаравалася.

Цётку ўзяла ахвота штосьці адказаць Кузьме, зноў была высунулася, заміргала ад нецярплівасці вочкамі, ды Пляскач хамавата засланіў яе плячом, сам сказаў:

— А то мы тут не нацярпеліся? Можа, Варвара ў пярынах качалася, пірагі з тоўчаным макам ела? Ці я...

Тут Лёкса і прарвалася са злом на суседа:

— Маўчы, Пляскач! У сваім гняздзе цярпець можна. Не на чужыне. А ўжо як ты гараваў... памаўчы.

Пляскач змоўк, засоп, наліўся крывёю. Яму карцела адплаціць Лёксе, ды Іван не даў:

— Дык за цётку Клаву падымем... Зямля ёй пухам.

(Заканчэнне ў наступным нумары)



# Пятрусь Макаль

## Вучыць бацька мяне араць

Поле. Ранак. Аратых рацць.
Ходзіць кругам уся акруга.
Вучыць бацька мяне араць —
Я ледзь-ледзь дастаю да плуга.
Я, здаецца, ледзь-ледзь іду:
Водзіць сіла мяне сляпая...
Ды ўтрымаюся, не ўпаду,
Калі поруч настаўнік ступае.
Кажа бацька: — Бяры глыбей!
І палоніць раллі адчуванне.
Скача сэрца, як верабей,
Ад шчымлівага хвалявання.
З неба штосьці мне раіць жаўрук,
Штосьці шэпча мне ветрык на вуха,
Спасцігаць як навуку навук
Мне цябе, глыбіняў навука.
Лёс мой думны — жытнёвы лёс
Неруш поля нарогам адродзіць.
На зямлі і ў вышынях нябёс
Зноў і зноў мне барозны праводзіць...
З кожнай новаю баразной
Свет мне робіцца большым другам.
Плуг спачатку валодаў мной,
А цяпер я валодаю плугам.
Пачакай, не ўцякай, вышыня:
Да цябе яшчэ дабяруся!
Хіба, зорная, ты не радня
Поля жытняга Беларусі?

Калі поруч аратых раць,
Не ўпаду я, дайду да сонца,
Што хавалася ў баразёнцы...
Вучыць бацька мяне араць.

## Майстэрня

*Н. Шчаснай*

Тут, у майстэрні, як на сёмым небе,
У звонкай і шчымлівай цішыні
Забудзь на хвілю аб надзённым хлебе
І далучы сябе да вышыні...
Да рукатворнай вышыні, якая,
Нябесную абняўшы сіняву,
Палохае, і вабіць, і ўцякае,
І так п'янліва кружыць галаву.
О гэта непрадбачанае шчасце,
Што абручыла неба і зямлю!
І я, каб не сарвацца, каб не ўпасці,
Тваю руку ратоўную лаўлю.
Я ведаю, што хараство не згіне,
Пакуль тваё святло прадзе і тчэ...
І ты мне зноў нагадваеш — багіня! —
Аб тым, што свет не створаны яшчэ.
Бяруць сваё свячэнне вітражы
У навальніцай вымытым блакіце,
У васільку, які згубіўся ў жыце,
У ружы, што чакае на мяжы,
Аб цудадзейным дотыку рукі
Спрадвеку тужыць россып розных фарбаў,
Якія прагнуць стаць сузор'ем скарбаў.
Прыходзьце, не марудзьце, мастакі.
Хто, як не ты, жыццю вясёлку верне,
Што страчана ў бяздонні цемнаты.
Я ведаю цяпер, што свет — майстэрня,
Дзе чарадзейна валадарыш ты.
Прыйшоў я не сварыцца, і скарыцца
З душой напятай, быццам цеціва.
Дзяржавы фарбаў думная царыца,
Пакінь мяне ў абдымках хараства.

## Урок паўтарэння

Мы паўтараем,
Мы паўтараем,
Сваёй ляноце не патураем.

Ідзе паўтарэнне па дрогкай дарожцы:
Белым па чорнаму
Пішам на дошцы...
Мы паўтараем
Гэтак, як трэба:
«Мама» і «тата»,
«Зямля» і «неба».
Мы паўтараем:
«Народ» і «Радзіма»...
Доўжыцца вечнасць
Гэта гадзіна.
Услед за настаўнікам
Паўтараем,
Стаіўшы дыханне,
Былога святыні,
Мы, паўтараючы, пакараем
Мудрасці даўняй
Крутыя вышыні.
Вучні старанныя і непаседы,
Сцвярджаючы з продкамі падабенства,
Мы паўтараем драмы, і беды,
І катастрофы, і войнаў шаленства.
Мы паўтараем вясновае ворыва,
На поле ступаючы лёгка і храбра.
Мы паўтараем лютасць да ворага,
Мы паўтараем чуласць да сябра.
Мы паўтараем блакітныя мары
У крутаверці ракетнай спешкі.
Мы паўтараем бацькоўскія твары,
Мы паўтараем матчыны ўсмешкі.
Свет аднаўляецца кожнай вясною,
Не знаючы рыхласці і старэння,
Штодзённай адзначана навізною
Наша жыццё —
Урок паўтарэння...
Дні сваёй долі высокай лістаем,
Глыбока ў зямлі схаваўшы карэнне.
І, паўтараючы, вырастаем
Мы, непаўторныя ў паўтарэнні.



Нялёгка людзям згубленым і зорам
Сябе ў бяздомнай бездані знайсці.
Давай з табою, мора, пагаворым
Аб вечным, аб штодзённым у жыцці.

Якая немагчымая часіна:
Перад зямлёй і небам мы — адны.
Ты абдымі мяне, як маці сына,
Што не вяртаўся столькі год з вайны...
Спачыну ты ні ўноч, ні ўдзень не просіш,
Твой нораў і лагодны і круты,
Люляеш, песціш і высока ўзносіш
І кідаеш у вір няўмольна ты.
Тут здабылі мы болей ці згубілі?
Ты вучыш нас, стыхія, разумець,
Як небяспечна пакараць глыбіні,
Як лёгка па паверхні слізгацець.
Плыўцу любому пагражаеш ліхам,
Калі ў яго гарцуеш пад рукой.
А горш за ўсё, калі бываеш ціхім,
Страшней за шторм люстраны твой спакой.
Імчацца хвалі ў бегу небяспечным,
Танцуючы на промні вастрыя.
Хіба не ў гэтым хваляванні вечным
І неўміручасць і краса твая?

## Адведзіны

Нібы гадзіннік, што на час заведзены,
Няўмольна лёс адлічвае гады.
Жыццё маё — святочныя адведзіны
Святла і цемры, шчасця і бяды.

І — хочаш ці не хочаш, адыходзячы,
Трымай адказ, чаго прыходзіў ты...
Дзеля таго, каб выпіць келіх слодычы
Ці падарыць хоць жменьку дабраты.

Я саджанцам жыцця парой халоднаю
Не шкадаваў уласнага цяпла,
Я атуляў іх любасцю лагоднаю,
І самі выраслалі кроны зла.

Хоць бразгала перад чужынцам за́саўка,
Сяклі мой сад, што я ў душы пранёс,
То пікамі знішчальных промняў — засуха,
То ледзяной сякераю — мароз...

Гадзіннік лёсу, што на час заведзены,
Усё хутчэй адстуквае гады.

Жыццё маё — кароткія адведзіны
Святла і цемры, шчасця і бяды.

Калі ж дужэ дрэўца чалавечнасці,
Якое я адхукваў у мароз,
Чаго яшчэ? Ніякай іншай вечнасці
Я не прашу ў цябе, няўмольны лёс.

□

Спрадвек
з ваяўнічасцю поля ратнага
апранаецца поле аратага:
у ворыва — шэры
колер шынелі,
у жыта,
што даспявае шчыра,—
жоўты колер мундзіра...

□

Набрыняўшы жыццём, галлё
Ціха стукае ў сінь акна.
Я здымаю трубку:
— Галё!
— Гаворыць вясна!..

Я, цярэбячы дрогка рукаў,
Мармычу, увесь веснавы:
— Вельмі рад — я даўно чакаў,
Што пазвоніце вы.

Вас чакалі палі і сады,
Што прачнуліся ў гамане...
Трапяткіх галін правады
Падключыліся да мяне.

Я гляджу ў вышыню з-пад рукі,
І чародкай ляцяць прада мной
У святочных фраках гракі.
— Вы куды?
— На спатканне з вясной.

У вачах у жонкі адчай,
Засланіла мяне сцяной.
— Мая любая, выбачай,
Я бягу на спатканне з вясной!



У мяне цяпер — выхадны
Ад работы, ад дум, ад песні.
У мяне — выхадны; вы адны
Стаўце сцены, змятайце плесню.

Я на столь, як на неба, гляджу:
А ні будняў, а ні параду.
У мяне выхадны ад дажджу,
У мяне выхадны ад граду.

Калі бура, калі грамы
Скаланаюць чужыя дамы,
Лёгка ў сховішчы дамачадца
Адсядзецца і адмаўчацца.

Калыханнем лагодным кроў
Закалыхвае ў сэрцы думу...
У мяне выхадны ад сяброў,
У мяне выхадны ад шуму.

Колькі доўжацца святы адны,
Дзе ні ценю будзённай турботы?..
Я малю цябе, выхадны,
Дай хоць трошкі работы...



Якое яно, маё шчасце?
Які яго смак і колер?
Іншым такое не скласці
Ніколі...
Перш як з табой адкусілі
Ад бохана вечнасці крыху,
З упартасцю доўга мясілі
Нязвычнае цеста паціху...
Цярпліва люляючы згоду,
Мы дабаўлялі даволі
Ад пацалункаў — мёду
І ад слязіны — солі,
Ад першых спатканняў — хмелю,
Ад расставанняў — перцу...
Вядзьмарылі, як умелі,
Каб шчасце было па сэрцу!
Штодзень ад яго рэжам,
Грэем ласкава рукамі,

Каб дыхала водарам свежым,
Не зачарсцвела як камень.
І не натолім попыт,
Што сну не дае чалавеку.
Адзіны хвалюе клопат:
Толькі б хапіла давеку...
Вы, бачу, не рады такому?
Вам яно не па густу?
Дык ад яго ж нікому
Я не адкрою лусту!



Калі ты ад радасці плачаш,
твая сляза —
люстэрка майго шчасця.
Калі ты ад смутку плачаш,
твая сляза —
люстэрка майго гора.
Калі ты смяешся,
твой зрок —
люстэрка маёй весялосці...
А калі ты маўчыш,
я нясцерпна пакутую:
дзе мне пабачыць
адлюстраванне сваё?



— Сынку, гуляй у сваім двары,
Не гойсай далёка ад дому:
Можаш патрапіць у рукі разбойніка...

— Ручай, не бяжы ў мора:
Там хвалі гвалтоўныя
Цябе закалышуць,
Загубяць...

— Не пакідай гнязда,
Птушанятка:
Паблізу драпежнік
Вострыць свае кіпцюры...

Хлопчык-гарэза
Бяжыць за ваколіцу,
Спрабуючы схапіць, як абруч,
Лінію далягляду.

Падскакам ручаёк
З крыніцы ўцякае —
Спяшаецца далучыцца
Да вялікай вады.

Птушанятка,
Узмахнуўшы крылцамі,
Паляцела ў вырай
З прагаю выдзеўбаць
Зоркі на небе.

□

— Я, выгнаннік вясны,
Страціў, чым валадарыў...
— Хто ты?
— Я — сувязны
Успамінаў і мараў.

□

Вельмі хочацца азірнуцца —
След пакінуты вабіць вока.
Вельмі хочацца дакрануцца
Да таго, што цяпер далёка.

Завітаць да юнацтва ў госці,
Што як ранняй вясной праталіна.
Дакрануцца да маладосці,
Што дыханнем вайны апалена.

Заміраючы на парозе,
Азіраемся перш, як стукнем.
Мы жывем у штодзённай трывозе
На парозе былога з наступным.

Зноў памножыцца ўсё, што страчана
На сцяжынах крутых к вышыням.
Шлях наш пройдзены — наша спадчына,
Што нашчадкам сваім пакінем.

Толькі ў спешцы не спатыкніцеся:
Сцежкі ў заўтра — над прорвай кладкі.
Прыпыніцеся, азірніцеся...
Хто там ломіцца без аглядкі?



Бяда адна не ходзіць;
Цікуючы падпольна,
Бяда бяду знаходзіць,
Каб наступаць супольна.

Яе нашэсце, зрэшты,
Накаркаюць вароны
Тады, калі ўстаеш ты
Зусім безабаронны.

Накінецца знянацку
Сяміглаловым змеем,
Якога па-салдацку
Мы ўтаймаваць не ўмеем.

Бяда — душы паверка.
І ты ў адчаі храбра
Хапаеш за паветра —
І ловіш локаць сябра.

У даль глядзіш з мальбою —
І кроў у жылах стыне
Ад створанай табою
Глуханямой пустыні.

Так доўга, так пакутна
Рука руку знаходзіць...
А блізка зграя чутна —
Бяда з бядою ходзіць.



Вы бачыце — сягоння
Не тое, што было!
За кнігай у пагоні
І горад, і сяло.

Штурхае век вучыцца,
Страсаць іржу акоў —
Спяшайце далучыцца
Да мудрасці вякоў!

У каленкоры сонца —
Нязвыклая краса! —

За паўтара чырвонца
Дастанеш з-пад крыса.

І весняю адлігай
І ў замаразкі мы,
Палюючы за кнігай,
Нясём дамоў тамы.

І вось ужо — не ў марах —
Цясняцца ля сцяны,
Як на турэмных нарах,
На стэлажах яны...

І класікі з журбою
(Іх пал за шклом ачах)
Гаворку між сабою
Заводзяць па начах.

— Ах, доля наша — драма
Стовуснае хвалы...
А можа, лепей драла
Дадзім у век былы?..

І як жа тут не ўславіць
Вышынныя дамы —
Цяжарам мудрым давяць
Тамы,
Тамы,
Тамы!



# Валянцін Тарас

## Успамін на вуліцы Варвашэні

Тут гушкалі мяне ў калысцы...
Тут, пасярод старой ускрайны,
малы завулак быў калісьці
пад звонкай назваю — Трамвайны.
Двары падлеткамі кішэлі —
там панавалі іх парадкі.
Былі у кожнага ў кішэні
і самапалы, і рагаткі.
Ад вераб'ёў ляцела пер'е,
звінела шкло жалліва гэтак!..
Падлетак — гэта вам не пернік,
а асабліва — той падлетак,
той, даваенны, у падраных
нязграбных штоніках картовых,
навалы будучай падранак,
з пялюх да цяжкасцей гатовы.
Ён змалку грыз сухар крамяны,
нязломны, чэрствы, бы з граніту!..
Ў хлапечы твар яго румяны
трывожна дыхала граніца.
Яна была амаль што побач,
рукой падаць — за Негарэлым,
і пагранічча мужны побыт
загадваў быць гранічна смелым!
Таму й былі ў кішэнях дзюркі
ад самаробных самапалаў,

таму рабілі з коўдраў буркі
і гарцавалі, як Чапаеў.
Хлапечы полк рознаплямённы,
як прагнуў ён вятроў суровых!
«Вставай, проклятьем заклейменный...»
на чатырох гучэла мовах.
І беларус, і хлопчык-паляк,
яўрэй і рускі —
у хаўрусе
дзялілі хлеб жытнога поля
і бульбу маці-Беларусі.
І з самапалаў самаробных
цалялі
        па адной мішэні...
Я ўспамінаю дом свой родны,
калі іду па «Варвашэні».
Тут гушкалі мяне ў калысцы,
тут дружба увайшла у сэрца.
Як добра, што ён быў калісьці —
завулак шчырага братэрства!
Дзе ж вы, тутэйшыя мінчане?
Ў маёй душы
                усё
                    ўтрымаю
Вячэрняй вуліцы маўчанне,
агні далёкага трамвая...

□

Нешта здарылася са зрокам —
затуманіўся
белы свет.
За якіх-небудзь
дзесяць крокаў
я не бачу яго
як след.
Нібы ў прыцемку —
фарбы,
твары...
Шыбы
нібы
з мутнай слюды...
Доктар выпісаў акуляры,
супакоіў:
«Такой бяды!»

Зноў адкрыліся далячыні —
бачу белы свет
за вярсту.
Эх, каб гэтак бы
ды лячылі
і духоўную
слепату!
Блізарукасць,
якая лічыць,
быццам бездань —
не існуе
і ўчарашняга зла
аблічча
нават зблізку
не пазнае.
Хоць жыццё
праз усе стагоддзі
паўтарае
свой жорсткі ўрок,
што відушчасць
часта прыходзіць,
калі страціш
напраўду
зрок.
Блізарукасць
у бездань пнецца,
і не бачыць яна
ані,
покуль раптам
не апынецца
у суцэльным
сляпым агні!..



Мароз ажно займае дух,
а сонца свеціць, ды не грэе.
Вясна не вылезла з пялюх,
якія выткала завея.

Ды хутка матухна-зямля
пялюхі кіне ў ручаіну,
і ператворыцца ў дзяўчыну
унепрыкметку, немаўля.

Адзін і той жа цуд штогод,
адзін і той жа рух прыроды...
Чаму ж здзіўляе ён заўсёды,
нязменны той кругаварот?

Дзіўлюся ўсё, хоць сівізна
ўплялася ў цёмны лес чупрыны...
А маладзенькая Вясна
ўсміхаецца без дай-прычыны.

Яе зялёны сарафан —
бы лёгкі ветразь у прасторы,
і ўводзяць зноў душу у зман
вачэй блакітныя азёры.

Нібыта старасці няма,
няма няўмольнага нябыту,—
Вясна,
        адна Вясна,
                нібыта
не прыйдуць Восень і Зіма.

Нібыта човен — не труна! —
чакае у канцы дарогі...
Трымціць ад шчасця і трывогі
душы напятая струна.

Шумяць, віруюць ручаі,
сплываюць белыя пялюхі.
Гармідар птушак у гаі
хавае гук шчымлівай скрухі...

Фелікс
Казлоўскі



# ЗАСЛОН

СТАРОНКІ ПАРТЫЗАНСКАЙ ХРОНІКІ



КАМАНДНЫ пункт Вашчанкі знаходзіўся амаль ля самай лініі агню. Фактычна ён увесь час перамяшчаўся ў залежнасці ад руху партызан. Будавалі часовы будан ці проста паветку з яловых лапак, столік рабілі са скрынкі, было нешта і накшталт табурэта.

— Таварыш камбрыг, дазвольце звярнуцца? — пачуўся голас камандзіра інтэрнацыянальнай роты.

— Слухаю, таварыш Занеўскі,— Вашчанка падняўся.

— Польскі партызан Тарноўскі просіцца на перадавую, гаворыць, што не можа, не мае права знаходзіцца ў рэзерве.

— А як ён сябе адчувае?

— Быццам усё нармальна, таварыш камбрыг. Раны зацягнуліся.

— Тады не маю нічога супраць. А дзе Невіноўская?

---

Мал. Г. Сянькоўскага

— У маёй роце,— паказаў рукой Занеўскі туды, адкуль чуліся частая страляніна і няспынны кулямётны трэск.

— Добра,— адказаў Вашчанка.

— Дазвольце ісці?..

— Ідзіце.

— Ёсць! — адказаў Занеўскі і тут жа выйшаў.

Побач прасвісталі кулі, упіліся ў дрэва, што расло непадалёк, толькі трэскі паляцелі ў бакі, недзе наперадзе пачулася гучнае працяглае «ўра». «Брыгада Юрусава пайшла ў атаку»,— вызначыў Вашчанка.

Да камбрыга на ўзмыленым кані падскакаў ад'ютант камандзіра атрада Рамановіча баец Сёмін. Ён далажыў, што немцы прарваліся ў заходнім напрамку і сам Рамановіч забіты, а камандаванне атрадам прыняў камандзір роты Сярогін. Малады партызан трымаў руку пад казырок, пальцы яго прыкметна дрыжалі.

Вашчанка паглядзеў на ўзбуджаны твар Сёміна, перавёў пагляд на яго дрыготкую руку і спакойна прагаварыў:

— Вольна... Вы крыху спазніліся з данясеннем. Чуеце? Брыгада Юрусава не толькі спыніла немцаў, але і рассеяла іх. Так што цяпер парадак...— Камбрыг нахмурыў бровы.— А Рамановіча вельмі шкода, выдатны быў салдат.

І Вашчанка ўжо глядзеў у другі бок: там з-за кустоў з'явілася група палонных немцаў, якую канваіравала некалькі партызан. Наперадзе хутка крочыў палітрук трэцяй роты камсамолец Чаканаў. Убачыўшы камбрыга, ён кінуўся да яго і адрапартаваў:

— Дакладваю! Заданне выканана. Мы захапілі ў палон не толькі сувязістаў з усёй іх амуніцыяй, але і самога палкоўніка з яго штабам. Палонныя па загаду камбрыга другога батальёна таварыша Байчукова дастаўлены да вас на КП.

— Малайцы! — пахваліў партызан Вашчанка.— А дзе Байчукоў?

— Ён застаўся з батальёнам, таварыш камбрыг. Іх разам захапілі, а даставіць загадаў мне.

— Дзякуй за службу, таварыш Чаканаў! Перадай ад камандавання падзяку таварышу Байчукову і яго байцам!

— Служу Савецкаму Саюзу! — коратка адказаў палітрук.

Вашчанка ўважліва паглядзеў на Чаканава і аддаў загад:

— Усіх палонных, акрамя старшых афіцэраў і штабных сувязістаў, адвесці да Пятрова ў абоз, а гэтых трэба тэрмінова даставіць у штаб злучэння Русевічу.

Калі палонных пачалі дзяліць на старшых і малодшых, невысокага росту жвавы лейтэнант прымкнуў да групы палкоўніка. Чаканаў хацеў паставіць яго на месца, але Вашчанка, заўважыўшы валтузню, даў знак не чапаць яго.

— Разбярэмся.

Вашчанка быў задаволены. Перш чым адправіць палкоўніка Русевічу, вырашыў папярэдне дапытаць яго. Для ўдзелу ў допыце ён запрасіў начальніка штаба Капусціна і перакладчыка. Вакол КП выставілі ахову. Калі падводзілі палкоўніка, Вашчанка заўважыў, што жвавы лейтэ-

нант ідзе следам за сваім камандзірам. «Тут нешта не так»,— падумаў ён і вырашыў яго таксама дапытаць, калі будзе час.

Камбрыг пачаў са звычайных пытанняў:

— Як ваша прозвішча, імя, дзе нарадзіліся? — звярнуўся ён да нямецкага палкоўніка.

— Ганс Хагель, Берлін,— рэзка адказаў палонны і, зрабіўшы паўзу, дадаў: — Больш я нічога не скажу... не хачу і не буду адказваць.

Вашчанка сурова паглядзеў немцу ў вочы, не стрымаўся, таксама рэзка запытаў:

— Вам, і не толькі вам, а ўсім фашыстам, давядзецца адказваць за злачынствы, якія вы нарабілі на нашай зямлі. За смерць, за спаленыя гарады і вёскі... За ўсё адкажаце цалкам, пан палкоўнік!

Хагель слухаў партызанскага камбрыга, не мяняючыся ў твары, па-ранейшаму ганарыста, выцягнуўшы чыста паголены падбародак. І калі перакладчык усё пераклаў, ён з агідай прагаварыў:

— Я афіцэр вялікай Германіі. І смерць для мяне — справа гонару.

— Вывесці! — загадаў Вашчанка.

Хагеля вывелі.

— Мірон Андрэевіч, я хачу дапрасіць і таго жвавага лейтэнанта,— звярнуўся ён да Капусціна.— Ён мне здаецца нейкім падазроным. Ты пакуль застанься.

— Добра! — падняў галаву начальнік штаба, адарваўшыся ад запісу допыту.

— Мы яго хуценька,— махнуў рукой Вашчанка,— а то ваш КП і так адстаў ад перадавых часцей.

Падвялі палоннага лейтэнанта.

— Я, я... усё раскажу, пан генерал, даруйце мне жыццё. Я, я многае ведаю...— спалохана пачаў гаварыць ён.

— Перадай яму,— сказаў Вашчанка перакладчыку,— што я не генерал, а маёр і што мы без суда не збіраемся расстрэльваць ні палкоўніка Хагеля, ні каго-небудзь іншага, няхай супакоіцца і раскажа нам усё, што ведае.

Выслухаўшы пераклад, нямецкі лейтэнант, стаўшы па стойцы «смірна», хутка загаварыў:

— Я лейтэнант Гейнец, сувязны генерала фон Краўзе. Блакада пачалася сёння...

— Мэта аперацыі? — спытаў камбрыг.

— О! Я расскажу ўсё-ўсё,— паспяшаўся запэўніць палонны. Перакладчык ледзь паспяваў за ім.— Мэта аперацыі — знішчэнне партызан, якія дыслакуюцца ва Усакінскім лесе, а таксама насельніцтва. Лес генерал фон Краўзе загадаў запаліць з паветра самалётамі, але самалётаў няма, яны ўзарваны.

«Я гэта і без цябе ведаю»,— падумаў Вашчанка. Палонны працягваў лапатаць. Ён паведаміў некаторыя падрабязнасці аперацыі, аб якой партызанскім камандзірам, у тым ліку і Вашчанку, было вядома. Але паведамленнямі палоннага Вашчанка застаўся задаволены. Фашысты нічога новага не ўнеслі ў аперацыю.

— Што яшчэ можаце сказаць, лейтэнант? Усё гэта нам вядома,— сказаў Вашчанка пасля таго, як палонны змоўк. Лейтэнант здзіўлена паглядзеў на партызанскага камандзіра.

У Вашчанкі, як і ў Капусціна, зусім не было часу. Але допыт, які зацягнуўся, камбрыг не хацеў перапыняць. Ён імкнуўся як мага больш даведацца ад палоннага, калі ўжо той так разгаварыўся. Вашчанка адчуваў, што ў яго ёсць яшчэ што сказаць.

— Я маю магчымасць паведаміць савецкаму маёру вельмі важнае,— зноў загаварыў палонны, але чамусьці зусім ціха.

— Што яшчэ? Гаварыце! — Вашчанка грозна ссунуў бровы.

— Да партызан ва Усакінскі лес перад пачаткам аперацыі ці ў час яе правядзення будзе закінута дыверсійная група парашутыстаў пад выглядам савецкіх разведчыкаў з прыфрантавой воінскай часці,— выціснуў з сябе лейтэнант.

— У якой колькасці? — Вашчанка не адрываючыся глядзеў на нямецкага лейтэнанта.

— Дакладна не ведаю, але мяркую, што група невялікая.—Палонны змоўк, апусціўшы галаву. І раптам, нібы апраўдваючыся, дадаў: — Па загаду генерала фон Краўзе я быў некалькі дзён таму назад перапраўлены ў вёску Залессе. Павінен быў дакладваць яму аб баявых дзеяннях заслона, але, як бачыце...— ён развёў рукамі.

— Мы вам, лейтэнант, захаваем жыццё,— павольна прагаварыў Вашчанка.— Але вы яшчэ не ўсё паведамілі. Гаварыце далей!

Палонны стаў пераміначца з нагі на нагу.

— Так, я яшчэ магу паведаміць, што ў генерала фон Краўзе ёсць тайныя рэзервы з эсэсаўскіх часцей. Камандуе імі падпалкоўнік СС Мюлер. Дзе яны знаходзяцца, я не ведаю, але гэтыя рэзервы генерал можа ўвесці ў бой у любы час. Эсэсаўскія часці цалкам механізаваны... Цяпер усё.

«Вось які немец...— падумаў Вашчанка.—І не падобна, што хлусіць...»

— Апошнія два пытанні, лейтэнант,— Вашчанка спяшаўся.— Чаму вы, трапіўшы ў палон да партызан, вырашылі застацца разам з палкоўнікам Хагелем, цяпер ужо былым камандзірам заслона? І што вас прымусіла быць такім шчырым з намі?

— О! Вельмі проста, пан маёр! Я хацеў, каб мяне як мага хутчэй дапыталі і мае важныя паведамленні не спазніліся. Я хачу жыць, жыць... Я чуў, што рускія — і ваенныя, і партызаны — не расстрэльваюць сваіх ворагаў без суда, а за шчырыя прызнанні зніжаюць пакаранне. Мне больш траціць няма чаго, я разумею, што ваенная фартуна нам здрадзіла.

— Вось-вось,— шматзначна адказаў камбрыг.

Атрымаўшы такія звесткі ад палоннага, Вашчанка не мог марудзіць. Палкоўнік Хагель, лейтэнант Гейнец, старшыя афіцэры штаба і сувязісты тэрмінова былі дастаўлены разам з данясеннем і запісам допыту ў штаб злучэння.

Русевіч прыняў рашэнне прыступіць да дэзінфармацыі генерала фон Краўзе праз яго ўласнага сувязіста лейтэнанта Гейнеца, а па магчымасці і праз палкоўніка Хагеля. І гэтым самым калі не выключыць, дык хоць бы адцягнуць увод у дзеянне эсэсаўскіх рэзерваў да поўнага ці амаль поўнага знішчэння заслона. Галоўнае — не даць заслону і рэзервавым часцям злучыцца.

Лейтэнант Гейнец згадзіўся на такую «гульню» і паслухмяна перадаваў усё, што яму дыктавалі ў штабе Русевіча.

Генерал фон Краўзе, знаходзячыся ў Вацэвічах, фактычна ад свайго ўласнага сувязіста Гейнеца атрымаў толькі першыя дакладныя паведамленні, а ўся астатняя інфармацыя яму паступала ад партызан.

Застаўшыся без свайго камандзіра, пазбаўлены сувязі і акружаны з усіх бакоў партызанамі, нямецкі заслон пачаў выдыхацца.

«Паспець, ох як трэба паспець усё закончыць да падыходу рэзерваў Краўзе»,— непакоіўся Русевіч. Але ні ён, ні іншыя партызанскія камандзіры не ведалі, дзе гэтыя рэзервы і якія іх сілы.



Тарноўскі ляжаў за тоўстай сасной і страляў з карабіна, які яму ўручыў камандзір роты Занеўскі. Фашысцкія кулі няспынна дзынкалі над яго галавой ці глуха стукаліся аб ствалы дрэў. Тарноўскі ведаў, што недзе на гэтым участку знаходзіцца Валянціна, і яму хацелася быць разам з ёю. Ён, мабыць, зрабіў бы гэта даўно, каб яго не стрымліваў камандзір роты Занеўскі. Выконваючы распараджэнне камбрыга Вашчанкі, той раз-пораз кідаў пагляд на свайго падапечнага і паспеў заўважыць, што Тарноўскі хутка, але спакойна вядзе агонь па фашыстах.

У Занеўскага было правілам правяраць чалавека на справе. «Баец з яго,— думаў ён,— як відаць, будзе нядрэнны, а далей што?..» Выраз твару ў Тарноўскага, наколькі гэта мог заўважыць у перастрэлцы камандзір інтэрнацыянальнай роты, увесь час мяняўся: то цень глыбокай журбы прабягаў па ім, то ён святлеў, дабрэў, то раптам станавіўся суровым. Але дзеянні партызана былі зладжаныя: яго рукі патрон за патронам падавалі ў ствол карабіна, а вочы лавілі ворага на мушку...

Рота Занеўскага рухалася наперад. Нечакана для сябе Тарноўскі ўбачыў Валянціну. Яе зграбная постаць мільганула паміж дрэвамі. «Куды ж яна?» Ён збіраўся паклікаць яе, але Валянціна сама ўбачыла яго. Задыхаючыся ад хуткага бегу, узбуджаная, з паружавелымі шчокамі, яна ўпала на халодны мох побач з ім. Цяпер яны стралялі разам: Занеўскі, Невіноўская і Тарноўскі. У час хвіліннай перадышкі Валянціна шапнула Баляславу: «Мне паведамілі, што табе дазволілі ўдзельнічаць у баі. Я рада! Знайшла цябе хутка».

Занеўскі паглядзеў на Валянціну і, заўважыўшы ўсмешку на яе адкрытым твары, падумаў: «Была прыгожая, а тут яшчэ больш расцвіла».

На ўчастку бою, дзе дзейнічала рота Занеўскага, атрымалася замінка. Наперадзе была невялікая палянка. Адразу партызанам яе пра-

скочыць не ўдалося, давялося нават адысці і залегчы за дрэвамі. Фашысты, выкарыстаўшы адкрытае месца, пачалі весці з-за паляны мінамётны агонь. Праз паляну ляцелі са свістам міны і з сухім трэскам рваліся ля партызан. Інтэрнацыянальная рота апынулася ў крытычным становішчы, з'явіліся раненыя і забітыя.

Занеўскі, хутка ацаніўшы абстаноўку, загадаў партызанам адысці яшчэ далей ад краю паляны, а Невіноўскай з двума байцамі — заняцца раненымі.

Нечакана паваліў густы мяккі снег, бачнасць стала горшая. Занеўскі падаў каманду па ланцугу спыніць страляніну. Немцы таксама паслабілі агонь, не разумеючы, у чым справа. І тут пачулася другая каманда Занеўскага: падысці да паляны справа. Партызаны зразумелі манеўр свайго камандзіра і пад прыкрыццём снегападу выйшлі немцам у фланг...

— У атаку! За мной! — крыкнуў Занеўскі.

— За Радзіму! Ура-а-а-а! — падхапілі партызаны.

Сутычка была гарачая. Вораг быў змяты, паляна засталася ззаду. Тарноўскі бег побач з Занеўскім і радаваўся, што немцаў адкінулі і Валянціна з раненымі зараз у тыле. «Усё добра, усё добра»,— супакойваў ён сам сябе.

Нягледзячы на жорсткае супраціўленне акружанага заслона, бой падыходзіў к канцу. У лесе фашысты не маглі скарыстаць на поўную магутнасць ні артылерыю, ні мінамёты. Танкеткі і бронетранспарцёры падрываліся на мінах, расстаўленых партызанамі. Пакідаючы баявую тэхніку, акружаныя гітлераўцы кідаліся то ў той, то ў другі бок. Вораг, здавалася, не вытрымае.



Атрымаўшы звесткі аб рэзервах генерала фон Краўзе, Русевіч тут жа паслаў разведку, каб вызначыць іх сілы. Адначасова ён аддаў распараджэнне пашырыць міннае загараджэнне на лясной дарозе, што вяла ад Залесся ў глыб лесу.

Хутка ў штаб Русевіча паступілі дадзеныя, што партызанскай разведкай адкрыта вялікая механізаваная калона немцаў, якая хутка рухаецца з поўначы да Залесся. Гэта, бясспрэчна, былі рэзервы Краўзе, і яны, самае большае, нават калі затрымаюцца на замініраваным участку ў лесе, праз дзве-тры гадзіны ўступяць у бой.

Русевіч чакаў паяўлення рэзерваў Краўзе іменна з боку Залесся і загадзя пачаў рыхтавацца да сустрэчы з імі. Па яго загаду тэрмінова перадыслакаваліся партызанскія часці, найбольш у паўночным напрамку. Зараз гэтая перабазіроўка заканчвалася, аслабляючы іншыя ўчасткі. Але другога выйсця не было...

Рэзервы Краўзе набліжаліся. Не збаўляючы хуткасці, механізаваная калона перасекла вёску Залессе, увайшла ў лес і рынулася па «стратэгічнай» дарозе. Замініраваны ўчастак прыпыніў ворага — некалькі бро-

нетранспарцёраў і машын падарваліся... Але затрымка была нядоўгая. Немцы хутка расчысцілі дарогу ад мін, і калона пакацілася далей.

Цвяроза ацаніўшы крытычную абстаноўку, Русевіч, мяняючы тактыку, аддаў новы загад: пачаць флангавыя адступленні партызанскіх падраздзяленняў паўночнага і паўднёвага ўчасткаў у глыб лесу, а брыгадзе Юрусава замацавацца на дарозе ў тыле рэзерваў Краўзе.

Цяпер без асаблівага напружання Мюлер авалодаў «стратэгічнай» дарогай на ўсім участку бою. Партызаны, не спыняючы агню, адыходзілі ад лясной дарогі ва ўсходнім і заходнім напрамках.

Але праз некаторы час Мюлер пачаў разумець, што яго перамога ўяўная.

Разбіты партызаны ці не? Дзе тут, у лесе, фронт, а дзе тыл? На гэтыя пытанні Мюлер не мог адказаць упэўнена. Рухацца далей у паўднёвым напрамку небяспечна: там лясны гушчар, балоты. А генерал фон Краўзе толькі заўтра пачне сваё галоўнае наступленне. Можа, паспрабаваць знайсці партызан і знішчыць іх? Але дзе іх шукаць? А можа, яны самі знойдуць яго? Не, партызаны не рэгулярныя часці, тут стратэгія і тактыка бою зусім іншыя.

Раніцай наступнага дня Мюлер перадаў Краўзе, што ён з «некаторымі стратамі» здолеў вывесці з акружэння рэшткі заслона, разбіўшы пры гэтым некалькі партызанскіх брыгад, і цяпер знаходзіцца ў вёсцы Залессе. Краўзе загадаў яму любой цаной выканаць задачу заслона, тэрмінова паглыбіцца ў лес у паўднёвым напрамку да каардынатаў, прадугледжаных планам, разгарнуцца ўздоўж «стратэгічнай дарогі» і стварыць трывалую загараджальную лінію.

Мюлер адказаў, што ў дадзенай сітуацыі яму лепш застацца ў Залессі на ўскраіне лесу. Толькі ў гэтых умовах ён зможа выкарыстаць на ўсю магутнасць сваю тэхніку. Краўзе яшчэ раз паўтарыў загад. Тады Мюлер наогул замаўчаў...

Упартасць Мюлера, паражэнне заслона і адыход рэзерваў не былі прадугледжаны планамі Краўзе. Трэба было нешта тэрмінова рабіць. Але што і як? Нямецкія войскі пачалі ўжо наступленне з боку Вацэвіч, і заведзеную ваенную машыну нельга было спыніць.

Партызаны, страціўшы частку асабовага складу, здолелі з наступленнем ночы прывесці свае падраздзяленні ў парадак. Замацаваўшыся на «стратэгічнай» дарозе прыкладна за тры кіламетры ад месца бою, перафарміраваныя партызанскія часці былі зноў гатовы да сустрэчы з ворагам: з поўдня — з войскамі галоўнага ўдару, а з поўначы — з рэзервавымі часцямі. Але новая сустрэча з Мюлерам была малаверагоднай. Другі раз ён, мабыць, не адважыцца ўвайсці ў лес...



Тарноўскі разам з байцамі прыкметна парадзелай інтэрнацыянальнай роты прыбыў на новае месца размяшчэння. Убачыўшы Занеўскага, які, не звяртаючы ўвагі на параненую руку, узбуджана гутарыў з байцамі, Тар-

ноўскі падышоў да камандзіра, але слухаў яго няўважліва, думкі займала Валянціна. У квадрат 47, адведзены ў лесе для лагера, няспынна прыбывалі групы партызан. Наўкола чуліся то радасныя, то трывожныя галасы.

Тарноўскі спадзяваўся сустрэць Валянціну ў лагеры, але яе тут не аказалася. Нехта з партызан сказаў, што Валянціна ў час бою была ля паляны, выносіла з-пад мінамётнага агню раненых. Там яе бачыў і сам Тарноўскі. Але дзе яна цяпер?

Снег падаў і падаў. Цемра згушчалася. Тарноўскі быў не на жарт устрывожаны. Нарэшце, не вытрымаўшы, ён звярнуўся да ротнага і папрасіў дапамагчы адшукаць дзяўчыну. Занеўскі стомлена паглядзеў на Тарноўскага:

— У роце шмат раненых. Валянціна Невіноўская, думаю, у паходным шпіталі. Там, за елкамі, ля горкі,— камандзір паказаў рукой.— Магчыма, сама лёгка ранена.

Аднекуль з'явілася медсястра Люся, падбегла да Тарноўскага, спытала:

— Дзе Валя? Там яе раненыя пытаюць...

— Вы з паходнага? — перабіў яе Тарноўскі.

— Так, адтуль,— здзіўлена адказала Люся.

Тарноўскі апусціў галаву.

— Што здарылася? — Люся падышла да яго.

— Не ведаю... Нідзе не магу знайсці яе.

— У шпіталі Валі няма. Я думала, што яна тут, у роце,— ціха прагаварыла Люся.— Мяне паслаў галоўны ўрач да Вашчанкі. Ён ранены, у баі яму наспех зрабілі перавязку...

— Камбрыг ранены? — перапытаў Занеўскі.

— Асаблівай небяспекі няма, ранены лёгка.

Занеўскі павярнуўся да Тарноўскага, паглядзеў на Люсю.

— Не трэба хвалявацца, сябры, Валянціна, мабыць, у палатцы камбрыга. Там палонных дапытваюць. А яна не толькі баец, але і перакладчыца.

— Раненыя толькі аб ёй і гавораць, многім сёння выратавала жыццё. У шпіталі ўсе яе гераіняй называюць,— дадала Люся.

— Мы адшукаем яе. Ідзём да камбрыга! — сказаў Занеўскі.

Ля камандзірскай палаткі іх сустрэў ад'ютант Вашчанкі.

— Невіноўская тут? — адразу спытала Люся.

Ад'ютант уважліва паглядзеў на кожнага з іх і адказаў:

— Тут няма. Камбрыг аддаў загад адшукаць Невіноўскую, каб дапамагла дапытваць палонных, але яе не знайшлі.

— Яна засталася там, ля паляны...— ледзь чутна прагаварыў Тарноўскі.

— Я зараз,— заспяшалася Люся і шмыгнула ў камандзірскую палатку міма вартавога і ад'ютанта. Праз некалькі хвілін выйшла.— Загадана тэрмінова арганізаваць пошукі Невіноўскай, стварыць групу на чале з вамі, таварыш Занеўскі, уключаючы Тарноўскага. Аб выніках далажыць уласна Вашчанку,— хутка выпаліла яна.

Пошукавую групу стварылі хутка. Было столькі добраахвотнікаў, што многім давялося адмовіць. Перад самым адыходам групы з'явілася Люся, ёй у шпіталі на нейкі час знайшлі замену, і яна пайшла з усімі.

Ноч хутка апускалася на зямлю. Падзьмуў халодны вецер. Але неба пачало святлець. Перастаў падаць снег. Ішлі хутка, не адчуваючы стомы.

Вось і знаёмыя мясціны, дзе нядаўна грымеў бой. Першы агляд мясцовасці нічога не даў. Старанна агледзелі даволі значны ўчастак лесу ля паляны і вакол яе і нічога, акрамя трупаў немцаў, не знайшлі.

Узышоў месяц, і яго цьмянае святло ўпала на нямецкую каску, што валялася ў снезе пад дрэвам. Занеўскі прыпыніўся. Крыху далей, тварам уніз, шырока раскінуўшы ногі, ляжаў і яе гаспадар — высокі здаравенны немец.

Занеўскага нагнаў Тарноўскі. Ён таксама паглядзеў на труп немца і тут жа рушыў наперад, заўважыўшы нешта чорнае пад суседнім кустом. Зноў забіты немец, не... ранены. Ён ціха стагнаў. Занеўскі загадаў перавязаць яго і адправіць у шпіталь.

Пошукі Невіноўскай былі беспаспяховыя. Адправіўшы стомленых байцоў у лагер на адпачынак, Занеўскі вырашыў шукаць Валянціну з Тарноўскім і Люсяй.

— Мы, здаецца, заблудзіліся,— заўважыў Занеўскі, адчуваючы, што яны кружацца на адным месцы.

— Што ж, паспрабуем тады ўзяць улева і яшчэ раз пройдзем па паляне,— прапанаваў Тарноўскі.— А потым ужо напрамкі — у лагер.

Калі даволі далёка адышлі ад той паляны, дзе іх немцы трымалі пад мінамётным агнём, Тарноўскі павярнуў назад, улева. «Такой бяды, абследуем яшчэ раз паляну»,— у думках згадзіўся Занеўскі. Хутка яны апынуліся на ранейшым месцы, толькі з другога боку.

Нечакана Люся спатыкнулася аб корч і, мабыць, упала б, каб яе не падхапіў Тарноўскі. Дотык яго рук чамусьці спалохаў Люсю. Яна падзякавала Баляславу і выразна пачула зусім побач ціха-ціха сказанае кімсьці слова. Тарноўскі кінуўся ўбок. За ім паспяшаўся і Занеўскі. Люся хацела крыкнуць, спыніць іх: «Куды вы? Я чую голас...» Але, не зрабіўшы гэтага, пабегла ўслед за імі.

...Сярод густога ельніку, ля самага краю паляны, ляжала Валянціна, густа засыпаная снегам, і са стогнам ціха прасіла: «Піць, піць...» Тарноўскі і Занеўскі ўжо стаялі каля яе на каленях.

— Валя, Валечка, родная!..— Прыпала да сяброўкі Люся і пачала цалаваць яе халодныя вусны, твар. Схапіла рукі і грэла ў сваіх.— Валя, мілая, цяпер усё, усё будзе добра...

Невіноўская адкрыла вочы, але тут жа закрыла.

У Тарноўскага стала суха ў роце, ён няспынна шаптаў:

— Валя, Валянціна, жывая...

...Разам з Занеўскім Люся агледзела рану: кулявое раненне ў грудзі навылёт, пад раненай цэлая лужына крыві, якая пачала ўжо замярзаць. Ад выгляду застылай крыві ў Тарноўскага пацямнела ў вачах. Ён не ведаў яшчэ, што будзе з Валяй, але сэрцам адчуў страшэнную бяду.

Невіноўскую хутка перавязалі, асцярожна паклалі на насілкі, зробленыя з шыняля і маладых дрэўцаў. Валя нікога не пазнавала і ўсё прасіла піць.



Карная аперацыя ворага правалілася. Большасць трафейнай зброі, ваеннай амуніцыі, харчавання, захопленага пасля разгрому фашыстаў, была падзелена паміж партызанскімі падраздзяленнямі. Брыгады народных мсціўцаў зноў набылі «самастойнасць» і накіроўваліся на месцы былых стаянак.

Пацягнула да свайго жылля і мірнае насельніцтва. Але ва Усакінскім лесе было яшчэ неспакойна. Уначы ў пошуках ежы выпаўзалі з глухіх мясцін невялікія групы гітлераўцаў. «Немцы-шатуны», як іх ахрысцілі партызаны, нападалі на мірных жыхароў, знішчалі цэлыя сем'і, не шкадуючы ні старых, ні малых. Партызаны імкнуліся як мага хутчэй вылавіць недабітых вырадкаў і абясшкодзіць мясцовасць.

У брыгадзе Русевіча быў нямецкі камуніст Ота Шульц, юрыст па адукацыі. Яшчэ зімой сорак другога года яму ўдалося з фашысцкай арміі перайсці ў лес да партызан. Раней ён некаторы час жыў у Расіі, дзе добра вывучыў рускую мову. Свой партыйны білет Шульц захаваў і, прыйшоўшы ў партызанскую брыгаду, прад'явіў яго сакратару партыйнага бюро.

Шульца доўга правяралі, ён аказаўся сапраўдным нямецкім камуністам. Яго кандыдатура аднагалосна прайшла ў брыгадную судовую калегію. Шульц сумленна выконваў свае юрыдычныя абавязкі.

Калі палонны быў простым салдатам, якога прызвалі ў армію фюрэра з завода ці фермы, дзе ён гнуў спіну на сваіх прыгнятальнікаў, дык у Шульца на гэта было асаблівае класавае чуццё. Такім людзям нямецкі камуніст імкнуўся адкрыць вочы, зняць з іх бяльмо фашысцкай прапаганды, каб яны самі зразумелі, хто сапраўдныя сябры народа, а хто яго смяротэльныя ворагі.

Пры допыце Шульц прытрымліваўся свайго метаду. Адкрыта аб'яўляў палоннаму, што ён нямецкі камуніст і гатовы шчыра разабрацца ў лёсе падсуднага. Гэта прымалася палоннымі па-рознаму: адны лічылі яго здраднікам, абураліся і пагражалі карай фюрэра, іншыя — расказвалі пра сябе ўсё, што было і нават чаго не было, спрабуючы дагадзіць яму, трэція гаварылі праўду. Пасля некалькіх сустрэч у Шульца складвалася пэўная думка пра таго ці іншага палоннага. Параўноўваючы паказанні, ён як прафесійны практык беспамылкова разбіраўся, дзе праўда, а дзе хлусня. Свае назіранні і заўвагі потым выказваў на судзе і ніколі не памыляўся. Да фашыстаў, што па-зверску распраўляліся з мірным насельніцтвам, Шульц быў бязлітасны і заўсёды патрабаваў ім смяротнага прыгавору.

Палонных немцаў у брыгадзе да разгрому фашыстаў было дваццаць чалавек. Большасць з іх займалася гаспадарчымі работамі па нарыхтоўцы прадуктаў, узвядзенні жылля, некаторым давяралі даглядаць ране-

ных. Некалькі палонных антыфашыстаў змагаліся ў інтэрнацыянальнай роце.

Пасля правалу аперацыі колькасць палонных павялічылася ў некалькі разоў. Тут, побач з салдатамі, былі афіцэры СС, зацятыя фашысты, у тым ліку і генерал фон Краўзе. Забойцаў чакаў суровы партызанскі суд.

Па справе Краўзе дазнанне вяла брыгадная судовая калегія на чале з Русевічам. Удзел у допытах прымаў нямецкі камуніст Ота Шульц.

Генерал фон Краўзе трымаўся ганарыста.

— Я не лічу вас сапраўдным немцам,— фанабэрыста заявіў ён Шульцу, калі той, як звычайна на допыце, паведаміў яму, што з'яўляецца нямецкім камуністам.

— Хто з нас сапраўдны немец, патрыёт сваёй айчыны, вырашыць гісторыя, пан генерал,— адказаў Шульц.— Але вы павінны ведаць думку камуністаў, менавіта і маю думку, думку тых немцаў, якія вялі і зараз вядуць свяшчэнную барацьбу за шчасце свайго народа, барацьбу супраць фашызму. Іх, думаю, сотні тысяч. А будуць — мільёны...

«Недабіты фанатык,— думаў у гэты час Русевіч,— зараз ты ўбачыш сябе такім, які ты ёсць на самай справе: забойцам і рабаўнікам». Прыйшоўшы на дапамогу Шульцу, Русевіч звярнуўся да Краўзе:

— Скажыце, генерал, вы задумваліся калі-небудзь над тым, што вашы злачынствы прывядуць вас на лаву падсудных? І вас будуць судзіць, судзіць сурова, але справядліва за забойства старых людзей, жанчын, дзяцей, за разбурэнні, за рабаўніцтва. Людзей розных нацыянальнасцей вы, фашысты, загналі ў канцэнтрацыйныя лагеры, ператварыўшы іх у безыменных і бязмоўных рабоў, канчатковы шлях якіх пасля нечалавечых здзекаў — печы крэматорыя... Скажыце, колькі вы асабіста загубілі чалавечых жыццяў? Адказвайце, забойца-генерал!

Шульц тут жа пераклаў. Сказанае Русевічам закранула Краўзе за жывое.

— Я не забойца, а салдат,— пачаў ён.— А салдат павінен, абавязаны выконваць загады сваіх камандзіраў. На вайне няма забойцаў, ёсць праціўнік, якога трэба знішчаць. І я не мог не падпарадкавацца волі фюрэра...

— Вось як вы загаварылі, пан Краўзе! Шукаеце апраўдання,— рэзка працягваў Русевіч.— Зразумела, на вайне ёсць праціўнік, але праціўнік — гэта армія, ваенныя! А пры чым тут мірнае насельніцтва, жанчыны, дзеці? Вы ж іх свядома, метадычна знішчалі. Забівалі нават немаўлят! І ў свеце не было, няма і не будзе такіх законаў, якія апраўдвалі б забойства невінаватых. Ды што з вамі размаўляць! Вас зараз завядуць да вашых былых салдат.

На паляне ў лесе была пастроена ў шарэнгі, па чатыры ў рад, вялікая група палонных нямецкіх салдат. Моцны мароз даймаў іх. Палонныя стаялі, панура апусціўшы галовы. Некаторыя з іх пераміналіся з нагі на нагу, білі локцямі па баках, спрабуючы сагрэцца. Тут жа былі і лёгка раненыя. Выгляд у палонных злосны і разгублены. Многія, пачарнелыя ад стомы і нервовага напружання, бліскаючы вачыма, адчувалі жывёль-

ны жах. Гэтая вялікая група палонных была падобная на статак дзікіх быкоў, якія яшчэ зусім нядаўна ўсё нішчылі на сваім шляху, але, нечакана трапіўшы ў моцныя рукі ўтаймавальнікаў, уціхамірыліся і пачалі марнець ад бяссілля і злосці.

Раней гэтыя ваякі лічылі, што толькі «вышэйшай расе», іменна ім, немцам, дадзена права забіваць... Цяпер многія з іх зразумелі, што і яны могуць быць забітымі, расстралянымі, што адплата зусім побач. Амаль усе палонныя глядзелі ашалела, цісnуліся адзін да аднаго... У некаторых жа на вачах былі слёзы, і сваім выглядам яны імкнуліся выклікаць у партызан літасць і спачуванне да іх.

Сюды два партызаны-вартавыя і падвялі іх былога камандуючага. Убачыўшы свайго генерала, палонныя не віталі яго. Ён для іх цяпер не быў начальнікам ці нават старшым па чыну. Палонныя глядзелі на Краўзе злосна, з выклікам, нібы гаворачы: «Мы верылі табе, а ты не апраўдаў нашых надзей, загінуў сам і нас загубіў...»

Генерал, закусіўшы губу, спрабаваў не глядзець на салдат і думаў: «Як мала я ведаў сваіх падначаленых. Яны гатовы разарваць мяне...» Але міжволі ён зноў паглядзеў на шарэнгі палонных і быў задаволены, калі сустракаўся са здзіўленым позіркам: як магло здарыцца такое?.. Сам генерал таксама здзіўляўся. У яго былі рэгулярныя часці, добра падрыхтаваныя — былыя франтавікі, салдаты і афіцэры, першакласная ваенная тэхніка... А партызаны? Іх нават параўноўваць з рэгулярнымі часцямі няёмка. Узброены дрэнна, апрануты хто ў што. І як такія людзі змаглі акружыць войска трэцяга рэйха, акружыць, разграміць, многіх прымусіўшы здацца?..

Краўзе ўспомніў, што ён раней недзе чытаў пра Расію, пра загадкавы рускі характар, пра тое, што славяне вялікія патрыёты. «Патрыёты, патрыёты...— балючымі ўколамі застукала ў яго галаве.— А мы, мае салдаты?! Хто яны? — Генерал зноў узняў вочы.— Колькі іх тут? І амаль усе на адзін твар: злосныя, здзіўленыя. А гэта хто? У каго ж такі спакойны і нават пагардлівы пагляд? Нібы не пераможаны, а пераможца стаіць перад ім.— Краўзе прыгледзеўся ўважлівей.— Няўжо «Перабежчык» з дыверсійнай групы капітана Клейста? Так, так...»

«Перабежчык» заўважыў пагляд генерала і ледзь кіўнуў галавой.

Краўзе яшчэ раз паглядзеў на яго і ў адказ ледзь прыкметна таксама кіўнуў галавой, ■ сам падумаў: «Вось табе і Келер, заслаў усё ж да партызан свайго...» Генерал адвярнуўся і пачаў глядзець убок. Да палонных набліжаўся верхавы ў суправаджэнні некалькіх коннікаў.

«Ці не генерал Лукашоў?» — спрабаваў разглядзець конніка Краўзе.

Вось яны ўсе разам спыніліся ля групы партызанскіх камандзіраў. Чалавек у шэрай каракулевай папасе, у белым кажусе і белых валёнках асадзіў разгарачанага варанога. Гэта сапраўды быў генерал Лукашоў, член Беларускага штаба партызанскага руху. Павітаўшыся з камандзірамі, радавымі партызанамі, ён накіраваўся да палонных.

Яго прыезд у брыгаду не быў выпадковы. Лукашова тут чакалі. У час блакады была захоплена цэлая група нямецкіх дыверсантаў, якія назы-

валі сябе савецкімі разведчыкамі. Не можа быць, каб Краўзе нічога не ведаў пра шпіянаж... Акрамя ўсяго, у гэтай брыгадзе даволі вялікая група нямецкіх палонных салдат, ім неабходна аўтарытэтна растлумачыць, што партызаны не расстрэльваюць усіх палонных немцаў без разбору, як пра гэта ходзяць ілжывыя чуткі.

Краўзе, які стаяў непадалёк ад Лукашова, нечакана для сябе гучна сказаў: «Патрыёты, патрыёты...» Лукашоў паглядзеў на нямецкія генеральскія пагоны, усміхнуўся такому незвычайнаму прывітанню і адразу звярнуўся да палонных з кароткай прамовай.

— Нямецкія салдаты і афіцэры! Шмат хто з вас прыйшоў на нашу зямлю не па сваім жаданні, а па прымусу. Многія нямецкія салдаты і афіцэры ўжо ніколі не вернуцца дадому — яны бясслаўна загінулі. А многія ператварыліся ў бандытаў і забойцаў, несучы з сабой смерць і разбурэнні,— гаварыў Лукашоў даволі ціха, але ў лесе кожнае яго слова было чуваць вельмі выразна.— Хто ва ўсім вінаваты? Фашызм і яшчэ раз фашызм. Пакуль гэтая карычневая чума не будзе знішчана, людзі на зямлі не будуць мець міру і спакою. І грозны заклік: «Смерць фашызму! Смерць нямецкім акупантам!» гучыць сёння як набат не толькі для рускіх, якія вядуць цяжкую вайну з гітлераўскімі полчышчамі. Усе народы свету падхапілі гэты заклік і сталі на шлях барацьбы з фашызмам. І няхай не чакаюць забойцы літасці.

Лукашоў змоўк. Змоўк і перакладчык, які дакладна пераклаў кожнае слова. Наступіла цішыня. Толькі недзе адтуль, з паляны, чуўся манатонны стук дзятла.

Палонныя стаялі нерухома. Яны нават пераcталі пераміналца з нагі на нагу...

— Я ведаю,— працягваў Лукашоў,— вашы камандзіры пераканалі вас, даўно пераканалі, што партызаны расстрэльваюць усіх палонных. Гэта няпраўда. Гэта ўсё тая ж хлуслівая гебельсаўская прапаганда. Мы судзім і караем толькі злачынцаў!

— А што з намі будзеце рабіць, пан камандзір? — выкрыкнуў нехта з задніх шэрагаў.

— У нас у лесе няма лагераў для палонных. І вам прыйдзецца жыць разам з партызанамі,— голас Лукашова гучаў спакойна і пераканаўча.— Пры злучэнні з Савецкай Арміяй, а гэты дзень ужо недалёка, вы будзеце накіраваны ў лагеры для ваеннапалонных.

— А хто нас у лесе будзе карміць? — зноў пачуўся нясмелы голас.— Нас так многа...

— Вас возьмуць на забеспячэнне,— адказаў Лукашоў.— І карміць вас будуць тыя, хто корміць і апранае партызан: мірныя савецкія людзі, якіх вы — ёсць такія сярод вас — рабавалі і забівалі...

— Пан камандзір! — зрабіў крок наперад нямецкі салдат з першай шарэнгі.— Вы камуніст ці не?

— Так, я камуніст,— пацвердзіў Лукашоў.

— Тады я спакойны. Вы сказалі адносна палонных нямецкіх салдат праўду. Я веру камуністам...— Ён хутка павярнуўся тварам да шарэнгі,

закрычаў: — Камэрадэн! Вы ведаеце мяне... зразумела, не ўсе... Я гаварыў, што рускія не расстрэльваюць, не забіваюць палонных. Гаварыў, што камуністы не хлусяць... Гаварыў? Цяпер пераканаліся самі...

Палонныя загаманілі... Лукашоў паглядзеў на нямецкага генерала і затрымаў на ім свой позірк. Сухі, з выцягнутай шыяй, Краўзе, закінуўшы галаву, глядзеў па-над галовамі сваіх салдат. Фашысцкая фанабэрыстасць не пакідала яго і цяпер, хоць твар у генерала быў шэры, бясколерны, як і яго вочы. Тонкія генеральскія вусны скрывіліся ад гневу.

Лукашоў адвярнуўся і зноў загаварыў да палонных:

— У заключэнне я хачу сказаць, што ўсіх палонных будуць дапытваць, гутарыць з вамі. А вы павінны гаварыць толькі праўду!..

Лукашоў у суправаджэнні партызанскіх камандзіраў накіраваўся да будана, дзе павінен быў працягвацца допыт палонных. Русевіч ішоў наперадзе па свежай лясной сцяжынцы, паказваючы дарогу.

На допытах генерал фон Краўзе застаўся верным прысязе фюрэру і нічога не сказаў. Ён абмяжоўваўся грубай лаянкай ці наогул маўчаў.

Трохі пазней яго разам з некаторымі іншымі старшымі нямецкімі афіцэрамі і штабной дакументацыяй па загаду Лукашова пераправілі на самалёце праз лінію фронту ў Маскву.

Нямецкі камуніст Ота Шульц, член судовай калегіі, апошнім часам цэлымі днямі мірна гутарыў з ваеннапалоннымі, і пры неабходнасці пераходзіў на афіцыйны допыт. З афіцэрамі-эсэсаўцамі Ота Шульц разабраўся хутка і склаў заключэнне аб ступені іх злачынстваў. Па справе гэтых фашысцкіх малойчыкаў сведак было больш чым трэба.

Дапытваючы радавых, Ота Шульц зусім нечакана наткнуўся на даволі моцны арэшак. Ім аказаўся нямецкі палонны салдат Ганс Вінер. Ён паведаміў, што перад самым наступленнем уцёк з гарнізона ў Вацэвічах, цвёрда вырашыўшы перайсці на бок партызан. Гэты малады, русагаловы, з блакітнымі вачыма немец падкупляў сваёй непасрэднасцю і юнацкім запалам.

Тады Шульц прымяніў свой улюбёны метад допыту, спрабуючы выклікаць яго на шчырую размову. І Ганс Вінер, як здалося адразу, у адказ таксама разгаварыўся адкрыта і раскрыў усю сваю душу. Ён, маўляў, даўно зразумеў авантурызм Гітлера і яшчэ там, у Берліне, калі працаваў на фабрыцы Крупа, спачуваў камуністам. У Берліне ў яго засталіся жонка і сын. Бацька рабочы, быў знявечаны на той жа фабрыцы. Атрымоўвалася, што Ганс Вінер, сярэдні немец, як і многія іншыя, пачынаў многае разумець.

Аднак Ота Шульц, як вопытны адвакат, заўважыў, што палонны пры паўторных допытах гаварыў адно і тое ж, слова ў слова. А такая дакладнасць у дэталях, аб чым добра ведаюць юрысты, не ўласціва чалавечай памяці, калі толькі чалавек не завучыў напамяць пэўны тэкст. Атрымлівалася, што Вінер не той, за каго сябе выдае.

Зрабіўшы такое заключэнне, Шульц ужо вырашыў перадаць яго па прызначэнні як вельмі падазроную асобу. Няхай гэтага палоннага да-

пытаюць работнікі спецыяльнага аддзела. Але тут Ганс Вінер працягнуў яму скамечаны аркуш паперы і папрасіў прачытаць. Шульц прачытаў некалькі радкоў і дапытліва паглядзеў на палоннага.

— Я разумею вас,— пачаў Вінер.— Так, на гэтым аркушы, які вы трымаеце ў сваіх руках, напісана ўсё тое, пра што я толькі што гаварыў. Так, я завучыў гэты тэкст напамяць, каб не пераблытаць. Многа чуў пра тое, што партызаны пры самым нязначным падазрэнні адразу расстрэльваюць палонных. І вось я напісаў гэта для памяці.

Шульц усміхнуўся такой прастаце палоннага салдата і зняў падазрэнне...

Ганса Вінера перадалі ў інтэрнацыянальную роту Занеўскага, але ўстанавілі за ім строгае назіранне.

Між тым заканчваўся допыт нямецкіх дыверсантаў з групы «савецкіх разведчыкаў». На гэты раз оберштурмбанфюрэр СС Келер кінуў ва Усакінскі лес рэшткі сваіх лепшых сіл. У групу капітана Клейста ўвайшлі добра падрыхтаваныя агенты. Усе яны дасканала ведалі рускую мову з сібірскім акцэнтам.

— Вы ўпамянулі «Ягуара»,— дапытваў аднаго з іх начальнік спецыяльнага аддзела брыгады Кавалёў.— Паведамілі нам, што гэта быў самы вопытны разведчык і што ён быў на ўліку ў берлінскай картатэцы. Дык чаму вы гаворыце, што быў? «Ягуар» загінуў? А калі так, дык дзе і калі?

Дыверсант, велізарны бялявы мужчына гадоў сарака, апусціў галаву.

— Што! Не жадаеце адказваць? Ці не ведаеце?

— Я ўспамінаю... Дакладней, чуў, што яго дасканала рыхтавалі для высадкі ва Усакінскі лес.

— І закінулі?

— Так, закінулі.

— Што далей? Не цягніце. Вашы шчырыя паказанні будуць улічаны.

— Не ведаю, што з ім адбылося, а хлусіць не хачу. Толькі пра яго пазней гаварылі як пра нябожчыка.

— Асабіста «Ягуара» бачылі?

— Бачыў два ці тры разы.

— Як яго сапраўднае прозвішча, званне?

— Хойтнер, штурмбанфюрэр СС.

— Апішыце яго.

Нямецкі агент падрабязна апісаў прыкметы «Ягуара». Кавалёў задумаўся. «Ягуар» быў вельмі падобны на невядомага, які быў цяжка ранены ў пачатку лістапада партызанскім пастом брыгады Захарава.

— Ці не можаце паведаміць,— зноў спытаў Кавалёў,— дату, калі «Ягуара» закінулі да нас?

— Гэта было, здаецца, у пачатку лістапада... не пазней восьмага-дзевятага чысла.

Названая дата прыкладна супадала з той памятнай раніцай, калі агледалі труп невядомага.

— Мэта закідвання? Звычайная дыверсія сярод партызан, шпіёнская інфармацыя? Ці нешта іншае, асаблівае? — тут жа задаў наступнае пытанне Кавалёў.

— Дакладна не ведаю... Але, здаецца, «Ягуар» павінен быў прыбыць да партызан пад прозвішчам не то Таркоўскага, не то Тартоўскага.

— Тарноўскага,— падказаў Кавалёў.

— Так, так, Тарноўскага. Толькі таго, сапраўднага, не ўдалося ліквідаваць. Пазней оберштумбанфюрэр СС Келер стаў рыхтаваць іншага.

— А сярод вас не было гэтага «некага іншага»?

— Сярод нас не...

— На сёння хопіць,— сказаў Кавалёў.— Але не. Вось яшчэ што. А адкуль вам вядомы такія сакрэты? Хто вас інфармаваў?

— Оберштумбанфюрэр СС Келер, хто ж яшчэ,— прамямліў палонны.— Ён мне давяраў, і я што-нішто запомніў...

— Значыць, вы не радавы агент? Адказвайце! Ваша прозвішча, пасада, званне? — павысіў голас Кавалёў.

— ?!

— Адказвайце! Вам жа лепш будзе!

— Я намеснік капітана Клейста, оберлейтэнант Шватнер... Намеснік тайны, аб чым не ведае нават Клейст... Келер заўсёды так робіць, страхоўка...— вяла адказаў дыверсант.— Маё шчырае прызнанне, каштоўныя звесткі...

— Зразумела! — перапыніў яго Кавалёў.— Улічым, усё ўлічым.

Калі нямецкага агента вывелі, Кавалёў звярнуўся да Ота Шульца, які ў час допыту маўчаў.

— Ці не знаходзіце вы, таварыш Шульц, што паказанні гэтага суб'екта праўдзівыя? І, мабыць, не трэба сумнявацца, што СС і зараз ад Тарноўскага не адступіцца.

— Так, усё гэта падобна на праўду...



Разведка вярнулася нечакана хутка. Весткі былі страшныя. Група эсэсаўцаў, што блукала па лесе, зрабіла налёт на вёску Лазнякі, абрабавала яе і спаліла разам з жыхарамі. Жывых амаль нікога не засталося... Толькі чарнеюць папялішчы ды ляжаць знявечаныя абгарэлыя трупы. Іх няма каму пахаваць...

Русевіч, атрымаўшы паведамленне аб такім бандыцкім налёце на мірнае насельніцтва, узняў трывогу.

Бясшумна рушылі партызаны ў паход. Яны спяшаліся. У брыгадзе былі байцы, сем'і і родныя якіх жылі ў Лазняках.

Гадзіны праз дзве лес скончыўся. Вось і ўзлессе. Пацягнула дымам і гарам. Вёскі не было... Гарэлае бярвенне, трупы людзей... брудны снег, паліты крывёю... Дзе-нідзе дыміліся галавешкі. Сярод папялішчаў сіратліва бялелі печы з адзінокімі комінамі, пачарнелымі ад агню і дыму,— нямыя сведкі чалавечых пакут.

Камбрыг, які ехаў на кані, спешыўся і падышоў да сярэдзіны калоны.

— Таварышы! — Русевіч зняў шапку, і адразу агаліліся галовы партызан, што стаялі перад ім.— Мы зараз,— загаварыў ён гучна,— строем пройдзем уздоўж вуліцы былой вёскі Лазнякі... Глядзіце і запамінайце. Тут загінулі нашы бацькі і маці, браты і сёстры, дзеці... А потым,— Русевіч павысіў голас,— мы падбяром трупы, пахаваем... Таварышы! Я ведаю, што сярод вас ёсць партызаны, якія нарадзіліся ў вёсцы Лазнякі. Выказваю вам глыбокае спачуванне. А цяпер я назаву прозвішчы цудам выратаваных жыхароў гэтай вёскі.

Наступіла цішыня. Усхваляваны голас Русевіча быў добра чуваць усім...

— Завірухін Акім Спірыдонавіч. Ён едзе з намі на возе... Ён раскажа аб тым, як гэта здарылася. На жалобным мітынгу мы дадзім яму слова... Яшчэ партызанскімі разведчыкамі падабраны дзве жанчыны — Кірыйкова Міхаліна і Мазіна Марыя. Яны ў цяжкім стане і знаходзяцца ў нашым паходным шпіталі. Засталіся жывыя толькі трое...— Камбрыг змоўк, павярнуўся і павольна пайшоў з голай галавой да папялішчаў, зрабіўшы знак байцам ісці за ім.

Вачам было балюча глядзець... Сівелі валасы, дранцвелі рукі і ногі ад убачанага. Вось два скурчаныя абгарэлыя трупы. Добра прыгледзеўшыся да іх, знявечаных агнём і асколкамі гранат, можна разгледзець старога і старую. Страшэнныя пакуты, а потым і смерць спасціглі іх ля роднага парога, калі яны выбягалі з падпаленай хаты.

Ля наступнага папялішча, раскінуўшы рукі, ляжыць з адкрытымі вачыма дзяўчынка гадоў васьмі ў светлай сукенцы... Нібы заснула, і толькі кроў на галоўцы і сняжынкі, якія пакрылі мармуровы тварык і не раставалі, сведчаць аб трагедыі...

Дваццаць крокаў... і зноў трупы, іх многа...

Партызаны рухаюцца павольна, моўчкі... Пасярод вуліцы ляжыць сівы дзед з белай барадою, у кажусе і старых стаптаных валёнках. У правай руцэ заціснута сякера, ён яе так і не выпусціў... Калона за калонай праходзіць каля цела забітага.

А гэта... кавалкі бярвення ці трупы? Тут, відаць, сям'ю расстралялі проста ў хаце, а потым падпалілі будынак.

Справа і злева, наперадзе і ззаду патухлыя і яшчэ дымныя чорныя галавешкі... Справа і злева, наперадзе і ззаду абгарэлыя скурчаныя трупы. І так... па ўсёй вёсцы.

Твары ў байцоў суровыя, рукі да болю сціскаюць зброю.

Вуліца пройдзена... Камбрыг вядзе калоны далей, да сельскіх могілак, дзе капаюць брацкую магілу.

Некалькі груп партызан, куды ўвайшлі родныя і блізкія закатаваных і расстраляных у вёсцы людзей, адразу ж вярнуліся зноў на папялішчы. Сярод забітых ёсць апазнаныя... Пакалечаныя трупы складваюць на вазы...

Праз некаторы час жалобны картэж пачаў паволі рухацца да могілак.

Павольна рухаюцца фурманкі, павольна ідуць партызаны. Вось у гэтага і ў гэтага на руках страшныя ношы... Яны не могуць расстацца з імі...

У Рыгора Анісімава, байца першай роты, на руках труп жонкі... Ён адкапаў яе цела на папялішчы...

Разведчык Іван Міхальчук нясе свайго сына Сцёпку... Многія ведалі гэтага дзевяцігадовага спрытнага і смелага хлапчука, які часта дапамагаў партызанам.

...Доўгі гэты страшны жалобны картэж, доўгі... Звыш ста па-зверску забітых.

Фурманкі набліжаюцца да могілак. Байцы беражліва здымаюць закатаваных і апускаюць у брацкую магілу. Ля самага краю магілы стаіць Акім Спірыдонавіч Завірухін, стары сівы чалавек. Ён раз-пораз нагінаецца і кідае жменькі зямлі.

...Вось і Міхальчук. Нечыя настойлівыя рукі забралі ў яго сына. Міхальчук стаіць, схіліўшы галаву, скупыя мужчынскія слёзы цякуць па яго твары.

Вялікая, страшная брацкая магіла. На жалобным мітынгу гаварыў Акім Спірыдонавіч Завірухін. Стаяў ён на фурманцы, твар яго быў чорны, вочы вільготныя, стары зрэдку адкашліваўся...

— Бяда прыйшла вечарам. Фашысты наляцелі чорнай навалай, хапалі, што трапляла пад рукі... гвалцілі жанчын... Забівалі ўсіх, каго толькі бачылі. Вёска была акружана, потым фашысты яе падпалілі, многія хаты загарэліся адначасова. Жыхары ратаваліся хто як мог, але агонь і кулі гітлераўцаў былі ўсюды...— Акім Спірыдонавіч закашляўся, гаварыць яму было цяжка.— Фашыстаў нехта прывёў у нашу вёску. У той вечар з лесу выйшлі двое. Мая хата стаяла на ўскраіне вёскі. Яны і зайшлі да мяне. Апранутыя звычайна, у цывільным, сярэдняга росту. Твары ■ не мог разгледзець. Галовы іх былі закручаны нейкімі хусткамі так, што бачны былі толькі вочы. Адзін з іх спытаў, ці ёсць у нашай вёсцы партызаны. Я адказаў, што не было і няма.

Тут падбег да мяне ўнук Сцёпка. Не паспеў я яму міргнуць, як ён схапіў свой кажушок і выскачыў на двор. Я зразумеў, што ён пабег да нашага суседа, партызанскага сувязнога Кузьмы Назаравіча... Тыя двое выйшлі з хаты. Я пачаў назіраць. Яны павольна крочылі па вёсцы, спыніліся ля калодзежа, дзе жанчыны бралі ваду, пагутарылі з імі хвілінку, а потым хутка накіраваліся зноў у лес. Адышоўшы крыху ад вёскі, адзін з іх даў зялёную ракету. І не паспела яна згаснуць, як па вёсцы засвісталі кулі... Потым мы ўбачылі немцаў, яны ішлі з боку лесу. Людзі кінуліся на луг, але адтуль застракаталі кулямёты... Лазнякоў не стала. І майго ўнука Сцёпку...

Далей Завірухін не мог гаварыць. Далей пра ўсё гаварылі папялішчы і мёртвыя людзі.

Слова ўзяў камбрыг Русевіч.

— Дарагія таварышы! Мы зараз перажываем вялікае гора. Нямецкія акупанты ўчынілі яшчэ адно крывавае злачынства. Няма больш вёскі Лаз-

някі, яе жыхары загінулі страшнай смерцю... Хто тыя двое? Яны прывялі фашыстаў у Лазнякі, іх бачыў дзед Акім. Я перакананы, што гэтыя вылюдкі, подлыя забойцы, будуць схоплены і пакараны...



Валянціна Невіноўская знаходзілася ў партызанскім шпіталі. Яе здароўе рэзка пагоршылася. Пасля той марознай начы, калі яе, замёрзлую, знайшлі ў снезе, прайшло нямала дзён.

Цяжкая рана і аднайчасовае запаленне лёгкіх прыкавалі Валянціну да ложка. Медсястра Люся цэлымі суткамі дзяжурыла ля сваёй сяброўкі. Часта наведваўся да Валянціны і Баляслаў. Ён зблажэў, пахудзеў. Яму цяжка было, асабліва ў першыя дні пасля ранення Невіноўскай, калі інтэрнацыянальная рота, як і ўсе партызанскія падраздзяленні, вяла няспынныя баі па акружэнні, а потым і па знішчэнні рэшткаў нямецкай групоўкі.

Камбрыг Вашчанка, ведаючы адносіны Тарноўскага да Невіноўскай, аддаў загад замацаваць яго за паходным шпіталем. Вашчанка, бясспрэчна, хацеў маральна падтрымаць Валю, і Тарноўскі разумеў гэта. Ён у душы быў удзячны камбрыгу і камандзіру роты Вітольду Занеўскаму, які перадаў яму гэтае распараджэнне і настойваў на яго выкананні, але пакінуць перадавую адмовіўся наадрэз.

Іншым часам Тарноўскі з радасцю пабег бы да Валянціны, але толькі не цяпер... Ён ведаў, што і Валянціне гэта будзе не па душы і яна ніколі не даруе такога. Тарноўскі папрасіў Занеўскага толькі аб адным: у моманты зацішша паміж баямі дазволіць яму наведваць Невіноўскую ў шпіталі. Занеўскі згадзіўся.

Не звяртаючы ўвагі на старыя раны і кантузію, якія па-ранейшаму трывожылі Тарноўскага, ён з нейкай злосцю і лютасцю змагаўся з немцамі. Першы ішоў у атаку, першы кідаўся ўрукапашную...

А ў кароткія перапынкі, калі бой сціхаў, спяшаўся ў шпіталь да Валянціны.

Хвароба Валянціны праходзіла з рэзкімі перападамі. Сёння лепш, заўтра горш, а то і зусім дрэнна. Галоўны ўрач Церахаў прапанаваў пры першай магчымасці накіраваць яе самалётам на Вялікую зямлю, але дзяўчына і слухаць пра гэта не хацела. Яна прасіла пакінуць яе ў брыгадзе, пераконвала ўрачоў і камандаванне, што запаленне хутка пройдзе, а рана ўжо зажывае і што марознае лясное паветра вылечыць яе хутчэй, чым іншыя лекі.

І вось баі скончаны...

Цяпер Тарноўскі быў увесь час каля Валянціны. Падбадзёрваў яе добрым словам, жартам, паіў цёплым малаком, але здароўе дзяўчыны не паляпшалася. Рана на грудзях пачала зацягвацца, а вось з лёгкімі рабілася нешта незразумелае. З'явіліся сімптомы сухотаў, чаго так баяўся, не хочучы верыць у гэта, сам Церахаў.

А час ішоў. Выконваючы загад Цэнтральнага штаба партызанскага руху, партызанскія злучэнні працягвалі наносіць немцам адчувальныя

ўдары. Лясныя салдаты выводзілі са строю чыгункі і шасейныя дарогі, знішчалі нямецкія гарнізоны. Працягвалася «рэйкавая» вайна.

Прыфрантавую зону партызаны трымалі ў сваіх руках. Кожны дзень ішлі на заданне дыверсійныя групы.

Асобныя групы нямецкіх ваяк, якія засталіся пасля разгрому групоўкі фон Краўзе, былі ў асноўным вылаўлены. Але партызаны ўвесь час не паслаблялі пільнасці.

Нечаканы выпадак з адным з палонных немцаў зноў напомніў народным мсціўцам аб тым, што фашысты не адмовіліся ад сваіх планаў засылкі шпіёнаў да партызан.

Учора вечарам партызаны з аховы заўважылі нейкіх двух чалавек, што хаваліся за тоўстай сасной далёка ўбаку... Як яны там апынуліся, ніхто не заўважыў. Камандзір інтэрнацыянальнай роты Занеўскі, якому тут жа паказалі на двух уцекачоў, спачатку падумаў, што гэта проста палонныя салдаты, якія ўхіляюцца ад работы.

Не трацячы часу, Занеўскі з двума байцамі накіраваўся да іх. Аднаго з іх ён пазнаў. Гэта быў салдат Ганс Вінер, якога камуніст Шульц у свой час назваў «моцным арэшкам». Другі — у цывільным — быў зусім незнаёмы.

— Ні з месца! Будзем страляць! — крыкнуў Занеўскі.

...Чалавек у цывільным уздрыгануўся ад воклічу і тут жа рвануўся ў густы ельнік. «Моцны арэшак» пабег за ім, але спатыкнуўся...

— Не страляць, трэба ўзяць жывымі,— загадаў Занеўскі.

Байцы ледзь паспявалі за сваім камандзірам. «Моцнага арэшка» схапілі, а па другім Занеўскі, адчуваючы, што той можа ўцячы, даў аўтаматную чаргу і, здаецца, параніў у нагу... Але той усё роўна знік сярод густога ельніку.

Занеўскі з адным байцом, другога ён накіраваў з Вінерам у штаб, вырашыў ісці за лазутчыкам. След яго, як у зацкаванага звера, пятляў, рабіў кругі і нарэшце знік — засыпаў снег, які валіў з самай раніцы.

Партызаны вярнуліся ў лагер ні з чым.

У камандзірскім будане, куды камандзір роты Занеўскі ўвайшоў для дакладу, былі Русевіч, Вашчанка, Капусцін, начальнік спецыяльнага аддзела Кавалёў і нямецкі адвакат Шульц.

Выслухаўшы Занеўскага, які фактычна паўтарыў ужо вядомае партызанам аб здарэнні ў лесе, Русевіч сказаў:

— Ідзіце адпачывайце, таварыш Занеўскі. Вы, мабыць, вельмі стаміліся. А заўтра на досвітку працягвайце пошукі. Разам з сабой вазьміце дзве групы конных партызан чалавек па пяць-сем.

— Ёсць, таварыш камбрыг. Дазвольце ісці?

— Ідзіце. Добрай ночы.

Занеўскі пайшоў да дзвярэй, потым спыніўся, павярнуўся.

— Таварыш камбрыг, дазвольце?

— Што ў цябе там, Вітольд Адамавіч?

— А той немец, якога мы схапілі, з інтэрнацыянальнай роты?

— Маўчыць, упарта маўчыць. Гаворыць, што не ведае таго, другога...

□ □ □

Неяк пры адным з чарговых наведванняў шпіталя Русевічам галоўны ўрач Церахаў звярнуў яго ўвагу на хваравіта паружавелы твар Валянціны Невіноўскай.

— Гэта, Сямён Сяргеевіч,— шапнуў ён,— гэта туберкулёз лёгкіх. Дыягназ пацвярджаецца.

— Тэрмінова ў Маскву! — аддаў загад Русевіч.

Запрасілі самалёт. Вялікая зямля адказала, што ў бліжэйшы час самалёт будзе.

Партызанам шкода было расставацца з іх любіміцай. І цяпер многія ішлі ў шпіталь, каб развітацца з Валяй, пажадаць ёй хуткай папраўкі, добрай дарогі.

Праз колькі дзён раніцай Тарноўскі прачнуўся роўна ў пяць і паспяшаўся ў шпіталь да Валянціны. Падумаў: «Яна ўжо, мабыць, не спіць...» Сёння з Вялікай зямлі чакалі самалёт.

У Валянціны была ўжо Люся. Разгублена ён павітаўся з сяброўкамі, прысеў побач з хворай, узяў за руку. Рука ў Валянціны была цёплая, вочы ўсміхаліся, і толькі недзе далёка-далёка блукалі ў іх слязінкі... Люся выйшла. Баляслаў і Валянціна моўчкі глядзелі адно на другога.

Не прайшло і пяці хвілін, як у лазарэце з'явіліся разведчык Кот са сваёй «кошачкай» Галубковай.

— Мы сёння хацелі быць у цябе першымі, Валечка,— сказаў, падышоўшы, Васіль,— ды, бачу, спазніліся.

— Папраўляйся, хуценька папраўляйся, любая Валечка. Вестачку падай нам з Масквы,— Вера пацалавала Валянціну ў вусны.

— Добрай раніцы, таварышы! — пачуўся раптам басок камандзіра інтэрнацыянальнай роты Занеўскага.— У мяне тэрміновае заданне. Я, як кажуць, ужо на кані. Зайшоў развітацца са сваім байцом Валянцінай, пажадаць усяго найлепшага... Думаў, што ўсе яшчэ спяць, а тут столькі народу...

— Дзякуй, Вітольд Адамавіч, вялікае дзякуй, што зайшлі,— ціха прамовіла Валя і працягнула яму руку.

Занеўскі ўзяў руку дзяўчыны, паціснуў, потым хутка прыгнуўся і пацалаваў. Ён хацеў нешта сказаць, але не знайшоў слоў, нязграбна павярнуўся і пайшоў.

— Куды ён так рана? — спытала Валянціна.— Здарылася што ў лагеры? Я ўчора чула страляніну...

— Нічога не здарылася, Валечка, не хвалюйся,— супакойваў яе разведчык Кот.

Увайшлі партызаны, адразу чалавек дзесяць, потым яшчэ і яшчэ... Заходзілі знаёмыя Баляславу і незнаёмыя яму, усе развітваліся з Валянцінай. Хутка з'явіліся камісар і камбрыг...

Нечакана — было каля шасці раніцы — пачуўся гул самалёта.

— Ляціць! Самалёт ляціць! А саней няма...

— Санкі! Давайце хутчэй санкі...— пачуўся нечы ўладны голас.

— Таварышы, папрашу! Хворай трэба збірацца! — замахаў рукамі галоўны ўрач Іван Лукіч. — Люся, цёплую вопратку...

Партызаны паспешліва выходзілі.

Калі Невіноўскую на насілках вынеслі са шпіталя, сані былі ўжо нагатове, і гнедая кабыла, запрэжаная ў іх, пабразгвала аброццю. Хворую асцярожна апусцілі ў мяккае сена, накладзенае на сані, і прыкрылі зверху да самага падбародка кажухом.

...Усе спяшаліся, бо ведалі, што самалёт не можа доўга чакаць, да аэрадрома мінут трыццаць язды, а то і больш. Невіноўскую суправаджалі Тарноўскі, галоўны ўрач, Люся і, на ўсякі выпадак, пяць чалавек партызан на конях.

Верхавыя пазніліся. Галоўны ўрач пачаў нервавацца: усё ж зіма, мароз.

Баляслаў не вытрымаў, сеў у санкі ля галавы Валянціны. З ім тут жа селі Іван Лукіч і Люся. Галоўны ўрач прытуліўся справа каля хворай, сяброўка-медсястра — у нагах Валянціны.

— Паехалі! — ціха сказаў Іван Лукіч. Тарноўскі схапіў лейцы ў рукі, сані рыпнулі і панесліся. Праз чвэрць гадзіны і верхавыя на чале з Кавалёвым выехалі на аэрадром.

Дарога пасля шчодрага снегу была роўная, і Тарноўскі падганяў каня.

— Табе добра, не трасе? — спытаў, нахіліўшыся да Валянціны, Баляслаў.

— Не, не трасе. Мне так хораша, так лёгка — лёгка дыхаць і... вельмі не хочацца пакідаць цябе, усіх партызан, лес...

— Нічога, трымайся, Валя!

— Баляслаў Баляслававіч,— забурчаў Іван Лукіч,— нельга ёй на марозе размаўляць!

Тарноўскі змоўк, змоўкла і Валянціна. Невялікі паварот, Тарноўскі злёгку прытрымаў каня.

І раптам затрашчала доўгая аўтаматная чарга. Другой чаргі Тарноўскі не чуў. Яму неяк раптам стала горача, пахіснулася і паплыла перад вачыма зямля. Трацячы прытомнасць, ён упаў.

Іван Лукіч схапіў аўтамат, што ляжаў на каленях у Тарноўскага, і застрачыў у бок засады. Ззаду пачуўся конскі тупат. Падаспеў Кавалёў.

— Там! Адтуль...— паказаў рукой у цемру галоўны ўрач.— З-за паварота стралялі.

Партызаны па загаду Кавалёва спешыліся, заляглі. Хутка прыйшло падмацаванне з лагера, і пачалі прачэсваць лес. Іван Лукіч тым часам перавязаў Тарноўскага, які быў ранены ў шыю і галаву. Люсі куля прабіла правую руку, і яна сама змагла налажыць павязку на рану. Валянціна ціха стагнала.

— Ты ранена? Куды? — ужо некалькі разоў пытаў у яе Іван Лукіч.

— Здаецца, не, не ранена,— шаптала ў адказ дзяўчына.— Але што з ім? Баляслаў жывы?..

Кавалёў падумаў пра самалёт. А калі і там, на паляне... Ён падаў каманду — партызаны паскакалі наперад. Іван Лукіч пагнаў гнедую следам.

Прыехалі на аэрадром. Ціха. Вартавыя нічога падазронага не заўважылі.

...Тарноўскі апрытомнеў, калі самалёт перасек лінію фронту. Матор ціха гудзеў, машыну злёгку хістала. Адразу ён ніяк не мог зразумець, дзе знаходзіцца. Нарэшце ўсё ўспомніў і крыкнуў:

— Валя! Валя! Валянціна!

— Я тут,— з радасцю адгукнулася Валя.— Мы ляцім у Маскву, Баяслаў,— сказала яна як мага спакайней.

— У Маскву? Тады... Мы будзем жыць...— ціха сказаў Тарноўскі, трацячы прытомнасць.

Самалёт трымаў курс на ўсход.

# Леанід Рыжыкаў





Ісці ці блізка,
Ці далёка —
Руплівы сейбіт,
Падкажы
І не зважай,
Што пільным вокам
Цікуе нехта
На мяжы.
Чакае сонца наша ніва,
Каса — касца,
Касец — расы,
А сэрца чуе,
Як маўкліва
Губляе зерне
Каласы...



Як ні лічы,
А хутка восень
Падыме вырай на крыло,
Атавай позняй
У пракосе
Палегла ўсё,
Што адцвіло.
Ты узараў
І зерне кінуў,

Спыніся моўчкі
На мяжы
І на пялёстках успамінаў —
Што быць магло б —
Паваражы.

## Ноч

Над галавою зорак
крошыва,
Туман над лугам,
Пах раллі...
Аж Млечны Шлях,
Як дужку кошыка,
Згінае поўніца зямлі.

□

З маленства прага
Свет адкрыць
Нас непакоіць кожнага:
Там — на прасторы —
Ўсе вятры
І плыні
Падарожныя...
Чакаць дазволу
Ці пары,
Быць на нягоды
Згоднымі
Завуць трывожныя кастры,
Як зоркі пуцяводныя.
Хай ратавальныя кругі
Адны плывуць
Да берага.
Мы адкрываем
Для другіх
Усе свае
Амерыкі.

## Дзевяты вал

Шар зямны плыве, як грампласцінка,—
Паралелі, за вітком віток,

Хвалямі плывуць без перапынку
На пакрыты пенаю пясок.

Адпачні, аддайся волі плыні —
Лёс трымае за цябе штурвал...
Недзе там у сіняй далячыні
Коціцца і твой дзевяты вал.



Ах, коні!
Час і вас суняў,
Утаймаваў ваш бег шалёны,
А хвост ружовага
Каня
Прыгодны толькі
На шыньёны.

# Анатоль Кудравец

# ЛІСТЫ З АМЕРЫКІ

(Заканчэнне. Пачатак у № 10)

Ці шмат чалавеку трэба для шчасця? Пытанне не новае, але і не рытарычнае.

Бывае — і гэта вельмі добра ведаюць людзі нялёгкіх жыццёвых дарог — франтавікі, партызаны,— для шчасця не хапае адной-дзвюх зацяжак папяросы. Ці — далёка ад дому, на чужой зямлі — раптам пачуць роднае слова. Не кажу ўжо — сустрэць чалавека аднекуль зблізку... Ці...

Не робячы ніякіх далёкіх закідаў, ад'язджаючы з дому, узяў з сабой магнітафонную касету з запісамі блізкіх душы мелодый і песень. Туранкоў, Глебаў, «Мне кажется порою, что солдаты...», «Травы, травы...».

І ляжала касета, пакуль не настаў адзін выхадны дзень, калі ўсе раз'ехаліся хто куды, а я застаўся, каб падрыхтаваць чарговую карэспандэнцыю для БЕЛТА. Зрабіў матэрыял, выйшаў на калідор — маўклівы і такі няўтульны без людзей. Пад шахматным столікам убачыў маленькі — з Сярожкавай нагі — тапачак: відаць, чалавек таксама вельмі спяшаўся ў дарогу.

Уключыў тэлевізар, крутануў па праграмах і зараз жа выключыў: настолькі невыносны стаў гэты пусты тэлевізійны аптымізм — з надакучліва-абавязковай, праз кожныя пяць-дзесяць хвілін, рэкламай — ці то гэта нейкі звышкаларыйны джэм, ці джынсы, ці новая марка аўтамабіля, ці яшчэ што, але заўсёды падаецца так, што калі ты, не дай бог, не паспытаў, ці не купіў, ці хоць не ўбачыў усё гэта — то ты ўжо і не чалавек, і ўжо не маеш права спакойна жыць на гэтым свеце.

Пра амерыканскую рэкламу, пра яе засілле і ўменне прымушаць людзей рабіць тое, што яны не хочуць рабіць, як і ўвогуле пра амерыканскае тэлебачанне з яго абавязковым культам гангстэрызму, пошласці і прымітыву пісалася шмат, і тут мала што можна дадаць, але, мусіць, трэба ўсё гэта адчуць на ўласнай скуры, каб зразумець, якой вялікай радасцю для нашага чалавека з'яўляецца вяртанне ў атмасферу сваіх прывычных жыццёвых рэалій.

І вось тады я ўспомніў, што ў мяне ёсць касета і ёсць магнітафон.

...Касета заканчвала свой бег, калі пачуўся стук у дзверы. Сямён Сцяпанавіч.

— Чую нешта роднае, а адкуль ідзе — не магу разабрацца. Няўжо, думаю, хто «Маяк» злавіў? Выйшаў у калідор і толькі тады зразумеў,— гаворыць ён ціхім мяккім голасам і ўсміхаецца сваёй далікатнай сарамлівай усмешкай.

Я вінавачу сябе: можа, перашкодзіў працаваць?

Нашы пакоі побач, і таўшчыні сцен дастаткова, каб чуць уключаную музыку ў суседа. Але мы садзімся і... пускаем касету на другі круг. На трэцяй ці чацвёртай мелодыі раздаецца яшчэ стук — Гарый Вітольдавіч. Потым заходзіць Пётр Рыгоравіч... Слухаем песні, а ўсе — там, дома. І вочы, якія ва ўсіх вочы!

Потым Сямён Сцяпанавіч успамінае, як прыехаў дамоў, на Магілёўшчыну, у родную вёску Вётухна.

— Прыехаў, маці, канечне, рада, мітусіцца, выбегла ў сенцы, дастала аднекуль пляшку, нясе. «Што вы, мама, а ж з сабой прывёз!» «Мала што прывёз, а гэта — твая, яна цэлы год цябе чакала і во дачакалася...» А ў мяне і праўда неяк так выйшла, што цэлы год не мог вырвацца... А маці чакала, кожны дзень... і цяпер недзе чакае...— і зноў гэта далікатная ўсмешка...

А мне ўспомнілася другое, з работы гэтай сесіі Асамблеі. У Чацвёртым камітэце разгарэліся вострыя дэбаты па пытанні аб дзейнасці замежных і іншых колаў, якая перашкаджае ажыццяўленню Дэкларацыі аб прадастаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам. Сямён Сцяпанавіч павінен быў выступаць па гэтым пытанні. З тэкстам выступлення ён даў пазнаёміцца мне, і мне падалося, што выступленне разкаватае. Пра гэта я і сказаў, і раптам убачыў, як спахмурнеў Сямён Сцяпанавіч. Нейкі час маўчаў, потым загаварыў — адрывіста, злосна:

— У першым варыянце яно было яшчэ вастрэйшае, а яго і так змякчыў і, можа, дарэмна. Мы прыехалі сюды не кампліменты рассыпаць. Яны робяць, што хочуць, не саромеюцца, а мы павінны саромецца пра гэта гаварыць? Так? — ён пытаўся і сам жа адказаў на сваё пытанне, і мне ўжо не было чаго дадаць. Сапраўды, нягледзячы на шматлікія рашэнні Савета Бяспекі, на патрабаванне большасці членаў ААН, злачынная дзейнасць імперыялістычных колаў Захаду і іх манаполій у каланіяльных і залежных краінах, самая дзікая эксплуатацыя мясцовага насельніцтва, грабеж прыродных рэсурсаў не толькі не спыняюцца, а наадварот — узмацняюцца.

На наступны дзень я змог паслухаць Сямёна Сцяпанавіча. Гаварыў ён спакойна, старанна выгаворваючы, нібы адсякаючы кожную фразу, тым самым падкрэсліваючы яе важнасць. У голасе чулася ўнутраная напружанасць і сухасць. Адчувалася, што паіншаму выступаць ён не мог і не хацеў. І не трэба было. Развіццё далейшых міжнародных падзей лішні раз паказала, што час для кампліментаў імперыялістам прыйдзе яшчэ не скора.

І цяпер тут, у невялічкім пакоі місіі, дзе, здавалася, яшчэ прадаўжала гучаць мелодыя «Александрыны» ў выкананні «Песняроў», падумалася пра тое, што часам дома, калі гаворка заходзіць пра Амерыку, пра жыццё простага люду ў ёй,— жыццё няпростае, нялёгкае, з неадчэпнай трывогай пра заўтрашні дзень,— даводзіцца чуць пытанні: «І гэта праўда? У такой багатай краіне?»

І пытанні гэтыя задаюць людзі з адукацыяй, якія павінны ўмець чытаць і слухаць, умець распарадзіцца той вялікай інфармацыяй, якая абрушваецца на чалавека ў наш цывілізаваны век. І ў пытаннях гэтых не столькі здзіўлення, колькі недаверу. Маўляў, ці не перабольшваем мы, калі крытыкуем гэтых... капіталістаў? Можа, там не так ужо і страшна? Вунь жа ў іх і джынсы... і пепсі-кола... і жавальныя гумкі... і, кажуць, машына ледзь не ў кожнага...

І дыктуе гэтыя пытанні наіўнае ўяўленне пра нейкі новы — «добры» капіталізм, які па сваёй ахвоце раптам можа перастаць быць самім сабой.

І тое, што чалавек уведаў у школе, у што ўвераваў у інстытуце, у чым пераканала жыццёвая практыка: што капіталізм — арганізацыя выключна класавая, якая жыве на эксплуатацыі аднаго класа другім, аднаго народа другім, і што пануючы клас ніколі добраахвотна не аддаваў і не аддасць тых прывілей, якія займеў,— гэтыя элементарныя ісціны, шляхі спасціжэння якіх пралеглі праз турмы і астрогі, рэвалюцыі і смерці многіх тысяч падзвіжнікаў-рэвалюцыянераў, раптам быццам пачалі размывацца, траціць ясныя грані. Яны былі, яны прысутнічалі, але разам з тым як быццам рабіліся лягчэйшыя. «І гэта праўда? У такой багатай краіне?»

Задаешся пытаннем: ці не сталі для некаторых нашых людзей сінтэтычная пена пепсі-колы, яркая джынсавая наклейка і прывід уласнага аўтамабіля той фіктыўнай шырмай, з-за якой дрэнна бачацца сённяшнія ракетна-тэрмаядзерныя зубы імперыялізму?

Сасніў Мінск, сям'ю. Сон адразу забыўся, але засталося нешта вельмі прыемнае, быццам паглядзеў родную кінахроніку.

І смех, і грэх...

«Нью-Йорк таймс» за трэцяе лістапада змясціла вялікі матэрыял з пераносам з першай на дваццаць трэцюю старонку пра нейкага гомасексуаліста Пауля Абельса, пастара метадысцкай пратэстанцкай царквы — адной з самых магутных у Штатах. Яна налічвае дзесяць мільёнаў веруючых і ўступае толькі баптысцкай, у той трынаццаць мільёнаў. Пауль Абельс зацікавіў салідную «Нью-Йорк таймс» скандальным судовым працэсам, які вёўся супраць яго. Некалькі веруючых падалі на Абельса ў суд з патрабаваннем забараніць яму працаваць пастарам. Прэтэнзіі даволі сур'ёзныя. Прыхаджане лічаць, што чалавек, які займаецца гомасексуалізмам, не мае права быць духоўным настаўнікам — весці тонкія і далікатныя духоўныя справы, болей таго — быць пасрэднікам на святой дарозе, якая пралягае паміж чалавекам і богам.

Суд разгледзеў заяву прыхаджан і прызнаў яе несур'ёзнай. Суд прыйшоў да рашэння, што Пауль Абельс не парушае амерыканскіх законаў і мае права працаваць пастарам далей. Закон не забараняе чалавеку, які займае месца пастара, быць гомасексуалістам. Закон забараняе толькі прапаганду гомасексуалізму і ўтварэнне груп гомасексуалістаў. А жыццё пастара — гэта яго асабістая справа.

Канечне, гаворыць газета, Пауль Абельс — не Ісус Хрыстос, якому былі далёкія сексуальныя памкненні, але Ісус Хрыстос таксама адзіны ў сваім родзе. Урэшце, працягвае газета, якая розніца, з кім жыве мужчына: з жанчынай ці з другім мужчынам... Тым болей, што сведкі — людзі веруючыя — пацвердзілі, што Пауль Абельс — далікатны, уважлівы і ветлівы пастар.

Пра ўсё гэта расказана з усёй сур'ёзнасцю шматтыражнай рэспектабельнай газеты. Змясціла яна і фотапартрэт пастара на фоне царквы — круглатвары, поўны энергіі малады чалавек з шапкай густых чорных валасоў і акуратна падстрыжанымі вусікамі. Хітраватая, спакойная ўсмешка на сытым твары нібы лішні раз падкрэслівае справядлівасць справы, за якую чалавек ледзь не пацярпеў. Пра гэта ж гаворыць і загаловак матэрыялу: «Пастар-гомасексуаліст застаецца на сваім пасту».

Вярнуліся з паездкі за горад Анатоль Аляксандравіч, Эдуард Мартынавіч * і аўтар гэтых радкоў. Стомленыя, узбуджаныя, галодныя. Узброіўшыся хто чым мог, гатуем на кухні вячэру. Хоць Анатоль Аляксандравіч і халасцякуе — жонка і сыны павінны былі бліжэйшым самалётам прыляцець з Саюза,— у яго знайшлося ўсё, што трэба, каб не даць памерці галодным людзям. А калі сказаць, што ў халадзільніку стаяла квашаная капуста, такая ж смачная, як і ў нас дома, і беларускае сала, і паспела зварыцца бульба, і што гаспадар паказаў сябе майстрам засмажыць тое, што амерыканцы называюць «стэйкам» — кавалак ялавічыны з косткай, і дадаць да ўсяго гэтага шатландскае віскі, якое адразу надало вячэры завершаны характар,— можна хоць збольшага ўявіць сітуацыю вечара.

Цяжка сказаць чаму, але за сталом гаворка адразу выйшла на ўспаміны пра вайну, і пачаў яе Анатоль Аляксандравіч. Можа, прычынай была тая ж паездка, калі двойчы давялося перасякаць горад — і Гарлем, і Бруклін, і праязджаць паўз мёртвыя шкілеты кінутых людзьмі абгарэлых дамоў. А можа, прычына была іншая. Успаміналі, і ў кожнага была свая вайна, хоць кожнаму з нас тады, у вайну, было па чатыры-пяць гадоў.

Былі і голад, і холад, і страх смерці... Але асабліва ўразіў расказ Анатоля Аляксандравіча пра выпадак тых гадоў, пра тое, як ён выпадкова застаўся жыць.

Было гэта ў Барысаўскім раёне, адкуль ён родам. Карны атрад немцаў, разгарнуўшыся ў шарэнгу, з аўтаматамі напагатове, ішоў на той невялікі, парослы кустамі грудок зямлі, дзе, затаіўшыся, схаваліся ад немцаў хлапчукі і дзяўчаткі, малыя і старыя з іхняга сяла. Мужчыны былі ў партызанах, і немцы наладзілі аблаву — шукалі іх.

---

* Анатоль Аляксандравіч Мардовіч—работнік пастпрэдства БССР пры ААН; Эдуард Мартынавіч Скобелеў—пісьменнік.

Мне ўявіўся гэты страшны малюнак, як кадры запаволенай кінахронікі: прыгожы летні дзень, невялікі, абсыпаны кустоўем пагорак, на якім ледзь не з-пад кожнай галінкі пазіраюць чалавечыя вочы — вочы цярпення, вочы чакання, вочы жаху, вочы надзеі. Нават калі б гэта былі вочы аднаго чалавека, і то гэта было б жахліва... А там было паўсяла... І калі да пагорка заставалася некалькі дзесяткаў метраў, раптам раздаецца каманда (відаць, немцы вырашылі, што там нікога няма), і ланцуг, акуратна развярнуўшыся, пайшоў у бок другога пагорка... Там таксама былі сем'і, з іхняй жа вёскі. Усе гэта ведалі, і Анатоль таксама ведаў гэта. Неўзабаве там пачуліся аўтаматныя чэргі... Немцы прайшлі цераз пагорак і, выраўняўшы зблытаны строй, пайшлі прачэсваць наступны ўчастак.

Успамін гэты быў не выпадковы, і не выпадковы сёння... Ён нямым дакорам пастаянна жыве ў памяці Анатоля Аляксандравіча... Ішлі забіваць цябе, потым раптам павярнуліся і... пачалі забіваць іншых, такіх жа, як ты — тваіх суседзяў, тваіх сяброў. А цябе пакінулі. Пакінулі не таму, што пашкадавалі, а таму, што не знайшлі. І ўсё ж адчуванне віны за смерць тых, каго забілі, з той пары сядзіць у грудзях...

Далёка ўнізе, за акном, як заўсёды, некуды спяшаўся, жыў, гудзеў горад. Горад, які ніколі не ведаў, што такое сапраўдная вайна — з выбухамі снарадаў, завываннем авіяцыйных бомбаў, завываннем, якое папярэднічае той шматтоннай узрыўной сіле, якая за хвіліну ператварае ў бясформенныя груды цэглы, жалеза і бетону — тое, што рабілася цярплівымі рукамі гады, дзесяцігоддзі, стагоддзі. Горад, які па шчаслівасці лёсу свайго ніколі не ведаў, што гэта значыць, калі ў кожны дом прыходзіць вайна з абавязковай чорнай пячаццю смерці.

Ці можа гэты горад зразумець другі горад, той, для якога слова «вайна» — усё яшчэ жывая адкрытая рана? І ці захоча зразумець?

Чалавек пазнаецца ў бядзе — гэта праўда. Але ці абавязкова патрэбна бяда, каб чалавек знайшоў у сабе чалавека, каб чалавек пазнаў чалавека ў другім чалавеку?

Унізе, у прамым, як пад лінейку, разрэзе вуліцы паўзлі аўтамабілі — розных марак, розных колераў, розных памераў. Да мігцення рэкламных агнёў, размножаных шклом вітрын і чорнымі сценамі дамоў, яны дадавалі свае аганькі — ярка-рубінавыя. За рулём кожнага аўтамабіля сядзелі людзі, і кожны з іх спяшаўся даехаць да сваёй мэты...

Заўтра — свята Кастрычніка. Вечар у доме савецкіх дыпламатаў у Рывердэйлі, прыгарадзе Нью-Йорка, канцэрт, перад канцэртам — кароткая ўрачыстая частка.

Мы з дзяцінства прывыклі да Гімна, зжыліся з ім, здаецца, ведаем да малейшых нюансаў яго словы, яго музыку. А сабраліся ў гэтай зале разам, і ўдарылі гукі такой знаёмай, такой роднай мелодыі, затапілі ўсё, і адчуваеш, што робіцца з табой нешта незвычайнае. Заплюшчыў вочы і не хочацца расплюшчваць, хочацца пабыць яшчэ і з гэтай мелодыяй, і з усім, што ідзе за ёй...

Відаць, нешта падобнае адчуваюць маракі, калі на сваім караблі, закінутым на многія тысячы міль ад дому, слухаюць гэту музыку. Адчуванне радзімы жыве разам з разуменнем таго, што ты не адзін, што за табой стаіць нешта вельмі вялікае і вельмі дарагое — магутнае, добрае, прыгожае, непаўторнае. Як гэтыя піянеры, што выйшлі на сцэну,— у белых кашулях, з чырвонымі гальштукамі, са сваёй «Взвейтесь кострами...»

«У чабор твой, радзіма,
Хачу я
прытомленым тварам
зарыцца...»

Гэтыя цудоўныя радкі Пімена Панчанкі прыйшлі ў Амерыку перад святам разам са «Звяздой», і вось ужо колькі дзён цёплай музыкай гучаць ва мне, гавораць пра тое вялікае шчасце, якое чакае мяне наперадзе: вільготны ўзболатак дзе-небудзь на Клічаўшчыне, далей — яловы лес з застоенай цішынёй, вострым смаловым пахам і высокае сухое неба над галавой.

Выступаў у камітэце па пытаннях інфармацыі. Здаецца, атрымалася нармальна — і па фактах, і па форме падачы. Ва ўсякім выпадку — не было таго непатрэбнага эмацыянальнага нагрэву, які чуўся ў першым выступленні. Больш строгасці, сабранасці, аналізу. Тое самае гаворыць і Віктар Сяргеевіч *. Ён хваляваўся за маё выступленне не менш, чым за сваё.

«...Паток інфармацыі з буйнейшых капіталістычных краін у сотні разоў перавышае паток сустрэчнай інфармацыі з краін трэцяга свету, хоць у Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы жыве дзве трэці насельніцтва.

«Інфармацыйны імперыялізм» — хлусня і паўпраўда, прапаганда мілітарызму і сілы, пошласці і сексу, псіхалагічная вайна супраць сацыялістычных краін, дэмакратычных сіл і нацыянальна-вызваленчага руху.

...Толькі 161 амерыканская кампанія перадае за рубеж 200 тысяч гадзін тэлепраграмы ў год...» І гэтак далей.

Тут ёсць над чым задумацца.

Хадзілі ў кіно, глядзелі «Апакаліпсіс сёння» («Apocaljpse Now») Фрэнсіса Капалы.

Фільм пра амерыканцаў у час вайны ў В'етнаме. Пра тое, як адно вайсковае падраздзяленне пад камандаваннем палкоўніка Курца, жорсткага фанатыка-салдафона, пасля таго, як быў аддадзены загад спыніць баявыя дзеянні і вяртацца ў Штаты, не захацела падпарадкавацца агульнаму загаду і засталося ў джунглях працягваць вайну. Узброенае самай сучаснай зброяй, яно знаходзіць асалоду ў тым, каб агнём і мячом наводзіць свой «парадак» на гэтай чужой, далёкай і незразумелай зямлі. Сюды, у раён джунгляў, накіравана невялікая экспедыцыя на чале з абаяльным, мяккім, інтэлігентным — поўная процілегласць грубаму палкоўніку — капітанам Уілардам з місіяй любымі сродкамі прымусіць падраздзяленне вярнуцца дамоў...

Пасля цяжкой, поўнай драматычных і трагічных сітуацый дарогі, капітан Уілард знаходзіць палкоўніка Курца і, не маючы магчымасці прымусіць яго вярнуцца ў Амерыку, вымушаны засекчы яго, засекчы, каб... самому заняць яго месца. Дзікія тубыльцы вітаюць яго як збавіцеля і рады, каб ён застаўся тут...

Фільм сур'ёзны і страшны. Страшны можа не столькі жудаснымі, знятымі на мяжы натуралізму сцэнамі нічым не апраўданых смярцей і забойстваў, колькі бязлітасным анатаміраваннем той крайняй ступені азвярэння, да якой заўсёды прыводзіць узурпіраванне сілай (толькі таму, што ў нас болей верталётаў, бомбаў, патронаў і г. д.) права рашаць за другіх людзей, жыць ім ці не жыць, а калі жыць — то так ці інакш. Права, за якім ясна праглядаецца падноўленая на сучасны амерыканскі манер ідэя месіянства, ідэя ролі звышнацыі: «Мы прыйшлі да вас, і ўжо за гэта вы павінны дзякаваць...»

«Галоўнае, на што я разлічваў, працуючы над «Апакаліпсісам сёння», гэта стварыць фільм, які даў бы гледачам адчуванне жаху, вар'яцтва і бессэнсоўнасці в'етнамскай вайны і неабходнасці маральнага выбару, які яна дыктуе.

Я спрабаваў паказаць як можна болей твараў вайны. А яшчэ я хацеў, каб гэты фільм ішоў далей, да маральных вытокаў любой вайны ўвогуле.

Я хацеў, каб амерыканскі глядач змог зазірнуць у самае сэрца В'етнама, што В'етнам адчувае, як ён жыве...»

Гэта словы самога Фрэнсіса Капалы, з якімі ён палічыў патрэбным выступіць перад тым, як «Апакаліпсіс сёння» — фільм няпросты, неардынарны і неадназначны — пайшоў на экранах. І справядліва тое, што амерыканцы — тыя, хто не быў у В'етнаме і не мог уявіць, што гэта **такое**, атрымалі магчымасць убачыць, і што такое В'етнам, і што такое былі амерыканцы ў В'етнаме. І, канечне, ён прымусіць многіх задумацца.

Падзея нумар адзін — захоп амерыканскага пасольства іранскімі студэнтамі. І газеты — на першых палосах, і радыё, і тэлебачанне. У выбары слоў не саромеюцца. «Хамейні — фанатык», «Хамейні — дурань», «Колькі яны будуць трымаць нашых хлопцаў?». А за ўсім гэтым адно: «Як гэта яны асмеліліся нас, амерыканцаў?»

Штотыднёвік «Тайм» выйшаў з партрэтамі Хамейні і Картэра на вокладцы. Хамейні — упарты твар горца з цяжкім напружаным позіркам з-пад нахмураных броваў.

---

* Віктар Сяргеевіч Калбасін, работнік Міністэрства замежных спраў БССР.

Вельмі шмат ад талстоўскага Хаджы-Мурата. І вялы, з пячаццю не то непаразумення, не то вінаватасці твар Картэра. Адзін у адным кутку вокладкі, другі — у другім. Хто каго?

Картэр праводзіць адну за другой экстраныя нарады. Прымае рашэнне замарозіць іранскія ўклады ў амерыканскіх банках. А гэта, як пішуць газеты, ні многа ні мала дванаццаць мільярдаў долараў. Лічба адчувальная нават для Штатаў, ■ тым больш для Ірана.

Паведамляецца, што толькі багацці самога шаха ацэньваюцца ў два мільярды долараў, а ўсяго сямейства Пехлеві — у дваццаць. І тут жа падлік: каб сабраць такую суму, радавы іранец павінен быў бы працаваць, не трацячы ніводнага цэнта, больш чым дзевяць мільёнаў год.

«Калі кінуць погляд у мінулае, то ля крыніц усіх мільённых багаццяў, якімі сёння валодаюць даволі рэспектабельныя людзі, заўсёды стаялі жорсткасць, падман і злачынствы». Гэта словы Бальзака. Але ці толькі пра мінулае яны?

Паволі прыадчыняецца шырма над тым, з чаго складаюцца шахскія мільярды. Гаворыцца, што за мяжой («за мяжой» — гучыць даволі здзекліва, бо маецца на ўвазе «за межамі Ірана») у шаха ёсць (у Амерыцы) у Беверлі-Хілз віла на дваццаць сем пакояў коштам у 1,2 мільёна долараў, у Аспене (штат Каларада) маёнтак на 80 гектараў з аэрадромам, у Новым Арлеане — шыкоўная кватэра, два дамы, трыццацішасціпавярховы адміністрацыйны будынак. Ёсць дамы ў Мексіцы, Італіі, Іспаніі, ФРГ, на французскім беразе Жэнеўскага возера маёнтак «Шале-Пасагэ».

Гэта тое, пра што паведамляецца, а пра што не паведамляецца?..

Каля пяці гадзін раніцы. Неба толькі пачынае яснець. Зябка. Прыйшлі першыя сапраўдныя замаразкі, пабраліся лёдам рэдкія лужыны на вуліцах, ён крышыцца пад коламі машыны. Едзем на рыбны пірс, інакш — рыбны кірмаш аптовага гандлю. Заліў блізка, і рыбалоўныя траўлеры заходзяць прама ў горад, каб збыць свой улоў і зноў пайсці ў акіян. А адсюль рыба ідзе ў магазіны, рэстараны, сталовыя.

Пакруціўшыся па цэнтры горада, машына выскаквае на ўскраіну, хоць ускраіна гэта ў нейкім паўкіламетры ад Уол-стрыта — самай багатай вуліцы Нью-Йорка, з якой асацыіруецца ўся дзелавая Амерыка. Зноў нешта накшталт бедных кварталаў Гарлема ці Брукліна, двух-трохпавярховыя цагляныя дамы, пустэчы, смецце... Наперадзе гарыць нейкі агонь, усплёсквае полымя, валіць дым. Пажар? Аказваецца, не. На тратуары, метрах у двух ад праезджай часткі, гараць, скіданыя ў кучу, картонныя і фанерныя скрынкі, абгортачная папера. Ля агню трое дзяўчат-негрыцянак гадоў шаснаццаці-семнаццаці. Апранутыя ў нешта крыкліва-абшчыпанае, вельмі лёгкае для такой халоднай пары, яны грэюцца, працягваючы рукі да цяпла. Ноч ужо скончылася, але сапраўдны тлумны дзень яшчэ не наступіў, і яны бавяць час паміж сваёй начной работай і дзённым адпачынкам.

Шукальніцы так званага «лёгкага» заробку.

Успамінаецца расказ Ірыны Гладкоўскай, нашай мінчанкі, супрацоўніцы сакратарыята ААН, пра «дзяўчат на прыпынках». Ёсць тут і такі тэрмін, за якім стаіць вельмі няпростая праблема для буйных гарадоў Амерыкі. Пра яе ўжо не баяцца сур'ёзна гаварыць нават у сценах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Нявопытныя маладзенькія дзяўчаткі, многія з якіх не паспелі скончыць нават школу, уцякаючы ад манатоннай шэрасці сельскага побыту і тыраніі бацькоў, падкупленыя спакусай прыгожага гарадскога жыцця, кідаюць дом і едуць у горад — насустрач крыкліваму неонаваму агню. Вельмі часта — без грошай, без спецыяльнасці, без знаёмых. А тут, на канечных прыпынках аўтобусаў і цягнікоў, што прыходзяць з правінцыі, іх ужо чакаюць людзі, якія абяцаюць ім дапамагчы знайсці і працу, і жытло, і ўсё тое, дзеля чаго быў кінуты той пракляты дом. Так наіўныя дзяўчаткі трапляюць у рукі дзялкоў ад парнаграфіі і прастытуцыі, адкуль назад ужо ходу няма. Ці ў падпольныя прытоны, ці, як гэтыя, сюды, на вуліцу.

Рыбны кірмаш — гэта аграмадны, на дзесяткі метраў у шырыню і даўжыню крыты будынак з усёй неабходнай, вялікай і малой, механізацыяй, чотка арганізаванай для прыёмкі і раздзелкі свежай рыбы. Камбала, стаўрыда, хек, сяўруга, тунец... Той тунец, паваяваць з якім адзін на адзін у адкрытым моры любіў Хемінгуэй,— цёмна-матавае жывое бервяно метраў чатырох-пяці, улагодзіць якое ў вадзе можа толькі сіла, цярпенне і ўдача.

Пахне морам, свежай рыбай, лёдам. То там, то тут сярод работнікаў кірмашу мільгаюць рыбакі — негаваркія людзі ў ярка-чырвоных куртках, пасіверанныя, загрубелыя твары, нетаропкія, эканомныя рухі...

Ёсць **свая** палітыка цэн на кірмашы і ў магазінах. Тая ж самая рыба: камбала, хек, сяўруга, што ляжыць тут у чанах і на стэлажах, і за якую пакупнік плоціць на кірмашы пэўную суму, прывезеная ў магазін, хоць ён усяго за нейкія дзвесце-трыста метраў, але ўжо загорнутая ў герметычную цэлафанавую плеўку з магазінным штампам, будзе каштаваць у два, а то і болей разоў даражэй. А гэты фактар пры вельмі высокіх існуючых цэнах на прадукты мае для гараджан немалое значэнне.

Прыкладна такое ж становішча з цэнамі і на сельскагаспадарчую прадукцыю — мяса, бульбу, хлеб. Тыя самыя два фунты ялавічыны (амерыканскі фунт — чатырыста пяцьдзесят грамаў), за якія пакупнік на кірмашы плоціць пяць долараў, у магазіне, расфасаваныя на больш дробныя порцыі, каштуюць усе дзесяць долараў. Праўда, самому фермеру, на пашы якога бегаў, рос, нагульваў мяса (ужо светлай памяці) бычок, з гэтай дзесяткі дастанецца не болей двух-трох долараў. Астатнія сем-восем долараў ідуць тым, хто яго даставіў на бойню, забіў, асвежаваў, упакаваў і нарэшце — прадаў.

І яшчэ пра цэнты... Фунт хлеба — у залежнасці ад гатунку — каштуе ад васьмідзесяці цэнтаў да долара. Канечне, гэта надта дорага. І не толькі калі гэтую цану параўнаць з нашымі шаснаццаццю капейкамі за кілаграм. Але калі падумаць і пра тое, што хлеб — гэта тое, што трэба кожнаму чалавеку кожны дзень і некалькі разоў на дзень, і што ён не паддаецца ніякай сінтэтычнай замене. Ён можа быць белы, можа шэры («чорнага», які любім мы і да якога прывыклі, амерыканцы амаль не выпякаюць), можа быць цвярдзейшы ці мяккі як вата, але ён павінен быць х л е б а м. І калі бачыш, з якой пільнай увагай чалавек знаёміцца з праштампаванай на цэлафанавай абгортцы цаной, пачынаеш разумець павагу, з якой ён ставіцца да хлеба. Павагу, прадыктаваную доларам. Разумееш і яшчэ адно: наўрад ці знойдзецца тут хоць адзін чалавек, якому б стукнула ў галаву карміць свіней хлебам, плацячы долар за фунт.

Некалькі дзён неяк не звяртаў увагі на плюшч, а сёння раніцой заўважыў, што лімонна-белых лістоў яшчэ паболела, многія абсыпаліся, кантрасней азначыліся жылкі бакавых стрэлак. Цёмная сцяна з плюшчом уявілася напаўпраяўленым негатывам, кінутым у ванначку з растворам. Паволі ажывае, святлее то адзін, то другі элемент, каб потым зусім знікнуць. З-за ператрымкі.

Амерыка любіць толькі сябе. І ўсё, што яна робіць — і ў сябе дома, і за межамі свайго дома,— робіць з пазіцый гэтай самалюбові, аснову якой у рэшце рэшт складаюць грошы і выгада. А грошы, як і карты, радні не прызнаюць.

Да гэтых справядлівых, хоць і сумных высноў прыходзіш тым болей, чым болей знаёмішся з законамі тутэйшага жыцця. Долар — адзіная рэальная мерка ўсяго і ўсіх, і пра гэта не тое што не саромеюцца гаварыць, а наадварот, гавораць усе і ўсюды — газеты, радыё, тэлебачанне, рэклама, дарослыя і дзеці, на вуліцах і дома.

Гэта спачатку здзіўляе, потым пачынае надакучаць, потым злаваць, і ўсё будзе датуль, пакуль ты не зразумееш, не адчуеш, не скажаш сабе, што гэта і ёсць рэальнасць амерыканскага жыцця, што гэта яго паветра, а без паветра — болей ці меней чыстага — чалавек не можа жыць. Тэрмін «умець рабіць грошы», пра які ўспамінаў яшчэ Маякоўскі,— не нейкая абстракцыя, а канкрэтная малітва, як «Ойча наш», з якой амерыканец пачынае пазнаваць свет і з якой пакідае яго.

І ўсё гэта на фоне міфа, створанага стараннямі двухсотгадовай самазадаволенасці, што Амерыка — самая, самая, самая...

Самая магутная, самая багатая, самая дэмакратычная...

Кропля дробіць камень. І гэта праўда. Сіла кроплі не ў вазé, а ў пастаянстве. Амерыканская прапагандысцкая машына — не кропля, гэта нешта нашмат страшнейшае, але што датычыцца прапаганды амерыканізму і яго выключнасці, то сілу пастаянства кроплі яна выкарыстоўвае з паслядоўнасцю фанатычнай.

У 1976 годзе ў Вашынгтоне быў урачыста адкрыты Нацыянальны музей аэранаўтыкі і касманаўтыкі. Вялікі, быццам састаўлены з масіўных ружаватых і шэрых блокаўскал, будынак, у якім хапае месца ўсяму — ад першых паветраных шароў, дэльтапланаў і самалёцікаў да навейшых аэралайнераў, касмічных ракет і лабараторый.

Свет памятае «біп-біп» першага штучнага спадарожніка Зямлі, закінутага на арбіту савецкай ракетай, тое «біп-біп», якое сказала ўсім, што чалавецтва прарвала шкарлупіну зямнога прыцяжэння і зрабіла першы крок у космас.

Свет добра памятае касмічны голас Юрыя Гагарына, памятае яго поўныя захаплення словы: «Бачу гарызонт Зямлі. Такі прыгожы арэол!»

Абхадзіўшы ўсе дваццаць шэсць выставачных залаў музея, пабываўшы ў салоне «Боінга-747» і лабараторным адсеку арбітальнай станцыі «Скайлэб», паглядзеўшы кінакадры пра прылуненне амерыканцаў і агледзеўшы самалёты часоў другой сусветнай вайны, падзівіўшыся на ракеты — ад сумнай памяці «Фаў» да цяперашніх, касмічных, перапоўнены ўражаннямі ад убачанага, стомлены чалавек адпраўляецца дамоў.

Але калі вырашыць застацца яшчэ, то можа здарыцца так, што ў закутку адной з бакавых залаў ён натрапіць на прышпілены да сцяны белы ліст паперы велічынёй з газетную палосу, на якім дробным шрыфтам напісана, што першы штучны спадарожнік Зямлі быў запушчаны ў 1957 годзе. Якая краіна запусціла — не ўказана. А калі яшчэ чалавеку ўздумаецца задраць галаву ўгору — то ён можа ўбачыць некалькі прымацаваных да столі газет з партрэтам Юрыя Гагарына...

І тут жа, у гэтым цесным закутку, стаіць трохметровая скульптура: дзядзька Сэм у паласатых штанах і паласатым пінжаку — і палоскі, і колер адпавядаюць дзяржаўнаму сцягу Амерыкі — і трымае ў руцэ шар. Не то Зямлю, не то штучны спадарожнік, не то ўвесь Космас!..

І калі чалавек у час пахаплівай музейнай беганіны не звярнуў увагі на састыкаваныя караблі «Саюз» і «Апалон», падвешаныя ў ракетнай зале, то ён можа і зусім не ведаць, якое дачыненне Савецкі Саюз мае да космасу, да авіяцыі і... да ўсяго іншага.

Газеты працягваюць пісаць пра амерыканскіх заложнікаў. Іран патрабуе выдачы шаха і вывезеных ім багаццяў, Амерыка не хоча ні аддаваць, ні выдаваць.

І ўсё ж... Амерыка даўно не ведала, што такое сапраўдны чалавечы боль, не адчувала патрэбы ў чалавечым спачуванні і не дапускала думкі, што такая патрэба ў нейкі бліжэйшы час можа ўзнікнуць. І тут яна проста разгубілася...

Разумееш, што па дыпламатычных канонах іранцы выбралі недыпламатычны, недапушчальны ход. Ёсць такое, што не павінна быць дазволена нікому. Гэта разумееш не толькі таму, што сам жывеш у цэнтры Нью-Йорка, што пры жаданні паліцыя можа вельмі лёгка арганізаваць нешта падобнае на тэгеранскае і тут. Разумееш...

І ўсё-такі сімпатыі на баку іранцаў. І не таму, што адразу на памяць прыходзіць эпізод з савецкім самалётам у аэрапорце Кенэдзі, калі нью-йоркская паліцыя са згоды ўрада трое сутак трымала пад арыштам савецкіх людзей, не дазваляючы ім вылецець дамоў.

Там была свая палітыка. Картэру трэба было паварочваць руль на адзнаку «халодная вайна». А кожнае «трэба» трэба з нечага пачынаць.

А тут... Здаецца, што толькі Амерыка можа такое: дзесяцігоддзі ездзіць на чужым бензіне (скажам, іранскім) і плаціць за гэты бензін... іранскім золатам. І плаціць так, каб золата засталося ў Амерыцы. І калі іранцы сказалі, што хочуць забраць яго, Амерыка, як гэта яна ўмее добра рабіць, паказала ім кукіш.

Амерыканцы гавораць: «Калі вы не бачылі Нью-Йорка, вы не бачылі Амерыкі, але калі вы бачылі толькі Нью-Йорк, вы таксама не бачылі Амерыкі». У гэтых словах вялікая праўда. Нью-Йорк — горад-монстр, горад-выключэнне, хоць разам з тым горад, які магла выгадаваць толькі Амерыка — з усім яго антаганізмам, паразітызмам, злачыннасцю.

Сама ж Амерыка — двух-трохпавярховая, нешта накшталт Хартфарда — ціхага гарадка ў штаце Канекцікут, сусветную славу якому прынёс невялікі зямельны ўчастак, які ў сямідзесятых гадах мінулага веку купіў нехта Сэм Клеменс. Купіў, а потым пабудаваў на ім домік — нешта сярэдняе паміж каравелай і царквой.

Містэра Сэма Клеменса наўрад ці памятаў бы сённяшні свет, ды і сама Амерыка, калі б не раманы «Прыгоды Тома Сойера» і «Прыгоды Гекльберы Фіна», якія ён напісаў у гэтым жа доміку, памеціўшы псеўданімам Марк Твен. І хоць фінансавыя цяжкасці прымусілі гэтага вясёлага чалавека прадаць і зямельны ўчастак, і домік і з'ехаць з Хартфарда, праз нейкі час (на жаль, пасля яго смерці) домік быў адкуплены назад, і цяпер у ім знаходзіцца мемарыяльны музей пісьменніка.

Сярод многіх цікавых экспанатаў, якія расказваюць пра сям'ю Марка Твена, стаіць там масіўны драўляны ложак тонкай і багатай разьбы, які па спецыяльным заказе прыплыў сюды з далёкай Еўропы, стаіць маленькая пішучая машынка пісьменніка «Олівер», більярд, ёсць і веласіпед з рознавысокімі коламі, на якім пісьменнік выязджаў на прагулку. Цяжка ўявіць сабе такі веласіпед на вуліцах затлумленага, забітага машынамі Нью-Йорка, а тут...

Стаяў ціхі дзень цёплай восені, раніцай прайшоў дождж, і збітыя лісты клёнаў ляжалі на шэрых бетонных дарожках тратуараў.

І туман, і бязлюддзе, і цішыня стваралі ўражанне, што гарадок спіць сном даўняга — мінулага веку, і нічога дзіўнага не было б у тым, калі б з-за паварота, які хавае спуск ад доміка ўніз, раптам выкаціў веласіпед з рознавысокімі коламі, і на ўзвышэнні яго, як вясёлы вусаты бог, сядзеў бы не хто іншы, а сам Марк Твен.

Няшмат спатрэбілася часу, каб наша машына выехала за горад і ўлілася ў няспынны машынны паток трохраднай бетоннай паласы і са скорасцю ў сотню кіламетраў панеслася наперад — з дзевятнаццатага веку ў век дваццаты, з соннай цішыні Хартфарда ў дзікі грукат Нью-Йорка, але сумныя вочы вялікага аптыміста яшчэ доўга бачыліся нам.

Недзе ў канцы жніўня нью-йоркскае тэлебачанне паведаміла, потым гэта паведамленне было шматразова паўторана і перадрукавана газетамі: «Сёння ў нас сенсацыйны дзень: упершыню за гэты год у Нью-Йорку не аграблена ніводнага банка».

Гэта паведамленне можна было б прызнаць за жарт ці аднесці ў скарбонку чарговых заявак на сенсацыю любой цаной, калі б яно не было горкай праўдай. Праўдай, якая гаворыць больш, чым самая крыклівая сенсацыя.

Згодна афіцыйнай статыстыцы, на руках у прыватных асоб у Амерыцы звыш ста мільёнаў адзінак агнястрэльнай зброі. Іншымі словамі — прыкладна кожны другі амерыканец (незалежна ад полу, узросту і г. д.) мае ці пісталет, ці карабін, ці нават кулямёт.

І таму зусім не здзіўляешся аб'яве, вывешанай у атэлі: «Гаспадар атэля не нясе адказнасці за бяспеку жыхароў і захаванне іх маёмасці». (За бяспеку жыхароў, якія плоцяць яму ў месяц па чатырыста-пяцьсот долараў!)

Ці таму факту, што сама паліцыя раіць кожнаму чалавеку мець пры сабе грашыма хаця б долараў дваццаць, каб адкупіцца ад дробных грабежнікаў ці наркаманаў. Тая ж паліцыя лічыць пажаданым, каб гэтыя грошы былі ў верхняй знешняй кішэні пінжака. Бо калі вы палезеце ва ўнутраную кішэню, грабежнік можа вас не зразумець. Ён можа падумаць, што там у вас зброя, і хто ведае, чым усё скончыцца...

Гэты невясёлы напамін прыйшоў, як гэта часта бывае, з малога і канкрэтнага. Трапілася на вочы ў «Нью-Йорк таймс» пісьмо пастара Гары Бірна «Грамадству патрэбна драконаўская справядлівасць».

«Апошнія падзеі ў маім прыходзе,— піша пастар,— наступныя: маладая жанчына забіта ў сваёй кватэры (адрас — **А. К.**); старая жанчына зняважана (адрас); маладая жанчына забіта ў сваёй кватэры (адрас).

Пасля месы ў нядзелю я гаварыў з Джонам Д., шасцідзесяці двух год. Ён сказаў: «Я нічога не магу зрабіць, гэта вока амаль зусім не бачыць». Над ім у апошні час гэтак страшна пажартавалі. У яго вынялі адно вока, левае вока.

Маргарэт М., 82 гады, вярнулася з царквы. Грабежнік знахаліў яе ў яе ж уласнай

кватэры некалькі месяцаў таму назад. Яна будзе дрыжаць на працягу ўсіх астатніх год яе жыцця ад той знявагі, якую яна перанесла.

Мэры В. не ўсміхаецца. Яна нарадзілася ў Парыжы 75 год таму назад. На працягу пэўнага часу яна вяла нармальнае жыццё, любіла ўспамінаць пра цывілізацыю, пра цудоўныя гады, праведзеныя ў Парыжы... Некалькі тыдняў таму назад яна застала ўзломшчыка, які залез у яе кватэру. З ёй самой нічога не здарылася, хоць грабежнік і пагражаў ёй. Але ўсе яе каштоўнасці, усе зберажэнні, што яна сабрала на працягу ўсяго жыцця, было забрана...

Гэта мой прыход, мае суседзі. У мяне няма свабоды выбару, калі праводзіць царкоўную службу. Нашы людзі настолькі запалоханы, што яны зачыняюцца дома, сядзяць вечарамі і нікуды не выходзяць.

Я глыбока перакананы, што пагроза атамнай вайны — гэта тое, што затуманьвае галовы людзей. Тое, што ўрад расходуе столькі сродкаў на гэта, з'яўляецца нажом, які ўсадзілі ў цела народа.

Пра якую свабоду можа ісці гаворка, калі людзей майго прыхода забіваюць, нахаляць, робяць іх сляпымі».

Вечарам зайшоў на кухню, а там, як на ступеньках, сядзяць, звесіўшы ногі, малыя — на стале, на меншым халадзільніку, на большым. І сама вышэй, пад столлю, усё той жа Сярожка, ніжэй — Оля, яшчэ ніжэй — Паўлік. І так міла гавораць між сабой, вырашаючы нейкія свае, вельмі сур'ёзныя пытанні.

— Чаму вы самага малога пасадзілі так высока? Ён жа зваліцца можа?! — пытанне Паўліку.

— А мы зловім. А калі мы будзем адтуль ляцець — ён не зловіць.

Свая дзіцячая логіка, свая хітрасць.

Затурканы індустрыяльным векам чалавек не заўсёды знаходзіць час, каб спыніцца і прыдзірліва зірнуць на самога сябе, а то і спытаць: «Хто я?», «Што са мной робіцца?» і нарэшце «Куды я бягу?». І, канечне, у яго не хапае часу, каб хаця напаўсілы скарыстаць вялікае шчасце, падараванае лёсам: уменне радавацца прыгажосці акаляючага жыцця; новай раніцы ў небе, за ракой, за лесам; надыходзячаму летняму вечару; мілай усмешцы, якой усміхнулася жанчына ў перапоўненым аўтобусе,— толькі яму і толькі ў той міг...

Словам, ці мала ёсць цудоўнага і непаўторнага, таго, што мы па «звышзанятасці» сваёй і інертнасці (а можна сказаць, і па ленасці) развучыліся бачыць, не ўмеем бачыць, не хочам бачыць. Засяродзіўшыся на самім сабе, на дробязях зменлівага быту, бяжым, спяшаемся, быццам наперадзе — недзе зусім блізка, можа, нават за першым паваротам, нас чакае нешта выключнае, адзінае, «тое самае», касмічнае, з-за чаго варта і бегчы, і спяшацца, і жыць...

Як паказвае жыццёвая мудрасць, там, за гэтым вуглом, чалавека або не чакае нічога «такога», або чакае нешта зусім не «тое». Бо незвычайнае жыве побач са звычайным, яно жыве ў нас саміх, яно неадрыўна ад радасці адкрыцця, ад чакання гэтай радасці. Бо, мусіць, самая вялікая радасць — гэта чаканне яе.

І вось, стомлены пражытым днём і гэтым бегам за самім сабою, шукаючы супакаення, чалавек вяртаецца ў свой пакой. І яму на вочы трапляе невялікі фотаальбом Валянціна Ждановіча «Бераг белых буслоў». Ён бачыў гэты фотаальбом дома, ён трымаў яго ў руках, сам узяў яго сюды, у Амерыку,— так, на ўсякі выпадак, можа, трэба будзе паказаць каму-небудзь...

Але сёння... Ён неяк па-новаму зірнуў на яго і раптам адкрыў для сябе вось гэта... ...Прыцёршыся ля нізкага берага, заснулі рабацягі-лодкі. Недзе далёка, за шырокай прыціхлай вадой — купка вербаў, апаясак зямлі, за якім — бязмежнасць. І неба глядзіцца ў ваду, і лодкі глядзяцца самі ў сябе. І здаецца чалавеку, што ён не адзін раз быў ля гэтай вады, бачыў гэтыя лодкі, гэтыя далёкія кучаравыя вербы, больш таго, ён з цвёрдай упэўненасцю можа сказаць, дзе ён быў тут, у якім месцы стаяў і што гэта яго сляды помніць гэты пясчана-глеісты бераг...

Вялікая тайна схопленага вокам фотаапарата і ўвекавечанага назаўсёды імгнення жыцця зямлі за некалькі хвілін да наступлення вечара ўзяла ў палон душу чалавека,

паклікала з глыбіні памяці нешта надта дарагое, надта сваё — тое, што некалі было з ім ці з некім іншым, што ён перажыў, адчуў, і як быццам забыўся, хоць яно і жыло ў ім пастаянна. Жыло, толькі трэба быў нейкі раптоўны штуршок, які б даў новае жыццё «таму» глыбіннаму... Штуршком гэтым стала, здавалася б, такая простая карціна...

І чалавек ужо забыўся і на тлумны працоўны дзень, і на стому, і на тое, дзе ён і што кругом яго. Ён застаўся адзін на адзін з кнігай. Хаця не, не з кнігай. Адзін на адзін са сваёй зямлёй, яе цудоўнай прыродай, учарашнім і сённяшнім днём.

Асцярожна, быццам баючыся спалохаць гэту нечаканую радасць адкрыцця, радасць быць далучаным да нечага вялікага і вельмі добрага, ён перагортвае старонку за старонкай, падоўгу затрымліваючыся на кожнай.

Ці то гэта шырокапанарамная карціна Нарачанскага краю, Панямоння, ці чароўныя ў чысціні фарбаў і непадробнай красе пейзажы Прыдняпроўя, Палесся і Міншчыны, ці то гэта будзе ўсяго толькі куточак асенняга лесу, ці беражок летняга лугу, ці схіл заснежанага пагорка з халодным сонцам на гарызонце,— ва ўсім адчувалася вока, неспакой, пошук і мера мастака.

І глыбокі роздум аб вялікім і вечным — аб нашай роднай зямлі, аб яе прыгажосці. Аб чалавеку — не толькі і не столькі спажыўцу гэтай прыгажосці (хаця і спажываць трэба ўмеючы), колькі аб захавальніку яе.

У Цэнтральным парку, на асфальце галоўнай алеі, па баках якой важна стаяць помнікі сусветна вядомым пісьменнікам — Шэкспіру, Андэрсану, на якой любяць катацца на ролікавых каньках нью-йоркцы, мелам даволі прафесійнай рукой нанесены малюнак: барадаты Хамейні з пісталета страляе ў амерыканскі сцяг, у той час, як амерыканскі марскі пехацінец усадзіў яму нож у спіну. На аяталу пікіруе і амерыканскі самалёт.

Усё тая ж праблема заложнікаў. І рашэнне яе чыста амерыканскае.

Вячэрні Нью-Йорк. Бясшумны цёплы дождж накінуў на горад люстэркі — на тратуары, сцены дамоў, машыны, плашчы людзей. Вячэрнія агні жывуць, мігцяць, пераліваюцца ўсюды, куды собіць зірнуць. Не маючы сілы адолець душны змрок неба і чарнату ночы, агні быццам выконваюць ролю падсветкі — паказваюць дарогу і адначасова папярэджваюць аб магчымай небяспецы. Можа таму і машын, і людзей на вуліцах так мала. Усе стараюцца куды-небудзь схавацца ад гэтай слізкай халоднай прыгажосці.

Схаваліся і мы — ва ўтульны нямецкі бар з высокім прыветлівым гаспадаром-барменам, сентыментальнай акардыённай музыкай, рагамі касуль і ласёў на сценах, вострым чорным півам і традыцыйна-нямецкімі каўбаскамі.

Нью-йоркская нямецкая калонія налічвае трыста тысяч чалавек і, як усе іншыя калоніі, трымаецца кучна: свае вуліцы, свае магазіны, свае рэстараны. Гэты інстынктыўны нацыянальны калектывізм дапамог выжыць першым нямецкім перасяленцам некалі, дапамагае ён у барацьбе за месца пад амерыканскім сонцам іх нашчадкам і цяпер. Дапамагаюць мелодыі, песні, словы — слёзны напамін пра тое, што недзе далёка за акіянам ёсць зямля Гётэ і Гейнэ — іх далёкая родная зямля.

Сядзім за невялікім, аддзеленым ад залы чыста сімвалічнай — усяго некалькі вузенькіх штакецінак — сценкай. Прыглушаная сумная мелодыя ў гэтым па-хатняму ўтульным бары з прытушанымі свяцільнікамі трывожыць, наводзіць на думкі пра дом, пра блізкіх, і мы маўчым.

У мяне з галавы не выходзіць нядаўняя сустрэча ў рэдакцыі «Русского голоса», невялікай (фармату нашых раённых) газеты, якая доўгія дзесяцігоддзі — і ў пару халоднага пасляваеннага міжнароднага клімату, і пры яго пацяпленні, і цяпер, калі зноў пацягнула холадам,— расказвала і расказвае праўду пра Савецкі Саюз рускім амерыканцам. Тым выхадцам з Расіі, Украіны, Беларусі, у каго ў сэрцах засталася любоў да сваёй зямлі, да свайго народа, вера ў сваю зямлю, у свой народ. Іначай як мужнасцю і самаахвярнасцю не назавеш тое, што робяць далёка не маладыя ўжо Фёдар Дзераўнюк і Іван Смалей і іх памочнікі, выдаючы ў цесных пакойчыках, на састарэлым абсталяванні, часам на свае грошы, гэтую газету...

У вядомага амерыканскага навеліста Джона Чывера ёсць невялічкая навела «Залаты век». У ёй расказваецца пра добрапрыстойную сям'ю амерыканцаў — ён сцэнарыст тэлебачання, прыгожая жонка, два хлопчыкі, узброеныя пластмасавымі аўтаматамі,— якая прыехала ў старадаўні рыбацкі пасёлак у Італіі, у ціхі куток, куды не даходзяць ні цягнікі, ні аўтобусы, ні турысты... І вось тут, у гэтым ідылічна-старадаўнім месцы, ён, чалавек яшчэ не зусім сапсаваны цывілізацыяй, раптам бачыць, што тут усё не так ідылічна, як здавалася спачатку.

Яго хлопчыкі «страляюць» з аўтаматаў, інакш — гуляюць у забойства, падаюць, імітуючы перадсмяротныя стогны і сутаргі ў той час, як дзеці мясцовых жыхароў збіраюць палявыя кветкі, спяваюць і танцуюць.

І амерыканец думае, што вінаваты ва ўсім гэтым бірузовы праменьчык тэлевізара, гэта ён ператварыў дзяцей з маракоў у каўбояў, з рыбакоў — у гангстэраў, з пастухоў — у малалетніх злачынцаў. А значыць, вінаваты ён сам, чалавек, які піша сцэнарыі для тэлебачання, хоць і саромеецца прызнацца ў гэтым людзям. Але яшчэ болей ашаламляе яго другое адкрыццё. На сцяне велічнага сярэдневяковага замка ён прачытаў словы: «Americane go home, go home!» — «Амерыканцы, зматвайцеся дамоў!»

Калі былі напісаны гэтыя словы? Пасля вайны? Ці нядаўна?

Дасюль ён лічыў, што ўсе яго любяць і ўсе чакаюць. І дома, і за акіянам. Пра гэта гаварылі і радыё, і тэлебачанне (на якое ён працуе!), і параходныя, і авіяцыйныя кампаніі, нарэшце — урад... А аказваецца вось што...

Навела напісана ў шасцідзесятыя гады.

За многія дзесяцігоддзі бесперастаннай працы амерыканская прапаганда так закалыхала людзей, што яны сапраўды паверылі ў выключнасць Амерыкі і амерыканцаў. Амерыканскае — значыць, самае, самае, самае...

І раптам з'яўляецца нейкая Куба, невялічкі востраў, казяўка ў параўнанні з пан-Амерыкай, і мае смеласць заявіць, што не любіць Амерыку, не хоча Амерыкі, што яна аб'елася Амерыкай.

І з гэтым, як ні горка, даводзіцца прымірыцца.

Потым з'яўляецца В'етнам, зноў невялічкая краіна са шматпакутным мужным народам, і яна таксама заяўляе, што не хоча, не можа любіць Амерыку...

Потым з'яўляецца Іран...

Іран раззлаваў болей за ўсё. Бо наступіў на нафтавы хвост Амерыкі. І хоць гэта не галава і не тулава, а толькі хвост... Праўда, хвост не такі ўжо і маленькі. За апошнюю чвэрць века Міжнародны нафтавы кансорцыум, сорак працэнтаў акцый якога належалі амерыканскім кампаніям, вывез з Ірана больш за два з паловай мільярды тон нафты. А што такое нафта для Амерыкі?

Пры пяці працэнтах сусветных запасаў нафты ЗША «з'ядаюць» 31 працэнт нафты, якую здабывае капіталістычны свет, у той час, як уся Заходняя Еўропа бярэ 23,4 працэнта.

Калі сёння спажыванне нафты ў краінах трэцяга свету складае ў год паўтоны на душу насельніцтва, у развітых краінах — чатыры тоны, то ў Злучаных Штатах — восем тон. Вось, аказваецца, якія «амерыканскія інтарэсы» абараняе Картэр у Персідскім заліве.

Уільям Фолкнер, буйнейшы амерыканскі пісьменнік дваццатага стагоддзя, меў мужнасць сказаць такое:

«...Сёння ў Амерыцы любая арганізацыя ці група ўжо толькі таму, што дзейнічае пад маркай Свабоды Друку, ці Нацыянальнай Бяспекі, ці Лігі Барацьбы з Падрыўнымі элементамі, можа прысвоіць сабе безраздзельнае права не лічыцца з індывідуальнасцю любога, хто ў сваю чаргу не з'яўляецца членам якой-небудзь арганізацыі ці групы ці недастаткова багаты для таго, каб пугануць іх.

Амерыканскае неба, якое было некалі бяздонным царствам свабоды, амерыканскае паветра, якое некалі было напоена жывым дыханнем незалежнасці, ператварыліся цяпер у гіганцкую замкнёную атмасферу, якая душыць і тое, і другое, якая адбірае ў чалавека чалавечую індывідуальнасць, якая пазбаўляе (наступны крок) яго апошняга прыстанішча — асабістага жыцця, без якога чалавек не можа існаваць як асоба. Сама архітэктуры нашага жыцця з'яўляецца папярэджаннем. Раней сцены нашых дамоў не давалі нічога ўбачыць: ні таго, што робіцца ўсярэдзіне, ні таго, што адбываецца звонку. Цяпер можна ўбачыць тое, што адбываецца звонку, хоць сцены яшчэ дастаткова

моцныя, каб схаваць тое, што робіцца ўнутры. Настане час, калі будзе відно і тое, і другое. Тады асабістае жыццё сапраўды знікне: чалавек, у якога індывідуальнае пачуццё развіта хаця б настолькі, каб захацець у адзіночку змяніць кашулю ці памыцца ў ваннай, будзе закляймёны агульным Голасам Амерыкі як асоба, якая падрывае асновы амерыканскага ладу жыцця і якая нясе пагрозу незалежнасці амерыканскага сцяга».

Гэтыя словы сказаны дваццаць пяць гадоў таму назад. Гледзячы на жыццё сённяшняй Амерыкі, асабліва на фоне амерыкана-іранскага канфлікту і перадвыбарнай гульні Картэра, задаешся пытаннем: «Ці не настаў ужо для Амерыкі той час, пра які з такім болем пісаў Фолкнер?» І ці не ёсць паспешлівая і суматошлівая эскалацыя ваенных падрыхтаванняў жаданнем перакінуць тлеючыя вугалькі пажару са сваёй хаты далей на сяло?

Паехалі на бераг акіяна, на пляж Нью-Рашэль — заліў з каменнымі астравамі, дзікім недагледжаным дубова-грабавым лесам, можа і прыгожым перш за ўсё гэтай дзікасцю і недагледжанасцю. Зялёная палеглая трава ўжо гатова сустрэць першы снег. Апалае лісце мякка сцелецца пад ногі, у паветры стаіць пах восені — пах вянучага, але яшчэ не прэлага лісця.

Цёмная вада заліва рытмічна набягае на чорныя лабякі залізаных скал, прарэзаныя жыламі чырвона-белых гранітных украпленняў, абмывае іх, змывае, размывае. Вельмі доўга, бясконца доўга давядзецца акіяну працаваць, каб змяніць нешта з таго, што падсунула яму тут прырода. Але, відаць, праца гэта сваім пастаянным нязменным рытмам даспадобы і яму, і скалам прыемна адчуць на сабе цяжкую ласку акіяна.

Па заліве прашмыгнуў катэр, далёка ад берага прайшла яхта на белых парусах. Яна доўга была на вачах, ішла не спяшаючыся, быццам сама па сабе, без волі ветру і матора, на нейкім сваім унутраным жаданні. Глядзеў на гэту грынаўскую яхту, і думалася, што калі доўга плысці ў той бок, дзе яна знікла, то цераз многа міль пакажацца Еўропа, а гэта значыць — і мой дом. Як там усё? Ведаеш, што ўсё павінна ісці і напэўна ідзе сваім ходам, але чым бліжэй час ад'езду, думкі пра гэта перарастаюць у клопат, нібы ты ўжо сапраўды не тут, а там.

Восем гадзін раніцы. У акне заіскрыліся белыя blікі. Няўжо прабілася сонца? Не. Аказваецца, гэта люстраныя зайчыкі ад вокан высокага будынка злева. Але стала нейк весялей ад думкі, што ўсё ж недзе ёсць і сонца, і яно некаму свеціць і некага грэе.

Аятала Хамейні заявіў, што галоўны вораг Ірана — гэта прэзідэнт ЗША. Ён «паклаў пачатак гэтаму крызісу тым, што даў прытулак разбойніку».

Расстанне з Радзімай заўсёды цяжка перажываецца, і сапраўды патрэбен час, каб гэты боль прытупіўся, нават калі ты пакідаеш сваю зямлю на такі невялікі час — усяго на некалькі месяцаў.

І ўсё ж да Нью-Йорка, да Амерыкі, мне здаецца, наш чалавек ніколі не зможа прывыкнуць. Не таму, што тут усё дрэнна,— ёсць шмат чаго, чаму можна пазайздросціць, павучыцца, асабліва ў пытаннях умення гаспадарыць,— а таму, што ўсё, што датычыцца чалавека,— н е н а ш а. Чалавек тут адзін — з механізмаў, уключаных у магутную, старанна, з дапамогай самых сучасных камп'ютэраў спланаваную машыну эканомікі, і ён бяссільны, ён нявольны вырвацца з яе, пакуль яна сама не перамеле яго і не выплюне, як сабака выплёўвае шалупайку з'едзенага яйка. Ёсць грошы — і ты чалавек, няма грошай — і ты нішто, і нікому няма да цябе справы.

Толькі тут, толькі сутыкнуўшыся твар у твар з гэтай бяздушнай машынай эканамічна выверанай бездухоўнасці, узведзенага на самы высокі п'едэстал індывідуалізму, пачынаеш па-сапраўднаму разумець значэнне ўсяго таго, чалавечага і чалавечнага, што стаіць у нас за словам «наша».

Сапраўды, Амерыка жалезная, Амерыка стальная... Тут цудоўныя дарогі, прыгожыя масты, магутная тэхніка... Але Амерыка згубіла сваю ідэю. Правільней, не згубіла, а яе ідэя — маленне на залатога цялка — прывяла да таго, што цэніцца толькі матэрыяльнасць, і чым болей яе, тым вышэй цана. Адкрыццё гэта не новае, гэта тое, пра што мы ведалі, і, мусіць, не хапала толькі ўбачыць усё гэта, каб са страхам адчуць, куды і да чаго можа гэта ідэя прывесці.

На сцяне насупраць майго акна няма ўжо ніводнага лісточка. Усе — нават самыя малюсенькія — асыпаліся. Віной, мусіць, замаразкі, ды і па́ра ўжо — снежань месяц. Набліжаецца і мая па́ра.

І вось зноў аэрапорт Кенэдзі. Сёння адлятае першая група — Ульяна Феакцістаўна, Алег Анатольевіч і я. Праводзіць нас прыехалі Анатоль Емяльянавіч і Пётр Рыгоравіч.

Зроблены ўсе фармальнасці, звязаныя з адлётам, хаця пра іх мы амаль што і не ведаем. Імі, як і дакументамі, і багажом, займаўся, арганізоўваў, афармляў, правяраў, пераправяраў Пётр Рыгоравіч, наш цар, і бог, і воінскі начальнік...

Застаецца хвілін пятнаццаць перададлётнага часу, і няма ўжо ахвоты падганяць яго, наадварот, хочацца расцягнуць яго, хочацца даўжэй пабыць разам, нават не гаварыць нічога — проста пасядзець і памаўчаць.

— Можа, кавы ўзяць? — пытаецца Пётр Рыгоравіч, каб запоўніць пустату хоць нейкай работай. Адлучаецца на пару хвілін, прыносіць каву, і мы п'ём яе, гаворым пра нейкія дробязі, хаця ў такі час, пра што б ні гаварыў, усё, мусіць, будзе выглядаць дробязным у параўнанні з тым, чым мы ўсе жывём, што адчуваем, пра што засяроджана думаем. А думаем пра тых, хто яшчэ застаецца тут працаваць, бо працаваць з кожным днём робіцца цяжэй і небяспечней.

Тры месяцы, праведзеныя ў Амерыцы (ды і не толькі яны!), даюць падставы выстраіць у адну лінію такія, здавалася б, розныя падзеі, як арышт на трое сутак савецкага самалёта ў аэрапорце Кенэдзі (гэтым самым, дзе мы цяпер п'ём каву), антыкубінская і антысавецкая істэрыя, нежаданне Амерыкі ратыфікаваць дагавор аб АСУ-2, узрыў бомбы ў Кубінскай місіі, захоп іранскімі студэнтамі амерыканскіх закладнікаў і нежаданне Штатаў вярнуць Ірану яго ж золата. Выстраіць і... чакаць... Чакаць, ведаючы, што гэта лінія мае пачатак, але не мае канца... Што там яшчэ на ёй?..

А на ёй ужо ляжыць бомба, якая страшнейшым выбухам вырве рог будынка савецкай місіі, павысыпле шкло вокан аж да самага верху, патрушчыць вітражы ў сінагозе па другі бок вуліцы, і толькі нейкае шчасце адвядзе смерць ад людзей.

Але пра гэта мы яшчэ нічога не ведаем. Мы даведаемся пра гэта ўжо дома, у Мінску, роўна праз двое сутак, і нявыказаную радасць выклічуць звычайныя, але такія дарагія словы радыёдыктара: «Чалавечых ахвяр няма». А цяпер мы п'ём каву, размешваючы цукар пластмасавымі палачкамі з літарамі «Ра Ам» — абрэзанай назвай авіякампаніі «Пан-Амерыка», жартуем. Хоць і ва ўсмешках, і ў вачах — напружанасць моманту і сум. Сум развітання.

— Ульяна Феакцістаўна хвалюецца так, быццам ёй праз некалькі хвілін ісці за трыбуну да Вальдхайма і рашаць сусветныя жаночыя праблемы,— жартуе Анатоль Емяльянавіч.

— А што вы думаеце... Канечне, праблем многа, і там перажыванняў было, але там іншае. А тут... мы то ляцім, а вам заставацца...— зусім сур'ёзна адказвае Ульяна Феакцістаўна.

— Нічога, мы вас дагонім. Ды і... нам гэта не ўпершыню,— не здаецца Анатоль Емяльянавіч.

— Не ўпершыню то яно так, але...

— Але...

— Але... Можа, яшчэ кавы ўзяць? — зноў пытаецца Пётр Рыгоравіч і зноў прыносіць каву. Яе хапае якраз да той хвіліны, калі трэба ўстаць, паціснуць рукі. На развітанне. І на сустрэчу.

Сустрэчу ўжо дома, у Беларусі.

Мы ў паветры, а мне жыва, як на карціне, уяўляецца «кубрык» дэлегацыі — невялікі закутак у нашым канцы калідора. Круглы чырвона-мармуровы столік на нізенькіх точаных ножках з абавязковымі шахматамі на ім, старая тахта, складныя крэселкі — па росту і закутку, і століку...

Тут шахматнае сэрца дэлегацыі, няшахматнае біццё пульсу якога адчуваў кожны, нават той, хто не мог адрозніць фярзя ад караля.

І раніцой, і ў абед, і вечарам кругом століка цесна. Адсюль едуць на паседжанні, сюды вяртаюцца з іх. Сюды сцякаюцца ўсе навіны, дапаўняюцца, удакладняюцца, абмяркоўваюцца — іншым словам, пералапачваюцца, як зерне на таку, і адсюль ідуць далей.

Нават не браўшы ў рукі свежы нумар «Нью-Йорк таймс», тут можна было даведацца, што сёння яна падрабязна распісвае ход дзёрзкага аграблення фешэнебельнага атэля на 65-й стрыт; можна было не прысутнічаць на выступленні папы Іаана Паўла II у Блакітнай зале, але ведаць, пра што, як і на якой мове ён гаварыў і нават як быў апрануты; можна было не спускацца ў магазін, але ведаць, што блок «Марльбара» ўжо каштуе не тры восемдзесят, ■ ўсе чатыры долары...

Усё гэтае і многае іншае можна было ўведаць тут — сярод жывога тлуму бяскроўных шахматных баталій, галоўнае ў якіх не столькі выйгрыш, колькі працэс гульні, і не столькі працэс гульні, колькі жаданне яшчэ раз пабыць са сваімі людзьмі.

Па адзін бок століка — спакойна-засяроджаны, трохі сарамлівы Леў Іосіфавіч Максімаў: «Сейчас мы оконтропупим пешечку...», па другі бок — расхрыстана-ўпэўнены, гатоў гуляць хоць з самім Карпавым,— Валянцін Макеевіч Нікулін: «А мы Льву Осічу па каню...», ■ кругом — вясёлы хор падказчыкаў, яны заўсёды рады падказаць таму, хто выйграе, хоць парады іх амаль заўсёды агульнастратэгічныя, тыпу «заходзь ■ тылу», ці «зацiскай караля», ці «што ж гэта ты?»...

Недзе збоку ля століка мудра-ўсмешлівы, з пастаянным сваім клопатам у галаве Анатоль Емяльянавіч. Сядзіць, курыць, уставіць слова-другое, потым раптам зірне на гадзіннік, прыдушыць у попельніцы цыгарэту, устае і ідзе да сябе.

Дзверы яго пакоя прачынены, і адтуль да позняй ночы відно святло і нахіленая над сталом галава; ён нешта піша, чытае, правіць... Выступленні ўсіх членаў дэлегацыі праходзяць праз яго стол, а дыпламатычнае слова, мусіць, больш, чым якое, патрабуе яснасці і дакладнасці...

Некалі, да вайны і адразу пасля вайны, да таго, як механізацыя прынесла з сабой не толькі трактары, але і майстэрні з сучаснымі станкамі і парадкам работы, амаль у кожным сяле была кузня. Кузня кузняй, але гэта было месца, дзе заўсёды збіраліся мужчыны — пакурыць, пачуць, што дзеецца на свеце, а заадно вырашыць свае надзённыя справы...

Такой кузняй быў і наш «кубрык».

Роўна гудуць турбіны самалёта. Засталася далёка ззаду, за многія сотні міль, Амерыка. Унізе паволі плыве пад самалёт чарната, падсвечаная белымі праплешынамі. Чарната — гэта Атлантыка, белае — воблакі, яны то слізгаюць адзіночнымі плямамі, то збіваюцца ў чароды; тады прастора пад крыламі самалёта нагадвае плашч-палатку.

Доўга гляджу ўніз, і раптам, на нейкае імгненне мне здаецца, што там, унізе, Гараднянка — рэчка майго маленства ў самую баявую пару свайго жыцця — пару ледаходу: цёмнае — вада, белае — крыгі. Выцякаючы з Язерскага балотца, па Стаськавай пасецы, яна доўга віляла па забалочаным лузе, між Аколіцкіх пасёлкаў, каб недалёка ад млына прыняць яшчэ адну рачулку з Анатолеўскага балота.

Ідучы ў школу, мы абавязкова павінны былі пераходзіць гэтую рачулку. Але цікавей за ўсё гэта было рабіць у час разліву, калі па ёй ціхім караванам плылі, ляніва разварочваючыся, крыгі, а сама яна залівала вадой усю нізіну, хаваючы пад сабой, а то і змываючы і невялікі мосцік, і кладкі да мосціка, і ўсю грэблю.

І хоць крыгі былі невялікія і рэдка на якой з іх можна было праплысці «ад зямлі да зямлі», ад сухога да сухога без рызыкі выкупацца, але тады яны здаваліся вялікімі і небяспечнымі, мусіць, таму і цяпер, з вышыні дзесяці кіламетраў, я пазнаў сваю рачулку. І вельмі ўзрадаваўся гэтаму. Бо з той пары, калі мы — перша-чацвёртакласнікі пераправляліся цераз яе, прайшло трыццаць год. Усе мы з дзяцей сталі бацькамі, а некаторыя паспелі набыць важную годнасць дзядоў. Даўно не стала ўжо млына з

белымі тэрыконамі апілак ля яго. Выраслі і сталі вялікімі тады зусім маленькія кусцікі-елачкі, затое вельмі парадзелі — пападалі старыя ліпы, што атулялі сад справа за млыном.

Шмат што змянілася на Аколіцкай зямлі за гэты час. Апрача ўсяго гэтага, мінула дзесяць год, як не стала і самой рэчкі. Не выстаяла яна перад прамалінейным машынным наступам меліярацыі, якая не пакінула ёй ні рэчышча, ні вады — хіба што па костачкі на дне конусападобных жалабоў-каналаў.

І вось цяпер, пад далёкім цёмным небам, засеяным буйнымі зоркамі, такімі ж яркімі, як і ў Беларусі, я раптам зноў убачыў рачулку свайго маленства, і хоць гэта працягвалася ўсяго нейкае імгненне, радаснае ўзрушэнне доўга не пакідала мяне.

Дванаццаць гадзін пятнаццаць хвілін... Спусціліся ніжэй. Відна зямля цьмянымі плямамі — снег і лес.

Наперадзе, па ходу самалёта, засвятлела неба. Густое, сіне-фіялетавае з яркай чырвонай падсветкай, яно ўвачавідкі яснее, мяняецца, пераходзіць у светла-зялёнае... Колеры робяцца чысцейшымі, ярчэйшымі... Гэта нешта непараўнальнае: угары — зоркі, унізе — россыпы зямных агнёў, наперадзе — жывая, зменлівая гульня колераў, якая гаворыць аб тым, што нараджаецца новы дзень і што мы ляцім на ўсход сонца.

Дванаццаць сорак пяць... Дванаццаць... І я спахопліваюся: дванаццаць — гэта па амерыканскім часе, а мы ж ужо даўно ляцім над савецкай зямлёй. Значыць, мы ўжо дома.

Трэба пераводзіць стрэлкі гадзінніка.

З ДЫПЛОМНЫХ РАБОТ ВЫПУСКНІКОЎ БДТМІ
І МАСТАЦКАГА ВУЧЫЛІШЧА імя ГЛЕБАВА.



КРЫЦКІ. Чырвонаармейцы (алей, 1980 г.). Кіраўнік В. А. Грамыка.



У. **МАСЛЕНІКАЎ. Беларускія нафтавікі** (алей, 1980 г.). Кіраўнік П. С. Крахалёў.

**ШАРОІН А. І. Хлеб вайны** (алей). Кіраўнік А. А. Малішэўскі.

**Ю. ХІЛЬКО. Прадразвёрстка** (алей, 1980 г.). Кіраўнік А. А. Малішэўскі.

ДА 100-ГОДДЗЯ
З ДНЯ
НАРАДЖЭННЯ

# *Аляксандр Блок*

## Сытыя

Яны даўно мяне стамлялі,
Калі і ў росквіце былі,
Яны маркотна існавалі,
Таптапі кветкі на зямлі.

І вось — у залах, рэстаранах,
Над бляскам чарак і галоў,
У час абеду нечакана
Патухла зыркае святло.

Разносяць свечкі па
                    сталовых,
На тварах жоўтыя кругі,
Сухія сыкаюць прамовы,
І ледзь варушацца мазгі.

Тут гневаецца ўсё, што сыта,
Сумуе той, хто не даеў,

Бо перавернута карыта,
Асунуўся струхлелы хлеў!

Цяпер у іх ліхая доля,
І цемра абступіла іх,
Баяцца тых, што хлеба
моляць,
І чырвань б'е сцягоў чужых.

Хай дажывуць свой век
спакойна,—
Шкада іх сытасць варушыць.
І толькі дзецям —
непрыстойна,
Як іх бацькі, маркотна жыць.

1905

## Світанне

Я ўстаў і ўзняў высока рукі,
А нада мною паплылі
Світання радасныя гукі
У барвах неба і зямлі.

Здалося мне — жанчына
ўстала,
Малілася, ішла у храм,
Рукой ружоваю кідала
Зярняты свойскім галубам.

У вышыні ляцелі птахі,
Нібыта нітачка ляціць,
І галубы старыя дахі
Ўзяліся крыллем залаціць.

Ґарэлі золатам карнізы,
Дамы і дахі ў вышыні,
Я зверху ўбачыў — шар
вялізны
Плыве ў чырвонай цішыні.

1903

# На чыгунцы

*Марыі Паўлаўне Івановай*

Ляжыць пад насыпам, за пусткаю,
Глядзіць у неба, як жывая,
Накрытая квяцістай хусткаю,
Прыгожая і маладая.

Даўней ішла хадой імкліваю,
Пачуўшы свіст і горкі вецер,
І хвалявалася, шчаслівая,
Каля чыгуначнай павеці.

Тры зыркія агні каціліся,—
Палалі шчокі, віўся локан:
Каб пасажыры ёй дзівіліся
І ўважліва глядзелі з вокан...

Ішлі вагоны роўнай лініяй,
Пагойдваліся і рыпелі;
Маўчалі жоўтыя і сінія,
У зялёных плакалі і пелі.

За шыбамі стаялі сонныя
І цьмяна бачылі з вагона
Галіны дрэў, дажджом замглёныя,
Яе, жандара ўзбоч перона.

Гусар аднойчы, з жоўтай цэшкаю,
За аксаміт рукой трымаўся,
Ёй ветла адказаў усмешкаю,
І далей поезд паімчаўся.

Так і юнацтва праімчалася
У летуценнях і навалах,
Туга жалезнаю здавалася
І болем сэрца надрывала...

Ды што — даўно ўжо сэрца вынята!
Адбіта шмат зямных паклонаў,
Паглядаў многа прагных кінута
У пустату начных вагонаў...

Не падыходзьце к ёй вясёлымі
На страшнай здзірванелай кручы:
Каханнем, брудам або коламі
Яна раздаўлена — балюча!

1910

□

О, я жадаю прагна жыць:
Усё жывое ўвекавечыць,
Бяздушнае — ачалавечыць,
Нязбытнае — ажыццявіць.

Няхай жыццёвы сон назолай
Гняце, хай задыхнуся ў сне,—
Магчыма, што юнак вясёлы
Калісьці скажа пра мяне:

Даруем змрочнасць,—
не за тое
Яму нялёгка так было.
Увесь ён зліўся з дабратою,
Увесь ён — воля і святло.

1914

*З рускай пераклаў*
*Сяргей Грахоўскі*



# публіцыстыка

ВАЛЯНЦІН ЖДАНОВІЧ

ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ

ПЯТРО ВАСІЛЕЎСКІ

АНАТОЛЬ ВЕРАБЕЙ

МІКОЛА КАЛІНКОВІЧ

# ШАБЛЯ МАРШАЛА БАГРАМЯНА

ФОТАРЭПАРТАЖ

«Я схіляюся перад бяспрыкладным подзвігам беларускага народа ў час Вялікай
Айчыннай вайны»,— сказаў Маршал Савецкага Саюза Іван Хрыстафоравіч Баграмян на
ўрачыстым паседжанні, прысвечаным 60-годдзю Ленінскага камсамола Беларусі.

У 1944 годзе І. Х. Баграмян камандаваў Першым Прыбалтыйскім фронтам, воіны
якога вызвалялі ад фашыстаў Віцебск, Полацк, Лепель, Дзісну, Ушачы, Паставы,
Браслаў...

Іван Хрыстафоравіч Баграмян узначальвае Цэнтральны штаб Усесаюзнага паходу
камсамольцаў і моладзі па мясцінах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы савец-
кага народа. Маршал прыехаў у Мінск, каб вітаць пераможцаў IX злёту гэтага паходу
ў дні святкавання юбілею ЛКСМБ.
Мінская абласная камсамольская арганізацыя.

Сярод іншых пераможцам названа ... Ніхто не забы-
Ніколі не згасне памяць нашчадкаў пра подзвіг дзядоў і бацькоў. Ініцыятыва Усесаюзнага паходу належыць моладзі Беларусі.
ты, нішто не забыта! 
15 гадоў назад у Брэсце адбыўся Першы злёт.
па ўсёй краіне. Створаны ты-
За гэты час патрыятычны рух шырока разгарнуўся ... Ідзе бесперапынны пошук герояў,
сячы самадзейных музеяў славы, клубаў, гурткоў. мемарыяльныя знакі загінуўшым.
штодня ўзнікаюць на савецкай зямлі помнікі і
60 мільёнаў юнакоў і дзяўчат удзельнічаюць у паходзе.
Леанід Ільіч
У сваім прывітанні ўдзельнікам мінулага, VIII Усесаюзнага злёту
Брэжнеў пісаў:
заслугоўваюць самай высокай ацэнкі
«Высакародныя справы ўдзельнікаў паходу юнацтва якіх было абпалена гара-
і глыбокай павагі. Людзям старэйшых пакаленняў, загартоўваліся на будоўлях першых
чым подыхам рэвалюцыі, чый характар і воля прыемна ўсведамляць, што камсамольцы,
пяцігодак, у бітвах Вялікай Айчыннай вайны, гераічную гісторыю Камуністычнай
юнакі і дзяўчаты, вывучаюць, сэрцам успрымаюць акружаюць клопатамі
партыі і Савецкай дзяржавы, шануюць памяць загінуўшых, у камуністычным будаў-
ветэранаў, сем'і загінуўшых воінаў, актыўна ўдзельнічаюць
ніцтве».



Ветэран партыі В. П. Вінаградаў са сцягам крэйсера «Аўрора» на адкрыцці злёту.



**А гэты сцяг—адзін са шматлікіх паходных сцягоў камсамольцаў 80-х гадоў.**

...Мінск, 21 верасня 1980 года. На адкрыццё IX Усесаюзнага злёту, прысвечанага 110-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна і 35-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, з'ехалася больш 1500 дэлегатаў і ганаровых гасцей. Сярод іх двойчы Герой Савецкага Саюза Маршал Савецкага Саюза В. І. Чуйкоў, двойчы Герой Савецкага Саюза генерал арміі П. І. Батаў, першы ганаровы грамадзянін Мінска Герой Савецкага Саюза маршал бранетанкавых войск А. С. Бурдзейны, Герой Савецкага Саюза заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР К. К. Какінакі, Героі Сацыялістычнай Працы член КПСС з 1915 года В. П. Вінаградаў, В. І. Гаганава, М. І. Вінаградава і шмат іншых славутых людзей, мужных воінаў і нястомных працаўнікоў.

А пасля, пры святле зенітных пражэктараў і паходняў, быў мітынг на Кургане Славы, былі паходы па партызанскіх сцежках Міншчыны, шмат сустрэч з ветэранамі вайны і партызанскага руху. У глыбокай жалобе стаялі на каленях перад вечным агнём Хатыні ўсе дэлегаты і госці злёту. Ускладалі кветкі да манумента Перамогі і да помніка У. І. Леніну, прысутнічалі пры адкрыцці мемарыяльнага знака славутаму падпольшчыку, былому рэдактару падпольнай «Звязды», Герою Савецкага Саюза Уладзіміру Амельянюку.

З плошчы Леніна стартавала Усесаюзная эстафета па дзяржаўнай граніцы СССР.

Барыс Іванавіч Коўзан, Герой Савецкага Саюза, адзіны ў свеце лётчык, які чатыры разы тараніў варожыя самалёты,—ганаровы госць злёту.

У сяброўскім карагодзе—дэлегаты розных рэспублік.



Ганаровыя госці злёту Героі Савецкага Саюза лётчыцы М. І. Доліна, Е. А. Нікуліна, П. В. Папова і поўны кавалер ордэнаў Славы П. А. Журкіна.

Подзвіг бацькоў — у нашых сэрцах.



**І. Х. Баграмян уручае сваю шаблю першаму сакратару ЦК ЛКСМБ У. П. Шаплыку.**

У той жа дзень дэлегаты і госці ўдзельнічалі ва ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 60-годдзю ЛКСМБ. Цэнтральны Камітэт КПБ высока адзначыў заслугі камсамола Беларусі — узнагародзіў яго Ганаровым чырвоным сцягам, а ЦК ВЛКСМ занёс у Ганаровую кнігу Беларускую рэспубліканскую камсамольскую арганізацыю.

Маршал Баграмян уручыў беларускаму камсамолу сваю ганаровую зброю — шаблю. На ёй надпіс: «З вялікай радасцю ўручаю ЦК ЛКСМ Беларусі маю шаблю ў гонар 60-годдзя камсамола Рэспублікі».

Валянцін ЖДАНОВІЧ

Фота аўтара

# «ДЗЕНЬ ДОБРЫ ВАМ!..»

НАРЫС

Да заходняй граніцы спачатку меркавалася выехаць у канцы красавіка, потым у сярэдзіне мая, але работа лезла з усіх шчылін; і вось ужо чэрвень... Нарэшце прачытана апошняя лекцыя ў Акадэміі Генеральнага штаба.

6 чэрвеня Карбышаў праводзіў жонку ў Ленінград, да дачкі, якая вучылася ў Вышэйшым ваенна-марскім інжынерна-будаўнічым вучылішчы, а назаўтра, 7 чэрвеня 1941 года, ад'язджаў і сам. Праводзілі яго з Беларускага вакзала падпалкоўнік Сачылаў з жонкаю. Цягнік стаяў гатовы да адпраўкі — вымытыя, чыстыя зялёныя вагоны, і было вакол шмат мітусні, вясёлых развітанняў. І ён развітаўся з Сачылавымі, падзякаваў, што прыйшлі праводзіць.

У вагоне да яго падышоў намеснік камандуючага войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі генерал Міхайлін, запрасіў у купэ.

За акном ужо мільгалі падмаскоўныя беразнякі, дарогі са шлагбаўмамі, дамкі, затуленыя садамі.

Генерал Міхайлін гаварыў, што Карбышава даўно чакаюць на заходняй граніцы, што работа на абарончых збудаваннях вядзецца актыўна, але патрэбна вока, парада такога вопытнага спецыяліста вайскова-інжынернай справы, як доктар вайсковых навук прафесар Карбышаў, што ўмацаванню заходняй граніцы цяпер надаецца асаблівая ўвага...

Гаварылі позна, потым Дзмітрый Міхайлавіч вярнуўся ў сваё купэ, лёг спаць.

Да Мінска пад'язджалі сонечнаю чэрвеньскаю раніцай. На вакзале маладзенькі лейтэнант аддаваў рапарт. Дзмітрый Міхайлавіч падумаў, што рапарт аддаецца генералу Міхайліну, і ўсё адступаў убок, пакідаючы насупраць лейтэнанта намесніка камандуючага войскамі акругі, але генерал Міхайлін шапнуў, што рапарт аддаецца яму, генерал-лейтэнанту Карбышаву...

Потым пакіраваліся да гасцініцы, недалёка ад вакзала.

— Дзень добры вам! — сказала з ласкавай усмешкаю дзяжурная, прымаючы госця.

— Дзень добры вам! — прыветліва сказала пакаёўка, прапускаючы ў нумар.

Дзмітрый Міхайлавіч адказаў на прыві-

танне і адной, і другой жанчыне, а ў душы ўсміхнуўся: адкуль гэта, чаму не проста «дзень добры», а «дзень добры вам»... Прывітанне спадабалася, была ў ім нейкая большая шчырасць, большая спагадлівасць, чым у звычайным, традыцыйным «дзень добры».

Дзмітрыю Міхайлавічу далі нумар з двух пакояў, чысты, светлы, з усімі выгодамі. Перш-наперш прывёў сябе да ладу—памыўся, пагаліўся, пачысціў боты.

Чакаў, пакуль выкліча камандуючы войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі, а тым часам сеў за бліскучы, вольны ад усякіх папер пісьмовы стол, пачаў пісаць жонцы і дачцэ ў Ленінград.

Пісьмы, гэта было тое, чаго а камандзіровак заўсёды чакалі ад яго жонка, дзеці, гэта было неабходна і яму, як масток, што звязваў з дарагімі людзьмі.

На левым баку лістка ён паставіў дату—9.VI.41 г. і дапісаў: 14 гадзін.

«Дзень добры вам, як кажуць тут, у Мінску,—пачаў ён.—Вось я і ў Мінску. Цяпер сяджу ў кабінеце і пішу вам пісьмо. Выгляд у мяне, як у Льва Талстога, калі ён пісаў Анну Карэніну, вельмі сур'ёзны. Раніцою ў вагоне-рэстаране выпіў кавы, скора трэба абедаць. Чакаю выкліку ад камандуючага войскамі. Хачу вам зараз паслаць тэлеграму і напісаць дзецям.

Ну, Лялюшка, цяпер 14 гадзін, 9 чэрвеня. Ты, мусіць, пакутуеш на экзамене. Я старанна пра цябе думаю, да таго ж так настойліва, што пяцёрка забяспечана. Адрас свой я вам паведамлю тэлеграмай, як толькі даведаюся пра свой далейшы лёс. Напэўна, з Мінска я скора паеду, але куды, пакуль яшчэ напісаць не магу. Адным словам, сувязі не страчу і па магчымасці буду пісаць кожны дзень, хаця цвёрда і не абяцаю. Не ведаю, як дазволяць час і месца.

Маці, я забыўся капюшон ад накідкі. Калі будзе выпадак, я табе напішу, і ты мне яго прышлі. Тут крыху цяплей, чым у Маскве: сонейка, і пагода падобна на летнюю.

Я пагаліўся, памыўся, падшыў чысты каўнерык, начысціў боты—адным словам, усё ў парадку. Вакол люстэркі, а там ходзіць нейкі малады сімпатычны генерал. Як бы я хацеў быць на яго месцы!

Лялюшка, пахвалі мяне: я ўзяў з сабою «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і зараз буду працягваць канспекціраваць. Як мне хочацца хутчэй паехаць у поле, на ветрык, на сонейка, на свежае паветра! Надакучыла сядзець у кабінеце. Пішыце, мае дзеткі, адрас я вам тэлеграфую дадаткова.

Моцна ўсіх цалую, ваш тата».



**Д. М. Карбышаў.** 1940 г.

Ад'ютант далажыў—унізе чакае машына, выклікае камандуючы войскамі Заходняй асобай ваеннай акругі. Камандуючы павіншаваў генерал-лейтэнанта Карбышава з прыездам у Беларусь, сказаў, што яго тут даўно чакаюць, і адразу прыступіў да справы. Ён паклікаў у кабінет генерал-маёра інжынерных войск Пятра Міхайлавіча Васільева, загадаў яму пазнаёміць прафесара Карбышава з характарам і станам работ на мяжы. Інспекцыю вырашылі пачаць з Гро-

дзенскага ўмацаванага раёна. Карбышаў выехаў на месца ў той жа дзень. Васільеў затрымаўся да раніцы 10-га чэрвеня.

У Гродне спыніўся Дзмітрый Міхайлавіч у гасцініцы, якая знаходзілася насупраць штаба трэцяй арміі, і Карбышаў, толькі пакінуўшы ў пакоі рэчы, пакіраваўся ў штаб. Тут ён даведаўся, што на будаўніцтве фартыфікацыйных аб'ектаў кожны дзень занята сто сорак тысяч чалавек; будуецца трыццаць восем апорных пунктаў, гатовыя ўжо сто шэсцьдзесят пяць жалезабетонных збудаванняў, да канца года запланавана здаць яшчэ трыста семдзесят тры. Але... позніцца тэхнічная дакументацыя, не ў тэрмін паступаюць будаўнічыя матэрыялы, асабліва цэмент і жалеза, ёсць і яшчэ прычыны, што перашкаджаюць...

10-га чэрвеня выехаў у раён Аўгустоўскага канала, які быў пабудаваны ў сярэдзіне мінулага стагоддзя для злучэння Нёмана з басейнам ракі Віслы як водны шлях з Беларусі да партоў Балтыйскага мора. З развіццём транспарту значэнне канала ўстарэла, і сам канал састарэў, берагі яго паабсыпаліся, пазарасталі асакою, масткі пагнілі. Цяпер, у прыгранічнай паласе, канал мог быць скарыстаны пры будаўніцтве абарончых аб'ектаў, і на яго шлюзах вяліся работы.

Дзмітрый Міхайлавіч пабываў на ўсіх аб'ектах, пагаварыў з інжынерамі, даў парады, у блакнот запісаў прапановы наконт дапамогі будаўніцтву.

12-га чэрвеня Карбышаў выехаў у раён Сямяцічы, аглядаў збудаванні, даваў парады інжынерам. Было трывожна, што работы ідуць не такімі тэмпамі, як хацелася б, каб выканаць намечаны план, спатрэбіўся б, можа, не адзін год, а трывога, прадчуванне вайны не дазвалялі патраціць столькі часу, трэба было знаходзіць метал, сродкі, каб будаваць хутчэй і лепш, з улікам вайсковай тэхнікі, якая ўдасканальваецца з кожным днём і якою моцна ўзбройвалася гітлераўская Германія.

У Гродна вярнуўся 14-га чэрвеня а адзінаццатай гадзіне вечара, стомлены, запылены, але адпачываць не клаўся, пакуль не напісаў пісьмы жонцы і дзецям. Такі быў непарушны закон. З Масквы старэйшай дачцэ ў Ленінград пісаў кожны дзень і адсюль абяцаў пісаць кожны дзень і ў Ленінград, і меншым дзецям.

У першую чаргу даў тэлеграму з пажаданнем поспеху старэйшай дачцэ, якая здавала сесію.

Потым сеў пісаць пісьмо да жончынай маці і меншых дзяцей—дачкі Тані і сына Алёшы. Глянуў на гадзіннік—было ўжо дванаццаць—і злева на ражку ліста напісаў дату наступнага дня — 15.6.1941 г.

...Пераваліла ўжо за дванаццаць, ужо наступіла тая нядзеля, той выхадны, якім спадзяваўся пакарыстацца Дзмітрый Міхайлавіч. Ён не ведаў, што гэты выхадны будзе апошні мірны.

16-га чэрвеня Карбышаў ездзіў у Каўнас, у штаб адзінаццатай арміі, для вызначэння стыку паміж трэцяй і адзінаццатай арміямі. Вярнуўся ў Гродна, як і кожны дзень, позна, як і кожны дзень, стомлены, але сеў за пісьмовы стол, паклаў перад сабою лісток паперы. Глянуў на гадзіннік, адзначыў злева на лістку: «17.6 1 г. 30 м.».

Пісаў дзецям пад Маскву, але меркаваў, што, пакуль пісьмо дойдзе, і жонка вернецца з Ленінграда.

«Жыву я ціха-мірна, праўда, не жыву, а цэлы дзень трасуся на машыне. У мяне вялікі, харошы асобны пакой з усімі выгодамі, так што жыць і працаваць добра... Вакол сад, кветкі і поўная цішыня. Ну, мае дарагія, цяпер ужо 2 г. ночы, а ўставаць мне трэба ў 7 гадзін, а мяне ніхто не будзіць, і пра ўсё мне трэба паклапаціцца самому. Відаць, у канцы гэтага тыдня ■ перабяруся ў Беласток. Трэба было б схадзіць у лазню, ды няма калі. Зараз лягу спаць. Я вам пішу дастаткова акуратна, напішыце і вы мне.

Пакуль—спакойнай ночы. Моцна вас цалую.

Пагода ў нас стаіць здавальняючая, не горача, не халадна, перападаюць дажджы.

Спакойнай ночы.

Ваш тата, які ўсіх вас любіць».

Да пачатку вайны заставалася пяць дзён.

Апошняя паштоўка, атрыманая з Гродна, была датавана васемнаццатым чэрвеня 1941 года.

«Дзень добры, дарагія мама, бабуля і дзеці. Ад Лялі атрымаў адну тэлеграму, ад вас няма вестачкі. Пішу вам і Лялі пакуль акуратна кожны дзень. Відаць, гэты тыдзень прабуду ў Гродне, а потым паеду, куды — яшчэ дакладна не вырашыў. Відаць, у канцы тыдня перабяруся ў Беласток. Новы адрас паведамлю, а пакуль пішыце па старому. Тут трымаецца цёплая пагода, у лесе многа камароў. Вас там камары не турбуюць? Ну, моцна ўсіх цалую. Чакаю пісьма. Ваш тата».

Гэта паштоўка прыйшла 22-га чэрвеня...

Як вядома, у склад Гродзенскага ўмацаванага раёна ўваходзілі і фартыфікацыйныя збудаванні Брэст-Літоўскай крэпасці. У Беласток Дзмітрый Міхайлавіч выехаў 20-га

чэрвеня. Не мог не ўспомніць маладосці.

У 1911 годзе іх, выпускнікоў вайскова-інжынернай акадэміі, запрасілі ў Зімні палац і прадставілі самому цару. Перад строем зачыталі загад аб прысваенні ім звання вайсковых інжынераў і перавядзенні ў наступны чын. Ён, Карбышаў, стаў капітанам. Яму прапанавалі пасаду малодшага кіраўніка работ у крэпасцях Асавец альбо Брэст-Літоўскай. Ён выбраў Брэсцкую крэпасць, дзе ў той час вялася рэканструкцыя.

Яму даручылі будаўніцтва сёмага форта.

Цяпер ён успамінаў тыя тысячы тон кубаметраў гранітнага шчэбеню, бетону, лесу, тысячы тон цэменту, жалеза, камення, горы зямлі, якія трэба было launch пе ратварыць у сцены, байніцы форта.

Ён стараўся як мага больш механізаваць будаўніцтва, здаецца, толькі ў Брэсцкай крэпасці ў той час каменне драбіла машына, бетон перамешваўся ў бетонамяшалцы, матэрыялы падвозіліся ў ваганетках па рэйках, у іншых крэпасцях усё рабілася ўручную—рыдлёўка, заступ ды сіла нанятых людзей.

Работы ў Брэсцкай крэпасці былі разлічаны на некалькі гадоў. Немцы не чакалі, пакуль тую работу скончаць,—пачалася першая сусветная вайна.

Цяпер Дзмітрый Міхайлавіч аглядаў старыя, зарослыя травою ўмацаванні, у байніцах якіх парасцвіталі рамонкі, жалезабетонныя ебваленыя глыбы, што паўрасталі ў зямлю, і іх варта было ўключыць у план рэканструкцыйных работ...

21-га чэрвеня Карбышаў з генерал-маёрам Васільевым прыехалі ў Беласток, у штаб дзесятай арміі генерал-маёра Голубева, каб агледзець крэпасць Асавец і ўмацаваны раён.

У Беластоку Дзмітрый Міхайлавіч сустрэўся з начальнікам інжынернага аддзела дзесятай арміі палкоўнікам Сухарэвічам, якога ведаў яшчэ з часу грамадзянскай вайны. Разам з Сухарэвічам і генерал-маёрам Рубцовым паехалі аглядаць крэпасць. Пабывалі на ўсіх будаўнічых аб'ектах, размешчаных у напрамку Гродна, Дзмітрый Міхайлавіч даў рэкамендацыі, якія фартыфікацыйныя работы праводзіць у першую чаргу.

Пасля паездкі ў крэпасць Сухарэвіч запрасіў Дзмітрыя Міхайлавіча дадому паабедаць.

У Гродна Карбышаў зноў вярнуўся позна, але яшчэ даў заданне лейтэнанту Мітрапольскаму зрабіць чарцёж умацаванняў крэпасці ў Асаўцы, яшчэ зайшоў у штаб трэцяй арміі, яшчэ напісаў пісьмы дзецям і жонцы. Спаць лёг пасля гадзіны ночы.

Разбудзілі яго выбухі бомб, страляніна артылерыі.

Ён, вайсковы чалавек, не раз у сваім жыцці абуджаны стрэламі, не мог не зразумець, што гэта значыць, і ўсё ж не хацелася верыць. Але як выбег на вуліцу, зніклі апошнія сумненні. Над горадам стаялі слупы пылу і дыму, скрозь пыл і дым прарывалася полымя, чуліся жаночы крык, дзіцячы плач, да штаба збягаліся вайскоўцы. А бомбы падалі і падалі на горад, і біла артылерыя, адтуль, з боку мяжы, з раёна Аўгустоўскага канала, Аўгустоўскага лесу.

Па законах службы Карбышаў павінен быў неадкладна вярнуцца ў Маскву. Гэта разумелі ў штабе арміі і з самага пачатку вайны прапанавалі Дзмітрыю Міхайлавічу вярнуцца дадому.

— Я салдат, а салдат у такі час не кідае фронту,—адказаў генерал.

Параненага начальніка штаба трэцяй арміі генерал-маёра Кандрацьева эвакуіравалі ў тыл. Разам з ім прапанавалі выехаць Дзмітрыю Міхайлавічу. Ён зноў адмовіўся.

Маёр Марозаў, які добра ведаў Карбышава па сумеснай рабоце, прыбыўшы ў штаб трэцяй арміі і ўбачыўшы там Дзмітрыя Міхайлавіча, спытаў:

— Чаму вы, Дзмітрый Міхайлавіч, да гэтага часу не выехалі ў Маскву?

— Пакіньце гэтыя дарэмныя размовы,— адказаў генерал.

У той жа вечар генерал Васільеў, з якім Карбышаў прыехаў з Мінска ў Гродна, зноў прапанаваў яму разам з ім ехаць у Мінск, а адтуль—у Маскву. Генерал Карбышаў адмовіўся.

Адмовіўся не толькі таму, што лічыў для сябе непрыстойным пакідаць у такі час фронт. Бачыў, што ён тут патрэбны, што можа аказаць арміі дапамогу ў інжынерным забеспячэнні войск і на свае вочы шмат чаго ўбачыць з таго, чаго цяпер, на сучасным этапе, патрабуе вайна ад вайсковага інжынера.

24-га чэрвеня Карбышаў прыехаў на камандны пункт 10-й арміі.

Камандуючы 10-й арміяй генерал Голубеў разумеў абстаноўку, ён бачыў, што немцы пагражаюць акружэннем, бачыў, што цераз Баранавічы невялікай групе яшчэ можна прарвацца, і прапанаваў Дзмітрыю Міхайлавічу скарыстаць гэтую магчымасць. Каторы раз не прыняў генерал такой прапановы.

Тады генерал Голубеў, каб хоць чым дапамагчы Дзмітрыю Міхайлавічу, загадаў стар-

шаму лейтэнанту Сомаву выконваць абавязкі ад'ютанта. Дзмітрый Міхайлавіч падзякаваў, але сказаў, што прывык абыходзіцца без ад'ютанта і цяпер наўрад ці ёсць у гэтым патрэба.

Тым не менш старшы лейтэнант Сомаў цяпер быў увесь час пры Карбышаве, гатовы выканаць любое яго даручэнне, аднак Дзмітрый Міхайлавіч нічым не абцяжарваў свайго ад'ютанта.

Былы ад'ютант Дзмітрыя Міхайлавіча Сомаў жыве цяпер у Гродне, працуе бухгалтарам Гродзенскага абкома прафсаюза работнікаў электрастанцый і электратэхнічнай прамысловасці.

— Мы адышлі да Дзярэчына,—расказваў Андрэй Аляксеевіч,— у Дзярэчыне штаб хацеў прыпыніцца ў касцёле, які пуставаў, але немцы пачалі моцна бамбіць касцёл. Мы з Карбышавым залеглі на могілках... Карбышаў быў не вельмі гаваркі чалавек, але адно, што я ад яго чуў і раней, і там, на могілках: «Усё роўна мы пераможам...» Гэта я добра памятаю...

29-га чэрвеня штаб арміі спыніўся ў лесе, недалёка ад мястэчка Дзятлава. Дадзеныя разведкі паказалі, што вораг ужо наперадзе—штаб арміі трапіў у акружэнне. Трэба было прабівацца...

Ноччу 29-га чэрвеня штаб дзесятай арміі і воінскія часці спыніліся недалёка ад дарогі Стоўбцы—Нясвіж. Вялікая калона вайскоўцаў, спераду якой рухаўся штаб арміі, павінна была перайсці гэту дарогу. Карбышаў з Сухарэвічам адсталі ад штаба кіламетра на паўтара, яны рухаліся ў калоне разам з параненымі, з гаспадарчаю камандаю і іншымі часцямі.

Немцы заўважылі калону і адкрылі па ёй агонь з гармат, кулямётаў, мінамётаў. Пад моцным агнём частка штаба на чале з генералам Голубевым вырвалася на дарогу, перакінулася цераз яе. Немцы не пачалі праследаваць невялікую групу, а яшчэ больш узмацнілі агонь на тых, што засталіся ў лесе.

Бой ішоў некалькі гадзін. Карбышаў і Сухарэвіч знайшлі ў лесе сцежку, якая кіравалася ў абход шашы, павялі па ёй атрад, вырашылі ноччу перайсці шашу ў іншым месцы і потым дагнаць групу Голубева.

— Неўзабаве сапраўды выйшлі да шашы. Вакол было зусім ціха, з таго боку шашы высокай сцяною стаяла жыта. Дзмітрый Міхайлавіч загадаў перабягаць шашу па адным, па два чалавекі і адразу хавацца ў жыце.

Але як толькі выбеглі на шашу першыя вайскоўцы, па іх з кулямётаў ударылі немцы — засада.

З боем пераходзілі шашу. Генерал Карбышаў разам з палкоўнікам Сухарэвічам. Карбышаў страляў з пісталета, Сухарэвіч — з аўтамата.

Жыта ўратавала, затуліла іх ад варожых вачэй, ад варожых куль. Трэба было дабірацца да лініі фронту, сустрэцца са сваімі.

Вечарам 30-га чэрвеня яны падышлі да вёскі Нізок Уздзенскага раёна. Я даведалася, што жывая яшчэ жонка Пятра Міхайлавіча Лычкоўскага, заслужанага настаўніка БССР, былога дырэктара Нізаўской школы, у якой некалі знайшлі прытулак Карбышаў з Сухарэвічам. Лідзія Аўгусцінаўна жыве ў гарадскім пасёлку Узда. Я спаткалася з Лідзіяй Аўгусцінаўнай. Мы сядзелі ў невялікім пакойчыку за столікам і шчыра гутарылі.

— Лідзія Аўгусцінаўна, раскажыце, калі ласка, пра Карбышава, як ён да вас тады, у вайну, трапіў? — папрасіла я.

— Ага, было... Было,—кіўнула галавою Лідзія Аўгусцінаўна.—Пад вечар... Я карову падаіла, стаяла ў кухні, цадзіла малако... Чую на ганку — чах-чах... А потым адчыняюцца дзверы, і пытаюць: «Можна зайсці?» Я кажу: «Калі ласка». Ну, яны зайшлі, і хлопчык мой, Бора, з імі, недзе бегаў па двары... Павіталіся, спыталіся, муж дзе... А мужа дома не было, на сяло пайшоў... Я вам скажу, — Лідзія Аўгусцінаўна паправіла шаўковую касыначку на галаве — спаўзала з валасоў, — праз нашу вёску шмат ішло вайсковых, і да нас заходзіла шмат, я і карміла — бульбы давала, малака, хлеба то ў нас тады не было... Бачу, і гэта вайсковыя... Надта стомленыя, здарожаныя... Я ім сказала, што муж на сяло пайшоў, малака ім наліла... А потым я іх у пакой пазвала, хацела святло запаліць, дык папрасілі, каб святла не паліла, і ў пакой не пайшлі, падзякавалі і не пайшлі... Я тады ім клас адамкнула... Мы ў школе жылі...

— І калі гэта было, якога чысла?

— Я вам скажу,— задумалася гаспадыня.— Здаецца, трыццатага чэрвеня... Ці першага ліпеня... Недзе так...

— Ну, а далей...

— А далей? — Лідзія Аўгусцінаўна скінула з галавы касыначку, адкрыла густыя рудаватыя валасы з сівымі нітачкамі.—Прыйшоў муж, зайшоў да іх у клас, яны там нешта гаварылі... І засталіся ў нас начаваць... Назаўтра я накарміла іх, і яны хацелі ісці, але ў абодвух ногі былі надта пасціраныя, у Карбышава дык нават апухлі.

Ды ім, каб ісці на ўсход, трэба было пераходзіць шашу Мінск—Слуцк, а па ёй надта насіліся немцы, муж і сказаў ім... Сказаў, што ім трэба перачакаць і ногі падлячыць... А вёска наша ўбаку ад вялікіх дарог, і школа па ўскраі вёскі, з аднаго боку—лес, з другога—могілкі.—Лідзія Аўгусцінаўна паказала рукою, з якога боку лес, з якога могілкі.—Паліцаяў з нізаўскіх за ўсю вайну не было ніводнага, а тады, па-мойму, паліцыю немцы яшчэ і не паспелі набраць... Ну, зналі мы, што калі немцы іх знойдуць у нас, то ўсім канец будзе, але спадзяваліся, што немцы не дазнаюцца. За дзяцей я баялася, каб не прагаварыліся... Але і дзеці ў вайну былі нейкія разумныя...

— А як яны выглядалі, вашы госці?

— Як выглядалі? — Лідзія Аўгусцінаўна на хвілінку задумалася, успамінаючы.—Карбышаў то быў ужо немалады, хударлявы, з цёмнымі валасамі... А другі маладзейшы і прыгожы мужчына... Прыгожы мужчына,— яшчэ раз паўтарыла Лідзія Аўгусцінаўна.— Прыйшлі яны няголеныя, здарожаныя, а назаўтра, як памыліся, пагаліліся, зусім іншыя сталі. Той, другі, сказаў Карбышаву:

— Вам цяпер хоць у акадэмію лекцыі чытаць.

І Карбышаў так сур'ёзна адказаў:

— І буду чытаць, скончыцца вайна—зноў буду чытаць...

— Колькі ж яны ў вас пабылі?—спыталася я.

— Дні тры ці чатыры. Жылі на гары, там у нас прыёмнік быў схаваны, дык яны ўсё прыёмнік слухалі. Муж на сяло хадзіў, даведацца, ці не накаціліся немцы, але немцаў не было... Памятаю, трэцяга ліпеня Сталін выступаў па радыё, яны і муж мой на гары слухалі... А пасля выступлення Сталіна загарэліся — пойдзем, і ўсё, далей сядзець няможна. А пачалі боты на ногі усцягваць — і не могуць... Карбышаў кінуў бот і кажа:

— Босыя пойдзем...

Ледзь я ўгаварыла іх не ісці босымі, пачакаць, пакуль ім лапцікі пашыю. І пашыла ім на дарогу па дзве пары лапцікаў, з палавікоў. Сабралі ім яды на дарогу... Перад адыходам Карбышаў пакінуў мужу свой маскоўскі адрас, сказаў, што пасля вайны, калі мы з мужам прыедзем да яго ў Маскву, будзем самыя дарагія госці... Папрасіў, калі што... Як прагоняць немцаў, каб муж напісаў па гэтым адрасе... Муж таксама хацеў даць Карбышаву свой адрас, але Карбышаў не ўзяў, сказаў—мала што, каб не трапіў наш адрас... Ну, баяўся выдаць нас...

Я з цікавасцю слухала Лідзію Аўгусцінаўну, але хацелася пачуць яшчэ, пачуць больш.

— Лідзія Аўгусцінаўна, — папрасіла я,— можа, успомніце, што яшчэ расказвалі, гаварылі ў вас Карбышаў і яго спадарожнік.

Лідзія Аўгусцінаўна на хвілінку задумалася.

— Ну, як вам сказаць... Вось Карбышаў гаварыў: «Як прыемна быць у вас, у сапраўдных савецкіх людзей...» Што яшчэ казаў, не помню, але надта быў прыемны ў размове, душэўны... І знаеце, каб гэта наперад ведаць, што амаль праз сорак год нехта будзе пытаць, каб ведаць, што такія людзі да нас заходзілі, дык ужо кожнае словачка запамінаў бы, а так—ці ж мы ведалі, хто да нас зайшоў, хоць потым і назваўся — Карбышаў... Зайшлі нашы, савецкія вайскоўцы, і трэба было ім памагчы... А хто ж гэта ўсё запамінаў, што гаварылі.

— Лідзія Аўгусцінаўна,—сказала я,— здаецца, тую запіску, якую пакінуў у вас Дзмітрый Карбышаў, ваш муж захаваў і, як прагналі немцаў, паслаў па адрасе...

— Ага, так,— кіўнула Лідзія Аўгусцінаўна.— Муж выканаў просьбу Карбышава, як прагналі немцаў, напісаў пісьмо на той адрас і паклаў у канверт запіску. Скора атрымалі мы ліст ад жонкі Карбышава, Лідзіі Васільеўны, яна пісала, што пісьмо яе дужа ўсхвалявала, прасіла, каб мой муж напісаў падрабязна, як тады ўсё было... І мой муж напісаў ёй. Цяпер няма ўжо на свеце, памерлі і мой муж, і Лідзія Васільеўна...

...4-га ліпеня, калі зусім сцямнела, пакідалі Карбышаў і Сухарэвіч гасцінную Нізаўскую школу. Пётр Міхайлавіч Лычкоўскі праводзіў іх да гравейкі. Развітаўся, пажадаў шчаслівай дарогі і каб хутчэй скончылася вайна, каб хутчэй прагналі немцаў.

Карбышаў з Сухарэвічам пайшлі—у лес, у ноч, на ўсход, да лініі фронту.

Па дарозе яны сустрэліся з сапёрным батальёнам.

У пачатку жніўня выйшлі да Дняпра, на поўнач ад Магілёва. Пачалі вязаць плыты, каб перабрацца са зброяй і параненымі. Толькі пачалі пераправу, як пасыпаліся міны, снарады. Карбышаў з Сухарэвічам пад агнём перабраліся на той бераг, але Карбышава кантузіла, ён страціў прытомнасць. Сухарэвіч і чырвонаармеец панеслі яго ў жыта, недалёка ад ракі. Гэтым разам жыта не ўратавала...

І пайшлі дарогі па муках — адзін канцлагер, другі, трэці... Вось яна, тая геаграфія: Острув-Мазавецкі, Замосце, Хамельбург,



**Д. М. Карбышаў з дачкою Аленай.** Сочы, 1939 г.

Берлін, Нюрнберг, Флосенбург, Майданак, Асвенцім, Заксенгаўзен, Маўтгаўзен...

Немцы разумелі, што ў іх рукі трапіў вялікі спецыяліст вайскова-інжынернай справы, і пачалося. У кожным лагеры выклікалі, правацыравалі, страшылі, катавалі...

Адказ быў адзін:

— Радзімаю не гандлюю.

І яшчэ:

— Вашы прапановы накіраваны не па адрасе. Я салдат і застаюся верным свайму вайсковаму абавязку. Мой абавязак забараняе мне працаваць на краіну, якая вядзе, скажу адкрыта, разбойную вайну супроць маёй Радзімы...

Фашысты былі змушаны напісаць у дасье Карбышава:

«Гэты буйны савецкі фартыфікатар, кадравы афіцэр старой рускай арміі, чалавек, якому пераваліла за шэсцьдзесят, аказаўся наскрозь заражаны бальшавіцкім духам, фанатычна адданы ідэі вернасці вайсковаму абавязку і патрыятызму. Карбышава можна лічыць безнадзейным у сэнсе магчымасці выкарыстаць яго ў якасці спецыяліста вайскова-інжынернай справы».

І далей, адпраўляючы з Берліна ў канцэнтрацыйны лагер:

«Ніякіх скідак на чын і ўзрост».

Ён, пажылы генерал, драбіў у каменяломні камень, разам з іншымі вязнямі еў адну і тую ж баланду. Але не траціў бадзёрасці, веры ў перамогу. Калі яго разам з іншымі вязнямі вывелі на лагерны двор, на моцны мароз, і пачалі абліваць вадою са шланга, ён крыкнуў:

— Думайце аб сваёй Радзіме, таварышы, і мужнасць вас не пакіне!..

...Я сяджу ў кватэры яго дачкі Алены Дзмітраўны Карбышавай, цяпер падпалкоўніка-інжынера ў адстаўцы, рэферэнта інстытута навуковай і тэхнічнай інфармацыі.

Насупраць мяне, на вузенькай жоўтай тумбачцы, партрэт Дзмітрыя Міхайлавіча ў багетавай рамцы. На партрэце легендарны генерал такі, якім прывыклі мы бачыць яго на фатаграфіях — у генеральскім кіцелі, з узнагародамі, прадаўгаваты твар, высокі лоб, зачасаныя на радок цёмныя валасы. Я гляджу на партрэт, і мне здаецца, што гэтага чалавека я вельмі добра ведаю, што ён нібыта родны мне.

Алена Дзмітраўна сядзіць насупраць мяне за сталом, я бачу яе твар і за ёю— твар яе бацькі на фатаграфіі. Не магу стрымацца, гавару не то сцвярджаючы, не то пытаючыся:

— Вы падобны на бацьку...

— Вельмі падобна,— згаджаецца Алена Дзмітраўна.— Гэта і ў дзяцінстве было прыкметна, а цяпер і добра відаць... Мы з бацькам цяпер равеснікі... Яму перад вайною было шэсцьдзесят, і мне цяпер... Цяпер асабліва прыкметна падабенства...

На шэсцьдзесят гадоў Алена Дзмітраўна выглядае молада—зграбная хударлявая постаць, чысты твар, вялікія цёмныя разумныя вочы, густыя, хвалямі, валасы, у якіх мала сівых, толькі з бакоў белаватыя пасмачкі.

— Алена Дзмітраўна,— кажу я.— Чытаючы вашы ўспаміны ў кнізе «Солдат, герой, ученый», я зразумела, што ў вашай сям'і панавала, калі можна так сказаць, вялікая духоўнасць, што вас з бацькам звязвала глыбокае ўзаемаразуменне — калі вы вучыліся ў Ленінградзе, ён пісаў вам пісьмы кожны дзень.

— Так, ён пісаў мне кожны дзень... І я лічу, што гэта быў бацькоўскі подзвіг. У мяне сын геолаг, ён цяпер на Чукотцы, я, маці, у думках таксама пішу яму кожны дзень, але фізічна ў мяне не хапае часу... А бацька, пры ўсёй яго занятасці, пісаў мне кожны дзень. Ён зрабіў для сябе законам — у канцы кожнага дня, калі б той дзень для яго ні канчаўся, пісаць мне. Ён браў вузкі лісток паперы, збоку ставіў дату і час — дзве гадзіны ночы, дзве гадзіны сорак пяць мінут — і пісаў... Пісаў пра ўсе падзеі дня — на рабоце, дома...

Алена Дзмітраўна ўстала, падышла да кніжных паліц, што займалі ўсе сцены ў калідорчыку, узяла тоўстую цёмную папку, падышла да стала, разгарнула. У папцы ляжалі кнігі, сшыткі, блакноты, канверты. Узяла адзін канверт, выняла з яго некалькі пажоўклых ліcткоў, расклала на стале.

— Вось некаторыя пісьмы бацькі, тэлеграмы,— сказала яна.

«Жадаю поспеху, «выдатна» забяспечана, цалую, тата»,—прачытала я.

— У нас была традыцыя,— усміхнулася Алена Дзмітраўна. — Традыцыя-рытуал... Перад экзаменамі я звычайна вельмі хвалявалася і аднойчы падышла да бацькі з чыстаю заліковаю кніжкаю, кажу: «Вось цяпер тут пуста, чыста, а што будзе заўтра?» Бацька ўзяў заліковую кніжку, надзеў акуляры, доўга ўглядаўся ў лісток, дзе заўтра павінна была стаяць адзнака. Потым узяў яшчэ лупу, доўга глядзеў і праз лупу і заявіў: «Я бачу «выдатна»...

Я здала экзамен сапраўды на «выдатна». З таго часу і пайшло. Перад кожным экзаменам я падавала бацьку чыстую заліковую кніжку, ён кожны раз уважліва прыглядаўся да лістка і казаў: «Бачу «выдатна». Так было, пакуль я вучылася ў Маскве, а калі наш факультэт перавялі ў Ленінград, бацька перад кожным экзаменам прысылаў мне тэлеграму. Вы трымаеце ў руцэ адну з такіх тэлеграм...

— І вы ні разу не падвялі бацьку, заўсёды здавалі на «выдатна»?

— Заўсёды здавала на «выдатна». «Добра» ■ атрымала толькі 23-га чэрвеня, напярэдадні не прыйшло тэлеграмы ад бацькі, пачалася вайна, і ён, мусіць, не змог прысляць...

Я перадала лісток тэлеграмы гаспадыні, тая беражна паклала яго ў канверт.

— Сямейныя традыцыі,— сказала Алена Дзмітраўна.— Мая маці ўвесь час лічыла, што бацька не вярнуўся з апошняй камандзіроўкі таму, што яна не праводзіла... Напярэдадні паехала да мяне ў Ленінград... Звычайна, куды б бацька ні выпраўляўся, яна сама праводзіла яго ў дарогу.

Алена Дзмітраўна паказвае мне іншыя лісты бацькі. Вось адзін з іх—ад дваццаць трэцяга студзеня 1941 года. У ім радкі:

«Ну, мая дзяўчынка, заўтра тваё апошняе намаганне, мацуйся, будзь мужная, а галоўнае — ніколі нічога не бойся і не хвалюйся. Вось табе мой запавет».

Гэта сапраўды бацькоўскі запавет.

Сярод лістоў, што беражна захоўвае Алена Дзмітраўна, і апошнія лісты Дзмітрыя Міхайлавіча, дасланыя з Беларусі — з Мінска, з Гродна.

— Вось гэта пісьмо, бачыце, якое пацёртае, — гаворыць Алена Дзмітраўна.— Я знайшла яго ў кішэні халаціка ў мамы. Калі ў шэсцьдзесят восьмым годзе мама захварэла і яе паклалі ў шпіталь, яна ўзяла з сабой бацькава пісьмо... І ўвесь час насіла яго...

Пісьмо гэта было ад 9-га чэрвеня 1941

года, з Мінска, тое, што пачыналася словамі: «Дзень добры вам, як кажуць тут, у Мінску».

Жонка Дзмітрыя Міхайлавіча, Лідзія Васільеўна Карбышава, гадавалася ў Беларусі, бацька яе быў чыгуначнік і служыў начальнікам на невялічкіх чыгуначных станцыях каля Оршы яшчэ з васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Потым жылі ў Прыяміне, Фаніпалі, Койданаве. З дзяцінства палюбіла Лідзія Васільеўна Беларусь, засвоіла шмат якія беларускія традыцыі, густы, нават літару «ч» вымаўляла цвёрда, па-беларуску. Належную пашану ў сям'і Карбышавых аддавалі беларускім дранікам, пяклі «мазурыкі»...

Летам 1914 года бацька Лідзіі Васільеўны пайшоў на пенсію, і сям'я пераехала ў Мінск, жылі спачатку на вуліцы Маскоўскай, потым у адным з блізкіх да яе завулкаў, назвы якога Алена Дзмітраўна не памятае. У Мінску заспела іх першая сусветная вайна. Наперакор волі бацькоў Лідзія Васільеўна пайшла на фронт сястрою міласэрнаю. За самаахвярную дапамогу параненым у акопах была ўзнагароджана медалём на георгіеўскай стужцы з надпісам «За храбрость».

— З бацькам мама сустрэлася ў 1916 годзе, на фронце, яны пажаніліся і з таго часу да сорак першага года не разлучаліся, усю першую сусветную і грамадзянскую войны мама была побач з бацькам,— расказвала Алена Дзмітраўна.— Мама вельмі часта з цеплынёю ўспаміналa невялічкія чыгуначныя станцыі ў Беларусі, дзе прайшлі яе дзяцінства і маладосць, вельмі хацела зноў пабываць у тых мясцінах. У пісьме з Мінска бацька пісаў мне: «Я б вельмі хацеў, каб вы з мамаю самі прыехалі і паглядзелі тутэйшыя мясціны. Мама пра гэта даўно марыць. Пажывём — пабачым, што можна зрабіць у гэтых адносінах...»

Алена Дзмітраўна далей расказвала:

— Мама часам гаварыла пра сябе: «Я беларуска, але я, малая, не ведала, што такое «беларуска», думала, што гэта «беларучка».

Адважная на вайне, як успамінаюць сучаснікі, вельмі прыгожая, Лідзія Васільеўна дома была сціплая, але незамянімая гаспадыня, жыла клопатамі пра дзяцей, пра мужа, на ўсіх хапала яе дабрыні, якая так патрэбна і старэйшым, і малодшым. Памятаецца, у пісьме да меншай дачкі і сына, прысланым з Гродна, Дзмітрый Міхайлавіч пісаў: «Да вас скора вернецца мама, а ў мяне мамы няма і няма каму пра мяне паклапаціцца...»

І далей:

«У аўторак вы павінны паехаць у горад сустракаць маму...»

Сярод складанай работы ў камандзіроўцы, работы, якая патрабавала столькі і фізічнай, і разумовай энергіі,— клопат пра жонку — каб не забыліся дзеці сустрэць яе, каб не пакрыўдзілі няўвагаю.

— Перад вайною мама прыехала да мяне ў Ленінград,— гаварыла Алена Дзмітраўна, — пабыла некалькі дзён і сабралася ад'язджаць. Я вельмі прасіла, каб яна пабыла хоць да нядзелі, да дваццаць другога. Але яна не згадзілася — пад Масквою чакалі меншыя дзеці. І падумаць толькі, каб яна згадзілася, то яе ў Ленінградзе заспела б вайна. І выехаць было б значна цяжэй, і хваляванне... Я з блакады выходзіла праз Ладагу, да гэтага часу не магу сабе дараваць, што не змагла зберагчы ўсе бацькавы пісьмы. Спадзявалася, што яшчэ будзем разам...

Як толькі пачалася вайна, мама пазванiла мне ў Ленінград, пытаецца — што рабіць з дзецьмі, ці забіраць іх з дачы ў Маскву, ці няхай там пабудуць? Я ёй кажу: «Не прымай сама ніякіх рашэнняў, дні праз тры вернецца тата, удваіх вырашыце, што рабіць...» Верылася, што скора вернецца...

Я глядзела на Алену Дзмітраўну, на яе ўсхваляваны твар, на вочы, у якіх ажывала мінулае, і думала — як блізка яшчэ ад яе вайна, як не адышлі яшчэ ад яе тыя трывогі... Ад яе, як і ад усіх з нашага пакалення...

Дачка Карбышава перабірала канверты, сшыткі...

— Вось падручнік, які падарыў мне бацька і падпісаў,— паказала яна.

Гэта быў падручнік па артылерыі. На тытульным лісце рукою Дзмітрыя Міхайлавіча напісана:

«Вучыся, дачка, працуй, дачка, будзь гатова абараняць нашу Савецкую Радзіму, справу Леніна — Сталіна. 12.2.1939 г.»

— Я да гэтага часу дзіўлюся, як у бацькі хапала ўвагі, цярпення на ўсіх нас. І я, і малодшая сястра, і брат з усімі клопатамі ішлі да яго—той прасіў памагчы напісаць заметку ў насценгазету, той звадзіць у музей, той — выступіць на піянерскім зборы. І бацька выконваў усе просьбы. Кватэра ў нас была невялікая, тры пакоі, дык бацька са сваім пісьмовым сталом аб'ездзіў усю кватэру, усё ствараў зручнейшыя ўмовы нам, дзецям. Ён хацеў, каб кожны з нас меў свой уласны куток. Калі я падрасла, ён аддаў мне свой кабінет... Сам пераехаў спачатку ў сталовую, потым у спальню. І мы, дзеці, такія бессаромныя, прымалі ўсё гэта, быц-

цам так і трэба. У кватэры часта былі Садом і Гамора — шум, смех, іграла музыка, брахаў сабака, але бацька ніколі не выказваў раздражнення, заўсёды хапала ў яго вытрымкі.

— Маршал Баграмян гаварыў пра майго бацьку, што гэта быў настаўнік, якога немагчыма было дагнаць,— расказвала Алена Дзмітраўна.— Некаторых настаўнікаў вучні з часам даганяюць і пераганяюць, Карбышава дагнаць было немагчыма, бо ён і сам увесь час ішоў, ішоў наперад...

— Скажыце, калі ласка,— спытала я.— А вы ў час вайны атрымлівалі якія-небудзь весткі ад бацькі, пра бацьку?

Дачка Карбышава адмоўна паківала галавой.

— Не... Хадзілі толькі розныя чуткі... Вось пісьмо ад мамы, прысланае мне са Свярдлоўска 19 мая 1942 года.—Алена Дзмітраўна дастала з канверта зжаўцелы лісток, пачала чытаць уголас: — «Дарагая мая дзяўчынка, я скора, мусіць, памру ад разрыву сэрца. У мяне кожны дзень навіны. То атрымліваю ад Леашэні пісьмо, дзе ён піша, што акадэмія клапоціцца пра пенсію мне і што ўсе кажуць, што тата загінуў, а афіцыйна ніхто... Сёння ноччу званіў Жэня Штромберг і прасіў перадаць мне, што тата жывы і што яны ўзбудзілі хадайніцтва аб пенсіі толькі таму, што ў дадзены момант тата мне не можа выслаць атэстат, і, каб не пакінуць мяне без грошай, вырашылі дабівацца мне пенсіі. Я так стамілася ад усіх чутак...»

Алена Дзмітраўна паклала лісток назад у канверт і загаварыла:

— А калі вызвалілі Беларусь, маці атрымала пісьмо з вёскі Нізок ад настаўніка Лычкоўскага. Мяне тады ў Маскве не было, мне мама расказвала. Адкрыла мама канверт, а адтуль выпаў лісток — такі пакамечаны... На ім рукою бацькі былі напісаны яго воінскае званне і наш маскоўскі адрас. Мама расказвала, што гэта пісьмо яе вельмі ўсхвалявала. Яна да апошняй хвіліны верыла, што бацька жывы, што ён вернецца, не давала дакранацца да яго рэчаў, да папер на пісьмовым стале. Аднак гэта была першая і апошняя за вайну вестка ад бацькі... А пасля перамогі пачалі прыходзіць да нас людзі, якія былі разам з бацькам у палоне, прасілі маму быць мужнаю...

Было відаць, што Алена Дзмітраўна перамагае хваляванне. Перамагла... гаварыла далей спакойна, даверліва:

— Ведаеце, бацька быў вельмі мужны чалавек... І разам з тым ён цяжка пераносіў холад. Нас, дзяцей, калі мы спалі, цяплей укрываў, калі ішлі на вуліцу—цяплей апранаў, усё яму здавалася, што нам холадна... І сам дома часта ўскідаў на сябе паверх вайсковай формы што-небудзь цёплае... Я ўяўляю, як пакутаваў ён там, у халодных фашысцкіх бараках... І апошняе... Як ведалі фашысты, што яму найцяжэй...

Яшчэ раз перамагло хваляванне:

— Калі мне расказваюць што-небудзь пра бацьку альбо я сама чытаю, што пішуць пра яго, то адразу магу сказаць — праўду той чалавек расказвае ці піша альбо не... Я ведаю, што **так** бацька мог сказаць, зрабіць, а **так** ніколі не сказаў бы і не зрабіў. Я вельмі добра яго ведала... Я пра бацьку магу расказваць бясконца... Ён быў вельмі даступны, з ім было вельмі лёгка ў дачыненнях, любы чалавек мог да яго проста нечага падысці, папрасіць. Усе ўспамінаюць яго з найвялікшай цеплынёю.

Ён вельмі ганарыўся, калі пра яго пісалі ў газетах, бачыў у гэтым вышэйшую ацэнку сваёй працы. Мне часам паведамляў у Ленінград: «Прачытай у «Красной звезде», там пра мяне напісана...» Вельмі ганарыўся, калі ў саракавым годзе, у сувязі з шасцідзесяцігоддзем, атрымаў ордэн Чырвонага Сцяга.

Цяпер шмат пішуць пра тое, які ён быў у палоне. Яго называлі бацькам вайсковай інжынернай справы. У час вайны ажыццяўляліся яго ідэі, ваявалі яго думкі, яго вучні. Усё жыццё бацькі падрыхтавала яго апошні подзвіг.

Я не магла не пагадзіцца з дачкою Карбышава. Сапраўды, у той час, калі рукі самога Карбышава былі скаваны ланцугамі няволі, з фашызмам ваявалі яго ідэі, яго думкі, яго шматлікія вучні — слухачы вайсковых акадэмій. Подзвіг Дзмітрыя Міхайлавіча Карбышава — вынік усяго яго жыцця, вернасць свайму абавязку.

Яго сэрца застыла пад скарынкаю лёду, а постаць яго ператварылася ў помнік, у ледзяны помнік, які, аднак, ніколі не растане на сонцы, а толькі ярка будзе адсвечваць яго промні.

Лідзія АРАБЕЙ

# Ці помнім мы ўсё?



## 1980, снежань

**1**
50 гадоў з дня стварэння (1930) Дзяржаўнага народнага аркестра БССР.

**2**
80 гадоў з дня нараджэння А. А. Пракоф'ева (1900—1971), рускага савецкага паэта, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага дзеяча культуры БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР.

**8**
55 гадоў з дня адкрыцця (1925) IX з'езда Камуністычнай партыі Беларусі.

**10**
50 гадоў з дня нараджэння (1930) М. М. Арочкі, беларускага савецкага паэта і літаратуразнаўцы.

**11**
80 гадоў назад (1900) выйшаў першы нумар агульнарускай палітычнай нелегальнай марксісцкай газеты «Искра», арганізаванай У. І. Леніным.

**14**
75 гадоў з дня нараджэння (1905) М. А. Дарожкіна, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР.

**16**
75 гадоў з дня нараджэння (1905) М. М. Сярдобава, беларускага савецкага спевака, народнага артыста БССР.

**17**
30 гадоў з дня адкрыцця (1950) Барысаўскага краязнаўчага музея.

**19**
70 гадоў з дня нараджэння (1910) М. М. Грыбачова, рускага савецкага пісьменніка і грамадскага дзеяча, лаўрэата Ленінскай прэміі, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР.

**20**
90 гадоў з дня нараджэння А. П. Марыкса (1890—1976), беларускага савецкага мастака тэатра, народнага мастака БССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1920) А. З. Гутковіча, беларускага савецкага драматурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

**21**
90 гадоў з дня нараджэння М. І. Аладава (1890—1972), беларускага савецкага кампазітара, народнага артыста БССР.

**25**
80 гадоў з дня адкрыцця (1900) у Мінску публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна (цяпер абласная бібліятэка).

**28**
35 гадоў з дня пуску (1945) магілёўскага ордэна Леніна завода «Электрарухавік» імя 50-годдзя СССР.

70 гадоў з дня нараджэння І. Б. Шацілы (1910—1977), беларускага савецкага акцёра, народнага артыста БССР.

Снежань
35 гадоў з часу выхаду (1945) першага нумара «Настаўніцкай газеты», органа Міністэрства асветы БССР і рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў асветы.

# РАЗМОВА НА АДЛЕГЛАСЦІ

Лясной сцяжынкай праз невялікі сасновы бор ідзе, грузна ступаючы, добра складзены, моцны і шыракаплечы чалавек. Спыніўся. Падняў галаву. Глядзіць на вершаліны сосен, якія павольна калышуцца.

Пра нешта думае. Пра што ж?

Я назіраю за ім. Вымаўляю сам сабе: «Добры дзень, Андрэй...»

Добры дзень, Андрэй Ягоравіч Макаёнак!

Ау! Можа, і пакукаваць табе? Га?

Шэсцьдзесят разоў...

Можна падысці, пацісnуць тваю папрацаваўшую руку, пагутарыць... Ведаю, ведаю! Не любіш ты, калі парушаюць тваю вось такую адзіноту, перапыняюць твае думы і роздумы...

Добра! Давай пагутарым на адлегласці. Так сказаць, у думках. Нам гэта не цяжка: ужо без малога паўстагоддзе мы з табою гутарым... Многія твае меркаванні пра жыццё, пра людзей, пра час, пра мастацтва і літаратуру, драматургію і тэатр у мяне ў памяці.

Вось некаторыя:

— Гэты, з дазволу сказаць, драматург усё жыццё грукоча ў барабан, упэўнены, што ў аркестры ён галоўны. Вось бяда! Барабанная драматургія жывучая, як і памылковая думка, што без барабана няма музыкі...

— «Не магу маўчаць...» Што ж, калі б плацілі за маўчанне, то ў шэрагах «творцаў» у розных жанрах мастацтва і літаратуры не далічыліся б многіх нашых знаёмых. Вось ты, Пецька, стаў бы пісаць, калі б табе плацілі за маўчанне?

Смяяліся, жартуючы адзін з другога, будавалі планы, як можна было б жыць у падобнай сітуацыі: ты маўчыш, а табе за гэта ганарар плоцяць...

Афарыстычнасць яго выказванняў дзівосная. Але былі і кур'ёзы. Неяк з гарыччу прызнаўся:

— Драматургія — гэта такая справа, калі кожны раз даводзіцца даказваць, што ў цябе ёсць талент, людзям, якія пазбаўлены ўсялякіх талентаў.

Я заўважыў:

— Гэта з дзённіка Жуля Рэнара...

Андрэй абурыўся:

— Ды не чытаў я твайго Жуля! — І тут жа папрасіў: — У цябе ёсць? Дай пачытаць...

І яшчэ. Адзін час у рэдактарках сцэнарнага аддзела «Беларусьфільма» лічылася вельмі пікантная прыезджая дама. Ды яшчэ з сабачкам: часам яна нават на работу прыходзіла з лахматай і злоснай балонкай. У дамы з сабачкам характар быў агрэсіўны. Любіла яна павучаць аўтараў, як трэба пісаць сцэнарыі, якім чынам жыццёвы факт ператвараць у сцэнарны эпізод і, наогул, як адлюстроўваць нашу цудоўную рэчаіснасць на экране...

Аркадзь Куляшоў, тагачасны началь-

нік сцэнарнага аддзела, неяк ветліва заўважыў:

— Даруйце мне велікадушна, але ўсё-такі... Адкуль вам вядома вось гэта самая «жывая рэчаіснасць»?

Упершыню дама збянтэжылася, і Андрэй выкарыстаў гэту нечаканую збянтэжанасць:

— А яе інфармуе балонка! — І весела растлумачыў: — Ходзіць балонка на прагулкі, вывучае рэчаіснасць і дзеліцца сваімі назіраннямі з гаспадыняй.

Больш дакладна нельга вызначыць «творчы метад» гэтай самай рэдактаркі. У хуткім часе яна звезла свайго сабачку на іншую студыю...

Неяк прызнаўся:

— Хачу напісаць п'есу, зусім агаляючы прыёмы. Герой, напрыклад, гаворыць: «Больш мне няма чаго сказаць, і я пакідаю сцэну!» Сказаў і пайшоў. Ну, як? Абавязкова напішу такую п'есу. А другі герой і наогул абураецца: «Хіба я падобны? Хіба ў жыцці такія тыпы водзяцца? Не жадаю быць дзеючай асобай у гэтай п'есе!» Не жадаю. І баста!

Калі яму прыходзяць у галаву вось такія забаўныя меркаванні, ён сам гучна смяецца, задаволены...

Трымаецца ў памяці такая яго сентэнцыя: «Адзіная зброя, якая не падлягае забароне,— праўда. І як я ненавіджу тых, хто ўсё-ткі імкнецца яе забараніць або хаця б сказіць...»

...Ну, а цяпер, пакуль ты стаіш на лясной сцяжынцы, дазволь табе, як юбіляру, задаць некалькі пытанняў і за цябе адказаць. Мне здаецца, што адказы гэтыя ты прызнаеш сваімі...

Дык слухай:

— Ці здольны ты ўсхваляваца да слёз спектаклем, вершамі, музыкай?

Твой адказ:

— Вядома! Прымусіць мяне праслязіцца вельмі лёгка. Але ўсё-ткі больш моцнае ўражанне робіць на мяне дасціпнае, смешнае і парадаксальнае... І, бадай, не хваляваца да слёз, а смяяцца да слёз больш мне ўласціва. Смяюся я, як вядома, аглушальна, але нічога з сабой зрабіць не магу...

— А ці здольны ты ўступіць у сварцы дзеля спакою, ведаючы, што твая праўда?

— Ніколі! Ні за што! Ты гэта ведаеш...

— Ведаю... Ну, а ці раздражняе цябе, калі хто-небудзь непунктуальны?

— Так! Я не выношу людзей, якія не ўмеюць трымаць слова.

— А непунктуальнасць?

— На жаль! Прытрымлівацца дакладна часу не ў маёй натуры... Не люблю спяшацца. Памятаю заўсёды: паспяшыць — людзей насмяшыць...

— Ты і сёння верны гэтаму?

— Чаму?

— Не спяшацца...

— А цяпер тым больш! Куды ж цяпер спяшацца? Туды, ведаеш, ніколі не позна... Цяпер я без усялякай мітусні і спешкі працягваю сваю справу...

...Я хацеў бы задаць табе яшчэ некалькі пытанняў, але ты збіраешся ісці. Пастой! У мяне да цябе спакуслівая прапанова: давай зробім невялікае падарожжа ў наша ўжо даўно адшумеўшае «дзяцінства, малалецтва і юнацтва»...

У які б год нам зазірнуць? Давай у 1933...

Памятаеш нашу першую сустрэчу? Мы пазнаёміліся з табой у зале пасяджэння выязнога суда! Судзілі апошняга ў нашых краях мацёрага і няўлоўнага бандыта Цыбульку. Гэты самы Цыбулька, кулацкі сын, які ўцёк з турмы, некалькі гадоў разбойнічаў у Журавіцкім раёне, лоўка ўвільваючы ад міліцыі, але нарэшце папаўся. І вось яго судзяць. Пад судовую залу быў спешна прыстасаваны напаўразбураны журавіцкі касцёл. Як ні стараліся не пушчаць нас, малечу, але мы ўсё-такі праніклі ў залу — знайшлі лаз на хоры з разбураным арганам і там, пад гатычнымі скляпеннямі, глядзелі зверху на перапоўненую залу. І якое ж было наша хлапчукоўскае расчараванне, калі мы ўбачылі на лаўцы падсудных плюгавенькага мужычка, са змардаваным спакутаваным тварам скапца, на якім панура тлелі злосныя чырвоныя вочы. Бадай, толькі чорнае шчаціннe на няроўна стрыжанай круглай галаве і нібы зрэзаны нізкі лоб неяк выяўлялі яго бандыцкае аблічча.

Забіўшыся на касцёльную верхатуру, мы сачылі за ходам судовага разбірацельства, і водгулле класавай барацьбы чулася нам, піянерам, у галасах суддзяў і сведак. Бандыт сядзеў з нізка апушчанай галавой, і, калі цішыню, якая ўсталявалася ў зале, раптам парушаў абураны гул народа, суддзя, пажылы стомлены чалавек, грукаў па графіне з вадой...

На трэці дзень суда, калі зачытваўся прыгавор, сын старшыні мясцовага калгаса «Прагрэс», які сядзеў побач са мной ля балюстрады хораў, шапнуў:

— Так яму і трэба! Ён жа, бандзюга, у майго бацьку страляў. Прамазаў...

Усе ў мястэчку ведалі амаль двухметровага шыракаплечага гіганта Ягора Макаёнка, старога бальшавіка, арганізатара Савецкай улады ў сваіх родных мясцінах, удзельніка калектывізацыі, калгаснага важака, і тое, што на яго мог узняць руку гэты несамавіты замухрышка, здавалася неверагодным...

Выйшлі мы з залы судовага пасяджэння неразлучнымі сябрамі...

Надзвычайны гэта быў час!

І вось з таго дня ўжо мінула без малога паўстагоддзе...

Паўстагоддзе! Як велічна і... сумна. Бадай, за гэтае паўстагоддзе з'елі мы з табой, Андрэй, солі больш чым традыцыйны пуд, і, можа, таму не ўсё ў нашым паўвекавым сяброўстве соладка: было і прэсна, і горка, а часам нават прытарна.

Але дружба ёсць дружба. Гады ёсць гады...

Вось стаіш ты переда мною трынаццацігадовым...

Востры тварык, журботная складка выразна абведзеных, яркіх губ, заўсёды адкрыты, дапытлівы і сарамлівы адначасова погляд уважлівых шэрых вачэй. Каштанавая грыўка. Здаецца, прамы нос вясной абсыпалі вяснушкі. Ты быў летуценнікам, табе добра было на адзіноце з лесам, берагам ракі, любіў ляжаць, закінуўшы рукі пад галаву, у высокай траве пад яблыняй у сваім садзе...

Памятаеш, як твой бацька ўзяў нас з сабой на дальнія калгасныя пакосы? Не, не дзеля забавы і адпачынку — мы працавалі поруч з дарослымі, зараблялі сваю кашу і малако з мёдам...

Мажны, упэўнены, з уважліва-іранічным позіркам пасуравеўшых вачэй, стаіш ты на трыбуне. Ажыўленне ў зале змяняецца насцярожанасцю: зараз прагучыць рэзкае і дасціпнае слова Андрэя Макаёнка...

Юнацкую сарамлівасць даўно ужо выціснула артыстычная лёгкасць і натуральнасць: у любой кампаніі, у любых абставінах масціты драматург трымаецца ўпэўнена, пры гэтым выгляд у яго такі, быццам усіх прысутных ён бачыць наскрозь і глыбей.

А можа, і бачыць...

Але многае з юнацкіх гадоў засталося ў ім нятленным.

Напрыклад, пачуццё абавязку.

Памятаецца, мы, камсамольцы, былі выкліканы ў райком камсамола: у раёне ішоў камсамольскі рэйд па праверцы гатоўнасці да веснавой сяўбы. Нам выпаў дальні калгас «Чырвоны араты». Светлай лютаўскай раніцай сталі мы на лыжы і адправіліся ў дарогу. Кіламетраў дзесяць прайшлі — пачалася завіруха. Мы ўпарта перастаўлялі пацяжэлыя лыжы, стараліся ісці ўздоўж прыдарожных бяроз, але вецер кідаў прама ў твар і грудзі жорсткія снежныя крупы. Мы выбіліся з сіл. І вось у снежнай завірусе паказаліся цьмяныя, нясмелыя агеньчыкі прыдарожнай вёсачкі. Можна было б у ёй перачакаць непагадзь, абагрэцца. Не згаворваючыся, мы спыніліся, паглядзелі ў бок белых дахаў, што горбіліся непадалёк, палюбаваліся пасмамі дыму, вецер зрываў іх з каміноў, і, не згаворваючыся, пакрочылі далей, працягваючы свой нялёгкі шлях...

Якая ж сіла рухала нашымі лыжамі? А тая самая, якую называюць святым абавязкам, хаця ў тыя часы мы яшчэ не ўмелі думаць так узвышана — проста выконвалі чарговае камсамольскае даручэнне. Познім вечарам, у цемры апраметнай дабраліся мы да нашага падшэфнага калгаса. Пад'ехалі да праўлення — замок. Куды? Шукаць дом старшыні? Вельмі ён нас чакае! Заставалася толькі школа. З цяжкасцю адшукалі на выгане несамавіты дамок пачатковай школы. Цьмяна свяцілася бакавое акенца. Андрэй пастукаў у шыбу канцом лыжнай палкі. Доўга ніхто не адгукаўся.

— Спяць,— сказаў я.

— А чаго святло гарыць? — запярэчыў Андрэй, і гэта было слушна: у тыя гады нават газа была дэфіцытам.

Нарэшце адхінулася фіранка, у прыхопленым узорнай шэранню шкле няясна абазначыўся твар. Пасля па вокнах залацістым матыльком бясшумна прашалясцела святло, і на замеценым снегам ганку з лямпай у руцэ з'явіўся хлапец у накінутай на плечы целагрэйцы.

— Заходзьце, хлопцы! Заблудзіліся? Не дзіўна: гэткая кругаверць. Заходзьце, заблудныя!

— Мы не заблудныя,— запярэчыў Андрэй.— Мы — рэйд!

— А! Камсамольцы! Дык вас учора чакалі...

Мы ўвайшлі ў школу, прайшлі калідорам і апынуліся ў цеснай каморцы: ложак, крываногі стол, этажэрка з кнігамі.

— Мае харомы! — пахваліўся малады настаўнік, амаль наш равеснік.— Цёпла і ўтульна. Усё пад рукой. Сумна толькі аднаму вось такімі вечарамі...

— Адзін на ўсю школу? — пацікавіўся Андрэй.

— Пакуль адзін... Абяцалі прыслаць яшчэ двух настаўнікаў, ды штосьці не едуць. Дэфіцытная, разумееш, наша настаўніцкая прафесія стала. Вось вы куды меціце пасля дзесяцігодкі? Нябось, у ваенныя вучылішчы... Так?

Мы пераглянуліся: здагадаўся ж настаўнік аб нашых намерах!

Настаўнік засмучана заўважыў:

— Вось бачыце. Я таксама, скажу шчыра, мастаком марыў стаць,— ён кіўнуў на сцяну, увешаную малюнкамі і акварэлямі.— Мае работы... Але вось стаў настаўнікам і не шкадую...

Пры святле лямпы Андрэй прыняўся разглядаць малюнкі на сцяне. Гэта было яму цікава: ён таксама марыў стаць мастаком. Пра гэтую ягоную мару ведаў толькі я... Як, чаму нарадзілася ў яго гэта мара? Думаю, што прычынай таму яго родная вёска Борхаў. Месца гэта дзівоснае па маляўнічасці: неабсяжныя далячыні, лясы, якія падступалі ў тыя часы ледзь не пад самыя хаты, рэшткі панскага парку, рака... Захапленне роднай прасторай, каларытнымі вясковымі людзьмі, шматколернасцю і бела-чорнай гамай зімовага пейзажу і пасеяла ў юную ўспрымальную душу іскру таленавітасці...

Скончыўшы дзесяцігодку, Андрэй, нікому не сказаўшы ні слова аб сваіх намерах, паехаў у Маскву «вучыцца на мастака». Блукаючы па Маскве, натрапіў на аб'яву аб наборы студэнтаў на мастацкі факультэт інстытута кінематаграфіі. «Што гэта за інстытут такі,— прызнаваўся Андрэй,— я тады і зразумець не мог. Падкупіла слова: мастацкі...» Ён падаў дакументы і свае малюнкі — памятаю вельмі выразны малюнак падранага чаравіка: у ім было штосьці няўлоўна камічнае — вельмі ж жаласна шчэрылася адарваная падэшва з цвікамі. Чаравік, як кажуць, «прасіў кашы»...

Андрэй быў дапушчаны да ўступных экзаменаў і «адсеяўся» ўжо на апошнім туры — усё ж не хапіла яму прафесійных навыкаў, неабходных для навучання ў вышэйшай мастацкай установе.

Так было пакончана з марай: вярнуўся Андрэй з Масквы, нікому не прызнаўшыся, куды ён паступаў, і праз месяц пайшоў служыць у Чырвоную Армію. Але і па сённяшні дзень ён добра малюе, рэжа па дрэву, а галоўнае, любіць выяўленчае мастацтва.

Не ведаю, ці страціў жывапіс свайго майстра, але ўсім цяпер вядома, што драматургія папоўнілася мастаком самабытным, арыгінальным і шчодрым. Думаю, што не апошнюю ролю ў гэтым адыграла і яго захапленне жывапісам...

Неяк Флабэр прызнаўся: «Эма Бавары — гэта я...»

Бадай, Андрэй Макаёнак таксама мае поўнае права сцвярджаць, што яго асабісты характар — гэта мешаніна з характараў, створаных ім у п'есах. Ну, а які ж характар можа скласціся з гэтай мазаікі тыпаў, народжаных неўтаймоўнай фантазіяй драматурга?

Андрэй Макаёнак — натура складаная і супярэчлівая: усё ў ім яркае і кантраснае! Нішто чалавечае і зямное яму не чужое. І калі на адну шалю вагаў змясціць яго дабрадзейнасць, а на другую недахопы, то цяжка прадказаць: якая ж перацягне?

Калі ён любіць чалавека, ён яму сімпатычны, то гэтая любоў палкая, да самазабыцця. Але гэтак жа люта пагарджае ён тымі, хто не выклікае ў яго сімпатый.

У асяроддзі людзей, якія выклікаюць у яго сімпатыю, Андрэй здзіўляе сваёй весялосцю, аптымізмам, энергіяй. Ён дасціпны, парадаксальны, жартуе напрапалую і сам смяецца над сваімі жартамі так заўзята, шчыра і гучна, што пры наяўнасці паблізу крышталю можна пачуць меладычны звон яго — я сам таму сведка...

Але блізкія сябры не раз былі сведкамі яго страшэннай маркоты, тугі, і гэтыя хвіліны душэўнай неўладкаванасці таксама здзіўляюць крайнасцю.

І што дзіўна! Гады не ўладны над складанай супярэчлівай структурай яго душэўнай будовы: якім ён быў у юнацтве, такім ён і застаўся ў свае сталыя гады.

Сентыментальнасць ўжываецца ў ім з нецярпімасцю, дабрата з жорсткасцю, шчодрасць са скупасцю...

Храбры? Так. Ён быў храбрым салдатам. За праяўленую мужнасць узнагароджаны медалём «За адвагу» ў той час, калі баявыя ўзнагароды часцей адбіралі, чым давалі. Гэта быў цяжкі час для Радзімы — вораг таптаў нашу зямлю... Маладым палітруком стралковай роты Андрэй Макаёнак разам з маракамі-дэсантнікамі ўдзельнічаў у славутым рэйдзе ў тыл ворага пад Феадосіяй. Цяжка паранены, ён зусім выпадкова быў падабраны на полі бою, перанёс складаную аперацыю, пры гэтым з пісталетам у руцэ (літаральна!) адстаяў у хірургаў нагу, якую яны ўжо рыхтаваліся ампутаваць. Пасля выздараўлення Андрэя дэмабілізоўваюць. Родная Беларусь пад ботам акупантаў, і Андрэй застаецца ў Грузіі, там, дзе ляжаў у шпіталі. Вучыць грузінскіх школьнікаў вайсковай справе. І не выпадкова з такім пранікненнем у змест і камедыйным бляскам пераклаў ён на беларускую мову п'есу грузінскага драматурга Думбадзе «Я, бабуля, Іліко і Іларыён...».

І вось нашы войскі вызвалілі Гомель, і Андрэй спяшаецца на радзіму, у Журавічы. Радасць сустрэчы з братам Іванам і сястрой Моцяй, беларускімі партызанамі, якія толькі што вярнуліся з лесу. І сардэчны боль — бацьку расстралялі немцы за сувязь з партызанамі...

Яшчэ даносілася водгулле кананады, а ў Журавічах наладжваецца прывычнае савецкае жыццё: трэба было араць зямлю, сеяць хлеб, будавацца,— і камуніст Андрэй Макаёнак, работнік райкома партыі, плячо ў плячо з героямі сваіх будучых п'ес наладжвае жыццё на вызваленай зямлі.

Не, чаго-чаго, але смеласці і мужнасці ў яго не адымеш...

Храбры, але... не можа бачыць крыві і пакут, баіцца захварэць, каб не прычыняць клопату блізкім, недаверлівы...

І гэтага таксама не адымеш.

Сарамлівы. Ён не страціў здольнасць чырванець. Але і ганарысты. Гэтай яго слабасцю карыстаюцца пранырлівыя спрытнюгі. Назойлівай машкарой кружацца яны над яго галавой, якая заслужана ўвенчана лаўрамі прызнання і поспеху. Здавалася, навошта яму гэты хор кадзільшчыкаў? А ўсё-такі масціты драматург памяркоўна, праўда, іранічна жмурачыся, слухае лісліўыя прамовы, хаця і не па душы яму своекарысліваcць падлізнікаў...

Прынцыповы? Так. Асабліва, калі справа тычыцца грамадскіх і грамадзянскіх пазіцый, калі спрэчка ідзе аб драматургіі, тэатры, літаратуры і мастацтве.

Вось толькі два факты.

Пасля вучобы ў рэспубліканскай партыйнай школе Андрэй Макаёнак стаў супрацоўнікам сатырычнага часопіса «Вожык». Сваё сатырычнае джала будучага камедыёграфа ён адтачыў менавіта ў «Вожыку», на старонках якога з'явіліся яго злосныя, выкрывальніцкія фельетоны. А гэта быў складаны час, калі выступаць з крытыкай можна было на вельмі абмежаваны кантынгент парушальнікаў нашых парадкаў. Існаваў няпісаны спіс тых, у каго сатырычныя стрэлы цэліць не рэкамендавалася. І ўсё-такі пачынаючы фельетаніст Андрэй Макаёнак кідае свае сатырычныя стрэлы, як кажуць, «нягледзячы на асоб». Шмат шуму нарабіў у рэспубліцы яго фельетон аб непрыстойных справах тагачаснага міністра сельскай гаспадаркі рэспублікі Касцюка, натуры разгульнай, які не грэбаваў нічым, каб задаволіць свае патрэбы. У фельетоне расказвалася пра Касцюка-браканьера. Здзіўляе празорлівасць маладога фельетаніста: у створаным ім фельетонным вобразе разбэшчанага чынушы выразна прадбачыўся яго немінучы крах — так яно і выйшла: службовая кар'ера Касцюка закончылася на лаве падсудных...

Ну, а фельетаністу ў той час давялося праявіць партыйную прынцыповасць і грамадзянскую мужнасць, каб з адкрытым забралам уступіць у адзінаборства з самім міністрам.

Другі факт.

У цяжкія гады нашай кінематаграфіі, у перыяд так званага «бескарціння», сталічны кінематаграфіст, які не меў ніякіх адносін да сцэнарнай справы, напісаў у спешцы сцэнарый пра Кірылу Арлоўскага і, заручыўшыся падтрымкай сваіх сяброў з Дзяржкіно, ужо збіраўся ставіць фільм па свайму графаманскаму твору на «Беларусьфільме». Усё ўжо была вырашана і, як кажуць, падпісана, і толькі член сцэнарнай калегіі А. Макаёнак — на дыбкі! Толькі ён адзін паўстаў супраць яўнай халтуры. Але ўсё ўжо было «на мазі», і пратэстуючы голас Макаёнка патануў у фальшывых дыфірамбах наваспечанаму сцэнарысту. І вось на цэлую паласу «ЛіМа» з'яўляецца крытычны артыкул А. Мака-

ёнка, бліскучы па доказнасці, дасціпны і эрудыраваны, які не пакінуў каменя на камені ад сцэнарыя.

Я сам сведка, як многія, у тым ліку і тыя, хто галасаваў за сцэнарый, падыходзілі да Андрэя з віншаваннямі...

Андрэй — натура гарачая, захапляецца фатаграфіяй, разьбой па дрэву, пасля на доўгі час увесь аддаецца вырошчванню саду, кіназдымкам, выпілоўванню лобзікам, корпаецца ў аўтамашыне. І раптам да ўсяго астывае. Хіба толькі рыбалка. Гэта захапленне самае стойкае: рыбалоў ён на дзіва вязучы. У нашы дні, калі рыбаловаў больш, чым засталося рыбы, злавіць на спінінг кілаграмовага шчупака раўназначна загарпуненаму ў акіяне кіту. Я ж асабіста быў сведкам рыбацкага трыумфу Андрэя.

Зацікавіўшыся сцэнарыем кінакамедыі, які напісаў Макаёнак, у Мінск прыехаў вядомы кінарэжысёр-камедыёграф Барыс Барнет. Шмат аказалася агульнага і блізкага ў гэтых двух цікавых людзей. Яны абодва радаваліся гэтай сустрэчы. Выявілася, у іх і аднолькавыя захапленні: рыбалка і прэферанс.

У зацяжным сеансе прэферанса пераможцам выйшаў Андрэй.

Барнет засмуціўся, але разлічваў на рэванш у рыбнай баталіі.

І вось, аснашчаны заморскімі спінінгамі і іншымі рыбацкімі прыладамі Барнет нястомна кідае бліскучую блешню ледзь не на сярэдзіну возера — рыбак ён, як выявілася пазней, вопытны, натрэніраваны, але рыба не бралася, хоць трэсні!

Андрэй жа са сваім спінінгам, з-за якога можна было б чырванець перад сталічным госцем, прымасціўшыся ў некалькіх метрах ад Барнета, з трэцяга закіду выцягнуў... шчупака! Яшчэ дзесятак закідаў несамавітай самаробнай блешні, і Андрэй пацягнуў здабычу да берага. Здабыча бушавала ў вадзе, не давалася. Давялося прасіць у госця падхватнік (таксама заморскі!) і з дапамогай яго выцягваць двухкілаграмовага шчупака. Было гэта амаль непраўдападобна, і нават сам Андрэй збянтэжыўся, зматаў спінінг, даючы магчымасць госцю зраўняцца. Разам з Аркадзем Куляшовым яны пачалі гатаваць юшку, а Барнет усё яшчэ кідаў і кідаў блешню. Прыйшоў ён да вогнішча насуплены і панура пажартаваў:

— Нябось, вы тут, у Беларусі, нават шчупакоў напужалі касмапалітызмам — на заморскую снасць не клююць...

І тады Андрэй, гэтак хітравата жмурачыся, прапанаваў памяняцца спінінгамі. Памяняліся, і зноў пачаліся спаборніцтвы. І зноў прыкладна праз паўгадзіны на заморскую блешню Андрэй падчапіў шчупака! Аркадзь Куляшоў, чалавек, які сам захапляўся шахматамі — першакласны шахматыст, ён праводзіў за шахматнай дошкай доўгія засяроджаныя гадзіны, але з яўнай іроніяй адносіўся да рыбакоў і паляўнічых,— на гэты раз са здзіўленнем глядзеў на Андрэя як на лоўкага штукара. Ён нават узяў у рукі спайманага шчупака, нібы хацеў пераканацца: ці сапраўдны ён?

Шчупак быў сапраўдны...

Праводзілі Барнета шумна. На вакзале Барнет увесь час абдымаў Андрэя, не жадаючы з ім расставацца, угаворваў ехаць разам на возера Селігер, абяцаючы там вярнуць сабе славу сапраўднага рыбака. Андрэй абяцаў прыехаць.

І вельмі шкада, што з-за нейкай арганізацыйнай неразбярыхі не адбылася іх сумесная работа над фільмам...

І яшчэ адна шчаслівая якасць Андрэя: ён лёгка сыходзіцца з цікавымі людзьмі.

...Позняя восень ужо не памятаю якога года. Ва ўсякім разе, усе мы былі яшчэ маладыя. І тыя, што нядаўна вярнуліся з вайны, і нават тыя, для якіх Айчынная вайна была не першай...

Малойцам выглядаў у той час і мілы Лынь, як ласкава называлі за вочы Міхася Ціханавіча Лынькова ўсе мы, маладыя пісьменнікі.

Цемра ў соснах згушчалася рана, і ў вокнах Каралішчавіцкага дома з'яўляліся цьмяныя барвовыя водбліскі — тады гэта славутае пісьменніцкае прыстанішча асвятлялася газавымі лямпамі...

Пасля вячэры ставілі дзве лямпы ў агульным пакоі, усаджваліся вакол стала, і пачыналіся размовы. Якія цікавыя гэта былі пасядзелкі. У тую восень Міхась Ціханавіч толькі што вярнуўся з Амерыкі, дзе ён прадстаўляў нашу рэспубліку ў ААН, і быў галоўным расказчыкам. А расказчыкам ён быў выдатным, тое, што ён расказваў, для нас, маладых, было навіной. Мы слухалі гэтыя расказы літаральна раскрыўшы рот. Тады мы былі не толькі маладымі пісьменнікамі, але і параўнаўча маладымі людзьмі. На Міхася Ціханавіча мы гля-

дзелі як на роднага бацьку. Ды і было ў ім у адносінах з моладдзю менавіта штосьці бацькоўскае...

Але больш за іншых падабаўся яму Андрэй Макаёнак у тыя часы. А пазнаёміліся яны значна раней, чым Андрэй стаў прафесійным пісьменнікам, шматабяцаючым драматургам.

Было гэта так. Зімой 1947 года Андрэй Макаёнак — работнік Журавіцкага райкома партыі — у якасці сакратара выбарчай камісіі ў Вярхоўны Савет БССР прывёз у Мінск выбарчую дакументацыю і ў Цэнтральнай камісіі ўручыў яе... Міхасю Ціханавічу! Нядаўні школьнік, які вывучаў Лынькова па праграме беларускай літаратуры быў ашаломлены, убачыўшы жывога, класіка, аўтара твораў, якія вывучаліся ў школе, на тэмы якіх пісаліся сачыненні...

Цікава і тое, што сваю маладосць Лынькоў правёў побач з вёскай, дзе ўжо гайдаўся ў люльцы будучы камедыёграф. Пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі Міхась Ціханавіч настаўнічаў у Свержанскай школе, а ад Свержаня да Борхава рукой падаць... З гэтага ж Свержаня будучы класік беларускай літаратуры пісаў свае першыя вершы і заметкі, пасылаў іх у бабруйскую акруговую газету «Камуніст»...

У тую восень у Каралішчавічах Міхась Ціханавіч жыў з жонкай Соф'яй Захараўнай у самым сціплым, прадаўгаватым вуглавым пакоі на другім паверсе, а Андрэя чамусьці пасялілі ў самым вялікім, на два акны, і таму самым светлым пакоі на першым паверсе. Ён быў збянтэжаны гэтымі абставінамі і тайком прапанаваў Соф'і Захараўне памяняцца пакоямі. Соф'я Захараўна засмяялася:

— Андрэйка, Андрэйка, смешны ты чалавек... Не ўздумай прапанаваць гэта Міхасю... Ён жа не такі, як усе... Вунь якія харомы ўжо паабжывалі яго калегі, а ён ніяк не асмеліцца выбрацца з катушкоў, у якіх мы жывём...

(І сапраўды, у тыя гады Лыньковы жылі ў драўляным двухпавярховым бараку па вуліцы Берсана, тулячыся ў цёмных, цесных трох катушках, якія былі завалены кніжкамі і рукапісамі...)

Вячэрнія гутаркі пры святле дзвюх газавых лямпаў памятаюць усе, каму давялося жыць тады ў Каралішчавічах. Гэта была своеасаблівая літаратурная акадэмія. Часта гэтыя літаратурныя пасядзелкі адбываліся пад соснамі, дзе Міхась Ціханавіч з урачыстасцю і лоўкасцю старажытнага «жраца агню» раскладаў і запальваў вогнішча. Гэта быў велічны рытуал накшталт запальвання алімпійскага агню. Наша задача была сціплая: з усяго лесу збіраць галлё. І тут таксама вызначаўся Андрэй: ён заўсёды знаходзіў сухастой і ссякаў яго спецыяльнай сякерай. А тое, што Андрэй, нарыхтоўваючы дровы, яшчэ быў і «санітарам лесу», вельмі падабалася Міхасю Ціханавічу. Дарэчы, ён любіў усіх, каму падабалася вогнішча і гутарка пад трэск і шорах гарэўшых галінак...

І яшчэ адна традыцыя была заведзена Міхасём Ціханавічам: звычайна перад абедам ён падзываў Андрэя і, жмурачыся сваімі добрымі і ўсмешлівымі вачыма, таямніча шаптаў:

— Кліч уюнашаў у маю келлю.

Андрэй з задавальненнем выконваў даручэнне. Мы набіваліся ў цесны пакойчык, Міхась Ціханавіч расчыняў дзверцы шафкі — на паліцы стаяла цэлая батарэя бутэлек з заморскімі маляўнічымі этыкеткамі. Вымаў пазалочаныя чарачкі з напарстак — посуд для многіх непрывычны, але Міхась Ціханавіч прытрымліваўся толькі гэтай нормы. Прапаноўваў:

— Можа, уюнашы жадаюць паспытаць амерыканскае віскі?

Уюнашы жадалі. Паспрабаваўшы заморскае пітво, многія крывіліся: выявілася, што смак гэтага славутага віскі горшы, чым у самай дрэннай беларускай самагонкі...

Міхась Ціханавіч весялеў, хітравата падміргваў:

— А вы думалі, што амерыканцы што-небудзь талковае п'юць? І п'юць і ядуць яны ўсялякую дрэнь...

Часам Міхась Ціханавіч цікавіўся, над чым працуюць маладыя. Аднойчы спытаў у Андрэя:

— Над чым карпееш, уюнаша?

Андрэй хітравата, вельмі падобна як жмурыўся сам Міхась Ціханавіч, жмурачыся сваімі шэрымі вачыма, сказаў:

— Зараз пакажу! Хвілiначку! — ён зайшоў у свой пакой і вынес напалову спісаны аркуш з велізарнай чарнільнай плямай пасярэдзіне. На здзіўленне ўсіх, растлумачыў: — Вось пачаў пісаць, а Акбар (так звалі каралішчавіцкага ката) прачытаў, відаць, не спадабалася, узяў і заліў чарнілам... Цяпер не ведаю, што рабіць...

Акбар — усеагульны любімец, але свавольнік і блудны кот, узяў моду: як толькі творцы ішлі на абед ці прагулку, ён забіраўся ў пакоі, залазіў на пісьмовыя сталы, раскідаў рукапісы, а калі трапляліся не закрытыя чарніліцы, пераварочваў іх. Падобную шкоду ён зрабіў і ў пакоі Андрэя.

Міхась Ціханавіч, памятаю, пагледзеў на аркуш і сказаў:

— А што вы думаеце, уюнашы! Можа, у гэтага прайдзісвета крытычны талент? Чытае ён нашы рукапісы і ацэньвае падобным чынам... Так што, Андрэйка, не грэх і прыслухацца...

— Я з ім, Міхась Ціханавіч, абавязкова пагутару...

І пагутарыў. Размова была, відаць, вельмі мужчынская. Пасля яе кот больш не з'яўляўся ў пакоях, а заўважыўшы Андрэя, стрымгалоў узлятаў на бліжэйшую сасну. Каралішчавіцкія жанчыны дапытваліся, што за размова адбылася ў Андрэя з катом, але ён маўчаў.

...Андрэй — натура артыстычная. Ён выдатны чытальнік сваіх п'ес. Чытаючы, ён сам праігрывае ўсіх персанажаў. Акцёры, праслухаўшы яго чытанне, ніяк не могуць пазбавіцца ад навязанай ім драматургам інтанацыі, жэстаў, грымас. Не ўсім рэжысёрам гэта падабаецца. Некаторыя не дазваляюць яму чытаць свае п'есы акцёрам. А акцёры вельмі любяць драматурга: пакуль ставіцца спектакль, яму даводзіцца адказваць на сотні іх пытанняў, паказваць, кансультаваць, самому іграць.

Славутыя карыфеі беларускай сцэны Платонаў, Глебаў, Дзядзюшка, Ждановіч, Бараноўскі і дзесяткі іншых не толькі былі сябрамі, але проста любілі Андрэя...

Андрэй плоціць ім тым жа: бадай, сяброў сярод акцёраў, рэжысёраў, мастакоў у яго больш, чым сярод літаратараў, калег па драматургічнаму цэху.

Сёння мы віншуем таленавітага драматурга Андрэя Макаёнка ў дзень яго жыццёвай і творчай спеласці. Стала прывычным раздаваць юбілейныя эпітэты: вядомы, славуты, таленавіты... Але Андрэю Макаёнку тытул таленавітага драматурга можна прысвойваць смела — ён справядліва і чэсна яго заслужыў.

Ну, а што ж гэта такое — талент?

У Даля так: «Талент — прыродны дар, здольнасць чалавека і здольнасць да нечага. Таленавіты — надораны прыроднымі здольнасцямі...»

Бадай, у прымяненні гэтага вызначэння таленту да Макаёнка ўсё сыходзіцца: так, прыродны талент, здольнасць...

Але галоўнай школай драматурга засталося жыццё.

А яно было нялёгкім. Многае ўдалося Андрэю, але жыццё яго не песціла. Шэсцьдзесят гадоў, пражытых ім, змясцілі ў сабе надзеі і расчараванні, радасці і боль, набыткі і страты...

Адкрываю вокладку першай тоненькай кніжкі Андрэя, выдадзенай у 1951 годзе. У ёй дзве аднаактоўкі: «Перад сустрэчай» і «Жыццё патрабуе». На тытульнай старонцы даравальны надпіс: «Свой першы нясмелы крок — першую кніжачку — дару табе». Але ці такі ўжо нясмелы гэты «першы крок»? Абедзве гэтыя п'есы малады драматург паслаў на закрыты рэспубліканскі конкурс і «забраў» амаль усе прэміі: адна з п'ес атрымала першую прэмію, другая — другую! Як бачым, «першыя крокі» Андрэя Макаёнка як драматурга былі ўпэўненымі, шматабяцаючымі. Трапны народны гумар, камічныя сітуацыі ўжо ў гэтых п'есах гаварылі пра кірунак творчасці драматурга выразна і ясна.

Ён чуйна ўслухоўваецца ў народную гаворку, і таму мова яго персанажаў каларытная, яркая і трапная. Стыль яго п'ес парадаксальны і самабытны — Макаёнак гаворыць і паказвае са сцэнічных падмосткаў «па-макаёнкаўску» — яго не зблытаеш ні з кім іншым. Няма чаго граху таіць: сучасная драматургія здзіўляе сваім падабенствам мовы і стылю, з'явіліся п'есы і спектаклі падобныя, як блізняты,— п'есы-штампы, спектаклі-двайнікі...

Макаёнак выпрацаваў у сабе такую манеру працы: спачатку п'еса выдумваецца і выхаджваецца — п'еса і нават спектакль па ёй ствараецца ў памяці. У гэты час ён любіць расказваць сябрам гэту яшчэ не напісаную п'есу, праігрываць цэлыя эпізоды — па сутнасці, гэта праверка будучай п'есы і спектакля на гледачу і слухачу. І толькі тады, калі пераканаецца, што п'еса «паспела», ён садзіцца за пісьмовы стол. Па натуры непаседа, ён не заседжваецца — спяшаецца хутчэй зафіксаваць на паперы да драбнейшых дэталяў ужо створаную ў

памяці п'есу. Так лепшая яго п'еса «Трыбунал» напісана за два тыдні, што для сучасных тэмпаў стварэння літаратурных і драматычных шэдэўраў дзівосна. Ён сцвярджае, што п'еса павінна стварацца на адным дыханні, тады ў ёй захаваюцца «вітаміны ўздзеяння» на гледача...

Вопыт драматурга павучальны.

Ніколі не быў ён бяздзейным назіральнікам. Ён жыве клопатамі і працай, радасцямі і смуткам свайго народа. І не дзіўна, што героі яго п'ес праўдзівыя, жыццепадобныя: Гарошка, Лявон Чмых, Цярэшка, дзед Цыбулька — хіба гэта героі п'ес, тэатральныя персанажы? Не, гэта жывыя, рэальна існуючыя людзі, хаця і народжаныя фантазіяй пісьменніка. Але тут не натуралістычнае падабенства, героі макаёнкаўскіх п'ес—вобразы шматгранныя і аб'ёмныя, якія нясуць у сабе абагульненне і дакладныя прыкметы нашага часу. Дзеянне ў яго п'есах хаця і разгортваецца ў рамках адной сям'і, але героі сутыкаюцца і канфліктуюць не ў вузка-асабістых інтарэсах і адносінах, а дзейнічаюць на шырокіх прасторах грамадскага жыцця.

Мне давялося ставіць фільм па п'есе «Лявоніха на арбіце». (У пракаце ён называўся «Рагаты бастыён»). Гэта была складаная і цяжкая праца. Патрабавальнасць і бескампраміснасць Андрэя сутыкалася з парадкамі і норавамі, панаваўшымі ў кіно, нараджала не адзін канфлікт. І мне, дзякуючы нашай даўняй дружбе, натуральна, даводзілася цярпець больш за ўсіх — сінякі і шышкі, якімі абменьваліся ў працэсе нашай сумеснай работы, яшчэ баляць і зараз...

Але сустрэча з такім арыгінальным мастаком у сумеснай рабоце была цікавая і павучальная, хаця кан'юнктура часу і наклала цяжкі адбітак на выніки яе.

Макаёнак непахісны ў сваіх пазіцыях. А гэта пазіцыя сумленнага савецкага мастака-камуніста. Мэта яго жыцця — барацьба за новага чалавека, за яго шчасце, за справядлівае камуністычнае грамадства.

— Мая зброя ў гэтай барацьбе,— гаворыць ён,— мае п'есы. І яны павінны ўздзейнічаць сілай сваёй праўды, сваёй пранікнёнасцю ў глыбіні жыццёвых працэсаў. Калі ж мастак пачынае вышукваць, як прыкрыць, завуаліраваць праўду, наносіць на яе мішурны глянец або, наадварот, цынічна выскаляецца і бурчыць, падмяняючы генеральнае змаганне на адкрытых прасторах нашага жыцця мітуснёй, ён як мастак перакрэслівае сябе як байца ідэалагічнага фронту, а часам аказваецца па той бок барыкад...

Такія меркаванні Андрэя Макаёнка аб месцы і задачах сённяшняга мастака ў сучасным свеце. І таму ён не абмяжоўвае сваю творчасць рамкамі сучаснай вёскі — у сферы яго творчых інтарэсаў увесь свет. Невыпадковыя і яго шматлікія паездкі за межы нашай Радзімы. Гэта былі паездкі не бяздзейнага турыста — сваім пільным, вопытным вокам мастака ён змог многае ўбачыць, супаставіць і «пераварыць» для сваёй творчай работы.

З'явілася п'еса «Зацюканы апостал». Калі прымяніць да гэтай п'есы модны тэрмін вызначэння якасці прадукцыі, то гэты сатырычны памфлет зроблены на ўзроўні «сусветных стандартаў».

Гаворка не пра тое, што аўтар не без іроніі і тонкага парадыравання дэманструе віртуознае валоданне формамі і прыёмамі сучаснай сусветнай драматургіі, хаця і гэта сведчыць аб майстэрстве драматурга, галоўнае ў тым, што ў сваім вострасатырычным творы аўтар закранае агульначалавечыя праблемы, выступае непрымірымым крытыкам капіталістычнай сістэмы, выкрывае ідэалогію ашалелага імперыялізму, агаляе грамадзянскую і маральную гніль сучаснага буржуазнага грамадства. Ён сцвярджае немінучую пагібель падобнага грамадства. Гэтай жа тэме прысвечана яго п'еса «Святая прастата».

На адным з пісьменніцкіх пленумаў, спецыяльна прысвечаных драматургіі, пра Андрэя Макаёнка былі сказаны праўдзівыя і добрыя словы: «А. Макаёнак — драматург складанай камедыйнай думкі, яркі сатырык. Цяжкі, з ухабамі і калдобінамі шлях сатырыка. Але Макаёнак — моцны чалавек. Ідзе!»

Застаецца пажадаць нашаму юбіляру яшчэ доўгія гады ісці па гэтым шляху і не збівацца з яго.

Шчаслівай і плённай табе хады, Андрэй!

...Я доўга гляджу, як па лясной сцяжынцы пад зялёнымі шатамі елак крочыць мой стары сябар Андрэй Ягоравіч Макаёнак.

Пятро ВАСІЛЕЎСКІ

Фота **В. Ждановіча**

# ЯДНАЮЧЫ СУЧАСНАЕ З МІНУЛЫМ

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Сучаснае беларускае прыгожае пісьменства не ведае такога аўтара, што б, як Уладзімір Караткевіч, адначасова так плённа працаваў у паэзіі, прозе, драматургіі, публіцыстыцы і літаратурнай крытыцы.

Яго творчасці нельга даць вычарпальную ці канчатковую ацэнку. Яна багатая і разнастайная, як і само жыццё. Тым не менш, калі думаеш пра Караткевіча-паэта, у першую чаргу хочацца гаварыць пра яго балады, інтымныя вершы і тыя творы, дзе ён звяртаецца да набыткаў як айчыннай, так і сусветнай культуры. Калі нагадваеш Караткевіча-празаіка ці драматурга, то адразу хочацца адзначыць тыя адкрыцці, якія ён зрабіў у беларускай літаратуры сваімі гістарычнымі і прыгодніцка-дэтэктыўнымі творамі. Калі звяртаешся ў думках да Караткевіча-нарысіста і літаратурнага крытыка, то адразу ж хочацца падкрэсліць надзвычай развіты эстэтычны густ, тонкае адчуванне мастацкага слова і асаблівую творчую апантанасць пісьменніка. У яго творах чытача прываблівае эрудыцыя і дасведчанасць аўтара, глыбокі патрыятычны і гуманістычны змест гэтых твораў, іх пазнавальнасць, а таксама займальнасць сюжэта і дынамізм апавядання.

Уладзімір Караткевіч адносіцца да таго пакалення беларускіх пісьменнікаў (Р. Барадулін, Я. Сіпакоў, В. Адамчык, Г. Бураўкін, І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі, М. Стральцоў і іншыя), якія пачалі друкавацца ў другой палавіне 50-х—пачатку 60-х гадоў. Гэтыя і іншыя аўтары ў значнай ступені вызначаюць характар і адметныя асаблівасці сучаснай беларускай літаратуры. Кожны з іх—яркая і самабытная творчая індывідуальнасць. Непаўторнай своеасаблівасцю вылучаецца і творчасць Караткевіча.

Відаць, апраўданым будзе тое, калі гаворку пра творчасць Караткевіча мы пачнем з разгляду яго паэзіі. І не толькі таму, што першымі друкаванымі кнігамі былі ў яго зборнікі паэзіі (а цяпер у паэта іх тры: «Матчына душа», 1958; «Вячэрнія ветразі», 1960; «Мая Іліяда», 1969), але і таму, што ў першую чаргу ў паэзіі прыкметна выяўляюцца характэрныя асаблівасці і адметныя рысы надзвычай лірычнай па сваймy характару далейшай яго творчасці.

Як творчасць любога цікавага і прыкметнага аўтара, паэзію Караткевіча нельга уніфікаваць і падвесці пад нейкі агульны знамянальнік. У многім паказальны верш «Гусі-лебедзі ў лугах зялёных»:

Але ў сне не вып'еш столькі гора.
Ведаю, што я званіў у шчыт,
Я граміў татар пад Крутагор'ем,
Я крышыў крыжацкія мячы.
Кроў далі мне паплавы і пожні,
Голас — бор дрымучы і чарот.
Я з табою да крыві апошняй,
Мужны мой, адвечны мой народ.
...І калі ў твае глыбіні лягу,—
Дай мне ціхі спеў тваіх бяроз.
За любоў, за веру, за адвагу
Сціплых песняў, што табе прынёс.

Гэта своеасаблівае паэтычнае крэда паэта. У вершы надзвычай арганічна спалучыліся асабістае і грамадскае. Асабістае шчасце немагчыма без шчасця радзімы. Паэт у рамантычна-філасофскай форме выказвае прыналежнасць і моцную знітаванасць з мінулым, сённяшнім і будучым свайго народа.

Дыяпазон творчага зацікаўлення Караткевіча вельмі шырокі. Ён піша пра мінулае і сённяшняе роднага краю, звяртаецца да гістарычных і кніжных сюжэтаў, стварае шчырыя і пранікнёныя інтымныя вершы, закранае значныя эстэтычныя і агульнафіласофскія праблемы, выказвае зацікаўленасць да лёсу іншых народаў. Аднак пры ўсім гэтым яго паэзія прасякнута глыбокім патрыятычным пачуццём.

Нават у вершах з раздзела «Таўрыда» са зборніка «Мая Іліяда», якія ўзніклі ў выніку наведвання паэтам Крыма, прыкметна адчувальныя матывы любові да сваёй радзімы, да Беларусі. Так успамін пра таўраў, пра народ, ад якога засталіся толькі руіны яго пабудоў і назва мясцовасці, выклікалі ў паэта наступную думку:

Я стаю і ўяўляю,
Што я не ізгой,
Не паэт з беларускіх узгоркаў сініх,
А апошні таўр
Народа свайго.
О, якая ганебнасць у гэтых згадках!
О, які атрутны бяспамятства дым!..
Крый нас божа, калі і на нас
Нашчадкі
Паглядзяць,
Як мы
На таўраў
Глядзім.

Талент паэтычнага пераўвасаблення дазволіў Караткевічу задумацца над уласным лёсам і над будучыняй свайго народа. Большую пераканаўчасць выказванню дае і сама форма падачы матэрыялу. У гэтым вершы, як і ў шматлікіх іншых, паэт выказаў прыхільнасць да рытмічна раскаванага радка, што ў пэўнай ступені стварае дадатковыя магчымасці для выяўлення паэтычнай думкі.

Караткевіч хоча вызначыць месца свайго народа ў гісторыі чалавецтва, выявіць уласную пазіцыю ў гэтым складаным і супярэчлівым свеце. Моц і несмяротнасць народных ідэй—у іх глыбока чалавечай аснове, у дзейнасці такіх лепшых яго прадстаўнікоў, як Францыск Скарына, Паўлюк Багрым, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Максім Багдановіч, да імёнаў якіх часта звяртаецца паэт у сваіх творах.

Патрыятычную тэму паэт распрацоўвае часцей за ўсё ў гістарычных творах. «Павага да мінулага,—пісаў Пушкін,—вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікасці». Караткевіч хоча паказаць у сваіх вершах (і ў празаічных творах, аб чым будзе гаворка далей), што ў яго народа была ў мінулым свая, і не абы-якая гісторыя. Вытокі народнага, нацыянальнага ён бачыць у гістарычным. Аднак гэта не ідэалізацыя сівой мінуўшчыны, а спроба ўваскрасіць гераічныя і трагічныя старонкі свайго народа.

З незвычайным болем і глыбокім лірычным пачуццём піша Караткевіч у вершы «Паўлюк Багрым» пра гэтага «невядомага генія, беларускага песняра», які мог бы вырасці ў вялікага паэта:

Мог бы славай грымець
Сярод годных паэтаў Еўропы,—
Гвалтам спуталі ногі,
Трымалі ўвесь час за руку.
Што пакіне ён?
Вершык у памяці хлопаў,
Кандэлябру ў касцёле
Ды кроў на гаручым пяску.

У гэтым вершы выразна выявіўся моцны грамадзянскі талент Караткевіча. Паўлюк Багрым выступае тут як фігура велічная і трагічная, ён сімвалізуе сабой імкненне да свабоды, да лепшага жыцця.

А ў вершы «Багдановічу» паэт сцвярджае:

Бо як ёсць у народа такія —
Не загіне давеку народ.

Мерай любога паэтычнага таленту з'яўляецца яго чалавечнасць. Творчасць Караткевіча прасякнута глыбокім гуманістычным зместам. Паэт не прызнае пасіўны і сузіральны гуманізм. За яго, як за шчасце і жыццё, трэба змагацца. Вуснамі Рыгора Чаховіча, галоўнага героя паэмы «Слова пра чалавечнасць», аўтар гаворыць: «Гуманізм, ён павінен быць ваяўнічым». І гэта эстэтычны ідэал мастака, яго паэтычная праграма. Паэта прываблівае маральнае, духоўнае ў чалавеку. Прыгажосць і сіла чалавека—у велічы яго духу. Такая галоўная думка многіх твораў Караткевіча.

Калі думаеш пра стылёвую разнастайнасць і тэматычнае багацце сучаснай беларускай паэзіі, то нельга абысці тыя вершы Караткевіча, дзе ён звяртаецца да сусветна вядомых твораў жывапісу, архітэктуры, дойлідства, да біблейскіх і антычных сюжэтаў, вобразаў і матываў («Дзіва на Нерлі», «Архангельскае», «Прарок Геронім Босх», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Самсона», «Безгаловая Венера» і інш.). Паэт пры гэтым дае цікавае і арыгінальнае разуменне шматлікіх твораў мастацтва. У гэтых вершах няма адзнак вытанчанага эстэцтва. У іх ёсць жывое чалавечае пачуццё і значная думка.

Зварот паэта да шэдэўраў мастацтва прыдае адметнасць яго лірыцы. Геніяльна простае і адначасова па-зямному шчырае і натуральнае яго разуменне твора мастацтва ў вершы «Безгаловая Венера»:

Стаю ля яе ў задуменні
І голас пяшчотны чую:
«Прыйдзіце, мужчыны, ад зброі,—
Улонне маё сумуе.
Прыйдзіце, мужчыны, ад сечаў,
Ад турмаў, ад страт на світанні.
Адзінае ёсць на свеце:
Сумленне, братэрства, каханне».
І думаю я неадчэпна:
За што ты бяду спаткала?
За што галаву згубіла?
Якую праўду сказала?

Ужо сам зварот да шэдэўраў сусветнай культуры—сведчанне высокага паэтычнага майстэрства. Істотным з'яўляецца і вырашэнне тэмы. Якраз творы гэтага плана сведчаць пра культуру творчага мыслення аўтара.

Паэзія Караткевіча вызначаецца інтэлектуальнай заглыбленасцю, багаццем, свежасцю і арыгінальнасцю мастацкіх вобразаў, разнастайнасцю рытмікі. Караткевіч як паэт валодае значнымі творчымі магчымасцямі. Ён імкнецца абнавіць сучасны беларускі верш, вызваліць яго з цесных рамкаў формы, напоўніць філасофскім зместам.

Паэзія Караткевіча багатая і разнастайная. Ён то ўздымаецца да бясконцых вяршынь лірызму, то лунае над цёмнымі прорвамі адчаю і драматызму, то спускаецца да ціхіх далін дабрадушнага гумару ці лагоднай і мілай усмешкі. Апошняя рыса таленту паэта вельмі выразна выявілася ў вядомым вершы «Заяц варыць піва»:



З мамай Надзеяй Васільеўнай. 1937 год.

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва»,—
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячмяню.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц зварыць густа,
А на закуску — бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып'юць па маленькай
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым галаском таненькім
«Цвіцела морква» завядуць.
Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

Дзея тут адбываецца на грані рэальнага і фантастычнага. Яркая і багатая фантазія паэта спрыяла ўзнікненню гэтага верша. Гучыць ён лёгка і натуральна, палоніць сваёй чысцінёй і свежасцю вобразаў. Выкарыстаўшы духоўны і маральна-этычны вопыт народа, паэт стварыў цікавы і арыгінальны твор, яшчэ раз засведчыўшы стылёвае багацце і жанравую разнастайнасць сучаснай беларускай паэзіі.

Вызначаецца адметнасцю таксама інтымная лірыка паэта. Яна прасякнута ўсведамленнем усёачышчальнай сілы кахання, яго незвычайнасці і значнасці ў жыцці чалавека:

Хай зразумее кожны на хвіліну,
Як незлічоны светаў карагод,
Як лёгка размінуцца з той, адзінай,
Якой чакаеш можа сотні год!

Паэт уздымаецца да ідэальнага ўяўлення пра хараство душы чалавека. І такая думка стане галоўнай у шматлікіх яго далейшых інтымных вершах.

Лірычны герой інтымных вершаў Караткевіча — натура інтэлектуальна і духоўна багатая. Калі ён кахае, то шчыра, аддана і ўсім сэрцам. Часам страчваецца гармонія паміж думкамі і эмоцыямі, паміж рэальным светам і светам яго фантазіі. І тады гэты герой пакутуе. Рамантычны характар паэтычнага мыслення паэта ўзмацняе драматызм і нават трагізм у яго паэзіі. Характэрна, што адзін з раздзелаў кнігі «Мая Іліяда» называецца «Калі памірае каханне». Тым не менш хоць вершы гэтага раздзела мінорныя па свайму гучанню, тут няма агульнага настрою прыгнечанасці і безвыходнасці чалавечага існавання. Калі ў інтымных творах першых двух зборнікаў паэт імкнуўся наблізіць сябе да ідэалу, які рыхтаваў у сваёй душы, то ў вершах зборніка «Мая Іліяда» ён спрабуе зразумець сутнасць кахання—самага каштоўнага, што ёсць на зямлі.

Страта каханай прыносіць лірычнаму герою глыбокі душэўны боль. Але наступаюць хвіліны супакаення, іншымі вачыма ён глядзіць на свет: то ласкава-пяшчотнымі, то гарэзліва-вясёлымі:

Сумесь Бураціна з Аэлітай,
Зорка незгасальная ў акне.
Сумная, прыгожая, забытая,
Ўвечар ты прыходзіш да мяне.
(«Сумесь Бураціна з Аэлітай»)

І ты са мною зусім як лісіца,
Смех на беленькіх зубках іскрыцца.
(Кіпарысавыя жарцікі»)

Каштоўнасць сапраўднага мастацтва ў яго шматмернасці і значнасці, у яго здаровым, аптымістычным гучанні. Да ліку лепшых інтымных вершаў Караткевіча трэба аднесці таксама верш «Жаданы госць», дзе ён далікатна, з цеплынёй і пяшчотай паказвае збліжэнне двух ужо пажылых мужчыны і жанчыны, якія страцілі ў вайну блізкіх ім людзей. Значных філасофскіх абагульненняў дасягае ён і ў вершы «Фантазія», калі згадвае няшчаснае каханне Дантэ, Петраркі, Катула, Бетховена, Лермантава, Багдановіча:

Тыя, што варты стократ кахання,—
Тыя не маюць яго на зямлі.



На трэцім курсе Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта. 1952 год.

Уладзімір Караткевіч узбагаціў сучасную беларускую паэзію новымі ідэямі і тэмамі, прыкметна абнавіў рытміку, пашырыў выяўленчыя магчымасці паэтычнага слова.

Відаць, нельга гаварыць асобна пра Караткевіча-паэта і Караткевіча-празаіка. У дадзеным выпадку варта хутчэй за ўсё падкрэсліць узаемасувязь паэтычнага, лірычнага і апавядальнага, эпічнага ў яго творчасці. Часта тое, што адразу ж пераліваецца з душы паэта ў яго вершы, з цягам часу выяўляецца і ў празаічных творах. Так, радкі з верша «Паўлюк Багрым»—«А ў краіне так цяжка, (асіны ад ганьбы палаюць)» маглі б стаць эпіграфам да апавядання «Кніганошы»—настолькі яны арганічна і цесна звязаны з гэтым празаічным творам. Такія вершы, як «Балада пра галубіныя пер'і», «Буслы вучаць дзяцей», «Дзіва на Нерлі», «Балада аб арганаўтах», «Архангельскае» сваімі вобразамі, матывамі, настраёвасцю блізкія да асобных апісанняў з рамана «Нельга забыць». У вершы «Зімняя элегія» чытаем:

І ўспамінаю я Дняпро, і лета,
І цень каштана на старой сцяне.
... Раяль пра нешта дарагое плача,
І прывіды каштанаў у акне.

Потым ужо ў светлай і чыстай аповесці «Лісце каштанаў» пісьменнік далей прадоўжыць сваю думку, раскажа пра галоднае і халоднае дзяцінства, праведзенае ў пасляваенным Кіеве.

Заслужанае прызнанне як у Беларусі, так і далёка за яе межамі прынесла Караткевічу проза. Сапраўдны мастак—гэта сумленне свайго народа. У гэтым яшчэ раз пераконваешся, калі знаёмішся з празаічнымі творамі Караткевіча.

Караткевіч адзін з тых беларускіх пісьменнікаў, якія востра адчулі неабходнасць ідэйна-тэматычнага і стылёвага абнаўлення сучаснай беларускай літаратуры. Для здзяйснення сваёй задумы ён звяртаецца да вопыту высокаразвітых літаратур свету. Там ён знаходзіць прымальныя для сябе мастацкія ўзоры і выкарыстоўвае іх ва ўласнай творчай практыцы. Аднак за гэта наўрад ці варта

папракаць пісьменніка. Прыгадаем, што Шэкспір запазычваў у сваіх папярэднікаў шматлікія сюжэты, вобразы і матывы. Тут важна само вырашэнне тэмы.

Тая ж аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» толькі знешне падобна на шырокавядомы твор Конан-Дойля «Сабака Баскервіляў». Караткевіч адмовіўся ад чыстага дэтэктыва, што ўласціва конандойлеўскаму апавяданню. Увёўшы вобраз Свеціловіча, вобраз рэвалюцыянера, змагара за народнае шчасце, аўтар прыдаў свайму твору значны сацыяльны змест. Галоўны герой Андрэй Беларэцкі таксама прыкметна адрозніваецца ад Шэрлака Холмса. Ён не проста выкрывае таямнічыя і злыя сілы, а змагаецца з імі. І дасягае перамогі над імі разам з сялянамі, з тым жа народам, вуснапаэтычную творчасць якога ён вывучае і з якім цесна звязаны.

У дадзеным выпадку важна тое, што на канкрэтным нацыянальным матэрыяле пісьменнік стварае цікавыя і арыгінальныя мастацкія творы, закранае ў іх значныя агульначалавечыя праблемы, глыбока пранікае ў духоўны свет і псіхалогію сваіх герояў.

Ужо ў апавяданнях і аповесцях, уключаных у першую кнігу прозы «Блакіт і золата дня» (1961), было відаць, што ў беларускую літаратуру прыйшоў цікавы і таленавіты мастак. Велічнай і ўзрушанай сімфоніяй, пра шчырае пачуццё паміж Юркам і Наталкай гучыць апавяданне «Блакіт і золата дня». Проста і натуральна піша пісьменнік пра чыстае, празрыстае неба і бясконцую вадзяную роўнядзь веснавой паводкі на Палессі, з любоўю і цеплынёй апавядае пра нараджэнне першага і вялікага кахання, пра чалавечыя думкі, перажыванні і пачуцці.

Пісьменнік у сваіх творах бачыць выключнае, рэдкае, незвычайнае. Так, у апавяданні «Лятучы галандзец» паказана сустрэча на жыццёвым шляху двух, здавалася б, зусім розных людзей — рамантыка, шчырага і крыху наіўнага паэта Лявона Касачэўскага і разумнай, з цвёрдым характарам і выразнай жыццёвай пазіцыяй артысткі Марыі Якубовіч, якіх зблізіла шчырасць іх адносін і вера адзін у другога.

Караткевічу даступны ўсе сферы жыцця чалавека. З тонкім мастацкім густам ён расказвае пра складаныя інтымныя перажыванні («У шалашы»), дакладна абмалёўвае працэс пазнання навакольнага свету двухгадовай Алёнкай («Як звяргаюцца ідалы»), стварае праўдзівы і запамінальны вобраз дзівакаватага чалавека, які ў гады вайны здолеў здзейсніць подзвіг («Карней — мышыная смерць»). Такім чынам, ужо ў самых першых празаічных творах пісьменніка была праўда чалавечых перажыванняў, дакладнасць у адлюстраванні жыцця.

Асабліва прыкметных поспехаў дасягнуў Уладзімір Караткевіч у распрацоўцы гістарычнай тэматыкі. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што для беларускай літаратуры ён з'яўляецца тым, чым з'яўляецца для англійскай Вальтэр Скот ці для польскай Сянкевіч.

У сваіх гістарычных творах ён узняў шырокія пласты народнага жыцця, выявіў буйныя характары. Караткевіч не капіруе з навуковай дакладнасцю гістарычныя падзеі і факты, не выказвае таксама прыхільнасці да белетрызаванага апавядання, а стварае мастацкую гісторыю свайго народа. Гісторыя для яго цікавая ў тым плане, які ўплыў яна аказала на духоўнае жыццё народа, на яго грамадскую свядомасць. Для пісьменніка перш за ўсё важна асэнсаваць падзеі таго часу, пра які ён піша, раскрыць адносіны паміж людзьмі, пранікнуць у іх псіхалогію, у іх асабістае жыццё.

Паказальна ў гэтых адносінах аповесць «Сівая легенда». Падзеі, апісаныя ў ёй, адносяцца да XVII стагоддзя. Гэта быў час, калі пасля Люблінскай уніі многія буйныя беларускія магнаты адракліся ад роднай мовы і культуры. Гэта быў час феадальнага прыгнёту і ўціску.

У аповесці няма гістарычных асоб ці персанажаў. Выключэнне складае Леў Сапега, які, праўда, толькі ўпамінаецца. Падзеі, апісаныя ў аповесці, таксама народжаны фантазіяй пісьменніка. Аднак аўтар па-сапраўднаму здолеў пранікнуць у той час, калі частымі былі паўстанні сялян супраць феадальнага прыгнёту.

Адно з гэтых паўстанняў узначаліў Раман Ракутовіч. Не толькі асабістая крыўда штурханула яго кіраваць паўстаннем сялян, але і пратэст супраць сацы-



**Нарада маладых 1955 года ў Саюзе пісьменнікаў БССР. У першым радзе: Ц. С. Гарбуноў, Якуб Колас, Пятрусь Броўка. Уладзімір Караткевіч стаіць другі злева.**

яльнага і нацыянальнага прыгнёту, які панаваў у той час на Беларусі. Патомны дваранін, ён у простым народзе ўбачыў высокія грамадскія і маральныя якасці. «Мужык—станавы хрыбет усяму»,—сцвярджае Ракутовіч. Вернасць народу азначала для яго вернасць радзіме, бацькаўшчыне.

Караткевіч імкнецца паказаць у гэтым творы працэс абуджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа, вызначыць яго нацыянальны характар. Цікава, што вывады і назіранні пра беларускі народ пісьменнік укладвае ў вусны швейцарца, наёмнага салдата Канрада Цхакена. Той захапляецца мужнасцю беларусаў, якія здолелі «адбіцца ад татар і сто год, абяскроўленыя, супрацІўляліся Літве». Швейцарац заўважае, што гэта ціхмяны і вельмі цярплівы народ. Але такія вочы, як у іх, ён бачыў у Еўропе толькі аднойчы ў мужыка пад Вольмірштэтам, калі нямецкія салдаты забіралі ў таго сена і які праз хвіліну торкнуў віламі ў бок сяржанту. Наёмны салдат з любоўю, прыхаваным гумарам і іроніяй разважае: «Я не бачыў больш незласлівага, лагоднага і кампанейскага народа. І я не бачыў горшых паноў, чым тыя, што стаяць над імі...» І далей: «Я не бачыў людзей больш ахайных, чым русіны». «Гэтыя людзі надта адчувальныя да абразы».

Аповесць «Сівая легенда» гучыць як пратэст супраць феадальнага дэспатызму і жорсткасці. Асаблівай паэтычнасцю і трагізмам напоўнена сцэна пакарання Ракутовіча і яго каханай Ірыны. Юнаку адсеклі кісці рук, а дзяўчыну асляпілі. Але яны не здрадзілі свайму пачуццю. І пасля гэтага трагічнага здарэння нельга не далучыцца да заключных слоў, сказаных наёмным салдатам: «Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей».

Уладзімір Караткевіч—эрудыт і кніжнік. Ён дасканала ведае быт і норавы таго часу, пра які піша. Немалаважная роля ва ўзнаўленні гістарычнай праўды

належыць таксама яго мастацкай інтуіцыі. Так, у сям'і пісьменніка захавалася паданне аб тым, што адзін з яго продкаў (сваяк з боку маці) быў удзельнікам паўстання 1863—1864 гадоў. Паўстанцы, якімі ён кіраваў, былі разбіты, а іх камандзіра расстралялі ў Рагачове. Караткевіч апіша гэту гісторыю ў пралозе да рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі» (на беларускай мове раман пад назвай «Нельга забыць» друкаваўся ў часопісе «Полымя», 1962, №№ 5—6, пралог жа пазней аўтар вылучыў у асобнае апавяданне «Паром на бурнай рацэ»). Праз некаторы час пасля з'яўлення рамана ў друку былі знойдзены архіўныя матэрыялы, якія сведчылі, што падобны выпадак сапраўды адбыўся.

У пралозе паказаны той час, калі паўстанне ўжо затухала. Тым не менш рота салдат пад камандай афіцэраў Пора-Леановіча, беларуса па паходжанні, і Горава, карэннага масквіча, ахоўваюць паром на Дняпры ля Магілёва. Гораў, выхаваны на лепшых культурных традыцыях свайго часу, наіўна верыў у дабрачыннасць манарха і ў разумнасць існаваўшага ладу. Пора-Леановіч жа—чалавек іншага складу. Асноўны жыццёвы прынцып яго наступны: «Галоўнае—стаць на той бок, які выйграе». Падпарадкоўваючыся статуту, Пора-Леановіч не перапраўляе праз бурлівую раку жанчыну, якая везла памілаванне асуджанаму на смерць свайму мужу, аднаму з кіраўнікоў паўстання—Усяславу Грынкевічу. Граф Мураўёў, які хацеў бы, каб яго лічылі высакародным, дае памілаванне мужу гэтай надзвычай прыгожай жанчыны, а сам пры гэтым пасылае фельд'егера з загадам хутчэй выканаць прысуд, загадваючы таксама Пора-Леановічу затрымаць на пэўны час жонку паўстанца, якая везла памілаванне.

Усяго гэтага не ведаў Гораў. Употай ад Пора-Леановіча ён на чоўне перапраўляе праз раку жанчыну. Але позна. Гораў і жонка Грынкевіча надоўга запомняць гэту сустрэчу. Яна напіша ўспаміны, з якіх яе праўнук, наш сучаснік Андрэй Грынкевіч, даведаецца пра гэта здарэнне. А Гораў часта будзе ўспамінаць тую жнівеньскую ноч, калі ляцелі мірыяды знічак—Леанідаў, што вяртаюцца да зямлі кожныя 33 гады.

Асноўныя падзеі рамана адбываюцца ў наш час, у канцы 50-х гадоў. Галоўны герой рамана Андрэй Грынкевіч вучыцца ў адной з творчых устаноў Масквы. За спіной у яго было цяжкое ваеннае дзяцінства. У пасляваенныя гады ён моцна пакахаў дзяўчыну. Але перад самым вяселлем маладыя трапляюць у аварыю, нявеста гіне. Гэтая трагічная падзея зрабіла прыкметны адбітак на далейшым лёсе героя: «Ён быццам застыў у сваім шчасці і горы».

Прайшло дзесяць год, нічым асаблівым гэтыя гады не вызначаліся. У яго ёсць жанчына. Але Андрэя зблізіла з ёй хутчэй «шкадаванне да яе, чыё жыццё склалася так няўдала, любоў да яе сына, цудоўнага маленькага чалавечка... І яшчэ абыякавы халадок душы і боязь пустэчы поруч з сабою». Зведаўшы моцнае пачуццё, Андрэй унутрана пратэставаў і не прымаў такое звыклае і халоднае сяброўства, хоць на некаторы час і змірыўся з ім.

І вось на жыццёвай дарозе ў яго стаў яшчэ «адзін добры і разумны, відаць, гарманічны чалавек»—Ірына Горава. Яны пакахалі адно другога. Ірына—выкладчык гісторыі мастацтва. Сустрэліся два духоўна багатыя і прыгожыя чалавекі. Але гераіня замужам. Пад самым сэрцам з часоў вайны ў яе сядзіць асколак.

У сваім рамане пісьменнік паказаў вялікае і складанае пачуццё двух інтэлектуальна багатых і духоўна прыгожых людзей. Сябар Андрэя латыш Яніс Вайвадс гаворыць Ірыне: «Кахайце, кахайце яго, Ірына. Вам пашанцавала. Ён вялікі ў каханні чалавек». Каханне да Ірыны абудзіла Андрэя, зрабіла яго жыццё паўнакроўным, насычаным і змястоўным.

Сваім каханнем Андрэй так узвысіў Ірыну, ужо хворую, што ёй стала страшна і брыдка за многае ў жыцці, ёй «раптам вельмі захацелася жыць». Гераіня згаджаецца на аперацыю. Памірае. Адчуўшы невымерную горыч страты, Андрэй праклінае ўсіх тых, па чыёй віне ўзнікае вайна, якая і пасля заканчэння знаходзіць усё новыя і новыя свае ахвяры. Нельга забыць падзеі мінулай вайны і ўсё тое, што яна прынесла чалавецтву.



**З чэшскім пісьменнікам Вацлавам Жыдліцкім.** 1966 год.

Аднак назва рамана не вычэрпваецца толькі гэтым зместам. Яна значна багацейшая. Нельга забыць ахвяр паўстання 1863 года і той сустрэчы продкаў Ірыны і Андрэя, нельга забыць, што ўсё ў жыцці ўзаемазвязана і ад кожнага залежыць многае, нельга забыць, што калі памірае чалавек, то з ім памірае цэлы свет.

У жыцці галоўнага героя празмерна вялікае месца належыць каханню. Аднак аўтар здолеў таксама паказаць той час і тыя ўмовы, у якіх ён жыве. Так пісьменнік, апавядаючы аб дзяцінстве Андрэя, стварае цікавыя і запамінальныя карціны партызанскага жыцця і савецкага тылу. Галоўны герой існуе не па-за прасторай і часам, а ў канкрэтных адносінах з рэальнымі і жывымі людзьмі, з самім жыццём. Варта прыгадаць літаратурныя спрэчкі ў «Доме паэтаў», адносіны Андрэя да некаторых сваіх знаёмых, яго размовы з прафесарам Глінскім, які збіраецца рабіць аперацыю, прыезд дамоў.

У пралогу да рамана пісьменнік закрануў падзеі 1863 года. Задума напісаць кнігу пра паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага з'явілася ў Караткевіча ў сярэдзіне 50-х гадоў, яшчэ тады, калі ён быў студэнтам Кіеўскага універсітэта. У той час, калі ўзнік раман «Нельга забыць», аўтар працаваў і над сваім будучым раманам «Каласы пад сярпом тваім», першыя дзве кнігі якога з'явіліся ў сярэдзіне 60-х гадоў.

У рамане «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіч звярнуўся да аднаго з крытычных момантаў у жыцці беларускага народа. Пісьменнік убачыў усю складанасць і супярэчлівасць паўстання 1863 года на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

Як паказваюць апошнія працы рускіх, беларускіх, літоўскіх і польскіх даследчыкаў, паўстанне на гэтых землях было шляхецкім і адначасова сялянскім. Абодва гэтыя кірункі цесна перапляталіся і рэдка калі супадалі. Рыхтус

**З Янкам Брылём, Рыгорам Барадуліным і лясной аховай у Чэрыкаўскім заказніку.** 1965 год.

шляхту да выступлення адзін з герояў рамана Яраслаў Раўбіч, асобна бунтуюць
сяляне пад кіраўніцтвам Корчака. Бывалі нават выпадкі, што сяляне, уведзеныя
ў зман царскай прапагандай, выдавалі царскім уладам паўстанцаў (такі вы-
падак пісьменнік закрануў у драме «Кастусь Каліноўскі»). Неабходнасць аб'яд-
наць шляхецка-рэвалюцыйны і сялянскі рух добра ўсведамлялі Кастусь Каліноў-
скі і Алесь Загорскі.
Раман «Каласы пад сярпом тваім»—твор шматпланавы і маштабны. Падзеі
адбываюцца ў ім на Магілёўшчыне, у Вільне, Пецярбургу, Маскве, Варшаве—
у сялянскім асяроддзі і ў дваранскіх маёнтках, на студэнцкіх сходках і ў наву-
чальных установах, у салонах і гасціных вышэйшых саноўнікаў і на бруку шмат-
людных гарадоў... У кнізе выступаюць як рэальныя гістарычныя асобы—К. Калі-
ноўскі, З. Серакоўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, Т. Шаўчэнка, У. Сы-
ракомля і інш., так і тыя, што народжаны мастацкай фантазіяй пісьменніка—два-
ране Даніла Вежа-Загорскі, яго сын Юрый, Надзея Клейна, Яраш Раўбіч, Хадан-
скія, Кроер, Таркайла, сялянская сям'я Кагутоў, мужыцкі заступнік Корчак, лі-
беральна настроены віцэ-губернатар Ісленьеў, жандар Мусатаў, Чорны Война,
які не склаў зброю пасля паўстання 1831 года і працягвае ў адзіночку змагацца.
Пісьменнік з дакументальнай праўдзівасцю стварае вобразы канкрэтных гіста-
рычных асоб. Сярод іх на першы план вылучаецца Кастусь Каліноўскі. Ён высту-
пае як перакананы змагар супраць царызму, як чалавек вялікіх патрыятычных

**З кіназоркай Пушчыкам.** 1964 год.

пачуццяў: «Я прапаную: народы вызваляць і сялянам даць зямлю. Я прапаную: паноў, якія рабавалі, высяляць з краіны, пазбаўляючы майна, а цмокаў—расстрэльваць рукамі працоўных людзей». Погляды і перакананні гэтага палымянага рэвалюцыянера зрабілі прыкметны ўплыў на галоўнага героя рамана Алеся Загорскага.

Гэты вобраз з'яўляецца творчай удачай пісьменніка. Прытрымліваючыся даўняга беларускага звычаю, бацькі аддаюць яго ў дзяцінстве на дзядзькаванне, г. зн. на выхаванне ў сялянскую сям'ю. Такое выхаванне ўплывала на фарміраванне яго рэвалюцыйнай свядомасці: «Я мужык. Я князь, але я мужык. Магчыма, мяне тым дзядзькаваннем няшчасным зрабілі. Але я таго няшчасця нікому не аддам. У ім маё шчасце. Яно мяне вярнула да народа. Да гнанага, да абраханага кожным сабакам. І я цяпер з ім, што б ні здарылася».

Гаворкі і перапіска з Кастусём, спрэчкі са старым Вежам, знаёмства са старажытнымі рукапісамі спрыяла ўсведамленню Алесем сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Ён пачынае разумець, што «мужыцкая» гаворка з'яўляецца мовай цэлага народа, імя якому —«Белая Русь». Пазней ужо, пад час вучобы ў Пецярбургскім універсітэце, Алесь піша вершы на беларускай мове, даследуе гісторыю і мову роднага краю.

Алесь Загорскі—натура дзейсная і высакародная. Ён з павагай і любоўю ставіцца да простага народа. Непрымірымы да насілля і зла, Алесь б'е па твары прыгонніка і дэспата Кроера, які здзекаваўся над Корчакам. Высакародна паводзіць сябе галоўны герой і тады, калі ратуе раненага Чорнага Война ці старога Раўбіча, або гарыпяціцкіх сялян ад Мусатава. Цёплыя і шчырыя ў яго пачуцці да Майкі Раўбіч і да былой актрысы Гелены.

І ў той жа час—гэта дзіця свайго часу. Ён можа бачыць у сне белых, як снег коней, што ўвасабляюць свабоду і светлыя ідэалы чалавечай чысціні, і адначасова выступае як прадпрымальнік, які цвяроза думае, якую карысць прынясе яму цукроўня ці той жа новы гатунак буракоў. Гэты вобраз гістарычна праўдзівы, ён сведчыць як аб моцных, так і слабых баках шляхецкага рэвалюцыйнага руху.

Раман «Каласы пад сярпом тваім»—прыкметная з'ява як у творчасці Караткевіча, так і ўвогуле ў беларускай літаратуры. Ён з'яўляецца ўзорам мастацкай дасканаласці і па шырыні паказу грамадства, і па тонкаму веданню людзей, і па майстэрству кампазіцыі.

Гэты твор цікавы і пазнавальны як для дарослага, так і для юнага чытача. Праўда, іншы раз вуснамі сялянскіх дзяцей Маркі і Павала гаворыць сам аўтар. Пэўная рамантычная ідэалізацыя адчуваецца ў вобразе галоўнага героя, калі ён, яшчэ падлетак, выказвае такія думкі, якім пазайздросцілі б сталыя вучоныя мужы. Аднак гэтыя крытычныя заўвагі ў пэўнай ступені можна апраўдаць, бо яны сведчаць пра адзнакі творчага стылю пісьменніка, яго манеры пісьма і, урэшце, абумоўлены аўтарскай задумай. Аднойчы Караткевіч сказаў: «А для нас жа беларуская гісторыя—у многім нязведанае. Мы пакуль што мала ведаем аб жыцці, звычаях, побыце нашых продкаў. Кожны, хто ведае, хто можа ведаць, павінен збіраць гэтыя падрабязнасці і перадаваць іншым. Па меры магчымасці я і рабіў гэта ў «Каласах». У выніку—шматлікія апісанні, вялікі аб'ём рамана. Для тоненькіх гістарычных раманаў, такіх, як у Друона, у Беларусі яшчэ прыйдзе свая чарга». Так, раман «Каласы пад сярпом тваім»—прыкметны твор у гісторыі беларускай літаратуры, аднак ён у пэўным сэнсе і першы крок на шляху да ўзнаўлення беларускімі літаратарамі мінулага свайго краю.

Уладзімір Караткевіч валодае вялікім грамадзянскім талентам і моцным патрыятычным пачуццём. Упершыню ў беларускай літаратуры ён стварыў творы філасофска-гістарычнага зместу. Гэта ў значнай ступені адносіцца і да рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Прычынай для яго ўзнікнення паслужыў запіс з «Хронікі...» Мацея Стрыйкоўскага аб тым, што «... на пачатку панавання таго Жыкгімонта Першого быў нейкій... который з лёгкості якой умысліў або рачэй з роспачы імя і зверхность Хрыста господа собе пріпісаў і прівлашчаў». Аднак запіс толькі ўзбудзіў фантазію пісьменніка для стварэння гісторыі прыгод і вандраванняў колішняга школяра, воляй лёсу названага Хрыстом—Юрася Братчы-



**З арнітолагам дзяржаўнага Прыпяцкага запаведніка В. П. Клакоцкім.** 1980 год.

ка, які спачатку быў вымушаны рабіць «цуды», потым узначаліў паўстанне супраць царквы і караля.

Праўда, змест кнігі не вычэрпваецца толькі апісаннем прыгод Братчыка і яго «апосталаў». Ён значна глыбейшы. Сам пісьменнік вызначае ў аўтабіяграфіі, што гэта «не камедыя і не трагедыя, а трагікамедыя, смех праз слёзы, народная драма, калі хочаце». Галоўны герой кнігі, напачатку круцель і авантурыст, паступоваператвараецца ў пакутніка, праўдашукальніка і народнага заступніка. Юрась Братчык, як і Гервасій Выліваха з «Ладдзі Роспачы»—родныя браты Ціля Уленшпігеля і Кала Бруньёна. Гэтыя вобразы з'яўляюцца ўвасабленнем на беларускай нацыянальнай глебе здаровага народнага пачатку ва ўспрыманні і ацэнцы жыцця, народнага гумару і аптымізму. Караткевіч упершыню ў беларускай літаратуры даў такія каларытныя і самабытныя характары.

Пісьменнік па-новаму і вельмі арыгінальна глянуў у рамане на падзеі гістарычнай даўнасці. Прыгодніцка-дэтэктыўны сюжэт ён напоўніў сацыяльна-філасофскім і псіхалагічным зместам, багата выкарыстоўваючы пры гэтым матэрыялы хронік і летапісаў, біблейскія тэксты і народныя выслоўі. Асобную гаворку можна весці пра мову твора, пра алегарычнасць і сімвалічнасць яго вобразаў, пра іранічны і сатырычны падтэкст зместу.

Каштоўнасць твора і ў тым, што аўтар узняў у ім шырокі гістарычны пласт народнага жыцця, паказаў адносіны і сутыкненні інтарэсаў і поглядаў самых розных слаёў насельніцтва: сялян, гародзенскіх мяшчан, рамеснікаў, сярэдневяковых асветнікаў і вучоных, прадстаўнікоў улад і царкоўнікаў. Аўтар у першую чаргу імкнуўся паказаць адносіны паміж гэтымі людзьмі, вытлумачыць матывы іх учынкаў і паводзін.

Караткевіч у сваіх творах звяртаецца да істотных, а часам і парадаксальных момантаў айчыннай гісторыі. Так, у драме «Званы Віцебска» паказаў трагічныя падзеі 1623 года, якія адбыліся ў гэтым старажытным горадзе. А зместам для сатырычнай аповесці «Цыганскі кароль» паслужыў такі факт, як існаванне ў канцы XVIII стагоддзя на Гродзеншчыне цыганскага «каралеўства». Пісьменнік застаецца верны гістарычнай праўдзе і ў творах, народжаных яго мастацкай фантазіяй. У лепшых класічных традыцыях напісана апавяданне «Сіняя-сіняя...». Для арабскай дзяўчынкі, якая ў Сахары знемагае ад смагі і жары, няздзейсненай марай і чароўным раем уяўляецца край, дзе ёсць многа-многа вады і зялёнай травы. Таму яна вельмі здзіўлена, чаму апавядальнік, пажылы ўжо чалавек, пакінуў такую казачную краіну. А гэта быў паўстанец 1863 года, які пасля паражэння паўстання вымушаны быў пакінуць гэту «сваю» зямлю.

Пісьменнік часта звяртаецца ў сваіх творах да новага і ў пэўным сэнсе недастаткова яшчэ распрацаванага ў беларускай літаратуры вобраза інтэлігента. Гэта Андрэй Грынкевіч з рамана «Нельга забыць», Алесь Загорскі з рамана «Каласы пад сярпом тваім», Севярын Будрыс з аповесці «Чазенія», вучоны Юрый з апавядання «Залаты бог». Усе яны — натуры дзейсныя, высакародныя, інтэлектуальныя і духоўна багатыя, здольныя на гераічныя ўчынкі.

Уладзімір Караткевіч з'яўляецца нястомным падарожнікам. Дзеянне яго твораў адбываецца як у Беларусі, так і за яе межамі — у Маскве, Прыбалтыцы, на Далёкім Усходзе, у Крыме. Героі яго твораў часта дзейнічаюць у экзатычных умовах.

У сваіх творах пісьменнік паказвае, што рэчаіснасць вельмі рамантычная. Незвычайнае, прыгожае ў жыцці трэба проста ўбачыць і адчуць. Яго цікавіць выключнае, яркае, ён паказвае ідэальнае ў чалавеку. Дзеля красы, шчасця і дасканаласці неабходна ісці праз страты і пакуты. Так здарылася з галоўнымі героямі аповесці «Чазенія». Дарэчы, у гэтай аповесці прысутнічае надзвычай сімвалічны і шматзначны вобраз чазеніі, дрэва, якое засяляе камяністую глебу, дробіць яе сваімі каранямі, а потым адмірае і робіць гэту глебу ўрадлівай і прыдатнай для нашых раслін і дрэў. І такія вобразы — частыя ў творах пісьменніка.

Творчы стыль Караткевіча цяжка зблытаць з якім-небудзь іншым. Апавядае ён лёгка, свабодна. Шчодра сыпле параўнаннямі, метафарамі. Мова яго твораў набывае то крыху архаізаваныя кніжныя рысы, то становіцца жывой і натуральнай, прыпраўленай іроніяй ці народным гумарам.

Давер да пісьменніка ўзнікае ўжо з чытання першых радкоў яго твораў. А пачатак гэты часта цікавы і запамінальны. Прыгадаем, што раман «Каласы пад сярпом тваім» пачынаецца з апісання грушы, якая шчодра цвіла апошні год, а воды Дняпра ўсё бліжэй і бліжэй падбіраліся да яе. Своеасаблівы запеў і да апавядання «Кніганошы»: «...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць. Гэты лес быў яловы». Аўтар адразу ж уводзіць у атмасферу таямнічых і драматычных далейшых падзей.

Караткевіч па-майстэрску валодае прыёмамі прыгодніцка-дэтэктыўнага жанру. Ён умее чытача зацікавіць, заінтрыгаваць. Узяць хоць бы пачатковыя радкі з рамана «Чорны замак Альшанскі»: «З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?

А што вам да леташняга снегу і сутоння! Пачаць з таго, хто я такі?

А што вам, урэшце, да мяне, звычайнага чалавека ў вялізным горадзе? І нашто вам мая самахарактарыстыка?

Адразу браць быка за рогі і расказваць? А якое я маю права на вашу ўвагу?» Так разважае галоўны герой Антон Косміч. Што гэта, свядомая зададзенасць ці манера пісьма? І тое і другое. І такое пісьменнік дапускае ў сваіх творах.

Аднак тут важна падкрэсліць іншае. Аўтар хоча паказаць не прыватную і займальную гісторыю, што здарылася з яго героем, а спрабуе выявіць повязь паміж мінулым і сучасным, раскрыць жыццё ва ўсіх складанасцях і супярэчнасцях, сцвердзіць гуманістычныя асновы чалавечага быцця.

Пісьменнік валодае сапраўды энцыклапедычнымі ведамі. Ён праўдзіва абмалёўвае далёкае мінулае ў гістарычных творах, добра ведае норавы звяроў («Былі ў мяне мядзведзі»), марскую справу («Вока тайфуна»), назвы і прыкметы раслін, дрэў, паводзіны звяроў («Чазенія»). Дакладнае веданне душы беларускага народа, яго побыту, культуры, гісторыі, нацыянальных страў, танцаў і г. д. выявіў пісьменнік у кнізе «Зямля пад белымі крыламі».

Караткевіч валодае шматгранным талентам. Варта прыгадаць тут натхнёныя і па-мастацку дасканалыя эсэ пра Скарыну, Шаўчэнку, Лесю Украінку, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Янку Брыля, Максіма Лужаніна, эсэ пра беларускае Палессе «Званы ў прадоннях азёр», эсэ, напісаныя да 1000-годдзя Віцебска, Турава.

Як літаратурны крытык ён выказвае цікавыя думкі і меркаванні пра творчасць многіх беларускіх пісьменнікаў, сур'ёзную і ўдумлівую гаворку вядзе пра беларускі пераклад паэмы «Фаўст» Гётэ, пра кнігу паэзіі Байрана, пра штогадовік «Далягляды».

Сучасную беларускую культуру нельга ўявіць без оперы Д. Смольскага «Сівая легенда», створанай паводле аднайменнай аповесці пісьменніка, без фільма «Дзікае паляванне караля Стаха», без яго сцэнарыяў да шматлікіх дакументальных кінафільмаў.

Творы Караткевіча шырока вядомы за межамі Беларусі. Так, на рускай мове выйшлі зборнік вершаў «Вячэрнія ветразі» (1969), кніга прозы «Чазенія» (1969), раман «Каласы пад сярпом тваім» (1974), на ўкраінскай—кніга аповесцяў і апавяданняў «Чазенія» (1972) і «Зямля пад белымі крыламі» (1972), на латышскай—кніга прозы «Чазенія» (1976), на польскай мове—зборнік апавяданняў «Блакіт і золата дня» (1976), на чэшскай—аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» пад назвай «Каралеўская помста» (1972) і раман «Нельга забыць» пад назвай «Леаніды не вернуцца» (1975). Шматлікія вершы і празаічныя творы Караткевіча перакладзены на іншыя мовы нашай краіны і на замежныя мовы.

Творы Караткевіча выхоўваюць нашы пачуцці, паглыбляюць веды пра Белую Русь, «зямлю пад белымі крыламі», яе мінулае, сённяшні дзень і будучае. Гэта сапраўдны летапіс духоўнага жыцця беларускага народа, напісаны таленавіта і ўзрушана.

Анатоль ВЕРАБЕЙ

**Фота з архіва У. Караткевіча і В. Ждановіча.**

# Папытай у кнігарні

**«КАМСАМОЛ БЕЛАРУСІ У ДЗЕСЯТАЙ ПЯЦІГОДЦЫ».** У кнізе змешчаны артыкулы камсамольскіх работнікаў аб праблемах камуністычнага выхавання моладзі, нарысы беларускіх журналістаў пра маладых гвардзейцаў дзесятай пяцігодкі. Гэта рабочыя, меліяратары, хлебаробы, вучоныя, навучэнцы прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, творчая моладзь.

Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1980 г.

**«ТАКІЯ СЭРЦЫ У НАС».** У юбілейны зборнік беларускай паэзіі і прозы, складзены Г. Далідовічам і В. Зуёнкам, выданне якога прысвечана 60-годдзю двойчы ардэнаноснага камсамола Беларусі, увайшлі творы беларускіх пісьменнікаў аб шляхах камсамольскага юнацтва, аб моладзі, аб вернасці пакаленняў слаўным традыцыям савецкага народа. Першы раздзел кнігі «Сцелецца к сонцу дарога» склалі творы пісьменнікаў, чыя творчасць прыйшлася на гады абвяшчэння і станаўлення Савецкай улады — Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, К. Чорнага, М. Лынькова, У. Дубоўкі і іншых. Паэзія і проза пісьменнікаў пары Айчыннай вайны ўвайшлі ў раздзел «Нам зброю Радзіма скавала», сярод іх імёны З. Астапенкі, А. Жаўрука, М. Сурначова, А. Куляшова, А. Вялюгіна і іншых. Аб нашым светлым дні, аб людзях Савецкай краіны, нашых сучасніках — творы, што склалі трэці раздзел зборніка «Вятрамі маладосці мы крылаты».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«ЯНКА КУПАЛА. ВЫБРАНАЕ».** У зборніку класіка беларускай літаратуры, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы адлюстраваны найбольш яркія старонкі яго лірыкі. У выданні, укладальнікам якога з'яўляецца Ніл Гілевіч, змешчана каляровая рэпрадукцыя вядомага партрэта Янкі Купалы, выкананага мастаком Л. Дударэнкам.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«AVE MARIA».** «Героямі гэтай кнігі з'яўляюцца двое: Яна і Ён. А зместам — каханне. Аўтар выбраў са сваіх твораў толькі тое, што «найбольш поўна раскрывае гэта высокае пачуццё» — напісана на шмуцтытуле зборніка любоўнай лірыкі народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Кніжка выйшла мініяцюрным сувенірным выданнем палепшанай якасці, яна багата аздоблена яскравымі ілюстрацыямі мастака Міхася Басалыгі і зможа папоўніць калекцыі самых патрабавальных бібліяфілаў, будзе добрым падарункам з любой нагоды.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. ПУБЛІЦЫСТЫКА».** Мастацкія творы Міхася Лынькова ўвайшлі ў залаты фонд літаратуры сацыялістычнага рэалізму, яны сталі нашай нацыянальнай класікай. Але мастацкая творчасць Міхася Ціханавіча на працягу ўсяго яго жыцця цесна спалучалася з публіцыстычнымі выступленнямі ў друку. Можна нават сказаць, што дзейнасць Лынькова як партыйнага работніка, журналіста і публіцыста папярэднічала яго дзейнасці як пісьменніка, мастака і была падрыхтоўчай школай да будучай творчасці.

У гэтую кнігу ўключаны публіцыстычныя артыкулы, нарысы, памфлеты, фельетоны, напісаныя М. Лыньковым ад пачатку Вялікай Айчыннай вайны да апошніх год яго жыцця. Знаёмячыся з імі, мы знаёмімся з біяграфіяй рэспублікі, летапісам яе велічных спраў, з мінулым беларускага народа, яго гераічнымі подзвігамі ва ўсе часы барацьбы з замежнымі інтэрвентамі.

Цікавымі, захапляючымі з'яўляюцца матэрыялы, напісаныя пасля паездак за мяжу, творчыя партрэты вядомых дзеячоў беларускага мастацтва.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«ХЛЕБ І ДОЛЯ».** Зборнік знаёміць чытача з літаратурнай спадчынай Гальяша Леўчыка — аднаго з тых пісьменнікаў, чыя творчасць фарміравалася ва ўмовах барацьбы працоўных былой Заходняй Беларусі за ўз'яднанне ў адзінай Савецкай дзяржаве. У кнігу, якая адкрываецца прадмовай Уладзіміра Калесніка «Даніна сэрца», увайшлі арыгінальныя творы Г. Леўчыка, яго пераклады вершаў Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай і інш., проза і запісы з фальклору, а таксама пісьмы аўтара і ўспаміны аб ім паплечнікаў і сяброў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«КАЛАСЫ РАДКОЎ».** Уладзімір Паўлаў — паэт, у вершах якога натуральна пяднаны паэтычная ўзнёсласць пачуцця і думкі з рэалістычнай ёмістасцю вобраза, гісторыя і сучаснасць, лірыка і эпас. У серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», што выдаецца «Мастацкай літаратурай», выйшаў зборнік выбраных твораў паэта, куды ўвайшлі лепшыя вершы Ул. Паўлава, створаныя за шматгадовую работу ў літаратуры.

У канцы кнігі пададзена кароткая біяграфічная даведка пра аўтара.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

**«СЦЕЖКА ДАДОМУ».** Зямля продкаў, яе мінулы і сённяшні дзень, лёсы людзей, што жывуць на ёй — вось галоўныя тэмы новага зборніка вершаў Кастуся Цвіркі. Асабліва вылучаюцца творы, прысвечаныя дзеячам беларускай гісторыі розных часоў — «Францыск, сын Скарыны», «Казімір Лышчынскі» і інш. Мовазнаў-

цам, фалькларыстам, людзям, што без стомы вандруюць па роднай Беларусі, збіраюць скарб нацыі — народную гаворку, прысвечана паэма «Песнязбор».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

---

«ДЗЕНЬ РАССЕЙВАННЯ». Аповесць Канстанціна Тарасава прысвечана славутай Грунвальдскай бітве, у якой беларускія, літоўскія, украінскія, рускія палкі разам з палякамі разграмілі крыжакоў.

На падставе гістарычных хронік і даследаванняў аўтар захапляюча ўваскрашае вякапомныя падзеі тых год. У аповесці дзейнічаюць многія рэальныя асобы таго часу, якія адыгралі важную ролю ў гісторыі беларускага і літоўскага народаў. Чытач стане сведкам змоў, замахаў на жыццё, баявых дзеянняў, зможа агледзець разам шырокую панараму гістарычнай бітвы 15 чэрвеня 1410 года.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г. (на рускай мове).

---

«УРОК ДАБРАТЫ». Чытач ведае Анатоля Шаўню як перакладчыка з італьянскай мовы — ён выдаў у перакладзе на беларускую мову анталогіі сучаснай італьянскай прозы і паэзіі. У 1975 годзе выйшаў першы зборнік яго арыгінальных вершаў «Паводка».

Новая кніга паэта — роздум пра час і пра сябе, пра высокі сэнс чалавечага быцця, пра нашы духоўныя каштоўнасці — каханне, дружбу, дабрыню, без якіх нікчэмным было б зямное жыццё людзей.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

---

«БРАМУ СКАРБАЎ СВАІХ АДЧЫНЯЮ»... Кніга Алеся Адамовіча прысвечана даследаванню жыццёвага і творчага шляху класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, аналізу яго твораў.

Чалавечы і пісьменніцкі воблік, шлях Максіма Гарэцкага мелі нечаканы працяг — ужо пасля яго смерці. Пісьмы Леаніда Гарэцкага з фронту — пацверджанне і вышэйшая ацэнка жыцця Гарэцкага-бацькі — змешчаны ў канцы кнігі.

Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1980 г.

---

«НА НОВЫЯ КРУГІ». У серыі «Рэспубліка. Час. Людзі» выйшла кніга нарысаў Ігната Дубро́ўскага, якія звязаны тэматычна агульнай праблемай — НТР, прырода, чалавек.

Нарыс, які даў назву зборніку, заснаваны на фактах з жыцця калгаса «Ленінскі шлях» Пастаўскага раёна, другі — «Шырокім крокам» — напісаны на матэрыяле сацыяльнага развіцця Аршанскага раёна ў апошняе дзесяцігоддзе.

У кнізе адлюстраваны праблемы, што паўстаюць у беларускай вёсцы ў сувязі з развіццём НТР, змены ў вытворчых працэсах і адносінах, паказаны людзі — праваднікі навукова-тэхнічнага прагрэсу, пераадоленне імі псіхалагічнага бар'ера пры пераходзе да буйных маштабаў вытворчасці, да прамысловых сістэм у сельскай гаспадарцы.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

---

«БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА: ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ». У зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў, сярод аўтараў якіх імёны С. Андраюка, М. Арочкі, В. Бечыка і іншых беларускіх літаратуразнаўцаў, даследуюцца актуальныя праблемы беларускай літаратуры на сучасным этапе. На прыкладзе лепшых твораў прозы, паэзіі, мастацкай дакументалістыкі, літаратуры для дзяцей паказваюцца новыя магчымасці мастацкай літаратуры ў стварэнні вобраза нашага сучасніка, у наватарскіх, ідэйна-мастацкіх пошуках. Раскрываецца гуманістычны пафас сучаснай беларускай літаратуры, сцвярджаецца яе інтэрнацыянальны характар.

Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1980 г.

---

«МАЎЧАННЕ НАВЫПЕРАДКІ». У сваіх гумарыстычных і сатырычных творах Панас Палітыка з'едліва высмейвае бюракратаў, прайдзісветаў, жулікаў, падхалімаў, ласых на грамадскае дабро зладзеяў, што замінаюць нам будаваць светлае і шчаслівае жыццё. Ён з дасціпнай злосцю выкрывае замаскаваных пад дабрачыннасць хіжых мяшчан розных масцей, халтуршчыкаў, дэмагогаў, прыстасаванцаў, кар'ерыстаў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

---

«КУЗЬМА ЧОРНЫ». У сваім крытыка-біяграфічным нарысе, выдадзеным да 80-годдзя з дня нараджэння Кузьмы Чорнага, літаратуразнаўца Янка Казека прасочвае жыццёвы і творчы шлях аднаго з буйнейшых беларускіх пісьменнікаў. Вядомыя раманы К. Чорнага «Сястра», «Зямля», «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Пошукі будучыні», «Млечны Шлях», «Люба Лук'янская», «Скіп'ёўскі лес» і іншыя творы, што ўвайшлі ў класічную скарбніцу беларускай літаратуры, аналізуюцца ў арганічным паяднанні з гістарычнымі падзеямі і грамадскімі зрухамі таго часу, калі яны былі створаны, з душэўнымі перажываннямі і светапоглядам аўтара.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

---

«НЕБАМ АДЗІНЫМ». Паэзія лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Андрэя Вазнясенскага перакладзена на дзесяткі моў народаў свету. Нядаўна на паліцах кнігарняў з'явіўся зборнік твораў вядомага рускага паэта, выдадзены «Мастацкай літаратурай» у серыі «Паэзія народаў СССР». У яго ўвайшлі вершы «Балада работы», «Б'юць жанчыну», «Вечар у політэхнічным», паэма «Лонжумо», прысвечаная эміграцкаму перыяду жыцця У. І. Леніна ў Францыі, і іншыя творы, перакладзеныя на беларускую мову лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР Рыгорам Барадуліным.

У канцы кнігі пададзена біяграфічная даведка пра аўтара.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1980 г.

# ПАЛЕСКІЯ ДНІ АЛЯКСАНДРА БЛОКА

Ліпень выдаўся ясны і спякотны. Як у Пецярбурзе, так і на Палессі. Істотнай розніцы ў надвор'і Аляксандр Блок не адчуваў, калі змарнелай ад трывогі раніцай 29 ліпеня 1916 года сышоў з этапнага цягніка ў Лунінцы.

Паўсюдна сноўдаў народ. У асноўным — вайскоўцы. Пыхкалі на станцыі цягнікі, прывозячы новых ратнікаў у акопы Заходняга фронту з усіх куткоў неабсяжнай Расіі. Там-сям чуліся салдацкія праклёны вайне — ад імя знявечаных, ахвяр і калек першай сусветнай...

Азнаёміўшыся з раскладам руху цягнікоў у прыфрантавой зоне, Аляксандр Блок зразумеў, што ён мае некалькі вольных гадзін. Нетаропка прайшоўся па ціхіх завулках Лунінца, агледзеў асобныя камяніцы, прыватныя лаўкі, у роздуме пастаяў ля высачэзнага мясцовага сабора.

Шлях А. Блока ляжаў у 13-ю інжынерна-будаўнічую дружыну. У каменданта станцыі паэт даведаўся, што гэтая арганізацыя толькі ўтвараецца, што штаб яе часова знаходзіцца ў вёсцы Камень Пінскага павета, куды камендант і накіроўвае ўсіх прыбываючых членаў дружыны. «Толькі прамым шляхам з Лунінца табельшчык Блок не трапіць у Камень,— заначыў камендант.— Адразу трэба будзе сысці на станцыі Лоўча — у 12 вёрстах ад Лунінца. Адтуль — па вузкакалейцы — і ў Камень».

Вольныя гадзіны прайшлі неўпрыкмет. Ужо добра спякоціла, калі паэт сышоў на лоўчанскай станцыі. Ён здзівіўся незвычайнай цішыні, што панавала тут, нейкім асаблівым, насцярожана-прыглушаным гукам, якія несліся адтуль, з фронту, паядноўваліся з пошумам палескага альхоўніку ды балотнай асакі.

Разам з паэтам сышло яшчэ некалькі вайскоўцаў. Тым часам цягнік, які прывёз іх, задыміў на Парахонск: фронт патрабаваў новай жывой сілы, падмогі...

Пазней, 28 жніўня 1917 года, перад сном, у неспакойным Петраградзе паэту нагадаюцца гукі, пачутыя ім вось зараз на Палессі. Адразу ж ён возьме ручку, адгорне адну са старонак дзённіка і размашыстым прыгожым почыркам занатуе:

«Мяне цікавіць пытанне: учора ў 1 гадзіну ночы я клаўся, слухаючы тыя ж гукі, якія чутны былі, калі я ў першы раз сышоў з цягніка (этапнага) у Лоўчы-І, у спякотны летні дзень: далёкая кананада... Дзе ж заканчваецца гром, і дзе пачынаюцца гарматы?»

Так, у думках на Палессе ён будзе вяртацца часта, надта часта, да самых апошніх дзён свайго жыцця...

Зараз жа Аляксандр Блок павольна зайшоў у станцыйнае лоўчанскае



А. Блок у Парахонску. Восень, 1916 г.

памяшканне, паклаў на лаўку няхітры скарб, сабраны напярэдадні яго ад'езду Любоўю Дзмітрыеўнай у цёмны скураны чамадан.

Чалавек у вопратцы чыгуначніка нешта тлумачыў такім, як і Аляксандр Блок, вайскоўцам. Гэта быў начальнік станцыі П. А. Антухоў-Алтухоў. Паэт пачуў: састаўчык на Камень, дзе часова знаходзіўся штаб дружыны, рушыць на досвітку. Такі расклад.

У памяшканні было душна ад нагрэтага ліпеньскімі промнямі паветра і ад салдацкага самасаду.

Паэт выйшаў. На вуліцы дыхалася лягчэй. Палескі водар п'яніў, наводзіў на ўспаміны. Блок не ўяўляў пакуль што сваёй будучай дзейнасці ў дружыне. Няпэўнасць непакоіла яго. І не толькі яна. Расстанне ў Пецярбурзе з вядомай спявачкай музычнай камедыі Л. А. Дэльмас, якой А. Блок у 1914 годзе прысвяціў цыкл вершаў «Кармэн», было сумным. З Любай — таксама. Аляксандра Андрэеўна, маці, асабліва непакоілася за сына. Яе хвалявала, па прызнанню першага біёграфа паэта, яго цёткі М. А. Бекетавай, што «Саша быў схільны рызыкаваць з небяспекай і ісці ёй насустрач...»

За некалькі дзён да ад'езду ў Беларусь Блок пабываў з маці ў Шахматаве, пад Масквою, дзе правёў тры дні. Да гэтага ён паведамляў Аляксандры Андрэеўне:

«Сёння (7 ліпеня 1916 года — М. К.) я, як ты ведаеш, прызваны. Разам з тым я ўжо сёння залічаны ў арганізацыю Земскіх і Гарадскіх Саюзаў: званне маё — табельшчык 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны, якая робіць умацаванні; абавязкі — прыблізна — улік працы чорнарабочых; форма — амаль афіцэрская, з корцікам, на днях апрану яе. Ад прызыву я тым самым вызвалены; буду на афіцэрскім становішчы і паблізу фронту, тое і другое пакуль мне прыемна. Уладкаваў Зоргенфрэй.

Начальнік дружыны мяне ведае. Сам ён — архітэктар. Больш падрабязна напішу пасля. Пашпарт ужо аддаў, і ён заменены пасведчаннем, заўтра атрымаю пад'ёмныя (недастаткова, прыйдзецца траціць свае грошы). Атрымаю бясплатна праезд у II класе. Плата — каля 50 р. у месяц. Паеду тыдні праз два, а можа быць і раней...»

А праз тыдзень паэт коратка паведамляў маці:

«Мама, я абавязаны выехаць 26-га, так што ў мяне два тыдні на падрыхтоўку. Я спадзяюся, заказаўшы форму, з'ездзіць на тры дні ў Шахматава... Адчуваю сябе вельмі бадзёра. Сёння размаўляў з начальствам і атрымаў пад'ёмныя грошы».

За дзень да ад'езду сына, 25 ліпеня, Аляксандра Андрэеўна атрымлівае ад яго кароткае паведамленне:

«Усё зрабіў і падрыхтаваўся да ад'езду...»

...Думкамі паэт перанёсся ў Шахматава. Непакоіў стан здароўя маці, які значна пагоршыўся напярэдадні яго ад'езду. Аляксандра Андрэеўна хвалявалася за сына, што едзе да фронту, баялася клімату Пінскіх балот, якімі, як успамінае М. А. Бекетава, яе нехта дужа напалохаў.

Яе трывога за свайго адзінага сына адчуваецца ў кожным слове неапублікаваных карэспандэнцый да Л. А. Дэльмас, якія захоўваюцца ў прыватным архіве Іны Аляксандраўны Фашчэўскай, пляменніцы вядомай спявачкі. Іна Аляксандраўна ў свой час дазволіла мне пазнаёміцца з імі і зрабіць копіі.

Напярэдадні ад'езду А. Блока на Палессе А. А. Кубліцкая-Піотух піша Л. А. Дэльмас:

«Даведаўшыся аб прызыве, я ехала з тым (г. зн. з Шахматава ў Пецярбург. — **М. К.**), каб мець клопат уладкаваць яго ў адзін з гвардзейскіх палкоў, у штабы. Але, калі я прыехала, 9-га ліпеня, атрымалася, што ён ужо ўладкаваўся ў Саюз Гарадоў. Пагоны ў яго будуць афіцэрскія. Казыраць ён будзе толькі генералам. Зброя — корцік. Яму прапанавалі ўладкавацца яго тут, але ён сам пажадаў ехаць на фронт. Калі я альбо Люба ўпрошвалі ўладкавацца яго дзе бяспечней і здаравей (ён едзе ў балоцістыя мясціны), ён так страшэнна злаваўся, што мы адступаем. Ён так вырашыў, і трэба мірыцца і цярпець. Ён будзе займаць інжынерную пасаду, якая не патрабуе тэхнічнай адукацыі. Ад'язджае ён 26-га ліпеня, дні на тры паедзе ў Шахматава разам са мною. Чысла 26-га, думаю, вернецца сюды.



**Мястэчка Лунінец.** 1916 г.

Да гэтага часу і Вы вернецеся, і ён раскажа вам усё сам.

Урэшце, можа суцяшаць хаця тое, што гэта неваенная пасада. Цалую Вас моцна. Ваша Аляксандра Андрэеўна». **(Публікуецца ўпершыню.)**

Разлічваючы ўладкаваць А. Блока ў штаб аднаго з гвардзейскіх палкоў, Аляксандра Андрэеўна спадзявалася на дапамогу мужа, генерал-маёра Франца Феліксавіча Кубліцкага-Піотуха, айчыма паэта. Але дапамога маці не спатрэбілася.

Тым не менш яна хоча ведаць усё пра ад'езд сына, а таму просіць Л. А. Дэльмас:

«Мілая Любоў Аляксандраўна! Вось цяпер будзем чакаць, будзем думаць. Вы напішыце мне, як ён ад'язджаў, якімі былі апошнія дні. Моцна Вас цалую...»

Напярэдадні выезду А. Блока ў дружыну маці прасіла сына, каб ён пісаў часцей. І тыя звесткі, якія яна атрымлівала ад яго з Палесся, адразу перадавала Любові Аляксандраўне:

«Мая дарагая, у пісьме, якое прыслаў мне Дзетачка, сказана (27 ліпеня): «Пад'язджаю да Гомеля. Цеплыня. Еду добра. Любоў Аляксандраўна, верагодна, ужо ў Вас...» (г. зн. у Шахматаве—**М. К.**) І ўсё. Пісьмо атрымана штэмпелем 31-га ліпеня. Ішло яно, такім чынам, 4 дні з Гомеля. Доўга. Я паднялася, папраўляюся. Цалую Вас моцна. І цётка Маня просіць вас цалаваць...» **(Публікуецца ўпершыню.)**

...У Гомелі ў Аляксандра Блока быў прыпынак—на некалькі гадзін. Гомель таксама вірыў ваеннымі. Аляксандр Блок—дзеля цікаўнасці—абышоў некалькі вуліц. Усюды пераважалі драўляныя збудаванні. Асоб-

ныя крамы вызначаліся сярод іншых пабудоў, бадай-што, пярэстасцю шыльдаў: «Лепшыя парыжскія капелюшы», «Лепшы варшаўскі шавец Іван Піменаў», «Лепшыя булкі Арона Гецкеля»...

Але і сярод гэтых, здавалася б, бяскрыўдных шыльдаў сустракаліся і такія, каля якіх нельга было не прыпыніцца.

На адной з шыльдаў А. Блок заўважыў намаляваную чалавечую нагу, надпіс пад якой гаварыў: «Прымаем заказы і робім лепшыя ў горадзе пратэзы».

«Для іншых вайна — камерцыя, і ўсё звязанае з ёю — таксама», — з болем падумаў паэт і пачаў шукаць выхад з блытаных завулкаў, каб пайсці ў парк графа Паскевіча, пра які чуў раней.

Палац у парку ўражваў. Строгасцю пабудовы. Выразнасцю архітэктурных формаў. Веліччу і... навакольнай цішынёй.

А яшчэ 6 ліпеня паэт занатаваў у сваёй запісной кніжцы № 48: «Днём я быў у інжынера Класена — па справе аб інжынерных дружынах. Да заўтрашняга дня пытанне павінна быць вырашана». Ён прыкладна ведаў, што паедзе ў Беларусь, на Пінскія балоты. І не пярэчыў. Няхай будзе так. Праглядаў розныя даведнікі пра Заходні край. Хацелася ведаць, куды ўсё ж ён трапіць. Успаміналася паездка Любы ў Мінск, Магілёў, Віцебск у 1908 годзе... Нагадваліся крытычныя артыкулы і допісы беларускага літаратара Уладзіміра Самойлы, перапіска з ім.

У адным з рэдкіх выданняў прачытаў пра Гомель, ведаючы, што шлях на Палессе будзе пралягаць праз гэты горад. Асабліва зацікавіла гісторыя ўзнікнення графскага палаца, парку вакол яго.

Пасля руска-турэцкай вайны 1768—1774 гадоў, якая завяршылася перамогаю Расіі, графу П. А. Румянцаву-Задунайскаму быў дараваны маёнтак Гомель з пяццю тысячамі прыгонных — «для увеселения». Граф распачаў будоўлю. Але давесці справу да канца не здолеў. Памёр. Справу прадоўжылі сыны. І, у прыватнасці, адзін з іх — Мікалай Пятровіч, пазней вядомы бібліяфіл і стваральнік Маскоўскай Румянцаўскай бібліятэкі (цяпер Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна).

Ансамбль палаца складаўся з будынка карціннай галерэі, бібліятэкі, гасцінай, летніх памяшканняў... Галоўным жа будынкам сядзібы быў двухпавярховы палац, пабудаваны ў стылі рускага класіцызму XVIII стагоддзя. Вышыня яго — 25 метраў. Сярод тутэйшых забудоў узвышаўся вялізны помнік конніка на няўрымслівым скакуне. Надпіс на ім гаварыў: «Польскаму генералу Юзафу Панятоўскаму...»

«Ці не таму самаму Панятоўскаму, — падумалася Блоку, — пра якога я чуў у снежні 1909 года ў Варшаве? Відаць, таму...»

Толькі якім зменлівым часам бывае лёс. Помнік, створаны дацкім скульптарам Торвальдсенам на сродкі, сабраныя ў Варшаве, меліся ўстанавіць у Варшаве, дзе падабралі ўжо і месца. Але Мікалай І, разгневаны паўстаннем палякаў 1831 года, вырашыў «дараваць» скульптуру князю Паскевічу, а разам з ёю — горад Гомель і вялізны надзел тэрыторыі.

Аднак найбольш Блоку спадабаўся дзівосны парк-шацёр, з возерам, чорнымі і белымі лебедзямі ў яго водах...

Час прыспешваў. Паэт хутка быў ужо на вакзале. Сеў, напісаў паштоўку маці. Аляксандра Андрэеўна, атрымаўшы другую вестку ад сына з Гомеля, піша Л. А. Дэльмас:

«Мая дарагая, мая мілая... У мяне з 28 ліпеня ніякіх звестак. А ад 28-га паштоўка, дзе сказана толькі: «28 ліпеня, раніца. Сяджу на вакзале. Хутка паеду на месца. Саша». Больш роўна нічога...» **(Публікуецца ўпершыню.)**

Такія ўспаміны засталіся ў Блока пра Гомель.

...Не заўважыў, як надышла ноч. Аляксандр Блок увайшоў у памяшканне лоўчанскай станцыі, уладкаваўся на лаўку. Пад раніцу адчуў нечы штуршок і на словы: «Прачніцеся, ад'язджаем», — расплюшчыў вочы. Начальнік невялічкай станцыі Антухоў-Алтухоў няёмка пераміналася з нагі на нагу, нібыта просячы прабачэння за патрывожаны сон.

«У Камень я дабраўся па вузкака-

лейцы на мяшках з мукою,— паведаміць маці Аляксандр Блок у пісьме ад 2 жніўня 1918 гора,— дзе прабыў два дні...»

Са свайго боку А. А. Кубліцкая-Піотух напіша Дэльмас 7 жніўня таго ж года:

«...Ад Дзетачкі мне было толькі адно пісьмо ад 2-га жніўня. Піша, што пісаць будзе мала, хоць і засумаваў па маме. Піша, што невыносна сумна і амаль няма чаго рабіць. Ці не атрымалі Вы пісьмаў?» **(Публікуецца ўпершыню.)**

...У Камень ён сапраўды ўпершыню трапіў па вузкакалейцы, на мяшках з мукою. Ехаць было прыемна. Палескі водар, крэкат дзікіх качак у трыснягах, люстраная роўнядзь азерцаў і балотцаў дзіўна нагадвалі мясціны яго дзяцінства ў Падмаскоўі — шахматаўскія. Тут, на Палессі, для Блока была таксама Расія. Няхай пакуль што новая, у нечым нязведаная, але — Расія. Адзін з літаратараў пазней заўважыць:

«Блок пры багатым і тонкім пачуцці Расіі да здзіўлення мала ездзіў па краіне. Ён не ведаў ні Сібіры, ні Урала, ні Волгі, ні Крыма, ні Каўказа. Толькі — Піцер з ваколіцамі ды Масква з Падмаскоўем (пазней, у гады вайны, яшчэ Пінскія балоты). Шахматава замяняла яму ўсю Расію».

Ён назіраў прыроду і жыццё мясцовага люду, параўноўваў Палессе з Шахматавым. І шчыра прызнаваўся, гаворачы пра Беларусь: «Тут слаўна жыць...»

Разам з Блокам у Камень прыехаў і тэхнік Шлыкаў, пра якога пазней паэт будзе неаднойчы расказваць у сваіх пісьмах да родных.

Аляксандр Блок хутка знайшоў начальніка дружыны Катоніна, падаў яму акуратна складзеную паперку, якая сведчыла:

«Гэтае пасведчанне выдадзена рабочым аддзелам Упраўлення дружыны Заходняга фронту рабочаму Блоку Аляксандру Аляксандравічу ў тым, што ён накіроўваецца ў распараджэнне начальніка 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны на ст. Лунінец Палескай чыгункі».

Архітэктар Катонін ведаў Блока раней — завочна, па яго вершах, прыхільнікам якіх ён, шчыра кажучы, не быў. Але вось такая сустрэча... У вачах Леаніда Іванавіча з'явілася зацікаўленасць.

— Дык гэта вы Аляксандр Аляксандравіч? Ніяк не мог нават уявіць.

Яшчэ раз паглядзеўшы на паперку, ён незадаволена сказаў:

— Бачыш, у рабочыя запісалі. І гэта паэта, вядомага ўсёй краіне...

Катонін, папрасіўшы Блока крыху пачакаць, выйшаў у пярэднюю палову сялянскай хаты Якава Мацвейчука. Ён хутка прадыктаваў пісару Ермалаю Успенскаму тэкст наступнага зместу:

«Ва Упраўленне інжынерна-будаўнічых дружын Заходняга фронту. Маю гонар прасіць зацвердзіць Аляксандра Аляксандравіча Блока, які нарадзіўся 16 лістапада 1880 года, на пасаду табельшчыка з акладам 100 рублёў у месяц з 1-га жніўня гэтага года і пра наступнае мне паведаміць. Начальнік дружыны Л. Катонін».

Вярнуўшыся, Леанід Іванавіч падаў Блоку ліст паперы:

— Калі ласка, Аляксандр Аляксандравіч. Працэдура фармальнасці. Выдумка, зразумела, не мая. Вось узор. Прысядзьце, прашу вас, да століка.

Аляксандр Блок уладкаваўся на сялянскай лаве, паклаў перад сабою фуражку, абмакнуў пяро ў чарніліцу і размашыстым почыркам на канцылярскім бланку накідаў:

«Падпіска. 1916 года ліпеня 29-га дня. Я, ніжэйпадпісаны, табельшчык Аляксандр Аляксандравіч Блок, даю гэтую падпіску пану начальніку 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны V.З.І Г. С. у тым, што абавязуюся ў адпаведнасці з § 17 аддзела IV, зацверджанага 22 мая 1916 года Часовага палажэння аб інжынерна-будаўнічых дружынах, рабочых партыях пры іх і камітэтах, праслужыць у названай дружыне на працягу не менш шасці месяцаў альбо да заканчэння вайны, калі гэта здарыцца раней...»

Такая ж працэдура чакала і Фёдара Шлыкава.

У Камені ён пражыў усяго два дні — у простай сялянскай хаце. З начальнікам дружыны Катонінным, тэхнікам Ягоравым, прысяжным паверанікам Ідэльсонам, інжынерам Лукашэвічам... З першых дзён жніўня — паэт

у Парахонску, у фальварку князя Друцкага-Любецкага.

«Сядзіба князя,—успомніць пазней адзін з саслужыўцаў А. Блока інжынер Уладзімір Пшэдпельскі,—звалася палацам. Гэта—тыповы старапольскі двор, упрыгожаны белымі калонамі цэнтральнага фасада, якія, нібыта сапраўдныя рыцары, ахоўваюць цудоўныя пірамідальныя таполі. Здалёк усё ж бачны апусташальныя сляды, якія прынесла вайна... Шыбіны палаца месцамі павыбітыя, клумбы запушчаны, служкі панскія ў большасці разбегліся. У сенцах памяшкання—прыемны вясковы моцны пах яблыкаў. Тут жа на крутых сходнях бачыцца інкрустацыя таямнічага партрэта з адлюстраваннем рыцара... У даўніх салонах панскіх пануе хаос і спустошэнне: пабляклі партрэты ў некалі прыгожых рамках — з пазалотаю. Наскрозь у дзірках абраз гістарычнага сюжэта. Тут—некалькі палявых ложкаў і рэчы старшынь дружыны, штаб якой размясціўся ў панскім двары. За вокнамі салона шапоча густы сад. Чуецца, як праз адчыненыя дзверы шумліва падаюць долу грушы-дзічкі. Месяц-маладзік штораз узбіраецца ўсё вышэй. Нечакана быццам у заняволеную павуціннем цішыню ўрываецца залатым кап'ём доўгі чароўны гук і несупынная мелодыя, што ўзбуджаецца нібыта сардэчным плачам кагосьці...»

Паэт знаёміцца з панам Феліксам і князёўнай Тэрэзай. Так, для прыстойнасці. Дасылае першыя пісьмы— маці, жонцы, сваім знаёмым Л. А. Дэльмас, Е. Ю. Кузьміной-Караваевай, Васілю Гіпіусу, Я. Іванову... З нецярплівасцю чакае адказаў, якіх усё няма і няма.

11 жніўня начальнік дружыны загадвае пераехаць у Колбы. Туды, дзе разгортваецца асноўны фронт работ і дзе табельшчыку Блоку неабходна прымаць рабочых, уладкоўваць іх, клапаціцца аб харчаванні, выпісваць нарады на работу.

Нарэшце прыходзіць доўгачаканае пісьмо—ад Любы.

Л. Д. Блок піша мужу 5 жніўня 1916 года:

«Мілы мой Лалака! Зараз іду адпраўляць выпраўленую карэктуру 7—13 аркушаў; некалькі памылак я знайшла, а ў цэлым усё папраўлена і перавярстана па-твойму.

Пашуканіс (выдавец—М. К.) даслаў доўгае пісьмо з прабачэннямі— ён быў у «прыпадку меланхоліі, амаль хваравітай».

Ён будзе друкаваць II том, «усё ж» у 5 тысяч. Вокладак хоціць толькі на 1500 (астатнюю паперу папсавала друкарня); з двух узораў я выбрала гэты і дасылаю.

Ён настойліва патрабуе другога выдання, згаджаецца на твае патрабаванні, але не катэгарычна, а ўсё ж—напалову, «калі», дык «спадзяюся». Даслаў лісты дагавору для падпісання. Я яму нічога не пішу, толькі адсылаю карэктуру.

У мяне няма нічога новага, у Маскву я яшчэ не еду і імкнуся праз жонку Любамірава наладзіць свае справы адсюль. Учора быў у мяне Чулкоў. Ён таксама паступіў у Саюз Гарадоў, але ў лятучы атрад, 1-ы Сібірскі. Ад'язджае 9-га. Пахваліцца, напэўна, хацелася яму перад кім-небудзь, ён і папрасіў дазволу прыйсці і ўвесь час пра сябе расказваў.

Я атрымала тваіх два адкрытых пісьмы (г. зн. адно адкрытае, другое кароткае) з дарогі, з Гомеля.

Чакаю цяпер, Лалачка, вельмі ад цябе вестак, як табе там? Што робіш? Баюся, ці не шкадуеш ты, што паехаў? Бог з табою, мой мілы Лалачка. Б. Цалую цябе». **(Публікуецца ўпершыню.)**

Гэта была адна з першых карэспандэнцый, атрыманых Блокам на Палессі. Выдавецкія справы, мяркуючы па допісу жонкі, ішлі добра. Пашуканіс меўся неўзабаве выдаць чарговы Збор твораў Аляксандра Блока.

Тым часам Л. Д. Блок не развітвалася з надзеяй уладкавацца ў адну з тэатральных труп, каб прыняць удзел у гастролях па Расіі. Жонка літаратара Любамірава, вядомая тэатральная дзеячка, магла ёй дапамагчы ў гэтым.

Да пэўнага часу Блокі падтрымлівалі блізкія адносіны з пісьменнікам Георгіем Чулковым, якога таксама не абмінула вайна.

Табельшчык Блок адразу піша адказ Любові Дзмітрыеўне. Ён паведамляе, што ў дружыне, увогуле, жыць можна, «да новых уражанняў прывык адразу». Прырода падабаец-

ца. «Ля сядзібы князя—рака Бобрык з пясчаным дном». Засмучае адно: рабочых ніяк «не абуеш, не накорміш». А таму ён, Блок, адчувае перад простымі людзьмі сорам...

Ужо ў Колбах, куды паэт выехаў амаль на месяц з Парахонска, ён атрымае другую карэспандэнцыю ад Любові Дзмітрыеўны.

«Дарагі мой Лалачка! Атрымала пісьмо... Я таксама сумую па табе і як знарок карэктуру чытала раздзела «Радзіма» і вельмі многа прыйшлося плакаць, але ўсё я толькі дзіву даюся—якія, Лалака, ты вершы прыгожыя складаеш! І як я гэта магу пра іх часамі забываць? Была першая карэктура 14-га і 15-га аркуша.

Я вельмі ўважліва чытала і папраўляла; нават знайшла апіску, перадрукаваную з рукапіса, якую ты не заўважыў,—«где буйно заметает вьюга—До крыши», а ў цябе было «да».

У «Биржевых» (штотыднёвая газета «Биржевые ведомости»—**М. К.**) быў верш «Измучен бурей вдохновенья», я выразала. Я ў Маскву не еду, а тут імкнуся ўладкавацца праз бюро Расохінай, акрамя таго была ў Гайдэбурава, ён пра мяне ведаў праз Л. Я. Гурэвіч, «вельмі міла» са мною гаварыў. Але пакуль нічога пэўнага. Мне ўжо вельмі цікава б ведаць, як ты жывеш, з падрабязнасцямі пра харчаванне, пра тых, хто цябе акружае, акрамя тваіх таварышаў Фокі і Фрыны (так жартаўліва А. Блок у пісьме да жонкі называў княжаскую таксу Фоку і паліцэйскага сабаку Фрыну—**М. К.**), якім я аддаю паклон, скажы ім. Я нідзе не была, акрамя гэтага гайдэбураўскага спектакля. Пішы, Лалачка, мілы. Бог з табой. Цалую цябе. Б.» **(Публікуецца ўпершыню.)**

Паэт разумее: Любоў Дзмітрыеўна настойліва думае пра акцёрскую кар'еру. Што ж, ён не супраць. Галоўнае, каб уладкавалася ў добры калектыў. Жонцы ён піша акуратна і рэгулярна. Як і ўсім астатнім сваім карэспандэнтам.

Яго палескія пісьмы—своеасаблівы ўзор лірычнай прозы, у іх ён знаходзіў душэўнае задавальненне. Ды, відаць, і прафесійнае—тады, калі вершы не выходзілі. А паэтычная муза яго маўчала. Толькі аднойчы ён адгукнуўся на просьбу таварышаў па дружыне, і тады ў курнай сялянскай хаце прагучаў яго спакойны голас:

И человек печальной цапли
С болотной кочки не спугнет,
Но в каждой тихой, ржавой капле—
Зачало рек, озер, болот.
И капли ржавые, лесные,
Родясь в глуши и темноте,
Несут запуганной России
Весть о чудовищном Христе...

Чытаў сваё, раней напісанае. Два апошнія радкі пазней перарабіў. Прачытаныя вершы нібыта гаварылі пра тутэйшыя мясціны, дзе ва ўсім адчуваўся зачатак рэк, азёр, балот.

Чытаў вершы А. Блок у Колбах, у хаце Лемяшэўскіх, пры газоўцы, амаль упоцемень. У хаце Ганны Пятроўны Лемяшэўскай, якой тады было 24 гады і якая дажыла да 1974 года, сёе-тое расказаўшы пра тыя, здавалася б, далёкія часіны.

Тут, у Колбах, Аляксандр Блок з цікавасцю ўглядаецца ў мясцовыя забудовы, краявіды, ездзіць на кані. Спыняецца ля прыгожай капліцы ў ціхай палескай вёсачцы. Што яму, вядомаму паэту Расіі, згадваецца ў гэты час? Пэўна, нечым падобная на гэтую каплічку царква, якая прыняла яго і Любу Мендзялееву 17 жніўня 1903 года ў падмаскоўным Баблове пад вянец?.. Пра гэта паэт не піша. Пра гэта можна толькі здагадвацца. Ён робіць малюнак капліцы ў Колбах і разам з пісьмом пасылае жонцы, зрабіўшы прыпіску: «Вёска Колбы, капліца...»

Ці мог ён, паэт, раней думаць, што лёс прывядзе яго ў вёску, адваротнае прачытанне назвы якой будзе азначаць прозвішча—«Блок—Колбы»?..

У Колбах таксама надарылася яму пазнаёміцца з палескай Незнаёмкай, імя якой пакуль што невядома даследчыкам. Але пра гэта крыху ніжэй...

Увесь жнівень праходзіць у клопатах. Запасная пазіцыя будуецца доўгая і трывалая—ад Каменя, Чорнавада Колбаў, Парахонска, Сошна... Рабочых становіцца ўсё больш. У табельшчыкаў клопатаў шмат, у тэхнікаў, інжынераў—таксама. Да службовых абавязкаў Аляксандр Блок, як заўсёды, ставіцца добрасумленна. Асобныя з яго таварышаў маюць нагоду на некалькі дзён выехаць у Пецярбург. Праз іх—Гебельта, Ягора-

ва, Глінку, Ідэльсона, Шлыкава... ён перадае пісьмы, з аказіяй. 9 жніўня паэт адсылае ліст Л. Д. Блок:

«Сёння ад'язджае ў Пецярбуг І. П. Гебельт. Ён едзе галоўным чынам па справе аб воінскім абавязку і адносна большасці з нас (у тым ліку адносна мяне)—паступіла запытанне з Мінска. Воінскі абавязак яшчэ пагражае, начальнік прыме меры, але нельга быць упэўненым у добрым выніку.

Учора я зноў ездзіў верхам на цудоўным кані. Сёння праляцеў аэраплан, верагодна, як заўсёды, да Лунінца, намі мала цікавяцца, і мы някепска замаскіраваны. Больш за ўсё сумна, мая Бу.

Напішы ты мне, ці ездзіла ты ў Маскву, ці пісала табе што-небудзь мама і ты маме, ці будзеш іграць дзенебудзь. У мяне асобныя дні зацягваюцца, як тыдні, здаецца, што прайшло многа часу. Справы ў дружыне яшчэ не наладжваюцца, рабочыя ўходзяць, мы ўжо выклікалі вартаўнікоў.

Пры ўсім гэтым—мір і цішыня здзіўляюць, нібыта нідзе нічога не адбываецца.

Бог з табой. А.»

З пісьмаў А. Блока Любоў Дзмітрыеўна мела сякое-такое ўяўленне пра службу мужа. Яна, задаволеная паштоўкамі мужа, дзеліцца прачытаным з блізкімі і знаёмымі. У лісце ад 17 жніўня 1916 года Л. Д. Блок паведамляе:

«Дарагі мой Лалачка! Твае пісьмы атрымліваю дакладна; спадзяюся, што ты хутка пачнеш атрымліваць мае, я пісала некалькі разоў і давала твой адрас: Жэні, Гіпіусу, Сухоціну, Базілеўскаму. Сухоцін прызываецца 25-га і прыехаў уладкоўвацца, хаця спачатку празяваў і не захацеў пакарыстацца прапановай князя Львова. Гаварылі па тэлефону. А яшчэ табе кланяюцца Вольга Аляксееўна і Ангеліна, якая мне часта звоніць, хоча дапамагчы ўладкавацца на зіму. Яна атрымлівае пісьмы з Шахматава і ўсё мне расказвае.

Мама за гэты час была прастуджана і ляжала некалькі дзён у ложку, цяпер яна папраўляецца і адчувае сябе някепска; да іх прыехала цётка Софа, і яны правялі «надзвычай харошы дзень», нам піша цёця Маня. Яна збіраецца вярнуцца 25-га, а мама яшчэ пазней...

Карэктуру атрымала—апошні аркуш і алфавітны ўказальнік, зраблю яго вельмі ўважліва, не бойся, Лала. Мне гэты занятак зусім не ў цяжар, наадварот, я яго з захапленнем раблю.

На зіму ў мяне яшчэ нічога няма, а вось у наступную нядзелю—21-га—паеду іграць у Малую Вішару п'есу Шпажынскага «Грэх наблытаў»—гераіню, дэманічную прыгажуню-купчыху... І заплацяць мне за гэта 30 рублёў (дарога каштуе туды і назад у II класе 8 р.). Тут добра, што антрэпрэнёр возіць часта імператарскіх акцёраў у невялікія паездкі, можа быць, што-небудзь і выйдзе для мяне ў будучым.

Я многа сяджу дома, у мяне краўчыха; хаджу днём іншы раз у агенцтва Расохінай, ездзіла 15-га ў Краснае сяло, дзе мяне частавалі біфштэксам у Баравіковых. Я табе пісала ўжо, што была ў Гайдэбурава на станцыі Ярмолаўскай на спектаклі і што мяне «вельмі міла» прыняў, ведаючы пра мяне ад Л. Я. Гурэвіч.

Я вельмі сканцэнтравана на сваім тэатральным лёсе, але пакуль не прыходжу ў адчай. Думаю пра сябе і пра цябе часта тваімі вершамі, і да слёз мне боязна, што мы згубілі якуюсьці «нітку», і калі яшчэ яе зловім.

Бог з табой. Цалую цябе. Б.

Пайду зараз куплю табе гасцінца, каб Гебельт адвёз». **(Публікуецца ўпершыню.)**

Спадзяванні Л. Д. Блок на ўдзел у гастролях хутка збудуцца. У пачатку верасня 1916 года ў складзе трупы антрэпрэнёршы Маліноўскай яна паедзе ў Арэнбург, адкуль будзе рэгулярна пісаць мужу на Палессе на працягу амаль шасці месяцаў.

Ад сваіх карэспандэнтаў—Я. П. Іванова (Жэні), блізкага сябра, Васіля Гіпіуса, маладога літаратара, празаікаў Сухоціна, Базілеўскага—Аляксандр Блок таксама даведваўся пра жыццё ў сталіцы.

Ангеліна—яго стрыечная сястра. Вольга Аляксееўна — чалавек, блізкі сям'і Блокаў. Цётка Софа—родная сястра маці паэта—Аляксандры Андрэеўны. Цётка Маня—таксама літаратар, першы біёграф А. Блока.



**А. Блок з саслужыўцамі ў в. Новы Двор Пінскага павета.** 25 снежня 1916 г.

У Колбах, пасля сустрэчы са сціплай дзяўчынай-прыгажуняй, Блок таксама ўзяўся быў за пяро. І ў запісной кніжцы № 49, з якой не разлучаўся на працягу ўсёй службы, з'явіліся паэтычныя радкі. Штосьці атрымлівалася. Штосьці—і не больш. Вершы не ішлі.

Нядаўна ў ІРЛІ (Пушкінскі Дом) мне пашчасціла прачытаць 19 радкоў незавершанага верша—з папраўкамі, закрэсліваннямі, удакладненнямі:

Обжигаешь и в трепет бросаешь
И опять надо мною она
И опять одичало и немо
В этом сердце загорается...

Наступныя радкі сведчылі, што і тут, на Палессі, сустрэўся ён з Цудоўнай Дамай, і што сустрэча гэтая была для паэта «как отзвук забытого гимна в его черной и дикой судьбе»:

Сердце дико, сердце немо,
В диком сердце ночь
Мне поет и горит звездой Эдема...

А. Блок шкадаваў, што сустрэча, па ўсёй верагоднасці, у Колбах, была мімалётнай і кароткай. У яго душы—горыч і боль:

Проклинать (поздней) трехдневной встречи,
Мимолетность проклинать.
Все отдать звезде Эдема...
Черным жемчугом любви...
Хмурым валом моря прянуть...

Не, не атрымліваліся вершы. «Черного жемчуга любви»—такога кароткатэрміновага было недастаткова для поўнага абуджэння паэтычнай ліры, якая здольная была б «хмурым валом моря прянуть» і данесці вершы-хвалі да той, каму яны меліся быць прысвечанымі. Паэт зноў і зноў выводзіў радкі, бачачы перад сабою вобраз палескай Незнаёмкі:

Сердце дико, сердце немо,
В сердце бьет прибой,
Пред тобой, звезда Эдема...

«Паэт і чалавек бясстрашнай шчырасці», як сказаў пра Блока Максім Горкі, аб сваім знаёмстве з беларускай дзяўчынай дзеліцца і ў адным з

двух пісьмаў да Л. А. Дэльмас, якія захаваліся ў прыватным архіве.

У лісце ад 4 верасня 1916 года з вёскі Колбы да пецярбургскай Кармэн Аляксандр Блок паведамляў наступнае:

«Не ведаю, як Вы думаеце пра мяне, а я хвалююся пры ўспаміне пра Вас. Не так даўно пелі розныя песні, у тым ліку маларасійскія, і мяне страшэнна ўсхвалявала гэта; сёння гаварылі пра тэатр, і мне давялося нагадаць Ваша імя, мне гэта было вельмі цяжка, кінула ў жар. Усё гэта робіцца са мной не па маёй волі.

Падрабязней Вам мама раскажа, я толькі дадам, што азвярэў і стаў падобным на каня, з якім паўдня не разлучаюся.

Дазвольце яшчэ дадаць, што з дня ад'езду не знаёміўся ні з адной жанчынай і не адчуваю цягі да оных, што мяне некалькі нават здзіўляе. Далей не ведаю, што будзе, думаю, што таксама, пакуль з Вамі не сустрэнуся...

Між іншым, нічога не абяцаю (!).

Іншы раз бачу газету з рэпертуарам Музычнай Драмы. Гэта мяне таксама хвалюе.

Не мыўся я, як трэба, таксама з дня ад'езду, так што, калі прыеду, буду тры дні адмывацца, а пасля пабачуся ўжо з Вамі.

У заключэнне скажу, што пакуль пішу гэтае пісьмо, нібыта дакранаюся да Вас і абпальваюся. Таму даволі пісаць.

Перадайце запіску праз маму міламу саслужыўцу Глінку, нашчадку кампазітара.

Цалую Вашу руку.

А. Б.»

Над словам «оных» паэт зрабіў паметку і ў канцы пісьма дадаў:

«Прынамсі, тут была адна цікавая маларасіянка...» Сцверджанне паэта мае пад сабою рэальную падставу і, як мне здаецца, дачыненне да паэтычных радкоў з запісной кніжкі № 49 палескага перыяду.

Падарожнічаючы па палескіх вёсках, дзе служыў Аляксандр Блок, ідучы ад хаты да хаты, ад старажыла да старажыла, сяды-тады мне даводзілася чуць: «Быў такі паэт. І дзяўчына была. Кніжку з даравальным надпісам ён падараваў ёй...»

Праўда гэта ці не? Якраз як зямля чуткамі поўніцца, так і кожны выпадак поўніцца сваім—іншы раз таямнічым—і зусім неразгаданым зместам. Так і з гэтаю легендаю. У Парахонску мне падказалі канкрэтны адрас, назвалі канкрэтную асобу—Марыю Майсееўну Аляксееву, былую настаўніцу, якая апошнім часам жыла ў Ленінградзе. На жаль, Марыі Майсееўны ўжо няма, а на той кватэры жывуць зусім іншыя людзі.

Між тым, у знаёмства Аляксандра Блока з таямнічай дзяўчынай з Палесся верыш па-асабліваму перакананна. І на тое ёсць грунтоўныя падставы.

У 1977 годзе на старонках гісторыка-біяграфічнага альманаха «Праметэй» быў змешчаны артыкул-эсэ Надзеі Паўловіч «Успаміны пра Аляксандра Блока». Н. Паўловіч расказвае пра сустрэчы з паэтам, пра яго думкі, развагі, пра сардэчнае прызнанне незадоўга да смерці:

«Ён расказваў мне пра сваё дзяцінства ў Шахматаве, аб юнацтве, калі ў шалёнай скачцы ён «заганяў каня» («любіў жа яго—таксама дэманізм»), аб паездцы ў Варшаву, аб сястры Ангеліне, аб рэальнай сустрэчы з той дзяўчынай, якой прысвечаны пранікнёныя перадсмяротныя яго радкі ў незавершаных накідах «Адплаты». Мне ён імя яе не назваў. Ён гаварыў аб канцы роду, аб справядлівай адплаце, аб тым, што ў яго ніколі не будзе дзіцяці.

Я спытала:

— А было?

— Было, у Польшчы. Яна была простая дзяўчына, засталася цяжарнай, але я яе згубіў. І ўжо ніколі не змагу знайсці. Можа быць, там расце мой сын, ён мяне не ведае, і я яго ніколі не пазнаю.

Я мяркую, што сустрэча з «Марыяй» адносіцца не да знаходжання ў Варшаве пасля смерці бацькі, а да часу работы ў інжынерна-будаўнічай дружыне, да гадоў першай імперыялістычнай вайны. Колішняе знаходжанне ў Варшаве было занадта кароткатэрміновым.

Размова аб простай дзяўчыне і дзіцяці (чамусьці Блок уяўляў яго менавіта сынам) была ў нас у кастрычніку 1920 года.

Ва ўсякім выпадку, вобраз «Марыі» павінен увайсці ў пантэон жанчын, звязаных з паэзіяй Блока...»

...І ўжо ў Петраградзе, незадоўга да смерці, імкнучыся завяршыць паэму «Адплата», у адной з яе заключных частак ён звяртаецца да той, што стрэлася на Палессі:

Мария, нежная Мария,
Мне жизнь постыла и пуста!
Зачем змеятся молодые
И нежные твои уста?

У спякотны ліпеньскі дзень 1921 года, прыкаваны да ложка, адчуваючы канец свайго шляху, ён зноў і зноў успамінае вобраз каханай:

Она с улыбкой открывает
Ему объятия свои,
И всё, что было, отступает
И исчезает в забытьи...

Услед за радкамі верша пяро паэта выводзіць нервова-паспешлівыя словы:

«И он умирает в ее объятиях. Все неясные порывы, невоплощенные мысли, воля к подвигу (никогда) не совершенному, растворяется на груди этой женщины».

Апошнія словы А. Блока аб каханні і каханай. Яны належаць «простай дзяўчыне», знаёмства і сустрэча з якой адбыліся на Палессі:

Мария, нежная Мария,
Мне пусто, мне постыло жить!
Я не совершил того,
Того, что должен совершить».

Паэту не давялося ўведаць, як склаўся далейшы лёс «палескай дзяўчыны». Не ведаем пакуль што гэтага і мы...

Але вернемся ў верасень 1916 года. Канец месяца. Палац мясцовага князя. Дзівосны палескі край, апеты Блокам у эпісталярнай спадчыне. Занятасць табельшчыка на рабоце, падрыхтоўка да выезду ў водпуск—на кастрычнік месяц.

Затым будзе зноў вяртанне на Палессе. Служба тут ажно да 17 сакавіка 1917 года. Будуць цікавыя і проста звычайныя дні, сустрэчы, клопаты, будзе сумота і радасць, душэўны цяжар і надзея на лепшае будучае.

Пасля, у лютым 1918 года, рэвалюцыйная Расія пачуе яго паэму «Дванаццаць». Вобразы, убачаныя паэтам



Царква ў Парахонску. Малюнак А. Блока. Восень, 1916 г.

у Беларусі, знойдуць у ёй таксама сваё адлюстраванне. Увогуле, як і народныя рытмы, пачутыя Блокам на Палессі.

Значыць, палескія дні не былі марнымі. Значыць, жыццё і творчасць Аляксандра Блока, як заўважыў К. Чукоўскі, уяўляюць непарыўную адзіную плынь, якая не спынялася для яго ні на імгненне...

Мікола КАЛІНКОВІЧ

Фота з архіва аўтара, з дзяржаўных і прыватных архіваў.

